**Uniwersytet Warszawski**
**Варшаўскі Універсітэт**

**Studium Europy Wschodniej**
**Студыюм Усходняй Еўропы**

**Centrum Studiów Białoruskich**
**Цэнтр Беларускіх Студыяў**

# Rocznik Centrum Studiów Białoruskich
# Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў

**Nr 2/№ 2**

*Ku czci Uniwersytetu Warszawskiego*
*z okazji jubileuszu 200-lecia*

*У дар Варшаўскаму ўніверсітэту ў сувязі*
*з 200-х гадовым юбілеем*

**Warszawa / Варшава 2017**

**Над нумарам працавалі:**

**Henadź Semianchuk / Генадзь Семянчук**
(redaktor/рэдактар)

**Tatsiana Kasataya / Тацяна Касатая**
(sekretarz redakcji/сакратар рэдакцыі)

**Maciej Wilczyński / Мацей Вільчыньскі**
(sekretarz techniczny/тэхнічны сакратар; tłumaczenia białorusko-polskie/пераклады беларуска-польскія)

**Aliaksandr Perahudau / Аляксандр Перагудаў**
(projekt okładki/праект вокладкі)

**Katsiaryna Krot / Кацярына Крот**
(korekta tekstów białoruskich/карэктура беларускіх тэкстаў)

**Marta Witkowska / Марта Віткоўска**
(korekta tekstów polskich/ карэктура польскіх тэкстаў)

**Bolesław Jaworski / Баляслаў Яворскі**
(tłumaczenia polsko-angielskie/пераклады польска-англійскія)

**Hubert Karasiewicz / Губерт Карасевіч**
(skład i łamanie/ камп'ютарная вёрстка)

**Recenzenci / Рэцэнзенты:**

Prof. dr hab. Eugieniusz Mironowicz, dr hab. Oleg Łatyszonek prof. UwB, doc. dr Wital Hałubowich, doc. dr Albina Semianchuk / праф. др. габ. Яўген Міравовіч, др. габ. Алег Латышонак праф. Універсітэта ў Беластоку, дац. к.г.н. Віталь Галубовіч, дац. к.г.н. Альбіна Семянчук




Druk i oprawa: Zakład Graficzny UW, zam. 595/2017

# Spis treści / Змест

**Аляксей Шаланда**
**(Мінск)**

## ГЕРАЛЬДЫЧНЫ КОД ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

З моманту апублікавання нашай працы, прысвечанай геральдыцы Францішка Скарыны, мінула больш за 10 год[1]. Праца мела пэўны пазітыўны рэзананс у навуковым асяроддзі[2], але найбольш увагі нашым высновам прысвяціў светлай памяці Генадзь Кісялёў у сваёй апошняй кнізе *"Скарынаўская сімволіка: вытокі, традыцыі, інтэрпрэтацыі"*[3]. Не пагадзіўшыся з шэрагам прапанаваных намі ідэнтыфікацый уладальнікаў гербаў і гербавых знакаў у "*Біблii Рускай*" Францішка Скарыны, ён тым не менш прызнаў "*плённасць вырашэння праблемы скарынаўскай сімволікі на аснове геральдычных падыходаў*"[4] і назваў геральдычны напрамак даследавання гравюр беларускага першадрукара *"найбольш перспектыўным"*[5].

Сапраўды, метады даследавання, якімі, як спецыяльная гістарычная навука, карыстаецца геральдыка, не толькі выводзяць айчынную Скарыніяну з пэўнага метадалагічнага тупіка, калі фактычна кожны з даследчыкаў у моц сваёй эрудыцыі і нават фантазіі імкнецца пры аналізе гравюр Францішка Скарыны прыпісаць апошняму свае ўласныя інтэрпрэтацыі. Яны дазваляюць, па-першае, вярнуць даследаванне дзейнасці беларускага першадрукара на дакладны навуковы грунт, а па-другое, зразумець светапогляд і псіхалогію чалавека, які жыў у жорсткіх умовах тагачаснага познесярэднявечнага саслоўнага грамадства[6]. Без

1 А. Шаланда, *Гербы і геральдычныя выявы на гравюрах "Біблії Рускай" Францыска Скарыны,* "Герольд Litherland", Горадня 2002, № 3–4 (7–8), с.122–132.

2 Г. Галенчанка, *Францішак Скарына* [у:] *Славутыя імёны Бацькаўшчыны: Зборнік*, уклад. У. Гілеп і інш., Мінск 2003, вып. 2, с.103.

3 Г. Кісялёў, *Сейбіты вечнага: артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў рэвалюцыйнага руху 1863 года; Скарынаўская сімволіка: вытокі, традыцыі, інтэрпрэтацыі,* Мінск, 2009, с. 297–541.

4 Г. Кісялёў, *Скарынаўская сімволіка*, с. 357.

5 Тамсама, с. 360. У сваю чаргу, Уладзімір Агіевіч заклікаў да адмовы "ад мадэрнізацыі (?! – А.Ш.) сімвалаў і спроб бачыць у іх геральдычныя знакі сучаснікаў Скарыны…", гл.: У. Агіевіч, *Сімволіка гравюры Скарыны*. Мінск 1999, с. 33. Аднак вынікі яго расшыфроўкі сімволікі беларускага першадрукара прымушаюць нас пагадзіцца з яго ўласнымі словамі, што: "праблема ідэнтыфікацыі рэчаў і адэкватнага разумення зместу ў скарыназнаўстве не вырашана", гл.: У. Агіевіч, *Імя і справа Скарыны: У чыіх руках спадчына,* Мінск 2002, с. 70.

6 У сувязі з гэтым, "гульні з гербам" Францішка Скарыны, пра якія дапускае думку Генадзь Кісялёў, абсалютна выключаныя, бо гэта прадугледжвала прававыя наступствы, гл.: Г. Кісялёў, *Скарынаўская сімволіка*, с. 383.

гэтага растлумачыць сапраўдны сэнс гравюр Францішка Скарыны цяжка, а то і зусім немагчыма. Аднак пасля прызнання геральдычнага складніка скарынавых гравюр трэба ісці далей і паспрабаваць адказаць на пытанне: навошта *"Біблія Руская"* была беларускім першадрукаром так густа засеяна гербамі і гербавымі выявамі? Іншымі словамі, як адзначыў у свой час расійскі даследчык Аляксандр Чарных, сёння важным і найбольш цікавым з'яўляецца *"ўменне ўключыць геральдычную інфармацыю ў кантэкст гістарычнага даследавання і адпаведна ў кантэкст гістарычнай эпохі, якая вывучаецца"*[7].

У сувязі з гэтым выкажам сваё меркаванне, што гербы і гербавыя выявы на гравюрах у *"Бібліі Рускай"* Францішка Скарыны выконвалі ролю своеасаблівага геральдычнага кода або ключа, які ў духу Паўночнага Адраджэння павінен быў мастацкімі сродкамі, праз старазапаветную біблейскую гісторыю, расказаць *"людзям паспалітым"* пра важнейшыя сучасныя ім палітычныя падзеі ў Еўропе – у ВКЛ, Польшчы і Свяшчэннай Рымскай імперыі. Адбор гэтых падзей несумненна рабіў Францішак Скарына асабіста, пра што сведчыць змешчаны на гравюрах яго герб у выглядзе злучаных месяца і сонца[8]. Іншымі словамі, варта паспрабаваць прымяніць гэты код да скарынавых гравюр і паглядзець, якая інфармацыя можа адкрыцца пры такім падыходзе.

Для аналізу мы выбралі некалькі так званых сюжэтных гравюр і заставак *"Бібліі Рускай"*, якія маюць у сабе, на нашу думку, бясспрэчны геральдычны матэрыял.

### 1. Гравюра "Самуилъ Прор(о)къ Г(оспо)день Помаза Д(а)в(и)да На царство" (далей – "Памазанне Давіда") з першай кнігі "Царствы" (Прага, 1518)[9]

Гравюра ўжо разглядалася намі ў папярэдняй публікацыі. Адкрыўшы галоўную яе асаблівасць, – яна мае манаграму "AW" ці, дакладней, "AWE", яшчэ адну (пасля аўтапартрэта) выяву Францішка Скарыны, а таксама выяву яго паплечнікаў – мы звярнулі ўвагу на

7 А. Черных, *Геральдика,* [в:] *Введение в специальные исторические дисциплины*, Москва 1990, с. 41.
8 А. Шаланда, *Гербы і геральдычныя выявы на гравюрах "Бібліі Рускай" Францыска Скарыны*, с. 123.
9 *Францыск Скарына і яго час. Энцыклапедычны даведнік*, Мінск 1988, с. 64, 440–441.

такую дэталь, як леў на спінцы трона[10]. Узнікае пытанне, ці меў ён, як лічыцца, чыста дэкаратыўную функцыю, ці леў быў размешчаны свядома, для прыдання сюжэту гравюры нейкай дакладнай сэнсавай нагрузкі? Партрэтныя рысы змешчаных на гравюры людзей, у першую чаргу самога Францішка Скарыны, дазволілі нам у свой час выказаць гіпотэзу, што леў выконваў тут ролю гербавай выявы Чэшскага каралеўства. У такім выпадку атрымлівалася б, што ў старазапаветны біблейскі сюжэт былі ўпісаныя нейкія рэальныя, сучасныя Францішку Скарыну гістарычныя падзеі. Але якія? Сёння можна ўпэўнена казаць: у гравюры *"Памазанне Давіда"* зашыфравана падаюцца падзеі Венскага кангрэса (1515) і пазнейшага ўступлення на чэшскі трон Людвіка Ягелона на караля Чэхіі ў 1516 г. Вядома, што адной з галоўных падзей Венскага кангрэса 1515 г. быў падзел Еўропы паміж Габсбургамі і Ягелонамі, замацаваны шлюбамі паміж унукамі германскага (рымскага) імператара Максімільяна І Габсбурга і дзецьмі караля Чэхіі і Венгрыі Уладзіслава Ягелона († 1516)[11].



AWE. Гравюра "Самуилъ Прор(о)къ Г(оспо)день Помаза Д(а)в(и)да На царство" з першай кнігі "Царствы" (Прага, 1518).

10 А. Шаланда, *Гербы і геральдычныя выявы на гравюрах "Біблії Рускай" Францыска Скарыны*, с. 130, спачылка 83.

11 Е. Немировский, *Франциск Скорина: Жизнь и деятельность белорусского просветителя*, Минск, 1990, с. 220–221. С. Герберштейн, *Записки о Московии*, Москва 1988, с. 84–86.

Падзея знайшла адлюстраванне ў адной з гравюр славутага Альбрэхта Дзюрэра (1515)[12]. Простае візуальнае параўнанне дзвюх гравюр не пакідае сумненняў у тым, што партрэтныя рысы Максімільяна I Габсбурга (за гербам з дзвухгаловым арлом са шчытом на грудзях), Уладзіслава Ягелона (за чатырохчастковым гербам з венгерскімі пасамі і чэшскімі львамі), Жыгімонта Старога (за чатырохчастковым гербам з польскімі арламі і "Пагонямі"), сына і дачкі Уладзіслава Ягелона Людвіка і Ганны, а таксама ўнучкі Максімільяна Марыі на пярэднім плане амаль супадаюць з некаторымі выявамі на скарынавай гравюры *"Памазанне Давіда"*. Яны маюць выключнае падабенства з укленчаным Давідам (Людвік Ягелон), чалавекам у спічастым капелюшы (Максімільян I Габсбург?) і постацямі з групы, што стаіць за Францішкам Скарынам, – гэта два мужчыны (адзін у капелюшы, другі з непакрытай галавой), якія размаўляюць паміж сабой (Уладзіслаў Ягелон і Жыгімонт Стары адпаведна?), маладая дзяўчына (дачка Уладзіслава Ягелона Ганна?), яшчэ адная дзяўчына ў кароне на балконе (унучка Максімільяна Марыя?).



Альбрэхт Дзюрэр. Гравюра "Венскі кангрэс" (1515).

12 A. Klubówna, S. Kaźmierczyk, *Z lat dalekich i bliskich,* Warszawa 1966, s. 146, nr 77. Гравюра даступная ў інтэрнэце па адрасе: http://www.aucklandartgallery.com/the-collection/browse-artwork/5549/the-congress-of-princes-in-vienna. Дата доступу: 21.03.2016 г.

Атрымліваецца, што невядомы нямецкі гравёр Францішка Скарыны, які, калі меркаваць па форме яго манаграмы, належаў або да школы Альбрэхта Дзюрэра[13], або да яго прыхільнікаў, побач з выявамі беларускага першадрукара і яго паплечнікаў адлюстраваў амаль усіх тагачасных манархаў Свяшчэннай Рымскай імперыі, Чэхіі, Венгрыі, Польшчы і ВКЛ. У сувязі з гэтым думка некаторых даследчыкаў аб прысутнасці Францішка Скарыны на Венскім кангрэсе ў 1515 г. і знаходжанні яго ў Празе ў 1516 г.[14] набывае большую праўдападобнасць. Больш за тое, магчыма, менавіта падчас уступлення на чэшскі трон Людвіка Ягелона адбылася набілітацыя палачаніна, калі разумець як намёк яго жэст: на гравюры, якую мы разглядаем, Францішак Скарына трымае каранацыйны меч – сімвал шляхецтва[15].



Фрагмент гравюры “Памазанне Давіда”з выявамі Францішка Скарыны (у цэнтры), мастака-гравёра AWE (злева) і злотніка-гравёра TM (справа).

13 Раней мы бачылі манаграму “AW”, а таму выказалі думку аб ідэнтычнасці яе ўладальніка з Антонам Вонсамам ці Антонам з Вормсу, гл.: А. Шаланда, *Гербы і геральдычныя выявы на гравюрах “Біблії Рускай” Францыска Скарыны*, с. 130. Сёння манаграма адназначна чытаецца як “AWE”. Гэты факт, а таксама параўнанне тэхнікі выканання гравюр Антона Вонсама з тэхнікай скарынавага гравёра прымушае нас адкінуць такую ідэнтыфікацыю, гл.: http://de.wikipedia.org/wiki/Anton_Woensam. Дата доступу: 21.03.2016 г. Манаграма застаецца пакуль нерасшыфраванай. Пра нямецкае ўздзеянне на гравюры Скарыны пісаў таксама В. Шматаў, гл.: В. Шматаў, *Вехі. Пра беларуска-нямецкія мастацкія сувязі,*” Мастацтва”, 2003, № 5 (242), с. 7.

14 А. Мыльнікаў, *Яшчэ раз аб прычынах паездкі Скарыны ў Прагу,* [у:] *Спадчына Скарыны:* Зб. мат-лаў першых Скарынаўскіх чытанняў (1986), Мінск 1989, с. 57–59. Г. Галенчанка, *Францыск Скарына – беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар,* Мінск 1993, с. 99–100.

15 А. Шаланда, *Гербы і геральдычныя выявы на гравюрах “Біблії Рускай” Францыска Скарыны*, с. 123.

Так ці інакш, але інфарматыўнасць гравюры *"Памазанне Давіда"* значна больш шырокая, чым гэта ўяўляецца сучасным даследчыкам.

**2. Гравюра "Нав(у)хо(до)носор Царь Вавило(н)ский Добывае(т) Ерусалима" (далей – "Аблога") з чацвертай кнігі "Царствы" (Прага, 1518)[16]**

Узброены вершнік трымае сцяг са скарынавай гербавай выявай. Іншы конны рыцар таксама трымае сцяг, але з выявай вужа. У свой час вужа на сцягу мы імкнуліся звязаць з паплечнікам Францішка Скарыны – нямецкім гравёрам-мастаком Антонам Вонсамам, ці Антонам з Вормсу, які такім чынам "падпісаў" свой твор[17]. У сваіх меркаваннях мы зыходзілі з таго, што на папярэдняй гравюры AWE змясціў сярод іншых і свой аўтапартрэт (постаць з алоўкам у руцэ, павернутая да гледача спінай). Аднак наяўнасць скарынавага гербавага сцяга прымушае думаць, што аўтарам сюжэту гравюры быў Францішак Скарына, а значыць, у *"Аблозе"* трэба бачыць нейкія рэальныя падзеі, упісаныя ў старазапаветную біблейскую абалонку.



AWE. Гравюра "Нав(у)хо(до)носор Царь Вавило(н)ский Добывае(т) Ерусалима" з чацвертай кнігі "Царствы" (Прага, 1518).

16 *Францыск Скарына і яго час*, с. 79.

17 А. Шаланда, *Гербы і геральдычныя выявы на гравюрах "Бібліі Рускай" Францыска Скарыны*, с. 130.

У сувязі з гэтым, не памылімся, калі зробім выснову, што для палачаніна Францішка Скарыны гэткім новым Іерусалімам быў *“слаўны град Полацк”*. Калі ж прыгадаць, што Полацкая зямля ў 1512–1522 гг. з’яўлялася тэатрам ваенных дзеянняў паміж ВКЛ і Вялікім княствам Маскоўскім, а Полацк і да, і пасля страты Смаленска (1514) быў аб’ектам сталых нападаў і аблог з боку маскавітаў[18], то патрыятызм Францішка Скарыны набывае канкрэтныя, зразумелыя рысы. “Маскоўскі” след на гравюры *“Аблога”* добра відаць па ўзбраенні нападаючага боку. Ды і цэнтральная постаць гравюры – Навуханоносар у кароне, з лукам у сагайдаку, вярхом на кані – вельмі нагадвае сваімі рысамі вялікага князя маскоўскага Васіля III Іванавіча.

Але якая гістарычная падзея з гісторыі Полацка магла знайсці адлюстраванне на гравюры? Наўрад ці гэта была вядомая аблога Полацка 27 ліпеня 1518 г., якая закончылася славутай перамогай войск ВКЛ[19]. Супраць такой трактоўкі сведчыць той факт, што кнігі *“Царстваў”* былі надрукаваныя Скарынам толькі 10 жніўня таго ж года. Гравюра не магла паўстаць раней за падзею, а на яе стварэнне патрэбны быў дастатковы час[20]. Падказкай можа быць сцяг з вужом, які сустракаецца толькі на гэтай гравюры, тым больш што кідаецца ў вочы адсутнасць гербавага сцяга з “Абданкам” Альбрэхта Гаштольда (полацкага ваяводы ў 1513–1519 гг.) у адрозненні ад гравюры з кнігі *“Лічбы”* (далей – *“Палкі”*) *“Людие Ізраилевы с полки свойми около Божия храму”* (Прага, 1519)[21]. Апошні факт прымушае думаць, што ваявода не адыграў ніякай ролі ў падзеі, адлюстраванай на гравюры, верагодна, з-за сваёй адсутнасці на той час у Полацку. Таму гэта магла быць нейкая бітва пад Полацкам у лютым 1513 г., калі палачане разгрямілі маскоўскі атрад у некалькі сотняў вершнікаў і прыслалі палонных у Вільню Жыгімонту Стараму. Але не выключана, што на гравюры адлюстраваная аблога Полацка войскам князя Васіля Нямога Шуйскага ў канцы лета–восенню таго ж 1513 г.[22]

18 В. Варонін, *Полацк* [у:] *Вялікае княства Літоўскае. Энцыклапедыя*, Мінск 2006, т.2, с. 444.

19 Тамсама; М. Кром, *Меж Русью и Литвой. Пограничные земли в системе русско-литовских отношений конца XV–первой трети XVI в.*, Москва 2010, с. 223.

20 Е. Немировский, *Франциск Скорина*, с. 231.

21 А. Шаланда, *Гербы і геральдычныя выявы на гравюрах “Бібліі Рускай” Францыска Скарыны*, с. 126.

22 М. Кром, *Меж Русью и Литвой*, с. 214, 216, 217; А. Зимин, *Формирование боярской аристократии в России во второй половине XV–первой трети XVI в.*, Москва 1988, с. 71.

Увогуле, сцяг з вужом выклікае пэўныя цяжкасці з апісаннем, бо якасць гравюры не дазваляе адназначна вызначыць адну важную для атрыбуцыі гербавай выявы дэталь: рыса, якая кранае вужа, – гэта памылка рэзчыка гравюры ці дрэнна бачная страла (або пятля), як мы меркавалі раней[23]. Ад адказу на гэтае пытанне залежыць правільнае прачытанне гербавай выявы, што палегчыць пошукі яе ўладальніка. На нашу думку, памылка гравёра не выключаецца, хаця іншыя дробныя дэталі на гравюры перададзеныя ім даволі зграбна[24]. Хутчэй, аднак, сцяг павінны быў мець толькі выяву вужа. У такім выпадку звіты вуж меў дачыненне не да італьянскай (герб Боны Сфорца, як лічыцца[25]) ці нямецкай геральдыкі (герб AW ці AWE, як раней меркавалі мы[26]), а да польскай. Гэта быў вядомы ў Польшчы герб "Вуж" са зменамі: у чырвоным полі срэбны вуж[27]. У ВКЛ ён з'явіўся ў 1413 г., калі на з'ездзе ў Гарадлі да яго быў адаптаваны невядомы бліжэй літоўскі баярын Канчан Суковіч[28]. Магчыма, на гравюры *"Аблога"* ён належаў або нейкаму полацкаму баярыну, які вызначыўся ў той бітве, або полацкаму намесніку адсутнага на той час ваяводы Альбрэхта Гаштольда.

### 3. Гравюрная застаўка з кнігі "Быццё" (далей – "Бог у раі") (Прага, 1519)[29]

На першы погляд, акрамя гербавай выявы Францішка Скарыны, удала ўпісанай у кампазіцыю зорнага неба, гравюра не нясе ніякай геральдычнай інфармацыі. Звычайна яе разумелі як ілюстрацыю выніку Божага стварэння свету, за якой чамусьці замацавалася назва *"Бог у раі"*. Пры гэтым адзначалася яе падабенства з іншай

---

23 А. Шаланда, *Гербы і геральдычныя выявы на гравюрах "Бібліі Рускай" Францыска Скарыны*, с. 128.

24 Стэнлі Скарына з Канады, які адносіў свой род да нашчадкаў Францішка Скарыны, у якасці родавага герба падаў кампазіцыю са змяі і стралы. Ці то ён так зразумеў выяву вужа на сцягу са скарынавай гравюры "Аблога", ці то так быў натуралізаваны і раскладзены на асобныя элементы яго сапраўдны герб "Сялява". Другое меркаванне, бліжэйшае да праўды, гл. А. Нарбут, *Родословная Франциска Скорины и его возможных потомков,* [в:] *Наш радавод*, Ліда 1994, кн.6, с. 30–31.

25 *Францыск Скарына і яго час,* с. 246. В. Шматов. *Искусство книги Франциска Скорины*. Москва 1990, с.

26 А. Шаланда, *Гербы і геральдычныя выявы на гравюрах "Бібліі Рускай" Францыска Скарыны*, с. 130.

27 S. Górzyński, J. Kochanowski, *Herby szlachty polskiej,* Warszawa 1992, s.157–158.

28 W. Semkowicz*, O litewskich rodach bojarskich zbratanych ze szlachtą polską w Horodle roku 1413,* „Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica", Poznań 1989, t. III, s. 135.

29 *Францыск Скарына і яго час*, с. 269.



Гравюрная застаўка "Бог у раі" з кнігі "Быццё" (Прага, 1519).

гравюрай Скарыны – *"Стварэнне свету"* з той жа кнігі *"Быццё"*[30]. Узнікае пытанне: навошта Францішак Скарына выкарыстаў у адной і той жа кнізе два варыянты – скарочаны і поўны – аднаго і таго ж сюжэту? На нашу думку, патлумачыць гэта можна толькі тым, што ў застаўку ён заклаў іншы змест. Звернем увагу на групу з чатырох звяроў, якія знаходзяцца злева ад Творцы. Гэта – аднарог, алень, леў і мядзведзь[31]. Здавалася б, яны толькі ўраўнаважваюць рыб і птушак з правага боку гравюры, якія, у сваю чаргу, з'яўляюцца алегорыяй Бацькаўшчыны: *"Звери, ходящие в пустыни, знают ямы своя; птицы, летающие по воздуху, ведают гнезда своя; рыбы, плывущие по морю и в реках, чуют виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих. Тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають"*[32]. Але цікава, што на поўнай гравюры *"Стварэнне свету"* якраз гэтыя звяры адсутнічаюць наогул. Відавочны выбар Францішкам Скарынам звяроў выклікае пытанне: чаму менавіта яны? Яшчэ можна зразумець змяшчэнне на застаўцы так званых біблейскіх звяроў – льва, аленя і аднарога. Аднак увагу на сябе звяртае неспакойная пастава чужога ў іх шэрагу мядзведзя, якая патрабуе нейкага тлумачэння.

30 Тамсама, с.2 69, 510.

31 Мікола Шчакаціхін у сваім апісанні звяроў з застаўкі чамусьці пазнаў толькі аленя і льва, гл.: М. Шчакаціхін, *Гравюры і кніжныя аздобы ў выданьнях Францішка Скарыны,* [у:] *Чатырохсотлецьце беларускага друку (1525–1925)*, Мінск 1926, с. 200.

32 Цыт. па: Ю. Лабынцаў, *Скарынаўскі каляндар,* Мінск 1990, с. 18.

Мяркуем, разгадка ідэі застаўкі *"Бог у раі"* ляжыць у сферы зямельна-тэрытарыяльнай геральдыкі Русі ў складзе ВКЛ. На такую думку наводзіць той факт, што выява мядзведзя ў часы Францішка Скарыны з'яўлялася гербам Смаленскага ваяводства, пра што сведчыць тагачасная сфрагістыка – вялікая пячатка ВКЛ Жыгімонта Старога[33]. Страта Смаленска ў 1514 г. была даволі адчувальнай для ВКЛ, а таму толькі гэтым можна патлумачыць адлюстраванне Францішкам Скарынам у сваёй застаўцы ўзнятага выючага смаленскага мядзведзя. Але ў такім выпадку іншыя звяры павінныя былі геральдычна абазначаць нейкія тры іншыя зямлі пад уладай вялікага князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта Старога. Лагічна пашукаць іх сярод тэрыторый, памежных з былым Смаленскім ваяводствам, якія ўсе разам утваралі тэатр ваенных дзеянняў падчас вайны 1512–1522 гг., бо гербавыя выявы Валыні ("Крыж") ці Кіева ("Арханёл"), якія добра вядомыя па той жа вялікай пячатцы ВКЛ Жыгімонта Старога, не былі выкарыстаныя ў сюжэце застаўкі.

***Леў***

Леў быў гербам князёў Яўнутавічаў Заслаўскіх, да якіх належаў тагачасны ўладальнік Мсціслава князь Міхаіл Іванавіч Заслаўскі[34], што адпаведна рабіла выяву льва гербам Мсціслаўскага княства. Мсціслаў падчас вайны 1512–1522 гг. пераходзіў з рук у рукі[35], таму змяшчэнне гербавай выявы яго ўладальніка не супярэчыць геральдычнай праграме застаўкі. Магчыма, аднак, меўся на ўвазе стары рускі сімвал часоў Вялікага княства Полацкага[36].

***Алень***

Алень з'яўляўся гербам Полацкага ваяводства ВКЛ[37], а таму на застаўцы Скарыны маем адну з самых ранніх яго выяў. Каляровы малюнак герба знаходзіцца ў літоўскай частцы гербоўніка *"Stemmata*

---

33 А. Шаланда, *Выява мядзьведзя ў зямельнай геральдыцы ВКЛ: ад гербу Смаленскай Русі да гербу Жамойці,* [у:] *Silva rerum nova: Штудыі ў гонар 70-годдзя Георгія Я.Галенчанкі*, Вільня-Мінск 2009, с. 287.

34 J. Wolff, *Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku,* Warszawa 1895, s.265–267; О. Однороженко, *Руські королівські, господарські та князівські печатки XIII–XVI ст.*, Харків 2009, т. II, с. 153, 296, № 556.

35 М. Кром, *Меж Русью и Литвой, с.* 220–222.

36 А. Шаланда, *Сымболіка й геральдыка Полацкае дзяржавы ў X–XV ст.*, "Спадчына", 2003, № 6, с. 37.

37 А. Шаланда, *Зямельная геральдыка ВКЛ эпохі Вазаў (другая палова XVI–першая палова XVII ст.),* [в:] *Подготовка педагогических и научных кадров историков и развитие исторической науки в Беларуси: Мат-лы респ. науч.-практ. конф., 30 сент. 2004 г., Гродно*, Гродно 2005, с. 279–281.

*Polonica*", які быў створаны ў 30–50-х гг. XVI ст., у часы кіравання Жыгімонта Старога: у чырвоным полі крочыць залаты алень[38]. Падабенства паміж гэтымі выявамі такое вялікае (супадае нават колькасць адросткаў на рагах), што дазваляе думаць пра нейкую іх агульную першакрыніцу.



Герб Полацкага ваяводства ВКЛ з гербоўніка "Stemmata Polonica".

***Аднарог***

Выява аднарога была даволі распаўсюджаная ў геральдыцы Заходняй Еўропы і добра вядомая з канца XIV ст. у Польшчы, дзякуючы шляхецкаму гербу "Боньча": у блакітным полі ўзняты срэбны аднарог[39]. З другой паловы XV ст. быў ён вядомы і на Русі. Пячаткай з выявай аднарога, напрыклад, карыстаўся ў Галіцкай зямлі невядомы рускі шляхціч у 1464 г.[40] Усё гэта можа сведчыць пра шырокую вядомасць і папулярнасць сімвала. Больш за тое, аднарог

38 *Stemmata Polonica. Rękopis nr 1114 Klejnotów Długosza w Bibliotece Arsenału w Paryżu*, wyd. H. Polaczkówna „Prace Sekcji Historii Sztuki i Kultury Tow. Naukowego we Lwowie", Lwów 1929, t.I, s. 238.

39 S. Górzyński, J. Kochanowski, *Herby szlachty polskiej*, s. 40.

40 F. Piekosiński, *Heraldyka polska wieków średnich,* Kraków 1899, s. 67.

часта выкарыстоўваўся як тарчатрымальнік у гербах самых розных еўрапейскіх каралеўстваў і княстваў.




Адзінарог у якасці тарчатрымальніка ў кракаўскіх выданнях
Яна Галера (1508) і Каспара Гохфэдэра (1503).

Так, на тытульнай гравюры з кнігі Міхала з Быстрыкова з арыстоцелевымі *“Questiones veteris...”*, выдадзенай у Кракаве ў 1508 г. (друкарня Яна Галера), аднарог разам са львом падтрымліваў тарчу з арлом Польскага каралеўства, пры гэтым пад ім знаходзілася тарча з “Пагоняй” ВКЛ[41]. У іншым кракаўскім выданні арыстоцелевых “*Lectura Veteris artis*”, надрукаваным у 1503 г. Каспарам Гохфэдэрам, аднарог трымаў тарчу з “Пагоняй”[42], што дазваляе яго аднесці не столькі да польскай геральдыкі, колькі да геральдыкі ВКЛ. Узнікае пытанне: ці не такую ж самую ролю аднарог выконваў разам са львом на гравюры Францішка Скарыны? І ці не толькі з-за адсутнасці тарчы, чаго патрабавала агульная ідэя сюжэту застаўкі, яны размясціліся па баках аленя Полацкага ваяводства? У такім выпадку геральдычная

41 M. Rokosz, *Orzeł Biały w staropolskiej grafice książkowej,* [w:] *Orzeł Biały. Herb państwa Polskiego. Materiały sesji naukowej w dniach 27–28 czerwca 1995 roku na Zamku Królewskim w Warszawie*, Warszawa 1996, s. 108, nr 1.

42 *Orły nasze. Orzeł Biały w zbiorach Biblioteki Jagiellonskiej,* oprac. G. Stępeń, P. Hordyński, Z. Piech, Z. Pietrzyk, M. Rokosz, Kraków 1996, s. 82-83.

праграма гравюры *“Бог у раі”* складалася б не з 4-х, а з 2-х гербавых выяў: страчанага Смаленскага і захаванага пасля аблог 1513 і 1518 гг. у складзе ВКЛ Полацкага ваяводстваў.

Мы не выключаем такога прачытання, але звернем увагу на тое, што ў 1483 г. у Аўсбургу Антонам Соргам была надрукаваная *“Хроніка Канстанцкага Сабору 1411–1418 гг.”* Ульрыха Рыхенталя, дзе сярод гербаў удзельнікаў гэтага вядомага агульнаеўрапейскага форуму быў надрукаваны герб нейкага князя Вільдзіпольда “з Сарусіі”, якая знаходзілася паміж Грэцыяй і Літвой: *“Von dem durchlewchtigen fürsten herczog Wildipold herr zu Sarusie czwischen kriechen vnd littow”*[43]. На яго гербе знаходзілася выява ўзнятага залатога аднарога ў чырвоным полі[44]. Побач быў змешчаны герб князя Вітаўта, які абвяшчаўся князем той жа “Сарусіі”: *“Der hochgeboren fürste Wittoldus herczog zu Sarusio”*[45].



Герб Сарусіі-Русі паводле “Хронікі Канстанцкага Сабора 1411–1418 гг.” У. Рыхенталя (Аўсбург, 1483).

Не заглыбляючыся ў аналіз дастаавернасці гэтых звестак, што можа быць тэмай асобнага даследавання, адзначым, што з прыведзенай інфармацыі вынікала наступнае: “Сарусіяй” валодаў Вітаўт, а гербам “Сарусіі” быў аднарог яе князя Вільдзіпольда. Наколькі можна меркаваць, пад “Сарусіяй” публікатар *“Хронікі”* Антон Сорг разумеў тую частку Русі, якая ўваходзіла ў склад ВКЛ

43 U. Richental, *Concilium zu Constanz. Anton Sorg,* Ausburg 1483, folio Ex.
44 F. Piekosiński, *Goście polscy na soborze konstancyjskim,* „Rozprawy Akademii Umiejętności. Wydział Historyczno-Filozoficzny” Kraków 1899, serya II, t.XII, s. 135.
45 U. Richental, *Concilium zu Constanz,* folio Ex.

і ляжала паміж Літвой і Грэцыяй. Гэта вынікае з прыведзенага ім рэестра галоўных гарадоў Русі, якія былі падуладныя Вітаўту: Луцк (Lucz), Крамянец (Crunnicz), Берасце (Brissg або Brissgi), Кіеў (Kympff), Віцебск (Wittoffssgi), Смаленск (Schmaberssgi), Бранск (Branssg або Grossbranczgi), Старадуб (Staradub), Сокал (Soggul), Полацк (Plon або Ploczigi), Рослаўль? (Rodla)[46]. Важна тое, што друкаваная *"Хроніка"* Ульрыха Рыхенталя хутка і надоўга стала галоўнай і нават адзінай крыніцай па геральдыцы еўрапейскіх, азіяцкіх і афрыканскіх дзяржаў і зямель у Заходняй Еўропе. Яна адназначна паспрыяла замацаванню ў чытачоў, у тым ліку з ВКЛ, уяўлення пра аднарога як герб Русі.

Цікавы астранамічны аргумент на карысць таго, што менавіта гэтая істота з'яўлялася геральдычным сімвалам усёй Рускай зямлі, падзеленай паміж Ноўгарадам Вялікім, ВКЛ і Масквой, прыводзіць расійскі даследчык Рэм Сіманаў. Ён спасылаецца на віленскі зборнік XVI ст. *"О седми звездах великих, яже ся наричаются планеты, о силе их и о ходу и домех их"*, які яшчэ ў пачатку XX ст. апублікаваў Аляксей Сабалеўскі: *"(...) Планета, рекомый Крон* (г. зн. Сатурн – А.Ш.), *а держит суботу, а стоит над Русью над Новым городом и над Москвою и над Литвою; а домы его – Козий рог и Водолей"*[47]. Знакам Казярога на Русі з'яўляўся аднарог. У геральдыцы ён быў менавіта тым агульнарускім гербам, які добра абгрунтоўваў тытул уладара "ўсёй Русі"[48].

Менавіта як агульнарускі герб, разам з ваяводскімі полацкім і смаленскім гербамі, а таксама гербам Мсціслаўскага княства, аднарог быў выкарыстаны Францішкам Скарынам на гравюрнай застаўцы *"Бог у раі"* ў 1519 г., бо ў яго эрудыцыі, у тым ліку астранамічнай[49] і геральдычнай, няма падстаў сумнявацца. На нашу думку, галоўнай яго ідэяй было імкненне праз геральдычную сімволіку паказаць адзінства Русі ў складзе ВКЛ, бо ў 1512–1522 гг. яна зноў стала яблыкам раздору паміж вялікім князем літоўскім, рускім і жамойцкім Жыгімонтам Старым і вялікім князем маскоўскім Васілём III.

46 U. Richental, *Concilium zu Constanz*. Folio CCxl verto; F. Piekosiński, *Goście polscy na soborze konstancyjskim*, s. 157.

47 Р. Симонов, *Почему двуглавый орёл победил единорога*? [элект. рэсурс] http://heraldry.hobby.ru/gub/unicorn.html. Дата доступу 22.03.2016 г.

48 Тамсама

49 У. Казбярук, *Францішак Скарына*, Мінск 2003, с. 114–115.

Нагадаем, што вайна ішла ў асноўным з-за таго, што маскоўскі ўладар услед за бацькам Іванам III называў сябе гаспадаром “усёй Русі”. Праблема, аднак, была ў тым, што ў ВКЛ усю Русь, разам з Вялікім Ноўгарадам і Псковам, лічылі сваёй вотчынай.

Такім чынам, расшыфроўка геральдычнага коду гравюр Францішка Скарыны дазваляе не толькі ўключыць яго старадрукі ў канкрэтны айчынны і еўрапейскі гістарычны і культурны кантэкст, але робіць больш зразумелай асобу самога беларускага першадрукара, па-новаму тлумачыць адзін з галоўных матываў яго дзейнасці – “*людзям паспалітым да навучання*”. З іншага боку, геральдыка Францішка Скарыны патрабуе самай пільнай увагі з боку даследчыкаў гісторыі беларускага кнігадрукавання, бо далейшыя пошукі ў гэтым напрамку дазволяць вызначыць невядомыя раней падзеі з жыцця першадрукара, удакладніць кола яго паплечнікаў, фундатараў і пратэктараў, а таксама паспрыяюць адэкватнаму разуменню скарынавага ўнёску ў айчынную культуру.

## Streszczenie

Aliaksiej Szałanda, *Kod heraldyczny Franciszka Skaryny*

Metody badawcze, które wykorzystuje heraldyka, wyprowadzają rodzime „Skarynoznawstwo” ze swoistego metodologicznego impasu. Często faktycznie każdy badacz w miarę swojej erudycji, a nawet fantazji, dąży przy analizie grawiur Franciszka Skaryny do przypisywania mu własnych interpretacji. Heraldyka pozwala, po pierwsze, na skierowanie badań nad działalnością pierwszego białoruskiego drukarza z powrotem na precyzyjnie naukowy grunt, a po drugie – na zrozumienie światopoglądu i psychiki człowieka, który żył w trudnych warunkach tamtejszego, poźnośredniowiecznego społeczeństwa stanowego. Bez tego trudne lub wręcz niemożliwe jest wytłumaczenie sensu grawiur Franciszka Skaryny. Według autora herby i znaki herbowe na grawiurach w „Ruskiej Biblii” Franciszka Skaryny odgrywały rolę swoistego kodu lub klucza heraldycznego, który w duchu północnego renesansu powinien, dzięki środkom stylistycznym, poprzez historię starotestamentową opowiedzieć „prostym ludziom” o ważniejszych, współczesnych dla nich, wydarzeniach w Europie – w WKL, Polsce i Świętym Cesarstwie Rzymskim. Wyboru tych

wydarzeń niekoniecznie dokonywał osobiście Franciszek Skaryna, o czym świadczy umieszczony na grawiurach jego herb szlachecki w postaci połączonego słońca i księżyca. Rozszyfrowanie kodu heraldycznego grawiur Franciszka Skaryny pozwala nie tylko na włączenie jego starodruków do konkretnego, rodzimego i europejskiego kontekstu historycznego i kulturowego, ale czynią bardziej zrozumiałym osobę samego pierwszego białoruskiego drukarza, na nowo tłumacząc jeden z głównych motywów jego działalności – „pospolitym ludziom w celu nauki". Z drugiej strony, heraldyka Franciszka Skaryny wymaga najpilniejszej uwagi od badaczy historii białoruskiego druku, ponieważ dalsze poszukiwania w tym kierunku pozwolą na odkrycie nieznanych dotąd wydarzeń z życia pierwszego drukarza, skonkretyzują koło jego popleczników, sponsorów i protektorów, jak również przyczynią się do należytego zrozumienia wkładu Skaryny w kulturę.

**Summary**

Aliaksiey Shalanda, *The Heraldic Code of Francysk Skaryna*

Research methods utilised by heraldry lead native "Skaryna studies" out from their own methodological impasse. In fact, every researcher, within the confines of his own erudition and even fantasy, strives to attribute his own interpretations when analysing Francysk Skaryna's gravure. Heraldry, firstly, allows research on the activity of the first Belarusian printer to return back to precise, academic grounds and secondly, to understand the world view and psyche of a person who lived in the difficult conditions of stative society in the late Middle Ages. Without this, it is difficult, even impossible, to translate the meaning of Francysk Skaryna's printing. According to the author, the blazonry and blazon signs on Skaryna's "Psalter" (*Ruska Biblia*) gravure fulfilled the role of a particular code or heraldic key, which in the spirit of the northern renaissance should – thanks to stylistic means, through Old Testament stories – tell "common people" about more important contemporary (for them) events in Europe – in the Grand Duchy of Lithuania, Poland and the Holy Roman Empire. The selection of events was not necessarily made personally by Skaryna, which is attested to by the gravures placed on his noble coat of arms in the shape of a sun joined with the moon. Unlocking the code of Skaryna's heraldic gravures

not only allows adding his old prints to a concrete, native and European historical, and cultural context, but makes the very figure of the first Belarusian printer more understandable, translating anew one of the main motives of his activity – "the aim of passing knowledge to common people". On the other hand, Francysk Skaryna's heraldry requires the most attentive detail of researchers of the history of Belarusian printing, because further research in this direction will allow the discovery of hitherto unknown facts and events from the life of the first printer, determine his supporters, sponsors and protectors, as well as contribute to the proper understanding of Skaryna's cultural input.

**Вячаслаў Швед**
**(Варшава/Гродна)**

# ГРОДЗЕНСКАЯ КАРАЛЕЎСКАЯ ДРУКАРНЯ І ЯЕ ВЫДАННІ (1775 – 1795 гг.)

Напярэдадні 1775 г. на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага існавала толькі дзве друкарні – у Нясвіжы і Вільні. У Гродне ні езуіты, ні францішкане не мелі друкарні[1]. А заснаванне друкарні ў Гродне было важным і патрэбным крокам, бо горад у гэты час быў цэнтрам гродзенскай каралеўскай эканоміі, тут праводзіў сваю рэформу падскарбій надворны літоўскі і гродзенскі староста Антоній Тызенгаўз, марыўшыператварыць горад у "квітнеючую Галандыю": палітычны, культурны і эканамічны асяродак. Гродна быў месцам паседжання сеймаў Рэчы Паспалітай і Літоўскага трыбунала.

Заснаванне гарадзенскай друкарні пачалося з канфліктаў Тызенгаўза з ксяндзом-астронамам Марцінам Пачобутам-Адляніцкім і яўрэямі. З апошнімі яна скончылася хутка – у лісце да караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў ліпені 1775 г. Тызенгаўз пісаў: "*(...) Дзякую, што вырашыў з выданнем прывілея патрэбнага для прасімых яўрэяў аб дазволу залажэння друкарні стрымацца і не перашкодзіў народжанаму тут праекту, якому рыхтуем акт адкрыцця друкарні і ўжо на першыя патрэбы панеслі нават выдаткі (...) Няхай мне гэтыя яўрэі не перашкаджаюць у Літве, дзе і без іх гэтая друкарня будзе, і можа яны самыя майстраваць у ёй захочуць. Я людзей і без іх знайду, і ўжо маю на прыкмеце*"[2].

З М. Пачобутам было складаней. Пасля ліквідацыі ў 1733 г. ордэна езуітаў у Вялікім Княстве Літоўскім яму ўдалося атрымаць ва ўласную маёмасць паезуіцкую друкарню ў Вільні, дзе ён (магчыма рэдактар) выдаваў са студзеня 1761 г. "*Газеты Віленскія*" ("*Gazety Wilenskie*"). Перадачай Пачобуту друкарні хацелі забяспечыць яму далейшую навуковую дзейнасць. Дзякуючы сяброўству з падканцлерам

1 *Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku,* Zeszyt 5, *Wielkie Ksiestwo Litewskie*, oprac. A. Kawecka-Grzyczowa, K. Korotajowa, W. Kraewski, Wroclaw-Krakow 1959. s. 6, 101; А. Пяткевіч, *Маршруты кніжнага слова: з гісторыі кнігі, друку на Гродзеншчыне,* Варшава 2002, с. 35.

2 Cyt. po: J. Lojek, *„Gazeta Grodzienska" 1776 – 1783,* „Rocznik Historii Czasopismiennictwa Polskiego", 1966, t. 5, z. 2, s. 38.

літоўскім Іахімам Храптовічам, Пачобут у лістападзе 1773 г. атрымаў ад Станіслава Аўгуста прывілей на віленскую друкарню і выданне “*Газет Віленскіх*”[3]. А. Тызенгаўз, каб атрымаць віленскую друкарню пачаў закідваць Пачобута сваімі просьбамі і прапановамі на працягу 1774 – часткі 1775 г. Астраном-друкар спадзяваўся атрымоўваць з друкарні 7 000 злотых прыбытку за год, а падскарбій даваў меншы кошт. Пасярэднікам у спрэчцы выступіў кароль, які надта паважаў Пачобута, але сябраваў і з Тызенгаўзам. З ліста Станіслава Аўгуста да Тызенгаўза ад 15.05.1775 г. вядома, што кароль паабяцаў астраному пажыццёвы прыбытак у суме 7 000 злотых за ўступ Тызенгаўзу друкарні. У квіце аб атрыманні грошай ад Тызенгаўза ў суме 2 000 злотых (праз надворнага лоўчага ВКЛ Францішака Дарашкевіча Боўфала) Пачобут напісаў, што саступае друкарню на скарб Яго Каралеўскай Вялікасці[4]. Адсюль назва гарадзенскай друкарні – каралеўская, надворная Яго Каралеўскай Вялікасці, скарбовая[5], а Тызенгаўз не гаспадар яе, а арэндатар, хаця сам лічыў яе сваёй прыватнай уласнасцю і нават у тэстаменце, складзеным 23.08.1782 г. ён дараваў друкарню ксяндзу Юзафу Мучынскаму, рэктару гродзенскай паезуіцкай калегіі[6].

Канкурэнты былі адсунуты, манаполія на друкарскую справу гарантавана і цяпер можна было прыступіць да стварэння друкарні ў Гродне. Праект прадугледжваў размяшчэнне друкарні ў вольнай ужо бурсе калегіума езуітаў. Меркавалася атрымаць прывілей на эксклюзіўны друк толькі ў Гродне элементараў на польскай і лацінскай мовах і рэлігійных кніг для ўсяго ВКЛ. Друкарскі шрыфт яшчэ ў 1774 г. быў замоўлены ў Крулеўцу (сёння Калінінград). Меркавалі мець меншы (гармонд) і вышэйшы (мітл) шрыфты. Каб зменшыць выдаткі планавалі прывезці матрыцу для адлівання літар і мець свайго гісера, каторы адліваў бы літары і рамантаваў старыя. У 1775 г. Тызенгаўз запрасіў у Гродна Нахіма Жымеля з галіцэйскага Сокала, дзе дзейнічала яўрэйская друкарня. Той залажыў словалітню, з якой па словах Іахіма Лелявеля “*з часам навучаныя адліўшчыкі разбегліся*”. Пасля яго смерці (1808 г.) прадпрыемства працягваў сын Жымель Нахімовіч[7].

3 J. Lojek, *„Gazeta Grodzienska" 1776 – 1783,*s. 8.
4 J. Lojek, *„Gazeta Grodzienska" 1776 – 1783,*s. 38, 39.
5 *Nowy Korbut. Bibliografia literatury polskiej,* t. 4 *Oswiecenie*, Krakow 1996, s. 121.
6 J. Lojek, *„Gazeta Grodzienska" 1776 – 1783,* s. 16; *Drukarze dawnej Polski,* s. 31, 102.
7 A. Tomaszewski,*Gisery czcionak w Polsce,*Warszawa 2009, s. 84.

Прэс, відаць, спачатку ўжывалі стары (з Вільні-?), бо ў 1785 г. быў набыты за 522 злотых дубовы з жалезнай аправаю і шрубай[8]. Паперу для друкарні закуплялі лыскоўскую, кайранскую, за мяжой прускую і ў мясцовых яўрэяў (асабліва паштовую). Каб зменшыць выдаткі спадзяваліся на прадукцыю паперы тызенгаўзаўскай мануфактуры, якая працавала ў Паставах[9]

З працаўнікоў, якіх набіралі ў друкарню можна назваць наступных: зецэр да складання літар і хлопец яму для дапамогі; прэсэр для работы на прэсе і хлопец для заліўкі чарніла – ім плацілі ад штукі зробленага, каб прыспешыць іх працу;інтралігатар (пераплётчык); карэктары; рэдактар газеты; дырэктар друкарні (прэзідэнт) і ягоны памочнік. Паколькі ад асобы дырэктара, асабліва першага, залежала праца друкарні, удзелім ім увагу.

Першым быў з 1776 г., верагодна, па канец 1784 г. (у 1780 г. яшчэ быў) ксёндз экс-езуіт Караль Маліноўскі, які ў 1774 г. спрабаваў адкрыць у Гродне сваю друкарню, але не атрымаў ад караля прывілей, магчыма стараннямі Тызенгаўза. У 1792-1795 гг. ён будзе вядомым таленавітым журналістам і выдаўцом "*Карэспандэнта Варшаўскага*". У Гродне менавіта ён складаў "*Каляндары гродзенскія*"[10]. З 1788 г. па 1792 г. друкарняй кіраваў, а можа і арэндаваў яўрэйскі друкар Барух бар Рабі Юзэф Ромм, першы з яўрэяў, хто атрымаў дазвол на кіраванне дзяржаўнай друкарняй[11]. У 1792-1794 гг. магчымым кіраўнікам мог быць ксёндз Тадэўш Юрэвіч. Даследчык Сяргей Казуля падае яго на 1790-1796 гг.[12] У 1794 – 1797 гг. ім быў Ян Ясенскі, які яшчэ ў 1792 г. атрымаў разам з Ігнаціем Урублеўскім прывілей на адкрыццё друкарні ў Вільні, але зрабіў гэта ў Гродне. Выдаваў тут "*Кур'ер Літоўскі*" і афіцыйныя матэрыялы[13].

Пра выданні гарадзенскай друкарні можна сказаць наступнае. У першую чаргу друкаваліся тут «справы», «абароны», «рэплікі», ноты, праектыі прамовы дэпутатаў гродзенскіх сеймаў, іншыя афіцыйныя дакументы. Ёсць дадзеныя, што толькі ў часы паседжанняў у Гродне

8 J. Lojek, *„Gazeta Grodzienska" 1776 – 1783,* s. 16.
9 S. Koscialkowski, *Studia i szkice przygodne z historii i jej pogranicza z literatura,* London 1956, s. 35.
10 J. Lojek, *„Gazeta Grodzienska" 1776 – 1783*, s. 13-14.
11 J. Kojek, *„Gazeta Grodzienska" 1776 – 1783*, s. 16; *Drukarze dawnej Polski*, s. 6, 94, 102.
12 С. Казуля, *Гродзенская друкарняб* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*, т. 3, Мінск 1996, с. 126.
13 *Encyklopedja wiedzy o ksiazce*, Wroclaw-Warszawa-Krakow 1971, s. 1066.

сейма Рэчы Паспалітай ў 1793 г. падобнай прадукцыі было выдадзена 235 найменняў[14]. У часы Тызенгаўза патрэбна было друкаваць універсалы, загады, квіты, рахункавыя кнігі, аб'явы, рэкламныя праспекты, афішы.

Пры заснаванні друкарні планавалася выданне газет, хаця не спадзяваліся атрымоўваць ад гэтага вялікіх прыбыткаў – тады яшчэ не было звычкі чытання газет, а таму карыстальнікаў было няшмат. У выдатках ёсць сумы, патрачаныя на закупку французскіх і нямецкіх газет. З іх, верагодна, бралі матэрыялы для перадруку і чэрпалі навіны. Друкаваліся храналагічна ў розны час тры газеты.

З мая 1776 г. да 1783 г. выдавалася «*Gazeta Grodzieńska*». Яна выходзіла кожны чацвер штотыдзень у выглядзе аднаго ліста памерам 20х15 см. Тэкст друкаваўся ў дзве калонкі. Тыраж даходзіў да 200-300 экзэмпляраў. Распаўсюджвалася па тэрыторыі Польшчы, ВКЛ і беларускіх зямель, захопленых Расійскай імперыяй пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай. У перадавых артыкулах абмяркоўваліся актуальныя грамадска-палітычныя праблемы, праца сейма Рэчы Паспалітай, выбары дэпутатаў; змяшчалася бягучая палітычная інфармацыя; публікаваліся матэрыялы пра гарадскія падзеі; аб'явы пра выданні кніг, уцёкі прыгонных, продаж ці арэнду маёмасці[15].

18 лістапада 1792 г. выходзіць першы нумар «*Wiadomosci Grodzienskie*» («*Гродзенскія ведамасці*») – орган Таргавіцкай канфедэрацыі. Да снежня 1793 г. выйшла 12 нумароў. 3.10.1796 – 1.04.1797 г. публікуецца "*Кур'ер Літоўскі*", якога заснаваў у Вільне ў 1794 г. шамбелян Улодак. Газета выходзіла па панядзелках і чацвяргах.

Папулярным быў «*Kalendarz gospodarski Grodzienski*». Ён выходзіў з 1776 да 1800 г. Караль Эстрайхер падае інфармацыю пра гаспадарскія календары на 1776-1781, 1784, 1786-1788 гады, а таксама "*Kalendarz polityczny Grodzienski*", які друкаваўся на 1782 і 1783 гады. Хачу звярнуць увагу, што ва ўсіх бачаных мной крыніцах польскае слова "gospodarski" перакладалася як "гаспадарчы", але слоўнікі даюць больш правільнае значэнне – "гаспадарскі", бо "гаспадарчы" – гэта

14 А. Пяткевіч. *Маршруты кніжнага слова*, с. 35.

15 *Газета Гродзеньска,* [в:] *Гродно: Энциклопедический справочник,* Гродна 1989, с. 129; В. Швед,*"Газэта Гродзеньска" – адна з першых газэт Беларусі,* [в:] *Гарадзенскія чытанні. Зборнік матэрыялаў,* Гродна 2011, с. 10-18.

по-польску "gospodarczy"[16]. Гісторыка-палітычны змест календароў пацвярджае гэта. Напрыклад, на 1778 г. (291 старонка) знаходзім артыкулы: гісторыя скасавання езуітаў, мундзіры ваяводстваў і паветаў літоўскіх, польскія кавалеры мальтыйскага ордэна, падарожжа імператара ў Францыю, падарожжа вялікага князя і караля польскага ў Гродна, смерць знакамітых асобаў і інш. Толькі два артыкулы можна аднесці да гаспадарчых – пра прускі і кітайскі фарфор. У палітычным календары на 1782 г. былі апублікаваны айчынныя падзеі, якія адбыліся ў 1781 г. і прыкладзены табель маёмасці езуітаў у Кароне і ў Літве, перададзенай на фундуш Камісіі народнай адукацыі. Назва календара "палітычны" была якраз у тыя гады, калі не было "гаспадарскага"[17].

Прыбытак у друкарні меркавалі атрымоўваць з друкавання кніг і перыёдыкі, выдаваемых за кошт жадаючых, а таксама за асабісты для продажу і абмену з іншымі друкарнямі. Выдавалася арыгінальная і перакладзеная літаратура на польскай мове, навуковая і мастацкая літаратура, падручнікі, стараславянскія, польскія і лацінскія малітоўнікі. Што тычыцца літаратуры для старавераў, дык большасць даследчыкаў схіляецца да таго, што, магчыма, гродзенская друкарня падавалася толькі для канспірацыі, але "Новы Корбут" сцвярджае: "*У 1786 – 1789 гг. з'яўляліся ў Гродне расійскія друкі для старавераў*"[18]. Ніжэй падаем прыклады выдадзеных кніг:

У 1776 г. ананімна выходзіць «*Historia wschodnia o Zadzigu*» Франсуа-Мары Аруэ дэ Вальтэра на польскай мове; "*Кароткі звод карфагенскай і егіпецкай гісторыі*" Г. Барэцкага.

У 1779 г. – Жан-Баціст Мальер «*Сканарэль, дохтар па прымусу, камедыя*» на нямецкай і польскай мовах; "*Ваенная гісторыя, што сцісла перадае першую Прускую вайну і даўнюю Баварскую*" Ф. Іодкі.

У 1781 г. – выданне Жана-Эмануэля Жылібера «*Флора Літвы*» ("*Flora Lithuanika inchoate,seue numeration planetarium circa Grodnam*", *collectio 1-2 –Grodnae 1781*). Выдадзены "*Псалтирь с восследованием*" і "*Службы, житие и чудеса св. Николы Чудотворца*".

16 *Беларуска-польскі слоўнік,* пад рэд. Т. Хыляк-Шрэдар, Я. Глушкоўскай-Бабіцкай, Т. Сіньскай-Сохі, Варшава 2012, с. 25.

17 K. Estreicher, *Bibliografia Polska,* Krakow 1899, t. 19, s. 21-22.

18 *Nowy Korbut. Bibliografia literatury polskiej,* t. 4 *Oswiecenie,* Krakow 1996, s. 122.

1782 г. выданне ў Гродне кнігі І. Міцкевіча «*Avantura kavalerza...*» («*Авантура кавалера па імю Фартунат, чалавека няшчастнага*»).

1783 г. – другое выданне Ж.-Б.Мальера «*Сканарэль, дохтар па прымусу*» і Ігнацы Красіцкі «*Opisane podrozy z Warszawy do Bilgoraja*»; "*Книга глаголемая по гречески Катехизис, по литовски Оглашение, русским же языком нарицается Беседословие*".

1784 г. – Францішак Карпінскі «*Powrót z Warszawy na wieś Autora*» «*Zabawek wierszem i prozą*».

1785 г. – выдадзены: «*Книга о вере*» з маскоўскага арыгінала 1648 г. і «*Псалтирь*» з маскоўскага выдання 1651 г. Публікуюцца «*Баечкі і забавы прозай і вершам*» Станіслава Кубліцкага.

1786 г. – выдадзены : «*Книга Кириллова*» з маскоўскага арыгінала 1644 г., «*Псалтирь*»з маскоўскага выдання 1645 г., «*Служба в великую седмицу*», «*Служба российским чудотворцам*» па кракаўскаму выданню 1786 г.

1787 г. – «*маральны*» раман «*Kobeta, czyli przypadki Irysy*» Пуасона ў перакладзе на польскую мову Ігнацыя Яксы Быкоўскага. Таксама выдадзены «*Цветник Дорофея*» і «*Часовник*».

1788 г. – «*Лаврентий Зизаний. Катехизис*» з маскоўскага арыгінала 1627 г. і «*Псалтирь*» з маскоўскага выдання 1651 г. Кніга для чытання «*Звесткі аб дамах і каханні, якое рэдка паміж людзьмі бывае сапраўды трывалым*».

1789 г. – «*О житие христианском*» і «*Псалтирь*»з маскоўскага выдання 1652 г., «*Служба Тихвинской богоматери*», «*Лимонарь*». Выданне «*Pół kopy bajek*» Антонія Тамаша Лаўрыновіча.

1790 г. – «*Каноник*»,»*Цветник Дорофея*», «*Псалтирь с восследованием*».

1791 г. – «*Книга Кириллова*» з маскоўскага арыгінала 1644 г. і «*Псалтирь*» з маскоўскага выдання 1651 г.

1792 г. – «*Канонник*» з маскоўскага арыгінала 1651 г. і «*Цветник Дорофея*».

1793 г. – патрыятычны верш Якуба Ясінскага «*Аб сталасці. Да польскіх выгнаннікаў*».

1794 г. – выдадзены «*Цветник Дорофея*». Таксама ад гэтага года да 1796 г. друкуюцца пераклады казак са зборніка «*Тысяча і адна ноч*». [19].

Адпаведна складзенага Адамам Мальдзісам спіса ўсяго за час існавання ў друкарні выдадзена не менш за 94 кнігі[20]. Ці была прыбытковай дзейнасць гродзенскай друкарні? Іншымі словамі, ці варта было Тызенгаўзу змагацца за яе ў 1774 – 1775 гг.? Адзіная справаздача захавалася за перыяд ад 1 снежня 1784 г. да 30 верасня 1785 г. (калі Тызенгаўз ужо быў пазбаўлены пасады і ішлі над ім суды). Даход за 10 месяцаў склаў 23 036 злотых 24 грошы, выдаткі – 12 804 зл. 7 ½ грошаў, а значыць прыбытак даволі значны – 10 232 зл. 16 ½ гр.[21].

Пра час існавання друкарні ёсць розныя погляды. Складальнікі слоўніка «*Друкары даўняй Польшчы…*» пішуць, што «*няма сумневаў што друкарня дзейнічала аж да 1796 г.* «Потым віленскі біскуп Юзаф Казімір Касакоўскі перавёз яе ў Вільню, змясціў у семінарыі Св. Юрыя і яна дзейнічала да паловы XIXст., як дэцызіяльная. Гэты ж год называе «*Nowy Korbut*»[22]. Ежы Лойек лічыць канцом працы друкарні 1795 г. Аляксей Пяткевіч падтрымоўвае думку А. Мальдзіса, што друкарня працавала ў 1775 – 1802 гг.[23].

Такім чынам, дзякуючы гродзенскаму старосце Антонію Тызенгаўзу як мінімум 10 гадоў у Гродне дзейнічала каралеўская друкарня, якая паўстала з рэшткаў віленскай, а затым стала сур'ёзным прадпрыемствам, у якім толькі кніг было надрукавана каля 100. А яшчэ тут выдавалі тры газеты, якія сталі часткай культуры друкарскай справы. Друкарня адыграла пэўную ролю ў часы рэформ Тызенгаўза, другога падзелу Рэчы Паспалітай і паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі.

19 А. Мальдзіс, *Кнігарукаванне Беларусі ў XVIII стагоддзі,* [в:] *Книга, библиотечное дело и библиогафия в Белоруссии,* Минск 1974, с. 137 – 141; *Кніга Беларусі, 1517-1917: Зводны каталог,* Мінск 1986; *Drukarze dawnej Polski,* s. 13-104; *Гродненская типография,* [в:] *Гродно: Энциклопедический справочник,* Гродна 1989, с. 159-160.

20 А. Мальдзіс, *Кнігарукаванне Беларусі*, с. 137 – 141.

21 J. Lojek, *„GazetaGrodzienska" 1776 – 1783,*s. 15-16; *Nowy Korbut,* t.4, s. 121.

22 *Drukarze dawnej Polski,* s. 94, 103.

23 А. Пяткевіч, *Маршруты кніжнага слова,* с. 35.

## Streszczenie

Wiaczasłau Szwied, *Grodzieńska drukarnia królewska i jej wydawnictwa (1775-1795)*

Założenie drukarni w Grodnie było ważnym i potrzebnym krokiem, ponieważ miasto było w tamtych czasach centrum ekonomicznym królestwa na Grodzieńszczyźnie. To tu realizował swoją reformę podskarbi nadworny litewski i starosta grodzieński Antoni Tyzenhauz, który marzył o zmianie miasta w ośrodek polityczny, kulturalny i ekonomiczny. Grodno było miejscem posiedzeń sejmów Rzeczpospolitej i Trybunału Głównego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Drukarnia powstała dzięki Antoniemu Tyzenhauzowi, który wygrał konflikt z księdzem-astronomem M. Poczobuttem-Odlanickim i Żydami o organizację drukarni w Grodnie. W dokumencie kwitującym pieniądze od Tyzenhauza na kwotę 2000 zł Poczobutt napisał, że odstępuje drukarnię na rzecz skarbu Jego Królewskiej Mości. Stąd nazwa drukarni grodzieńskiej (królewska, nadworna, Jego Królewskiej Mości, skarbowa), której Tyzenhauz był tylko dzierżawcą, a nie gospodarzem, chociaż sam uważał ją za swoją własność i nawet w testamencie sporządzonym 23 sierpnia 1782 r. przekazał drukarnię księdzu Muczyńskiemu, rektorowi pojezuickiego kolegium grodzieńskiego. W związki z tym, że praca drukarni zależała od jej kierowników, w artykule zwrócona jest uwaga na: księdza, byłego jezuitę, Karola Malinowskiego (1774-1784), Barucha bar Rabi Józefa Romma (1788-1792), księdza Jurewicza (1792-1794) i Jana Jasieńskiego (1794-1797). Drukarnia grodzieńska powstała na resztkach wileńskiej i stała się poważnym przedsiębiorstwem, w którym przez niemal 20 lat samych książek wydrukowano około 100. Ponadto wydawano tu trzy gazety, które stały się częścią kultury światka drukarskiego. Drukarnia odegrała swoją rolę w trakcie reform Tyzenhauza, drugiego podziału Rzeczpospolitej i powstania pod przywództwem Tadeusza Kościuszki.

## Summary

Viachaslau Shved, *The Royal Printing House in Grodno and its Publications (1775-1795)*

The establishment of the printing house in Grodno was an important and necessary step, as, at the time, it was the economic centre of the Polish Kingdom in the Grodno region. It was here that the Lithuanian court treasurer and Grodno *starosta*, Antoni Tyzenhauz enacted his reform, dreaming of transforming the city into a political, cultural and economic hub. Grodno was also the site of sittings of the Rzeczpospolita Sejm and the Lithuanian Tribunal. The printing house was created thanks to Antoni Tyzenhauz, who won out in a conflict with Jesuit priest and astronomer, M. Poczobutt-Odlanicki, and the Jews, regarding the organisation of a printing house in Grodno. In a document acknowledging the receipt of money from Tyzenhauz to the sum of 2000 zlotys, Poczobutt wrote that he was ceding the printing house to the Royal Treasury. This explains the name of the Grodno printing house (Royal, Court, His Royal Highness, treasury). Although Tyzenhauz was only the lease holder, not the landlord, he himself felt it to be his own property, and even – in a testament written in 23 August 1782 – willed the printing house to Fr. Muczyński, rector of the former Jesuit College in Grodno. In connection with the fact that the printing house's work was dependent on its directors, the article pays particular attention to former Jesuit, Fr. Karol Malinowski (1774-1784), Baruch Bar Rabbi Józef Room (1788-1792), Fr. Jurewicz (1792-1794) and Jan Jasieński (1794-1797). The Grodno printing house was established on the remnants of the Vilnius printing house, and became a serious enterprise, which in over 20 years of publishing, printed around 100 books. What is more, it published three newspapers, which became a part of the culture of the printing community. The printing house played a role during Tyzenhauz's reform, the second partition of Poland and the Kościuszko Uprising.

**Генадзь Семянчук**
**(Варшава/Гродна)**

# ПОЛАЦКАЕ КНЯСТВА Ў XI ст.: ФАРМАВАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ТЭРЫТОРЫІ

У беларускім гісторыка-культурным дыскурсе Полацк мае першаснае вызначальнае і фундаментальнае значэнне. Ад яго наш народ вядзе свой адмысловы "нацыянальны радавод". Таму даследаванне праблематыкі, звязанай з мінулым Полацкага княства, накладае на кожнага навукоўца вялізную адказнасць. Дадзены тэкст – своеасаблівае вяртанне да тэмы, якой аўтар займаўся 25 год таму. У свой час намі быў надрукаваны шэраг артыкулаў, прысвечаных пытанням фармавання межаў і тэрыторыі найбольш значнай палітычнай адзінкі сярэднявечнай Беларусі – Полацкага княства, альбо Полацкай зямлі[1]. Прычын вяртання да гэтай тэмы некалькі. Па-першае, вынікі культурна-антрапалагічнага і сацыялагічнага вывучэння даіндустрыяльных грамадстваў за апошнюю чвэрць стагоддзя дазваляюць грунтоўна пераглядзець метадалагічныя падставы гістарычна-геаграфічных даследаванняў па пытаннях складвання дзяржаўных тэрыторый і межаў у сярэднявеччы на абшарах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Па-другое, выяўлены і ўведзены ў навуковы ўжытак велізарны аб'ём археалагічнага матэрыялу як непасрэдна з тэрыторыі Беларусі, так і з бліжэйшых суседніх рэгіёнаў. Гэта таксама дазваляе пераправерыць і ўдакладніць ранейшыя меркаванні і гіпотэзы. Па-трэцяе, адыход ад пазытывіскага падыходу да інфармацый наратыўных крыніц (летапісаў) пашырае інтэрпрэтацыйныя магчымасці іх зместу.

Ёсць яшчэ адна прычына суб'ектыўнага характару. Апошнім часам у беларускай гістарыяграфіі ў тэкстах, прысвечаных раннім

1 Г. Семянчук, *Пачатковы этап фарміравання тэрыторыі Полацкай зямлі (IX-X стст.)*, "Весці Акадэміі Навук БССР. Серыя грамадскіх навук", 1991, № 3, с. 66-74; ён жа. *Полацкая земля ў XII – першай палове XIII стст. (змены ўадміністрацыйна-палітычнай і тэрытарыяльных структурах)*, "Весці Акадэміі Навук Беларусі. Серыя грамадскіх навук", 1992, № 3-4, с. 41-49; ён жа. *Фарміраванне і развіццё тэрыторыі Полацкай зямлі ў IX – XI стст. (этапы, агульнае і своеасаблівае)*, [w:] *Europa Orientalis. Polska i jej wschodni sąsiedzi od średniowiecza po współczesność. Studia i materiały ofiarowane prof. Stanisławu Alexsandrowiczowi w 65 rocznicę urodzin*, Toruń, 1996, s. 35-52; ён жа. *Księstwo Wsiesława Briaczysławicza „Czarodzieja"*, [w:] *Pomorze, Mazowsze, Prusy.* Gdańskie Studia z Dziejów Sredniowiecza, N 7, Gdańsk 2000, s. 169-180.

перыядам Полацкага княства, назіраецца татальнае ігнараванне нашых папярэдніх напрацовак па праблемах фармавання межаў і дзяржаўнай тэрыторыі дадзенай гістарычнай адзінкі. Чытачам прапануюцца нібыта новыя канструкцыі, якія на самой справе з'яўляюцца плагіятам і кампіляцыяй альбо сумнеўнымі "арыгінальнымі" інтэрпрэтацыямі. Пры гэтым поўнасцю адсутнічае дыскусія. Прывядзем некалькі прыкладаў.

У выдадзеным у 2009 г. першым томе *Вялікага гістарычнага атласа Беларусі* шмат пытанняў выклікаюць карты, прысвечаныя Полацкаму княству[2]. На карце *Усходняя Еўропа ў другой палове IX-XI ст. Славянскія дзяржавы* гісторыя Беларусі прадстаўлена вельмі дзіўна[3]. Вядомае з летапісаў княства Рагвалода не адзначанае, хоць адзначаюцца ўсе легендарныя паходы легендарных Алега, Аскольда і Дзіра. Пры гэтым чамусьці забыліся адзначыць таксама легендарны паход Аскольда і Дзіра на Полацк у 865 годзе, які зафіксаваны на старонках Ніканаўскага летапісу. Не узгодненыя нават пазіцыі аўтараў суседніх старонак *Атласа*. На карце *Падзел Русі на вотчыны розных галін Рурыкавічаў XI-XII стст.* паўночная мяжа Полацкай зямлі з Наўгародскай праходзіць каля Вялікіх Лук і вытокаў р. Вялікая[4], а ўжо пачынаючы з карты *Княствы на тэрыторыі Беларусі XI-XII стст.* і наступных – *Полацкая зямля ў ваенна-палітычных падзеях XI ст.* і *Полацкая зямля ў ваенна-палітычных падзеях XII ст.* – дадзеная мяжа праведзеная амаль па абрысах сучаснай Рэспублікі Беларусь[5]. Яшчэ менш зразумелая пазіцыя аўтараў карт што да рубяжоў Полацкага княства ў Ніжнім Падзвінні. Агульнапрынятае меркаванне, што ўжо ў часы Усяслава Брачыславіча полацкія ўплывы пашыраюцца ўздоўж Дзвіны да яе ўпадзення у Балтыйскае мора. Нават латышскія і расійскія археолагі лічаць з'яўленне ўмацаваных паселішчаў Герцыке і Кукенойс у другой палове XI ст. вынікам актыўнасці Полацка[6]. Аднак на карце *Княствы на тэрыторыі*

2 Глядзі рэцэнзію: А. Латышонак, Г. Семянчук, *Марныя высілкі акадэмічных гісторыкаў,* "ARCHE-Пачатак", 2010, № 6, с. 298-322.

3 *Вялікі гістарычны атлас Беларусі: у 3-х тамах,* Том 1, Мінск 2009, с. 48.

4 Тамсама, с. 49.

5 Тамсама, с. 50, 51, 52.

6 А. Стубавс, *Некоторые археологические находки XI-XII вв. из городища Кокнесе,* [в:] *От эпохи бронзы до раннего феодализма,* Талинн 1966, с. 166-173; В. А. Булкин, *Герцике и Кукенойс (к постановке проблемы),* [в:] *Генезис и развитие феодализма в России,* Ленинград 1988, вып. 11, с. 124-139.

*Беларусі XI-XII стст.* яны пададзены як *"асяродкі ўлады Полацкай зямлі ў суседніх землях"* і размяшчаюцца экстэрытарыяльна ад Полацка. Пашырэнне Полацкага княства ўздоўж Заходняй Дзвіны на згаданых картах адбываецца нейк таямніча. На карце *Полацкая зямля ў ваенна-палітычных падзеях XI ст.* яе граніцы ў дадзеным рэгіёне не выходзяць за межы сучаснай Рэспублікі Беларусь, а на карце *Полацкая зямля ў ваенна-палітычных падзеях XII ст.* Полацку належаць ужо Летыгола/Латгалы, але без Герцыке і Кукенойса. Паўстае пытанне да аўтараў карт: а пад палітычным уплывам каго ў той час знаходзіліся іншыя падзвінскія і прыбалтыйскія народы – селы, земгалы і лівы? Згодна з гістарычнымі крыніцамі і паводле амаль аднадушнай думкі даследчыкаў (Аляксандр Насонаў, Леанід Аляксееў, Георгі Штыхаў, Генрык Лаўмяньскі, Ян Паверскі і іншыя), названыя народы залежалі менавіта ад Полацка.

Яшчэ адзін прыклад. У свой час прафесар Вольга Ляўко ў 2004 г. напісала: *"В 1990-е гг. вопросами формирования и развития территории Полоцкой земли в IX-XIII вв. занимался Г. Н. Семенчук. Данный исследователь повторил схему образования и развития раннегосударственных территорий, принятую в 1950-1970-е гг. (А. Н. Насонов, Л. В. Алексеев). Попытка Г. Н. Семенчука наметить границы Полоцкого «княжества Рогволода» – государства варварского типа середины X в., несмотря на привлечение достаточно большого нового материала,* ***неудачна*** (вылучана намі – Г. С.)»[7]. І раптам у апошняй калектыўнай манаграфіі, прысвечанай Полацку, знаходзім карту *Княства Рагвалода* з вызначанымі граніцамі, аўтарам якой з'яўляецца Вольга Ляўко[8]. Праўда, гэтыя граніцы вельмі моцна нагадваюць прапанаваныя ў свой час Генадзем Семянчуком[9]. Разыходжанні толькі з вызначэннем усходняга памежжа. Нам бачылася распаўсюджванне межаў да Віцебска і Усвят, а В. Ляўко праводзіць па р. Обаль. Аднак

7 О. Н. Левко, *Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси: Формирование и развитие,* Минск 2004, с. 13.

8 *Полоцк: Полоцк и Полоцкое княжество (земля) в IX-XIII вв., летопись древних слоев, Полоцк и его округа в XIV-XVIII вв., ремесло, денежное обращение и торговые связи Полоцка в средневековье (по данным археологии, нумизматики и письменных источников), культура и просвещение в средневековом Полоцке,* А. А. Коваленя (гл. ред.), науч. ред. О. Н. Левко, Минск 2012, с. 97, рис. 7; О. Н. Левко, *Полоцкая земля в государствообразующих процессах Восточной Европы IX-XII вв.,* [в:] *Полацк у гісторыі і культуры Еўропы. Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Полацк, 22-23-мая 2012 г.),* Мінск 2012, с. 27.

9 Г. М. Семянчук, *Пачатковы этап фарміравання тэрыторыі Полацкай зямлі (IX-X стст.)*, с. 66-74.

чытач не знойдзе ў яе тэксце ані прозвішча Семянчука, ані крытыкі яго канцэпцыі, ані абгрунтавання ўласных прапаноў.

Ня веданне (альбо ігнараванне) нашых тэкстаў заўважана таксама ў фундаментальнай манаграфіі пецярбурскага археолага Івана Ерамеева, прысвечанай полацкім старажытнасцям раннесярэднявечнага часу[10]. Адсутнасць публікацый Г. Семянчука ў багатай бібліяграфіі здзіўляе. Нормамі навуковай этыкі з'яўляецца верыфікацыя – пазітыўная альбо негатыўная – высноў папярэднікаў. У адваротным выпадку можна засумнявацца ў верагоднасці высноў прапанаваных аўтарам. Так, на мал. 89, названым *Археологические памятники, упоминаемые в работе. Путь из варяг в греки и предполагаемые границы Полоцкой земли конца XI – начала XII в.*, гэтыя самыя межы Полацкай зямлі прадстаўленыя па А. Насонаву з 1951 года (аўтар спасылаецца на перавыданне 2002 г. яго манаграфіі *«Русская земля» и образование территории Древнерусского государства*) і Георгію Штыхаву з 2000 г. (аўтар спасылаецца на мал. 32а *Тэрыторыя Полацкай зямлі ў XI ст.* з III тома "Археалогіі Беларусі"[11]). Аднак пры ўважлівым параўнанні ўсіх трох карт, высвятляецца, што І. Ерамееў пры вызначэнні межаў Полацкага княства ў XI-XII стст. аддаў перавагу высновам А. Насонава з 1951 г., а не больш сучасным, у якіх намі прадпрымаліся спробы акрэсліць межы Полацкага княства ў сярэднявеччы, у прыватнасці вызначыць месца Віцебска і Усвятаў у пачатку XI ст., а таксама распаўсюджанне ўлады Полацка ўздоўж Заходняй Дзвіны ў накірунку Балтыйскага мора.

Цяпер учытаемся ў дэфініцыі "дзяржавы", якія нам прапануюць культурныя антраполагі. Менавіта іх меркаванне для нас мае важнае значэнне. Бо, як вядома, дадзеная галіна навукі дае гісторыкам і археолагам цвёрдыя метадалагічныя падставы. Згодна вызначэнню стваральнікаў тэорыі ранняй дзяржавы Гэнры Дж. М. Классэна і Петэра Скальніка, апошняя разумецца,

10 И. И. Еремеев, *Древности Полоцкой земли в историческом изучении Восточно-Балтийского региона (очерки средневековой археологии и истории Псковско-Белорусского Подвинья),* Санкт-Петербург 2015. (Труды ИИМК; том XLIV).

11 Дадзеная карта Полацкай зямлі ў XI ст. з'яўляецца адным з вынікаў дысертацыйнага даследавання Генадзя Семянчука *Формирование и развитие территории Полоцкой земли в IX – первой половине XIII вв.*, паспяхова абароненай у маі 1993 года. Адсутнасць нашага прозвішча пад названай картай ў выданні *Археалогія Беларусі. Том 3. Сярэдневяковы перыяд (IX-XIII стст.)* растлумачыць складана.

як "*цэнтралізаваная грамадска-палітычная арганізацыя, якая служыць для рэгулявання сацыяльных узаемаадносінаў у складаным стратыфікаваным грамадстве, падзеленым мінімум на два галоўныя слаі, альбо фарміруючым сацыяльныя класы – г. зн. пануючых і падпарадкаваных, ўзаемаадносіны паміж якімі характарызуюцца палітычным панаваннем першых і падаткавымі абавязкамі другіх і ўзаконьваюцца агульнай ідэалогіяй, якая грунтуецца на прынцыпе ўзаемнага абмену (рэцыпракацыі), калі народ пастаўляе ежу, тавары і паслугі, а правадыр забяспечвае абарону і парадак*". Да гэтай адзнакі ранняй дзяржавы яны дадаюць абавязковую стабільнасць тэрыторыі, якую займае дадзеная дзяржава, і наяўнасць цэнтра ўлады[12].

З пункту гледжання амерыканскага антраполага Джэка Дэвіда Элера, дзяржава – гэта цэнтралізаваная палітычная сістэма з фармальным урадам, якая мае манапольную ўладу над акрэсленай тэрыторыяй, уключна з моцай устанаўлення і выканання законаў, друкаваннем грошай і збірання падаткаў, а таксама ўтрымання арміі і абвяшчэння вайны[13]. Іншы навуковец, Майкл Говард, піша: "*Дзяржава – гэта аўтаномная цэласная палітычная адзінка, на тэрыторыі якой знаходзіцца шмат супольнасцяў і якая мае высока спецыялізаваную цэнтральную кіраўнічую ўладу. Цэнтральная ўлада прэтэндуе на манаполію ў функцыях, звязаных з захаваннем унутранага парадку і наладжваннем знешніх зносінаў. Дзяржавы адрозніваюцца па ступені цэнтралізацыі, па моцы і характары дзяржаўнай улады, па канкрэтнай форме кіравання, па тым, як улада забяспечана законам, і па ўзроўнях і спосабах удзелу народа ў кіраванні дзяржавай*"[14].

Як бачым, у спрошчаным выглядзе вылучаюць тры (часам чатыры – яшчэ ідэалогія) галоўныя рысы дзяржаўнасці: а) фарміраванне адмысловага апарата кіравання, які мае перавагу ў гаспадарчай, палітычнай і ідэалагічнай сферах, б) падаткі і іншыя матэрыяльныя сродкі на ўтрыманне дадзенага апарата, в) тэрытарыяльны абсяг узаемадзеянняў кіруючага апарата з мясцовым насельніцтвам.

12 H.J.M. Claessen, P. Skalnik, *The Early State: Models and Reality,* [w:] *The Early State,* ed. H.J.M. Claessen, P. Skalnik. The Hague; P.; N.Y., 1978, s. 637-640; Х. Дж. М. Классен, *Раннее государство: структурный подход,* [в:] *Древнейшие государства Восточной Европы. 2014 год: Древняя Русь и средневековая Европа: возникновение государства,* Москва 2016, с. 8-90.

13 J. D. Eller, *Antropologia kulturowa. Globalne siły, lokalne światy,* Kraków 2012, s. 312-314.

14 М. Говард, *Сучасная культурная антрапалогія,* Мінск 1995, с. 315-316.




Фармаванне тэрыторыі Полацкага княства X-XI стст.

Найбольш выразнымі знешнімі адзнакамі ранняй дзяржавы лічыцца ўзнікненне гарадоў і адміністрацыйна-вайсковых цэнтраў, будаўніцтва манументальных збудаванняў (памежныя крэпасці, храмы, грабніцы, палацы і інш.), з'яўленне і распаўсюджванне пісьменнасці і пісьмовага права. Да іх могуць дадавацца яшчэ такія крытэрыі, як колькасць і шчыльнасць насельніцтва. У нашым артыкуле звернем увагу на адну адзнаку з вышэйпададзенага спіса – "дзяржаўную тэрыторыю" ў кантэксце гісторыі Полацкага княства.

У шматлікіх галінах гуманітарнай навукі назіранні за такімі з'явамі, як сацыяльны і класавы падзел грамадстваў, абапіраюцца на перакананнях, што раней гэтыя грамадствы занялі і займалі як бы натуральным і відавочным чынам канкрэтныя тэрыторыі. Аўтары гістарычных карт і атласаў часам вельмі лёгка вызначаюць народам альбо археалагічным культурам дакладна акрэсленыя прасторы. Ва ўсіх падобных выпадках геаграфічная прастора з'ўляецца толькі

фонам, на якім прадстаўляюцца культурныя розніцы, гістарычныя факты, палітычныя альбо грамадскія арганізацыйныя структуры. Таму асабліва цяжкім заданнем з'яўляецца канструяванне і аналіз дзяржаўных межаў і памежжаў, якія існавалі ў раннім сярэднявеччы, асабліва ў рэгіёне Цэнтральна-Усходняй Еўропы. У дадзенай дыскусіі галоўны голас належыць археолагам і гісторыкам.

Археолагі часта і з рознымі вынікамі займаюцца тэматыкай фарміравання "межаў" і "памежжаў". Для дагістарычнага часу – гэта канкрэтызацыя распаўсюджання той ці іншай "археалагічнай культуры" альбо (больш амбіцыйна) таго ці іншага "этнасу" ці "этнакультурнай групы". Для ранняга сярэднявечча – гэта спакуса рассяліць і абмежаваць тэрыторыю "племені" ці "народнасці". Для сярэднявечча, з-за малалікасці пісьмовых крыніц, археалогія робіцца ледзь не важнейшай у спробах вызначыць межы палітычных і дзяржаўных утварэнняў, асабліва ў субрэгіёне Цэнтральнай і Усходняй Еўропы[15].

Заўважым, што прынцыповым абмежаваннем археалогіі, як метада для канструявання і характарыстыкі памежных палітычных альбо этна-культурных зон у мінулым, з'яўляецца абапіранне сваіх высноў на матэрыяльных сведчаннях, якія ёсць толькі эфектам фінальных з'яў у грамадска-культурнай сферы. Па-за межамі археалогіі надалей застаюцца даследчыцкія накірункі і тэмы, якія маюць за мэту пазнанне, вылучэнне і характарыстыку фаз і дынамікі працэсаў фармавання граніц у прыватнасці і дзяржаўнай тэрыторыі ўвогуле. Вынікі археалагічных даследаванняў дазваляюць рабіць высновы, адваротныя ад прынятых у этнаграфіі, якая канцэнтруецца на назіраннях і вывучэнні з'яў у працэсе іх працягласці, каб як фінальны эфект прадставіць вынікі інтэракцый, якія выяўляюцца між іншым у спецыфіцы створанай матэрыяльнай культуры альбо сімвалічна-рэлігійных зместах.

У той жа час полем назіранняў і пачатковым пунктам для археалагічных даследаванняў з'яўляецца менавіта дадзены фінальны эфект, які дазваляе паставіць пытанне пра прычыны, а таксама накірункі і характар працэсаў, што ўплываюць на стварэнне

15 K. G. Lightfoot, A. Martinez, *Frontiers and Boundaries in Archaeological Perspective*, [w:] *Annual Reviev of Anthropology,* Palo Alto 1995, s. 471-492.

культуры са спецыфічнымі рысамі, якія атрымліваецца заўважыць на шляху аналізу выяўленых падчас раскопах альбо разведак матэрыялаў. На жаль, сучасны ўзровень даследаванасці і цяжкасці з вызначэннем больш канкрэтнай храналогіі значнай колькасці археалагічнага матэрыялу з тэрыторыі Беларусі дазваляе толькі прадставіць эскіз працэсаў, якія мы аднаўляем. Мэтай з'яўляецца хутчэй пастаноўка новых даследчыцкіх пытанняў, а не канчатковыя адказы. Але нават такі ўступны даследчыцкі этап патрабуе ад археолага абавязковага інтэрдысцыплінарнага падыходу і больш шырокага выкарыстання вынікаў культурна-антрапалагічных, этнагістарычных, сацыялагічных і нават палеа- і антрапагеаграфічных даследаванняў. Праведзены ў бліжэйшай будучыні адмысловы аналіз храналогіі, тыпалогіі і лакалізацыі гарадзішчаў дазволіў бы стварыць базу для канструявання накірункаў дзяржаўных межаў у сярэднявеччы на тэрыторыі Беларусі (і шырэй, усёй Усходняй Еўропы) - тых штучных, усталяваных у выніку палітычных альбо вайсковых дзеянняў. Адзначым, што фарміраванне гэтых межаў мае вельмі мала агульнага з лакальнымі грамадствамі і этнічнымі праблемамі, а больш са знешнімі дзеяннямі, якія ставяць за мэту палітычнае падпарадкаванне канкрэтных тэрыторый.

Мусім адразу заўважыць, што сучасныя дэфініцыі "дзяржаўнай граніцы/мяжы" толькі часткова адпавядаюць сярэднявечным рэаліям. Для сучасных граніц найбольш універсальнай і надалей актуальнай застаецца дэфініцыя, прадстаўленая яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя Людвікам Эрліхам, які заўважыў, што рубяжы дзяржавы з'яўляюцца ў прынцыпе геаметрычнымі лініямі, а значыць, аднавымяровымі, у межах якіх размяшчаецца абшар дзяржавы[16]. У дадзенай агульнай характарыстыцы ўтрымліваецца большасць сфармуляваных да гэтага часу надта канкрэтных правіл, якія датычацца значэння гэтага паняцця. На думку Ляссі Аппенгэйма, які лічыцца адным з бацькоў сучаснага міжнароднага права, "*граніцы дзяржаўнай тэрыторыі з'яўляюцца зачараванымі лініямі на паверхні зямлі, якія аддзяляюць тэрыторыю адной дзяржавы ад тэрыторыі іншай дзяржавы*"[17].

16 L. Ehrlich, *Prawo międzynarodowe,* Warszawa 1958, s. 507.
17 L. F. L. Oppenheim, H. Lauterpacht, *International Law*, t. 1, London-New York-Toronto 1957, s. 531.

Праблематыка даследаванняў на тэму фарміравання граніц, памежжаў і дзяржаўных тэрыторый у мінулым дастаткова добра вывучана, асабліва ў еўрапейскай гістарыяграфіі. Тэарэтычныя падставы сучасных студыяў на тэму фарміравання памежных зон і лінейных граніц у шырокім еўрапейскім кантэксце прадставіў Оўэн Латцімор у *Studies in frontier history*[18]. Адносна гістарычнай геаграфіі еўрапейскага сярэднявечча неабходна назваць працы Нормана Паўндса[19], а таксама калектыўныя манаграфіі і зборнікі, у якіх разглядаюцца разнастайныя даследчыцкія аспекты межаў і памежжаў раннесярэднявечнай Еўропы[20].

Актуальны стан нашых ведаў, а насамрэч іх недахоп, па тэме сярэднявечных межаў Полацкага княства яшчэ доўга будзе ствараць праблемы інтэрпрэтатыўнага і дэфінітыўнага характару, у першую чаргу з-за слабога распазнання археалагічнага і тапанімічнага матэрыялу рэгіёна. Межы і памежжа сярэднявечнага Полацкага княства час ад часу станавіліся аб'ектамі навуковых штудыяў з канца XIX ст.: Мітрафан Доўнар-Запольскі[21] і Уладзімір Данілевіч[22], Аляксандр Насонаў[23] і Леанід Аляксееў[24], Генадзь Семянчук[25], спарадычна Андрэй Мяцельскі[26]. Апошнім часам сваю версію фармавання тэрыторыі

18 O. Lattimore, *Studies in frontier history. Collected papers: 1928-1958*, Paris 1962.

19 N.J.G. Pounds, *Eastern Europe,* London 1969; tenże, *An Historical Geography of Europe 450 BC – AD 1330,* Cambridge 1973.

20 *The transformation of frontiers : from late antiquity to the Carolingians,* ed. W. Pohl, I. Wood, H. Reimitz, The Transformation of the Roman World, nr. 10, Leiden-Boston-Köln 2001; *The European frontier : clashes and compromises in the Middle Ages : international symposium of the Culture Clash or Compromise (CCC) Project and the Department of Archaeology, Lund University, held in Lund October, 13-15. 2000*, ed. J. Staecker, Lund Studies in Medieval Archaeology, nr. 33, Lund 2004; J. Kłoczowski, P. Plisiecki, H. Łaszkiewicz, *Frontieres et l'espace national en Europe du Centre-Est*, Lublin 2000.

21 М. В. Довнар-Запольский, *Очерки истории кривичской и дреговичской земель до конца XII столетия*, Киев 1891, с. 44-46.

22 В.Е. Данилевич, *Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия,* Киев 1896, с. 3, 5-8, 30-31, 49.

23 А.Н. Насонов, *"Русская земля" и образование территории древнерусского государства,* Москва 1951, с. 145-158.

24 Л.В. Алексеев, *Полоцкая земля IX-XIII века (Очерки истории Северной Белоруссии) в IX-XIII вв.*, Москва 1966, с. 70-73; ён жа. *Полоцкая земля,* [в:] *Древнерусские княжества в X-XII веках,* Москва 1975, с. 206-214.

25 Глядзі спасылку 1.

26 А. А. Мяцельскі, *Да пытання аб прыродных і антрапегенных межах Віцебскай зямлі XII-XIII стст.*, "Гістарычна-археалагічны зборнік", Мінск 1997, № 12, с. 187-194.

Полацкага княства/зямлі ў IX-XII стст. представіла Вольга Ляўко[27]. Пры бліжэйшым азнаямленні з фактalогіяй і сістэмай аргументацыі яе прапаноў высвятляецца, што мы маем дачыненне з кампілятыўнымі, а часам і антынавуковымі працамі. Тэксты В. Ляўко, прысвечаныя фарміраванню тэрыторыі і межаў Полацкага княства, Віцебскай, Усвяцкай альбо Друцкай валасцей, пры ўважлівым чытанні ўяўляюць сабой парафразы з адпаведных тэкстаў Леаніда Аляксеева, Генадзя Семянчука, Андрэя Мяцельскага, пры гэтым без спасылак на іх. А чаго толькі варты наступны сказ В. Ляўко: *"В церковно-археологическом музее Витебской епархии Белорусской православной церкви находится каменный крест с изображением древнего герба Полоцка, выявленный в дер. Межево, расположенной на р. Скунья Оршанского района. Это подтверждает местоположение юго-восточной границы Полоцкой земли в XI веке»*[28]. Чытач марна будзе шукаць спасылку на крыніцу прадстаўленай вышэй інфармацыі ці нейкіх навуковых крытэрыяў падобнага сцвярджэння.

Як у святле новых даследаванняў мог адбывацца працэс фармавання найстарэйшай, „навязанай" палітычнай граніцы Полацкага княства? Пачатковая фаза фарміравання лінеарных граніц і накірункі іх звязаная як з прыроднымі чыннікамі, так і з сацыяльна-культурнымі і палітычнымі. Перадусім вылучаецца падзел на натуральныя граніцы і штучныя. Да першых адносяцца горы, вялікія лясныя комплексы і вялікія балоты. Гэтыя прыродныя тэрыторыі, з'яўляючыся аднachасова незаселенымі абшарамі, былі не толькі элементамі, якія раздзялялі грамадствы, але таксама

27 О. Н. Левко, *Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларусі: Формирование и развитие*, Минск 2004, с. 50-52, 60-62; яна ж. *Полоцкая земля в государствообразующих процессах Восточной Европы IX-XII вв.,* [в:] *Полацк у гісторыі і культуры Еўропы. Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Полацк, 22-23-мая 2012 г.),* Мінск 2012, с. 22-29.

28 О.Н. Левко, *Полоцк и объединительные процессы XI-XIII,* [в:] *Полоцк: Полоцк и Полоцкое княжество (земля) в IX-XIII вв., летопись древних слоев, Полоцк и его округа в XIV-XVIII вв., ремесло, денежное обращение и торговые связи Полоцка в средневековье (по данным археологии, нумизматики и письменных источников), культура и просвещение в средневековом Полоцке,* А.А. Коваленя (гл. ред.), науч. ред. О. Н. Левко, Минск 2012, с. 59-60. Гэтыя ж самыя словы В. Ляўко паўтарыла літаральна і без спасылак у наступнай калектыўнай манаграфіі *Друцк: Друцк и Друцкая волость (княжество в IX-XII вв., летопись древних слоев, князья Друцкие и их владения в XIII-XVIII вв., ремесло, промыслы, торговля (по данным археологии, нумизматики, письменных источников), памятники архитектуры и объекты туризма,* Минск 2014, с. 63-64.

выконвалі фукцыі абарончага поясу[29]. У сучаснай палітычнай геаграфіі падобныя памежныя функцыі маюць таксама рэкі. Але для сярэднявечнай эпохі іх роля як элемента, які размяжоўвае, даволі сумніўная.

Даследчыкі, якія займаюцца праблематыкай фарміравання лінейных граніц, згодныя паміж сабою, што найстарэйшай іх формай была "зона"[30]. Нявырашанай надалей застаецца толькі праблема шырыні дадзенага пояса, які раздзяляў паміж сабою некалькі палітычна скансалідаваных тэрыторый. У днепра-дзвінскім басейне ў XI ст. фарміраванне памежных зон неабходна бачыць ў пачатковай фазе накіраваных на гэтыя тэрыторыі супрацьлеглых экспансій розных палітычных адзінак: Наўгародскай зямлі, Кіеўскага, Смаленскага і Полацкага княстваў. Выключэннем з'яўляецца заходні і паўночна-заходні накірунак, сваеасаблівая зона, "адкрытая" ў бок балтыйскіх і фінскіх народаў.

Варта разглядзець падрабязней тыя нешматлікія паведамленні ўсходнееўрапейскіх летапісаў пра Полацкае княства, а таксама інфармацыйныя магчымасці археалагічных крыніц. Працэс зараджэння і станаўлення тэрытарыяльнай асновы Полацкага княства праходзіў галоўнымчынам у Беларускім Падзвінні, арэале рассялення летапісных палачан і заходняй часткі крывічоў. Першыя гістарычныя звесткі аб насельніцтве дадзенага рэгіёна, на жаль, вельмі скупыя, утрымліваюцца ў недатаваным фрагменце *Аповесці мінулых гадоў*[31]. Складанасць пры аналізе гэтых паведамленняў заключаецца ў тым, што аўтар летапісу блытае назвы «палачане» і «крывічы». Праблема ўзаемаадносінаў паміж гэтымі этнонімамі неаднаразова ўздымалася ў спецыяльнай літаратуры, аднак пакуль яна яшчэ далёкая ад канчатковага вырашэння. Аналіз вялікай бібліяграфіі дазваляе адзначыць, што разыходжанні пазіцый даследчыкаў знаходзяцца ў плоскасці метадалогіі, у адносінах да пэўных прынцыповых пытанняў. Менавіта: этнічная прыналежнасць

29 J. Barbag, *Geografia polityczna ogólna,* Warszawa1987, s. 62.

30 R. Schneider, *Lineare Grenzen. Vom frühen bis zum späten Mittelalter,* [w:] *Grenzen und Grenzregionen,* (red.) W.Haubrichs, R.Schneider, Saarbrücken 1994, s. 52-63; E. Mattisen *Searching for a dignified compromise. The Estonian-Russian border 1000 years,* Tallinn 1996, s. 11-74; C. Osterwalder-Maier, *Grenzen in der Archäologie,* [w:] Begleitschrift zur Jubiläumsausstellung Vindonissa Museum Brugg, Brugg 1998, s. 6 –7.

31 *Лаврентьевская летопись,* [в:] *Полное собрание русских летописей,* том 1, Москва 2001, 2-е издание, слп. 5-6, 10-11, 12-13.

банцараўска-тушамлянскай археалагічнай культуры і культуры доўгіх курганоў, з якой звязваюць крывічоў; храналогія рассялення славянаў у Беларускім Падзвінні; формы і інтэнсіўнасць славяна-балцкіх узаемаадносінаў і ўзаемасувязеў; значэнне аўтахтонных працэсаў і роля міграцый у фармаванні насельніцтва днепра-дзвінскага рэгіёну; значэнне і роля "варажскага" чынніка. Сучасны ўзровень ведаў не дазваляе канчаткова адказаць ні на адно з вышэйадзначаных пытанняў.

Найбольш распаўсюджаным (яшчэ не значыць правільным) з'яўляецца меркаванне, што летапісныя «палачане» -- гэта заходняя частка ўсходнеславянскага племені крывічоў, якая сфармавалася ў Полацка-Віцебскім Падзвінні. А назва зафіксавала геаграфічныя, палітычныя і этнаграфічныя адрозненні гэтага рэгіёна ад іншых раёнаў рассялення крывічоў[32].

Аднак вартае ўвагі яшчэ адно меркаванне, выказанае пецярбурскімі даследчыкамі Дзмітрыем Мачынскім і Васілём Булкіным і падтрыманае смаленскім археолагам Яўгенам Шмідтам. Паводле якога, "палачане" і "крывічы" – гэта асобныя этна-культурныя групы, якія на пачатковай стадыі кантактаў паміж сабою значна адрозніваліся ў сацыяльным і этнічным сэнсе[33]. Адрозненні праяўляюцца як у летапісным тэксце (крывічы не пералічваюцца сярод славянаў, якія прыйшлі з Дуная, а іх мова выразна адрозніваецца ад славянскай), гэтак і ў археалагічнай адпаведнасці летапісным крывічам – культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў, тыповыя рысы якой знікаюць у X ст. Зыходзячы з гэтага Вас. Булкін мяркуе, што мясцовая крывіцкая культура перажыла істотную

32 Асноўную бібліяграфію па гэтаму пытанню гл.: В. В. Седов, *Восточные славяне в VI -XIII вв.*, Москва 1982, с. 163-165; Г. В. Штыхаў, *Крывічы. Па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі*, Мінск, 1992, с. 94-104; А. А. Горский, *Кривичи и полочане в IX-X вв. (вопросы политической истории),* [в:] *Древнейшие государства Восточной Европы. Материалы и исследования. 1992-1993 годы*, Москва 1995, с. 50-63.

33 Д. А. Мачинский, *Миграция славян в I тыс.н.э. по письменным источникам с привлечением данных археологии,* [в:] *Формирование раннефеодальных славянских народностей,* Москва 1981, с. 44; ён жа. *О времени и обстоятельствах первого появления славян на северо-западе Восточной Европы по данным письменных источников,* [в:] *Северная Русь и ее соседи в эпоху раннего средневековья,* Ленинград 1982, с. 12; Вал.А.Булкин, Вас. А. Булкин. *Древний Полоцк: у истоков культуры*, [в:], *Проблемы археологии.* Вып.3. *Памятники древнего и средневекового искусства. Сборник статей в память профессора В.И.Равдоникаса.* Под ред. Проф. А.Д.Столяра, Санкт-Петербург 1994, с. 161-166; Е. А. Шмидт, *Кривичи Смоленского Поднепровья и Подвинья (в свете археологических данных),* Смоленск 2012, с. 114-118, 120-121.

трансфармацыю і на мяжы тысячагоддзяў была “паглынутая” прыйшоўшымі сюды славянамі (“палачанамі”). Цікава заўважыць, што пазіцыя “тутэйшых” не была пасіўнай: яны перадалі, а новае насельніцтва засвоіла этнонім “крывічы”[34]. Уласна ў Полацку, як цэнтры трансляцыі новай культуры, этнічныя працэсы ўскладняліся і ўзбагачаліся кантактамі з варажскімі «находниками» і іх культурай, што асабліва выразна праявілася ў сярэдзіне X ст. Такім чынам, этнакультурная гісторыя ранняга Полацка і яго ваколіц характарызуецца актыўным узаемадзеяннем палачан, крывічоў і варагаў, у выніку чаго сфарміравалася своеасаблівая полацкая культура XI-XII стст.[35]

У адрозненні ад іншых народаў, якіх летапіс надзяляе даволі вялікімі тэрыторыямі (напрыклад дрыгавічы, севяране, вяцічы), месцы пражывання палачан, палян і славенаў вызначаныя вельмі дакладна і кропкава – рака Палата, кіеўскія пагоркі і берагі Ільменя. Тут, у адрозненні ад іншых славянскіх груп, якія рассяліліся на тэрыторыі Усходняй Еўропы, амаль адразу цэнтрамі палітычнага і эканамічнага жыцця парабіліся гарадскія цэнтры – Полацк, Кіеў, Ноўгарад[36]. Прыгледзімся да геаграфіі рэгіёна рассялення “палачан”. Басейн Палаты і суседняй Дрысы, збліжаючыся з вытокамі р. Вялікай, стваралі трасу азёрна-рачнога шляху ў боку фінскага ўзбярэжжа Балтыкі. Мяркуюць, што накірунак гэтай транспартнай магістралі быў вядомы яшчэ рымскім купцам і падарожнікам часоў Клаўдзія Пталамея, і не выключана, што яна захавала сваю значнасць да часоў славянскага рассялення[37]. У памкненні кіруючых эліт Беларускага

34 Апошні раз этнонім “крывічы” на старонках Іпацеўскага летапісу ўзгадваецца пад 1128 г. – *“Того же лета посла князь Мьстиславъ съ братьею своею многы Кривичи четырьми путьми” – Ипатьевская летопись,* [в:] *Полное собрание русских летописей,* том 1, Москва 2001, 2-е издание, слп. 292. А полацкія князі называюцца “крывічскімі” яшчэ ў 1140 і 1162 гадах. *“…и оупорозьнася Мьстиславъ от рати и помяноу первеи посла по Кривитьстеи князе по Давыда по Ростислава и Святослава и Рогъволодича два и оусажа оу три лодьи и поточи и Царюградоъ за неслоъшание ихъ а моужи свои посажа по городомъ ихъ”* (слп. 304); *“Том же лете Рюрикъ и Святополкъ Гюргевичь Туровьскии и Святославъ Всеволодичь съ братамъ Ярославомъ и съ Олгомъ Святославичем и с Володимиричемъ и с Кривьскими князьми идоша къ Случьску на Володимира на Мьстиславича”* (слп. 521).

35 Вал.А.Булкин, Вас.А.Булкин. *Древний Полоцк: у истоков культуры,* с. 165; Е. А. Шмидт, *Кривичи Смоленского Поднепровья и Подвинья,* с.114-118, 120-121. Г. Семянчук, *Пачаткі дзяржаватворчых працэсаў на тэрыторыі Беларусі ў IX – пачатку XI ст,* [у:] *Rocznik Centrum Studiów Białoruskich/ Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў,* Варшава 2015, № 1, с. 32-33, 38-39.

36 Вал. А. Булкин, Вас. А. Булкин. *Древний Полоцк: у истоков культуры,* с. 162-163.

37 Вас. А. Булкин, *Река Полота и загадочный Турунт,* [в:] *История и археология Полоцка и Полоцкой земли,* Полоцк 1987, с. 10-11; Вал. А. Булкин, Вас. А. Булкин, *Древний Полоцк: у истоков культуры,* с. 163.

Падзвіння (спачатку палачанаў, а з сярэдзіны X ст. варагаў Рагвалода) замацавацца на скрыжаванні шляхоў, якія накіроўваліся з унутраных раёнаў Усходняй Еўропы да розных і аддаленых адзін ад аднаго ўзбярэжжаў Балтыйскага мора – Рыжскага і Фінскага заліваў, – праявіўся актыўны характар насельніцтва гэтага рэгіёна.

Замацаванне палачан, а пазней варагаў на беларускім адрэзку Заходняй Дзвіны стала звязала іх з лёсам днепра-дзвінскай культурнай вобласці. Граніцы апошняй, якія пачалі складвацца ў раннім жалезным часе, ахоплівалі тэрыторыю ад міжрэчча Дняпра, Волгі і Акі на ўсходзе і да Мінскага ўзвышша, вытокаў Свіслачы і Бярэзіны дняпроўскага басейна на захадзе, ад вярхоўяў рэк Вялікая і Ловаць на поўначы да Магілёўскага Падняпроўя на поўдні. У IX-X стст. гэта вобласць уяўляла сабою адасобленую ад паўночнай (наўгародскай) і паўднёвай (кіеўскай) Русі трэцюю "Сярэдзінную Русь", якая раздзяляла першую ад другой[38]. Восевы рачны накірунак Сярэдзіннай Русі ахопліваў полацка-віцебскі адрэзак Заходняй Дзвіны, рэкі Лучосу і Касплю, аршанска-смаленскі фрагмент Дняпра і выходзіў затым да волга-окскага міжрэчча. Гэты шыротны шлях ад Балтыкі да Волгі і Акі, які яшчэ летапісец назваў "заходнедзвінскім", уяўляў сабою заходняе адгалінаванне Вялікага Волжскага шляху. Дадзенае адгалінаванне было дастаткова незалежнае ад іншых міжнародных камунікацый, накіраваных у бок Ноўгарада і Ладагі альбо з боку Балтыкі да Кіева праз Нёман і дняпроўскую Бярэзіну[39].

Выгодная і ўплывовая геапалітычная сітуацыя беларускага дзвінскага рэгіёна спрыяла ўзнікненню там ў сярэдзіне X ст. самастойнай дзяржаўнай адзінкі – Княства Рагвалода, якое з'явілася падставай для фармавання будучага Полацкага княства XI-XIII стст.[40] Пачаткі княжання Рагвалода ў Полацку адносяцца да 950-х гадоў[41]. Пацверджанне дадзенай храналагічнай высновы знаходзіцца ў археалагічным матэрыяле: удасканальванне фартыфікацыйнай сістэмы полацкага "Гарадзішча Рагвалода", з'яўленне новых умацаваных

38 Вал. А. Булкин, Вас. А. Булкин. *Древний Полоцк: у истоков культуры,* с. 162.

39 Тамсама, с. 162.

40 Г. Семянчук, *Пачаткі дзяржаватворчых працэсаў на тэрыторыі Беларусі ў IX – пачатку XI ст,* с. 33-36.

41 И. И. Еремеев, *Полоцкая земля,* [в:] *Русь в IX-X веках: Археологическая панорама,* Москва-Вологда 2012, с. 290.

паселішчаў (Лукомль, Гарадзец на Мнюце, Віцебск), з'яўленне скарбаў срэбраных дырхемаў і залатых рэчаў. На карысць прапанаванага датавання можа сведчыць тое, што перад пачаткам братазабойчай вайны за кіеўскі трон Уладзімір і яго брат Яраполк жадалі мець Рагвалода сваім саюзнікам, абраўшы вельмі распаўсюджаную форму дынастычнай уніі. Такім чынам, яны прызнавалі магутнасць і значнасць "княства Рагвалода" як дзяржаўнага ўтварэння. А на будаванне магутнай дзяржавы, натуральна, патрэбны час і сродкі. Бясспрэчнасць існавання з сярэдзіны X ст. дзяржавы ў Беларускім Падзвінні з цэнтрам у Полацку зафіксавалі кіеўскія аўтары летапісаў пачатку XII ст., калі, гаворачы пра з'яўленне Рагвалода ў Полацку, яны ўжываюць наступныя выразы: *"імяше власть свою в Полотске", "Рогволоже, князя Полотьского"*[42]. Падаецца, што падобныя словы ў пачатку XII ст. без прычыны не выкарыстоўваліся.

Паўторым нашую версію тэрытарыяльных абсягаў першай дзяржавы на беларускіх землях. Адсутнасць непасрэдных звестак аб граніцах Княства Рагвалода ў пісьмовых крыніцах вымушае праводзіць іх на падставе археалагічных даных з улікам натуральных прыродных перашкод. Натуральна, што палітычным і адміністрацыйным цэнтрам княства быў горад Полацк. Сярод найлепей заселеных рэгіёнаў з'яўляюцца ўмацаваныя паселішчы – Лукомль, Гарадзец на Мнюце, Svіла I, Межава, магчыма, Віцебск і Усвяты, якія выконвалі функцыі адміністрацыйных і вайсковых цэнтраў[43]. Вельмі ўмоўна, на сёняшні дзень, абшар, на які распаўсюджвалася ўлада Рагвалода, мог мець наступныя межы: на поўначы – азёрная сістэма Асвея і Нешчарда, вярхоўе Ловаці; ад Усвят мяжа ішла на поўдзень да нізоўяў Лучосы. Потым рубеж прымаў заходні накірунак, праходзіў праз вярхоўі рэк Друць, Бобр, Усвейка, Лукомльскую азёрную сістэму да р. Бярэзіна і далей на паўночны захад праз Падсвільскую азёрную сістэму да р. Дзісны ў месцы ўпадзення ў яе ракі Мнюта. Абмінаючы Ельненскія балоты

42 *Лаврентьевская летопись*, слп.76; *Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов*, с. 125-126.

43 Аб адміністратыўнай і тэрытарыяльнай прыналежнасці ў другой палове X – пачатку XI ст. земляў, аб'яднаных вакол Віцебска і Усвятаў, цягнецца доўгая дыскусія. Апошнім да яе, з вельмі важкімі аргументамі, далучыўся пецярбургскі археолаг Іван Ерамееў (Гл.: И. И. Еремеев, *Древности Полоцкой земли в историческом изучении Восточно-Балтийского региона*, с. 132-133)

з усходу, мяжа накіроўвалася ў бок Браслаўскай азёрнай сістэмы, адкуль выходзіла да Заходняй Дзвіны ў месцы ўпадзення ў яе р. Дрысы. Агульная плошча Княства Рагвалода складала каля 40 тыс кв. км[44]. Менавіта на акрэсленай намі тэрыторыі выяўлена большасць беларускіх грашовых і рэчавых скарбаў, а таксама паўночнаеўрапейскіх мілітарыяў IX-XI ст.[45]

Полацкай зямлі тычылася і рэфарматарская дзейнасць Уладзіміра Святаславіча, якая зафіксаваная ў *АМГ* пад 988 г.: гэта прыняцце хрысціянства і прызначэнне намеснікамі сваіх сыноў у розныя правінцыі Русі[46]. Гэты перыяд у гісторыі Полацкага княства варта назваць "намесніцтвам Ізяслава", бо яно перадаецца Уладзімірам у кіраванне старэйшаму сыну ад Рагнеды – Ізяславу. З'яўленне новых адміністрацыйна-палітычных утварэнняў на тэрыторыі, якую кантралявала Русь, сведчыць пра радыкальныя змены, вынікам якіх стала пераўтварэнне "гандлёвай кампаніі кіеўскіх росаў" (дэфініцыя ўведзеная ўкраінскім гісторыкам Аляксеем Талочкам) у тэрытарыяльную дзяржаву[47]. На момант смерці Уладзіміра Святаславіча ў 1015 г. Русь уяўляла сабою даволі вялікае дзяржаўнае ўтварэнне, якое кантралявалася сеткай княжацкіх сталоў, што належалі прадстаўнікам яго сямейнай дынастыі. Такім чынам, сям'я Уладзіміра манапалізавала права на палітычную ўладу ва Усходняй Еўропе[48]. Летапіс "адміністрацыйную рэформу" кіеўскага князя адносіць да часу блізкага, іншаму мерапрыемству, - хрышчэнню "кіеўскай Русі" (988 г.) і асвятляе яе як "маментальны" акт: Уладзімір адным загадам рассадзіў сваіх сыноў па розных гарадах. На самой

44 Г. М. Семянчук, *Пачатковы этап фарміравання тэрыторыі Полацкай зямлі (IX-X стст.)*,"Весці Акадэміі Навук БССР. Серыя грамадскіх навук", 1991, № 3, с. 69-71.

45 Л. В. Алексеев, *Западнорусские земли домонгольской Руси: очерки истории, археологии, культуры:* в 2 книгах, Москва 2006, кн. 1, с. 45, рис. 9; И. И. Еремеев, *Древности Полоцкой земли в историческом изучении Восточно-Балтийского региона,* рис. 48; С. Д. Дернович, *Скандинавские древности эпохи викингов в Беларуси,* Минск 2006; М. А. Плавінскі, *Нарысы гісторыі клінковай зброі X-XIII стагоддзяў на Беларусі,* Мінск 2009.

46 *Лаврентьевская летопись,* слп. 121.. «*Володимеръ просвещенъ имъ, и сынове его, и земля его. Бе бо оу него сыновъ 12: Вышеславъ, Изяславъ, Ярославъ, Святополкъ, Всеволодъ, Святославъ, Мьстиславъ, Борисъ, Глебъ, Станиславъ, Позвиздъ, Судиславъ. И посади Вышеслава въ Новегороде, а Изяслава Полотьске, а Святополка Турове, а Ярослава Ростове. Оумершю же стареишему Вышеславу Новегороде, посадиша Ярослава Новегороде, а Бориса Ростове, а Глеба Муроме, Святослава Деревехъ, Всеволода Володимери, Мьстислава Тмуторокани*».

47 А. Толочко, *Очерки начальной Руси,* Киев-Санкт-Петербург 2015, с. 299-301.

48 Тамсама, с. 300.

справе наданне княскага стала таму ці іншаму з сыноў было звязанае з фізічным сталеннем княжычаў, а гэта значыць, тэрытарыяльны падзел падкантрольных Кіеву абшараў пачаўся бліжэй да сярэдзіны 90-х гадоў X ст. і меў некалькі этапаў. У першую чаргу прыярытэт аддаваўся цэнтрам, якія кантралявалі важнейшыя гандлёвыя камунікацыі: па Заходняй Дзвіне ў Балтыку (дзеля гэтага ў Полацку быў пасаджаны Ізяслаў), па Волзе (дзе ў Растове апынуўся Яраслаў, а потым Барыс), на пачатку шляху з Вараг у Грэкі (дзе ў Ноўгарадзе да смерці сваёй сядзеў Вышаслаў, а наступны – Яраслаў), на выйсці з Дона ў Чорнае мора (дзе ў Тмутаракані апынуўся Мсціслаў). У другой калейнасці Кіеў распаўсюджвае свой кантроль над тэрыторыямі, якія раней ніколі не былі звязаныя з далёкасяжным гандлем: Святаполк у Тураве, Святаслаў сеў "у Деревех", Усевалад ва Уладзіміры Валынскам[49]. Усе сыны Уладзіміра выконваюць загады бацькі і ачольваюць вызначаныя ім княжаскія цэнтры. Толькі са старэйшым Ізаславам складваецца ўнікальная сітуацыя – ён вяртаецца як бы ў родную вотчыну, уладанні свайго дзеда Рагвалода.

Але падаецца, што прыбыццё Ізяслава Уладзіміравіча ў Полацк было не наўпрост з Кіева, а праз Заслаўль. На гэта нібы намякае легенда, запісаная ў Лаўрэнцеўскім летапісу пад 1128 г., аб замаху Рагнеды разам са старэйшым сынам Ізяславам на жыццё кіеўскага князя і свайго мужа Уладзіміра. Вынік атрымаўся парадаксальным. Замест смяротнага пакарання сын Ізяслаў разам з маці Рагнедай высылаецца на паўночна-заходнія перыферыі Кіеўскай Русі. "*И созва* (Уладзімір – Г. С.) *боляры и поведа им. Они же рекоша «Оуже не оубии ея детяти деля сего, но въздвигни отчину ея и даи еи с сыном своимъ. Володимеръ же оустрои городъ и да има и нареч имя городу тому Изяславль. И оттоле мечь взимають Рогволожи внуци противу Ярославлим внуци»*[50]. Відавочна, мы бачым у дзеяннях Уладзіміра і яго атачэння акт стварэння асобнай палітычнай і тэрытарыяльнай адзінкі "вотчыны Рагнеды і Ізяслава".

Высылаючы Ізяслава з маткаю Рагнедай далёка на паўночны захад ад сталіцы, кіеўскі князь Уладзімір кіраваўся яшчэ адным палітычным матывам. У гэты ж час ён паспяхова змагаецца са сваімі

49 Тамсама, с. 300-301.
50 *Лаврентьевская летопись*, слп. 300-301.

канкурэнтамі яцьвягамі, якія кантралявалі Нёманска-Прыпяцкі гандлёвы шлях. Аб гэтым сведчыць паведамленне летапісаў пад 983 годам пра пераможны паход на яцьвягаў[51]. Аляксей Кібінь лічыць, што названы паход з'яўляецца нічым іншым як сведчаннем кіеўскай экспансіі ў паўднёвыя і паўднёва-ўсходнія зоны Нёманска-Прыпяцкай камунікацыі. Вынікам вайсковай дзейнасці ў канцы X ст. у гэтым рэгіёне было далучэнне і падпарадкаванне тэрыторыі Заходняга Палесся і Верхняга Панямоння пад юрысдыкцыю кіеўскай улады і ўсталяванне кантролю над значнай часткай названага гандлёвага шляху[52].

Археалогія сведчыць, што ў гэты час, як альтэрнатыва паселішчу на р. Менка (у навуцы вядомае як "Гарадзішча на Менцы"), узнікае паселішча ў вярхоўях р. Свіслач, вядомае ўсім як Ізяслаўль (сёняшні Заслаўль), назву якога летапісцы звязваюць з імём старэйшага сына Уладзіміра і Рагнеды[53]. Дзеля кантролю над нованабытымі тэрыторыямі ў вярхоўях Пцічы і Свіслачы, прытока дняпроўскай Бярэзіны, а таксама некаторых правых прытокаў Нёмана і быў прызначаны Ізяслаў. Першапачаткова, праводзячы палітыку ўзмацнення ролі Кіева ў дадзеным рэгіёне пасьля смерці Уладзіміра Святаславіча, нашчадкі Ізяслава выкарысталі Заслаўль для правядзення сваёй уласнай полацкай палітыкі на памежжы дрыгавічоў, літвы і крывічоў. Вялікая адлегласць ад сталічнага цэнтра, заняпад эканамічнай і гандлёвай эфектыўнасці свіслачска-бярэзінскага адгалінавання Нёманска-Прыпяцкага гадлёвага шляху, паступовае аслабленне кіеўскай улады на паўночна-заходняй перэферыі і адначасовае ўзмацненне Полацка ў апошнія гады кіравання Уладзіміра, чарговая грамадзянская вайна на Русі паміж сынамі апошняга паспрыялі безканфліктнаму замацаванню дадзенага рэгіёна за нашчадкамі Рагвалода ў пачатку XI ст.

Адраджэнне і ўмацаванне полацкай дынастыі абудзіла тэрытарыяльныя прэтэнзіі Рагвалодавічаў. Першым, хто значна

51 *Лаврентьевская летопись*, слп. 82; *Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов*, с.130.

52 А. С. Кибинь, *От Ятвязи до Литвы: Политические и социокультурные трансформации в бассейне Верхнего Немана в X-XIII вв.*, Москва 2012, с. 60.

53 Г. В. Штыхов, *Города Полоцкой земли (IX-XIII вв.),* Минск 1978, с. 83-84, 90; Ю. А. Заяц, *Заславль в эпоху феодализма,* Минск 1995, с.12-17; Л. В. Алексеев, *Западнорусские земли домонгольской Руси,* кн.1, с. 69-70.

ўзмацніў сваё княства палітычна, і тым самым павялічыў яго тэрыторыю, быў Брачыслаў Ізяславіч. Пад 1021 г. летапіс паведамляе пра вайну Брачыслава Полацкага з Ноўгарадам і Яраславам Уладзіміравічам: "*Приде Брячиславъ, сынъ Изяславль, внук Володимъръ, на Новегородъ, и зая Новегородъ, и поимъ Новгородце и именье ихъ, поиде Полотьску опять. И пришедшю ему к Судомири реце, и Ярославъ ис Кыева въ 7 день. Постиже и ту и победи Ярославъ Брячислава, и Новгородце вороти Новугороду, а Брячиславъ бежа Полотьску*»[54]. У выніку вайсковых дзеянняў і палітычных перамоў, у 1021 г. да Полацка далучаюцца Віцебск і Усвяты, пункты на волаках гандлёвага шляху "з Вараг у Грэкі". Доўгі час даследчыкі, у тым ліку і аўтар дазенага тэксту, лічылі, што далучаныя да Полацкага княства гарады былі важнымі пунктамі на вядомай міжнароднай камунікацыі. Аднак апошнія вынікі даследаванняў Гнёздаўскага комплексу і Усвяцкага рэгіёна, грунтоўны аналіз археалагічнага матэрыялу з Паўднёва-Усходняй Прыбалтыкі дазволілі пецярбурскаму навукоўцу Івану Ерамееву выказаць супрацьлеглую думку. У сувязі з заняпадам да 1020-х гадоў Гнёздава і падпарадкавання яго непасрэдна Кіеву, значна паменшылася эканамічнае значэнне Віцебска і Усвятаў. Гэта, у сваю чаргу, дазволіла Яраславу Уладзіміравічу выкарыстаць дадзеныя населеныя пункты дзеля палітычнага кампрамісу з Брачыславам Ізяславічам. Пры гэтым камунікацыйныя сувязі паміж Ноўгарадам і Кіевам не перарываліся. Звяртаючы ўвагу, што ў гэты час пачынае ўзрастаць значэнне Ніжняга Падзвіння і раёнаў на захад ад Чудскага возера, І. Ерамееў лічыць, што перадача Віцебска і Усвятаў полацкаму князю ў 1021 г. была палітычным кампрамісам дзеля падзелу сфер уплываў у Прыбалтыцы[55]. Але для нашай тэмы найважнейшым з'яўляецца факт тэрытарыяльнага перападзелу ў міжрэччы Дняпра, Заходняй Дзвіны і Ловаці, у выніку якога павялічылася тэрыторыя Полацкага княства на паўночна-ўсходнім накірунку. Дарэчы, археалагічныя матэрыялы, атрыманныя ў выніку даследаванняў

54 *Лаврентьевская летопись*, слп.146. Аб прычынах і абставінах вайны Брачыслава Ізяславіча і Яраслава Уладзіміравіча, а таксама грунтоўны гістарычна-геаграфічны каментар да паходу палачан на Ноўгарад у 1021 г. прадставіў Іван Ерамееў у сваёй манаграфіі *Древности Полоцкой земли в историческом изучении Восточно-Балтийского региона (очерки средневековой археологии и истории Псковско-Белорусского Подвинья)* (Санкт-Петербург 2015, с. 120-141).

55 И. И. Еремеев, *Древности Полоцкой земли в историческом изучении Восточно-Балтийского региона,*с. 133.

Віцебска[56] і Усвятаў[57] з ваколіцамі, сведчаць аб сур'ёзных пераменах як у тапаграфічных структурах абодвух населеных пунктаў, так і ў якасці і асартыменце матэрыяльнай культуры. Полацк вельмі паважна паставіўся да вернутых яму земляў.

Залагоджаны ўмовай 1021 года вайсковы канфлікт Брачыслава Ізяслвіча з Яраславам Уладзіміравічам дазволіў першаму актывізаваць каланізацыйную палітыку на паўднёвых межах сваёй дзяржавы ў басейне ракі Друць. Не выключана, што Брачыслаў працягнуў дзейнасць свайго бацькі па больш моцнаму падпарадкаванню дадзенага рэгіёна да Полацку. Грунтоўныя археалагічныя даследаванні, праведзеныя Леанідам Аляксеевым на комплексе Друцка, сведчаць, што самыя старажытныя раннесярэднявечныя культурныя напластаванні на месцы друцкага дзяцінца пачынаюць фарміравацца з канца X – пачатка XI ст., верагодна, пры Ізяславе Уладзіміравічы, але канчаткова дадзены гарадскі цэнтр складваецца пры яго нашчадках Брачыславе і Усяславе [58].

У першай палове XI ст. назіраецца актывізацыя Полацка ў паўночна-заходнім накірунку ўздоўж берагоў Заходняй Дзвіны, а таксама ў заходнім накірунку – Браслаўскім Паазер'і і басейне р.Вілія. Так меркаваць дазваляюць вынікі археалагічных даследаванняў і ўскосныя звесткі летапісаў. Будучы саюзнікам кіеўскага князя Яраслава Уладзіміравіча, Брачыслаў Ізяславіч са сваёй дружынай, магчыма, удзельнічаў у яго паходах на яцьвягаў у 1038 г. і літву ў 1040 г.[59] Коштам падтрымкі сталася бесперашкодная

56 Г. В. Штыхов, *Города Полоцкой земли (IX-XIII вв.),* с. 31-41; Т. С. Бубенько, *Средневековой Витебск. Посад-Нижний замок (X – первая половина XIV в.): Монография,* Витебск 2004.; Л. В. Колединскиий, *Верхний замок Витебска в IX-XVIII вв.*, Минск 2007 (рукапіс; мы вельмі ўдзячныя аўтару за магчымасць карыстацца недрукаванай версіяй манаграфіі); Л. В. Алексеев, *Западные земли домонгольской Руси: очерки истории, археологии, культуры*, кн. 1, с. 122-131. Выдадзеная ў 2010 г. манаграфія Вольгі Ляўко *Витебск* (Минск 2010), на жаль, амаль непрыдатная для характарыстыкі горада ў канцы X-XI стст. Яна ўяўляе сабой спалучэнне фрагментаў археалагічных справаздач аўтара і дакладны передрук значных кавалкаў тэкстаў з яе ранейшых манаграфій *Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси: Формирование и развитие* (Минск, 2004 г.), *Витебск XIV-XIII вв. (Стратиграфія, хронология, социально-историческая топография и технология производства)* (Минск, 1984 г.), *Торговые связи Витебска в X-XVIII вв.* (Минск 1989), *Витебские изразцы XIV-XVIII вв.* (Минск 1981).

57 И. И. Еремеев, *Древности Полоцкой земли в историческом изучении Восточно-Балтийского региона,* раздзелы 2.2 і 2.3.

58 Л.В. Алексеев, *Западные земли домонгольской Руси : очерки истории, археологии, культуры*, кн.1, с. 138-141.

59 *Лаврентьевская летопись*, слп. 153.

дзейнасць полацкай княжаскай улады ў названых рэгіёнах. Тут, на месцах ранейшых лакальных цэнтраў Дрысвяты, Браслаў і Стары Мядзел (паселішча на востраве возера Мядзел), паўстаюць новыя, непараўнальна лепей умацаваныя крэпасці[60]. Цікава, што культурныя напластаванні XI ст. (часоў Брачыслава і Усяслава) з гарадзішчаў Браслаў і Дрысвяты аддзяляюцца ад ніжэйшых невялікім слоем пажарышча. Відавочна, замацоўванне Браслаўскага Паазер'я за Полацкам адбывалася з выкарыстаннем сілы. Абсалютна галаслоўнымі з'яўляюцца выказванні Вольгі Ляўко, што працэс фарміравання Полацкага княства на паўночным захадзе Беларусі ў выглядзе раннедзяржаўнай структуры скончыўся ўжо ў IX–X стст. Па яе словах, аб далучэнні ў гэты час міжрэчча Дзісны і Заходняй Дзвіны сведчыць узнікненне полацкіх фарпостаў у Браславе (як цэнтры рэгіёна), Маскавічах, Рацюнках, Дрысвятах і Прудніках[61]. Падобныя заявы не маюць ніякіх пацверджванняў. Грунтоўныя археалагічныя даследаванні на названых археалагічных помніках не выявілі матэрыялаў IX–X стст., а самыя раннія, пры гэтым толькі ў Браславе і Дрысвятах, адносяцца да першай паловы XI ст.[62].

Найбольш паспяхова пашырэнне дзяржаўнай тэрыторыі і ўмацаванне знешніх межаў Полацкага княства ў XI ст. назіраецца ў гады гаспадарання Усяслава Брачыславіча. Агульна прынята, што менавіта пры ім тэрыторыя Полацкай зямлі дасягнула максімальных памераў. Аднак падобнае палажэнне патрабуе ад нас канкрэтызацыі, так як няма ніводнага пісьмовага факта, які б сведчыў аб далучэнні да Полацка новых земляў. З сярэдзіны XI ст. магчымасці пашырэння полацкай тэрыторыі на поўнач, усход і поўдзень былі вельмі абмежаванымі. На гэтых накірунках Полацкае

60 Л. В. Алексеев, *Западные земли домонгольской Руси : очерки истории, археологии, культуры*, кн. 1, с. 72-73; Г. Н. Семенчук, *Раннесредневековой археологический комплекс Дрисвяты,* „Lietuvos Archeologija", 2001, Т. 21, с. 299-310; М.А. Ткачоў, *Мядзел,* [у:] *Археалогія Беларусі: энцыклапедыя*, у 2-х тамах, Мінск 2011, т. 2, с. 111.

61 О. Левко, *Начальный этап формирования Полоцкого государства,* [у:] *Полацкая зямля: карані нашага радавода*, Полацк 1996, с. 40.

62 Л. В. Алексеев, *Раскопки древнего Браслава*, "Краткие сообщения Института археологии АН СССР», 1960, № 81, с. 95-106; Л. У. Дучыц, *Браслаўскае Паазер'е ў IX – XIV стст. (гісторыка-археалагічны нарыс)*, Мінск 1991, с. 24-35; Г. М. Семянчук, *Вынікі археалагічных даследаванняў на "Замкавай гары" ў г.Браславе (1989-1990 гг.)*, [у:] *Браслаўскія чытанні. Матэрыялы 2-й навукова-краязнаўчай канферэнцы,* Браслаў 1991, с. 62-66; М. А. Ткачоў, Г.М. Семянчук, *Парубежныя крэпасці Полацкай зямлі XI – XIII стст. (па матэрыялах Браслава і Дрысвятаў)*, [у:] *Час, помнікі, людзі*, Мінск 1993, с.126-129.

княства магло павялічвацца, па трапным назіранню А. Насонава, "*не без вайсковай дапамогі*"[63]. Адзінымі накірункамі, куды магла распаўсюдзіцца дзяржаўная ўлада з Полацка, і тым самым пашырыць межы з найменшым супрацівам, былі паўночна-заходні і заходні. Неабходна ўлічваць, што падпарадкаванне суседніх народаў магло адбывацца толькі ў той час, калі дзяржаўныя сілы не адцягваліся на барацьбу з важнымі і моцнымі супернікамі – Кіевам, Ноўгарадам, Чарнігавам і Смаленскам. Спакойных перыядаў для Полацкага княства ў другой палове XI ст. можна налічыць тры – з 1044 па 1065 гг., з 1071 па 1077 гг. і з 1085 па 1101 гг.

Заходняя Дзвіна была галоўнай жыццёвай артэрыяй Полацка, таму Усяслаў імкнуўся авалодаць ёю ад вытокаў да вусця. Пры Брачыславе, з далучэннем Віцебска і Усвят, улада Полацка замацавалася ў Верхнім Падзвінні. Першачарговай задачай для Усяслава з'явілася авалоданне Ніжнім Падзвіннем. Аб выкананні дадзенай задачы мы можам меркаваць толькі па выніках гэтага працэсу, якія адлюстраваліся ў пісьмовых крыніцах XII–XIII стст. Ва ўступе да *Аповесці мінулых гадоў* у ліку народаў, якія плацілі даніну Русі, называюцца *літва, земігалы, корсь, нарома, ліб*ь, якія жывуць *в странах полунощных*, г. зн. паўночных[64]. Русь у дадзенным выпадку – гэта абшар на тэрыторыі Усходняй Еўропы, ахоплены хрысціянствам па візантыйскім узоры, у тым ліку і Полацкае княства[65]. На нашу думку, даніна з ліваў, земгалаў, куршаў, літвы неабавязкова размяркоўвалася сярод усіх рускіх палітычных цэнтраў ва Усходняй Еўропе. Больш рэалістычнай выглядала сітуацыя, калі ўлада на суседнія прыбалтыйскія народы распаўсюджвалася з бліжэйшых княстваў. А гэта маглі быць толькі Полацк і Ноўгарад.

*A propos* Полацка і яго адносінаў з суседнімі неславянскімі народамі знаходзім сведчанні ў пазнейшых (канца XII ст.) усходнеславянскіх летапісах і заходнееўрапейскіх хроніках канца XII – пачатку XIII ст. (*Хроніка Лівоніі* Генрыха Латыша, *Хроніка Славян* Арнольда Любекскага). Генрых Латыш адзначае, што святар

63 А. Н. Насонов, *«Русская земля» и образование территории древнерусского государства (историко-географическое исследование)*, Москва 1951, с. 148.

64 *Лаврентьевская летопись*, слп.11.

65 H. Paszkiewicz, *Początki Rusi,* Kraków 1996, s. 21-30.

Мейнард у 1184 г. атрымаў дазвол прапаведаваць сярод ліваў “ад караля полацкага Вальдэмара (Woldemaro de Poloceke), якому лівы (яшчэ паганцы) плацілі даніну”[66]. Арнольд Любекскі піша: ”*Кароль Русіі з Полацка меў звычай час ад часу збіраць даніну з гэтых ліваў*”[67]. Іпацеўскі летапіс пад 1180 г., апавядаючы пра паход вялікай кааліцыі паўднёварускіх князёў на Друцк, у склад якой уваходзіла большасць полацкіх князёў, сярод войска Усяслава Васількавіча, князя з Полацка, называе разам з “палачанамі” “ліб» і «літву»[68].

З пададзеных фактаў вынікае, што лівы, якія жылі на Балтыйскім узбярэжжы, і суседнія з імі – земгалы і куршы былі падначаленыя Полацкаму княству як даннікі і вайсковыя саюзнікі. Дарэчы, барацьба Полацка з земгаламі ў пачатку XII ст. (1106 г.) азначала спробу апошніх вызваліцца ад залежнасці, а не абавязковае іх падпарадкаванне[69]. Адносна бліжэйшых суседзяў Полацка (латгалаў і селаў), якія не ўзгадваюцца ў *Аповесці мінулых гадоў* як даннікі Полацка, можна гаварыць, што іх тэрыторыі ў другой палове XI ст. непасрэдна ўвайшлі ў склад Полацкага княства. Менавіта тут у часы княжання Усяслава ўзнікаюць два полацкія гарады-фарпосты – Герцыке і Кукенойс, пазнейшыя цэнтры ўдзельных княстваў, са змешаным славяна-латгальскім насельніцтвам[70]. Тэрыторыю рассялення латвійскіх народаў у раннім сярэднявеччы – латгалаў, селаў, земгалаў, куршаў, а таксама заходнефінскіх ліваў – можна прызнаць за мінімальны абшар мацнейшай альбо слабейшай залежнасці ад Полацка, якая давала кантроль апошняму над заходнедзвінскай камунікацыяй. Канкрэтныя лінеарныя межы Полацкага княства ў Ніжнім Падзвінні на канец XI ст. вызначыць сёння вельмі праблематычна з-за недахопу археалагічнага матэрыялу. Але арыентуючыся на прасторы рассялення латгалаў і селаў, вызначаных на падставе

66 Генрих Латвийский, *Хроника Ливонии*, Москва-Ленинград 1938, с. 59.

67 Цыт. па: С. А. Аннинский, *Примечания*, [в;] Латвийский Генрих, *Хроника Ливонии*, Москва-Ленинград 1938, с. 251, 257.

68 *Ипатьевская летопись,* слп. 620.

69 J. Powierski, *Kryzys rządów Bolesława Smiałego. Polityka i jej odzwierciedlenie w literaturue średniowiecznej*, Gdańsk 1992, s. 12.

70 Г. В. Штыхов, *Города Полоцкой земли (IX – XII вв.)*, с. 61-64; В. А. Булкин, *Герцике и Кукенойс (к постановке проблемы)*, [в:] *Генезис и развитие феодализма в России*, Ленинград 1988, вып.11, с.124-139; Fr. Balodis, *Jersika in tai 1939 gada irdaritie iyrakumi*, Riga 1940.

археалагічных крыніц, можна гіпатэтычна ўявіць абшары распаўсюджвання полацкіх уплываў у дадзеным рэгіёне[71]. Хутчэй за ўсё гэта былі толькі землі, размешчаныя максімальна блізка да берагоў Заходняй Дзвіны. Крайнім пунктам з'яўляўся Кукенойс. Адсюль змлі цягнуліся ў паўночна-ўсходнім накірунку ад сучаснага горада Яўнелгавы, кропкі на Якабштадскіх альбо Кокунгузенскіх парогах на Даўгаве, на поўнач да р. Гаўя. Ад вытокаў апошняй граніца ішла паралельна Даўгаве на адлегласці ад вусця Айвіексце да ўпадзення ў гэтую раку Педэдзе. Далей праз міжрэчча рэк Рэзэкне і Малта да возера Рэзнас, ад якога паступова паварочвала на ўсход. На левабярэжжы Даўгавы полацкая граніца ад Яўнелгавы накіроўвалася ўніз да ракі Сусея і далей ішла прыблізна па сучаснай мяжы паміж Латвіяй і Літвой да возера Дрысвяты.

Актыўная дзейнасць полацкіх князёў у Ніжнім Падзвінні дазволіла ім замацавацца на берагах Балтыйскага мора, ператвараючы сваю дзяржаву ў марскую. Падобны статус – марской дзяржавы – сярод шматлікіх дзяржаўных утварэнняў на абшарах Усходняй Еўропы ў раннім сярэднявеччы мелі толькі Ноўгарад і Полацк.

У другой палове XI ст. назіраецца, у першую чаргу па археалагічных дадзеных, умацаванне полацкай улады ў Браслаўскім Паазер'і. Дадзены рэгіён як бы фланкіраваў і ахоўваў рух па Дзвіне ў накірунку Балтыйскага мора, хутчэй за ўсё ад суседніх літоўскіх плямёнаў. Тут у дадатак да існуючых Браслава і Дрысвятаў, геаграфічна блізка да іх, узводзяцца ўмацаваныя пункты Маскавічы і Рацюнкі[72]. Як адзначыла Людміла Дучыц, падобныя мерапрыемствы канчаткова замацавалі паўночны захад Беларусі за Полацкам, вызначыўшы да канца XI ст. пэўны фрагмент мяжы Полацкага княства[73].

Пры Усяславе Брачыславічы ўлада Полацка на нейкі час (больш дакладна вызначыць пакуль немагчыма) распаўсюдзілася на тэрыторыю Усходняй Літвы і Беларускага Панямоння. Гэта

---

71 *Финно-угры и балты в эпоху средневековья*, Москва 1987, с. 361-361, 365-366, карта 44; A. Radinš, *Gadsimta senkapi Latgalu apdzivotaja teritorija un austrumlatvijas etniskas, socialas un politiskas vestures jautajumi*, Riga 1999, s. 131-153, att. 99.

72 Л. В. Дучыц, *Маскавіцкае гарадзішча (XI-XIII стст.)*, "Весці АН БССР, серыя грамадскіх навук", 1980, № 4, с. 80-89; яна ж. *Браслаўскае Паазер'е ў IX – XIV стст. (гісторыка-археалагічны нарыс)*, с.24-35.

73 Л. В. Дучиц, *Северо-западное порубежье Полоцкого княжества*, [в:] *Древнерусское государство и славяне*, Минск 1983, с. 40-42 .

пацвярджаюць ускосныя звесткі з *Аповесці мінулых гадоў*, дзе сярод суседзяў усходніх славян, а таксама даннікаў узгадваецца "Літва"[74]. Навукоўцы мяркуюць, што летапісная Літва плаціла даніну Полацкаму княству[75]. Паведамленні нарацыйных крыніц дапаўняюць дадзеныя археалогіі і тапанімікі. Непасрэдна з межамі Полацкага княства суседнічала насельніцтва, якое пакінула спецыфічныя пахавальныя помнікі і абрад пахавання ў іх так званыя ўсходнелітоўскія курганы. Тэрыторыя распаўсюджвання дадзеных археалагічных помнікаў дазваляе нам прыблізна ўявіць абшары полацкіх уплываў[76]. Гэтыя ўплывы дасягалі земляў басейна ракі Нярыс (Віліі) ва Усходняй Літве. Адным з магчымых цэнтраў збору даніны ў гэтым рэгіёне нейкі час з'яўлялася паселішча на месцы сучаснага Вільнюса. Нібы пра гэта сведчаць археалагічныя крыніцы[77]. Але крыніцазнаўчая база (у першую чаргу колькасць і якасць менавіта археалагічнага матэрыялу) пакідае нас у вобласці меркаванняў.

Больш пэўна можна сказаць, што Полацкая ўлада рэальна ўзмацнілася ў басейне ракі Бярэзіна, правага прытоку Нёмана. У дадзеным рэгіёне ў гэты час узнікае добра ўмацаванае гарадзішча ў вёсцы Лоск (Валожынскі р-н), якое выконвала функцыі фарпоста Полацка ў дадатак да існуючага на востраве воз. Мядзел[78]. Адносна блізка гарадзішча Лоск размешчаныя адзін супраць аднаго тапонімы Палачаны і Літва, а ў месцы ўпадзення ў Нёман рэк Гаўя і Бярэзіна – тапонім Крывічы[79].

Такім чынам, мяжа паміж Полацкім княствам і літоўскімі плямёнамі ў XI ст. праходзіла шырокім пасам ад воз. Дрысвяты на поўначы ўніз да воз. Нарач, далей уздоўж р. Нарач да р. Бярэзіна, правага прытоку Нёмана. Затым ламанай лініяй, абыходзячы лясную

---

74 *Лаврентьевская летопись,* слп. 11.

75 А. Н. Насонов, «*Русская земля» и образование территории древнерусского государства (историко-географическое исследование)*, с. 154; H. Łowmiański, *Geneza ziemi Połockiej,* [w:] *Z polskich studiów slawistycznych*, seria 3, Historia, Warszawa 1968, s. 19-20.

76 *Финно-угры и балты в эпоху средневековья,* Москва 1987, с. 390-394; А. Лухтан, В. Ушинскас, *К проблеме становления Литовской земли в свете археологических данных,* [в:] *Древности Литвы и Белоруссии*, Вильнюс 1988, с. 92-96, рис.1, 2; Я. Г. Зверуго, *Верхнее Понеманье в IX-XIII вв.,* Мінск, 1989, с. 21-37.

77 Е. и В. Голубовичи, *Кривой город Вильно*, "Краткие сообщения Института истории материальной культуры", 1945, вып. 11, с. 114-126; А. Лухтан, В. Ушинскас, *К проблеме становления Литовской земли в свете археолагических данных,* [в:] *Древности Литвы и Белоруссии*, Вильнюс 1988, с. 97-103.

78 Г. Сагановіч, *Лоск,* [у:] *Археалогія Беларусі: энцыклапедыя*, у 2-х тамах, Мінск 2011, т. 2, с. 24.

79 Я. Н. Рапановіч, *Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці*, Мінск 1981, с. 127, 155, 203.

зону на захад ад Койданава і Івянца, у басейнах рэк Іслач, Уса, Сула да вытокаў Нёмана. У час, калі Полацкая ўлада распаўсюджвалася на тэрыторыю Усходняй Літвы, заходняя мяжа магла праходзіць па р. Швянтоя да яе ўпадзення ў р. Нярыс, уздоўж апошняй, у раён Вільнюса. Адсюль мяжа накіроўвалася на поўдзень да р. Нёман у раёне ўпадзення ў яе р. Гаўя і Бярэзіна. Далей па Нёмане амаль да вытокаў.

У другой палове XI ст. адбылося канчатковае ўсталяванне паўночных, усходніх і паўднёвых рубяжоў Полацкага княства. Менавіта на гэтых накірунках Усяслаў Брачыславіч сутыкнуўся з моцным супрацьстаяннем Кіева, Чарнігава і Ноўгарада. На поўначы пасля ваенных падзей 1065-1071 гг. мяжа Полацкай зямлі ўсталявалася па вярхоўях ракі Вялікай і далей паміж гэтай ракою і Завалоччам. Дакладней, яна праходзіла недзе паміж Вялікімі Лукамі і Емянцом, ішла да вярхоўяў Ловаці на поўнач ад Усвят і выходзіла да Заходняй Дзвіны ў раёне вусця р. Мяжа[80]. Адносна Вялікіх Лук, населенага пункта Наўгародскай зямлі, гаворка вядзецца пра ўмацаванае паселішча Гарадок на правым беразе Ловаці вышэй сучаснага горада Вялікія Лукі, якое датуецца канцом X–XII ст.[81] Менавіта гэты “Гарадок” з’явіўся фарпостам Ноўгарада ў яго паўднёвых і паўднёва-заходніх уладаннях на мяжы з Полацкім княствам, а супрацьстаялі яму памежныя населеныя пункты каля в. Межава і летапісныя Некалач з Емянцом.

На ўсходзе ўвага Усяслава Брачыславіча была прыцягнута да Падняпроўя, дзе было вельмі актуальным для Полацка ўмацаваць свае пазіцыі. Аднак рэалізацыя гэтай задачы была менш паспяховай. Кіеў не жадаў канкурэнцыі на важнай дняпроўскай камунікацыі, таму ў другой палове XI ст. было зроблена шмат намаганняў з яго боку, каб канчаткова падпарадкаваць сваёй уладзе Верхняе Падняпроўе. Гэта зноў адбывалася ў зацятай барацьбе Кіева з Полацкам, дзе перамогі перамяжоўваліся з паразамі, каварства суседнічала з годнасцю. На пачатку адносінаў сыноў Яраслава (Ізяслава, Святаполка і Усевалада)

80 А. Н. Насонов, *«Русская земля» и образование территории древнерусского государства (историко-географическое исследование),* с. 156.

81 В. М. Горюнова, *Начальная история древних Лук (X – начало XI вв.),* [в:] *Материалы по археологии Новгородской земли. 1990,* Москва 1991, с. 38-67; А. В. Куза, *Новгородская земля,* [в:] *Древнерусские княжества X-XIII вв.*, Москва 1975, с. 174-175.

з полацкім князем Усяславам да апошняга, верагодна, адышлі тэрыторыі на правым беразе Дняпра ў раёне Оршы. Не выключана, што гэта была плата Яраславічаў полацкаму князю за ўдзел у паходзе 1060 г. на сцепнякоў[82]. Прыгадваецца сітуацыя 1021 г., калі Яраслаў аддаў полацкаму князю Брачыславу Віцебск і Усвяты ў замен за саюзніцкія адносіны. Менавіта на *Рши оу Смолиньска* летам 1067 года браты Яраславічы парушылі крыжацалаванне і падманам захапілі ў палон полацкага князя Усяслава з двума сынамі[83]. Праўда, археалогія сёння сведчыць аб тым, што ўмацаванні на Аршанскім гарадзішчы з'яўляюцца ў XII ст., сустракаюцца таксама матэрыялы другой паловы XI ст.[84] Гэта можа сведчыць аб тым, што раней цэнтрам рэгіёна быў іншы пункт, напрыклад, гарадзішча каля в. Чаркасава[85], на якім выяўленыя выразныя культурныя напластаванні XI ст. і моцная фартыфікацыйная сістэма з двух валоў і рва. А пасля канчатковага замацавання Аршанскага Падняпроў'я за Полацкам цэнтр быў перанесены на месца сучаснага горада Орша. Адначасова на левым Смаленскім беразе Дняпра паўстае крэпасць Копысь, як фарпост супраць Полацкага княства[86].

У гады, калі Полацкае княства не ўдзельнічала ў войнах, Усяслаў Брачыславіч змог умацаваць сваю ўладу і ў паўднёвых раёнах. У 50-60-я гады XI ст. сканчаецца працэс падпарадкавання Полацку тэрыторый у басейне рэк Свіслач і дняпроўскай Бярэзіны, населенай, па трапным акрэсленні Леаніда Аляксеева, "менскімі дрыгавічамі", апярэдзіўшы тым самым пранікненне ўплыву Турава, які знаходзіўся на гэты час пад уладай Кіева. Дзеля гэтага ў 1063-1066 гг. Усяслаў Брачыславіч пабудаваў каля ўпадзення ракі Нямігі ў Свіслач вельмі моцную крэпасць, назваўшы яе Менск і перасяліў сюды жыхароў цэнтра на Менцы[87]. Поруч з Ізяслаўлем і крэпасцю на Нямізе ў другой палове XI ст. узводзяцца яшчэ два адміністрацыйныя цэнтры Полацкай зямлі –

82 М. Ермаловіч, *Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды*, Мінск 1990, с. 110-111.
83 *Лаврентьевская летопись,* слп. 167.
84 О. Н. Левко, *Средневековые территориально-административные центры Северо-Восточной Беларуси: Формирование и развитие,* Минск 2004, с. 53-54.
85 О. Н. Левко, Ю.В. Колосовский, *Раскопки городищ у д. Кисели (Дымокуры) Толочинского района и у д. Черкасово Оршанского района Витебской области,* «Материалы по археологии Беларуси», 2003, № 8, с. 182-208.
86 Г. В. Штыхов, *Города Полоцкой земли*, с. 93-95.
87 Л. Аляксееў, *"Менскія дрыгавічы" і полацкія князі*, "Беларускі гістарычны часопіс", 1996, № 4, с. 80-87.

Лагойск і Свіслач на аднайменнай рацэ пры яе ўпадзенні ў Бярэзіну, прыток Дняпра[88].

Такім чынам, да канца XI ст. працэс фарміравання дзяржаўнай тэрыторыі і ўсталявання межаў Полацкага княства ў асноўным скончыўся. На гэты час яно мела агульную плошчу больш за 120 тыс. кв. км. Гэта перыяд, калі на абшарах Усходняй Еўропы праходзілі інтэнсіўныя дзяржаватворчыя працэсы. Вакол Полацкага княства на поўначы фарміруецца Наўгародская, на ўсходзе Смаленская, на паўднёвым усходзе Чарнігаўская, на поўдні магутная Кіеўская зямля (апошняй былі падпарадкаваныя Тураў і Валынь). Натуральна, паміж княствамі вялася барацьба за палітычныя прыярытэты, за вялікакняскае месца ў Кіеве, за эканамічныя сферы ўплываў, за новыя тэрыторыі і гандлёвыя шляхі. А гэта, у сваю чаргу, прыводзіла да жорсткіх і крывавых сутыкненняў, рабаванняў адзін аднаго, чым перапоўнены старонкі летапісаў. Менавіта ў гэтай барацьбе і вызначыліся асноўныя граніцы Полацкага княства. На поўначы яны сутыкаліся з тэрыторыяй Ноўгарада ў вярхоўях рэк Вялікай і Ловаці, дзе межы Полацка фіксаваліся населенымі пунктамі Межава, Емянец і Усвяты, умацаваныя гарадзішчамі Перавоз і Езярышча. На ўсходзе граніца праходзіла ў раёне рэк Каспля і Лучоса, прытокаў Заходняй Дзвіны, і далей па Дняпры да полацкай крэпасці Орша. Паміж апошняй і смаленскім фарпостам Копысь, уздоўж берагоў Дняпра, сустракаем умацаваныя гарадзішчы Вусц'е, Ярэмкавічы, Ляўкі з культурнымі напластаваннямі часоў Кіеўскай Русі. Гэта ўсё сведчыць аб вялікай значнасці для Полацка дадзенага фрагмента Дняпра на мяжы са Смаленскам. На поўдні ад сярэдняга цячэння Друці граніца накіроўвалася да сярэдняй Бярэзіны ў раён упадзення ў яе ракі Ольса. Далей граніца праходзіла паміж полацкім Менскам і Ізяслаўлем і кіеўска-тураўскімі Слуцкам і Клецкам. Ад вытокаў Нёмана граніца набывала заходні накірунак да Бярэзіны, прытоку першага, і далей па ёй праз шэраг умацаваных паселішчаў у Нарачанскай азёрнай сістэме і Браслаўскім Паазер'і (Стары Мядзел, Бялоўшчына, Пасынкі, Браслаў, Маскавічы, Рацюнкі, Дрысвяты) полацкая мяжа ўздоўж абодвух берагоў Заходняй Дзвіны ішла на паўночны-захад. Крайнімі кропкамі тут з'яўляліся Герцыке і Кукенойс.

88 Г. В. Штыхов, *Города Полоцкой земли*, с. 90-99; В. І. Кошман, *Свіслач*, [у:] *Археалогія Беларусі: энцыклапедыя*, у 2-х тамах, Мінск 2011, т. 2, с. 284-285.

Полацкае княства межавала на поўдні з Тураўскім княствам, якое знаходзілася пад уплывамі Кіева, на поўначы і паўночным усходзе з Наўгародскай зямлёй, на ўсходзе са Смаленскім княствам, на захадзе з адміністратыўна-палітычнымі адзінкамі, якія фарміраваліся ў Беларускім Панёманні, на паўночным захадзе з літоўскімі і латышскімі народамі.

На сучасным этапе даследаванняў гістарычныя крыніцы і археалагічныя высновы дазваляюць вылучыць чатыры храналагічныя перыяды, падчас якіх адбылося фармаванне дзяржаўнай граніцы Полацкага княства з сярэдзіны X да канца XI ст.

▪ Першы ахоплівае 50-70-я гады X ст. – так званае Княства Рагвалода, у выніку якога на дадзенай тэрыторыі паўстаюць першыя ўмацаваныя паселішчы с функцыямі “стратэгічных фарпостаў”.

▪ Другі – 90-я гады X ст. – 1015 г. – час існавання Полацкага намесніцтва на чале з Ізяславам Уладзіміравічам у складзе Кіеўскай дзяржавы. У гэты перыяд умацоўваюцца раней існуючыя фарпосты, а таксама з’яўляюцца новыя. Найбольш важным для незалежнага будучага Полацкага княства быў пераход пад яго кантроль вярхоўяў Пцічы і Свіслачы.

▪ Трэці – 20-40-я гады XI ст. – час Брачыслава. Пасля атрымання Полацкам у 1021 г. Віцебска і Усвятаў, канчаткова замацоўваецца яго ўлада на ўсходзе і паўночным усходзе, вызначаючы контуры будучай мяжы з Наўгародскай зямлёй і Смаленскім княствам. У гэты перыяд распачынаецца стабільная палітыка падпарадкавання часткі балцкіх і прыбалтыйска-фінскіх народаў.

▪ Чацвёрты – 40-90-я гады XI ст. – час Усяслава. У гэты перыяд канчаткова кансалідуецца/фарміруецца граніца Полацкага княства. Гэта праяўляецца ў будаўніцтве новых умацаваных паселішчаў, а таксама перабудове і разбудове старых, якія набываюць статус мясцовых адміністрацыйных цэнтраў. Паўднёвая, усходняя і паўночна-ўсходняя межы Полацкага княства ў другой палове XI ст. набываюць лінейную форму, у сучасным разуменні. Заходняя і паўночна-заходняя надалей заставаліся ў выглядзе памежнай зоны, рознай шырыні.

Неабходна адзначыць, што побач з агульнымі тэндэнцыямі ўтварэння і развіцця тэрыторый раннесярэднявечных княстваў ва Усходняй Еўропе (адзяржаўленне тэрыторый шляхам распаўсюджання

з цэнтра суда і даніны; вайсковае і ідэалагічнае падпарадкаванне, дынастычныя і палітычныя саюзы), фармаванне Полацкага княства мела шэраг уласных асаблівасцей. Яны выкліканыя спецыфікай сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і этнакультурнага развіцця Беларускага Падзвіння.

Па-першае, карыснае геаграфічнае размяшчэнне. Праз тэрыторыю Полацкай зямлі альбо ў непасрэднай блізкасці з ёй праходзілі буйнейшыя ўсходнееўрапейскія гандлёвыя камунікацыі эпохі сярэднявечча – шлях *з варагаў у грэкі,* яго найбольшае адгалінаванне, – заходнедзвінская і нёманска-дняпроўская. Яны перакрыжоўвалі Полаччыну з поўдня на поўнач і з захаду на ўсход. Кантраляванне часткі асноўных накірункаў міжнароднага транзіту ўзмацняла Полацкае княства эканамічна, вызначала абшары павелічэння тэрыторыі і аб’ядноўвала разнароднае насельніцтва паўночнай, паўночна-ўсходняй і цэнтральнай Беларусі, а таксама паўднёвай і паўднёва-ўсходняй Прыбалтыкі. Гэта ў сваю чаргу стварала ўмовы для палітычнай самастойнасці Полацка.

Па-другое, у адрозненні ад Кіеўскай зямлі (цэнтра імперыі Рурыкавічаў), тэрыторыя якой у XI ст. пашыралася дзякуючы цэнтральнай уладзе, Полацкае княства ў гэты час павялічвалася за кошт мясцовых магчымасцей. Дарэчы, у падобнай сітуацыі знаходзіўся таксама Ноўгарад. Не дзіўна, што ў пісьмовых крыніцах мы не знаходзім ніводнага паведамлення аб далучэнні тэрыторый да самастойных княстваў ва Усходняй Еўропе па ініцыятыве кіеўскай адміністрацыі. Для насельніцтва Полацкага княства адзінай сілай, якая задавальняла яго патрэбы, была мясцовая княская дынастыя Рагвалодавічаў, сваеасаблівы сімвал суверэнітэту ў сярэднявеччы.

Па-трэцяе, Полацк праводзіў актыўную палітыку ў адносінах да суседніх славянскіх, балцкіх і прыбалтыйска-фінскіх народаў. Падпарадкаванне і гаспадарчае засваенне полацкай адміністрацыяй тэрыторый рассялення часткі крывічоў і дрыгавічоў, а таксама неславянскіх народаў (латгалаў, селаў, земгалаў, куршаў, ліваў і літву) вызначалі рубяжы Полацкага княства на пачатковым этапе і ўтварэнне адносна стабільных яго межаў у наступныя часы.

## Streszczenie

Hienadź Siemianczuk, *Księstwo Połockie w XI w.: kształtowanie się terytorium państwowego*

Tradycyjnie określa się trzy główne cechy państwowości w średniowieczu: podział terytorialny, podatki i ukształtowanie się skonkretyzowanej jednostki władzy. Tekst jest swoistym powrotem do tematu, którym autor zajmował się ponad 25 lat temu. Powodów jest kilka. Jednym z obiektywnych są metodologiczne, metodyczne i interpretacyjne zmiany, które zaszły w historyczno-geograficznych badaniach na temat kształtowania się granic i terytoriów państwowych w średniowieczu na obszarze Europy Środkowej i Wschodniej. Podobnie odkrycie i wprowadzenie do obiegu naukowego ogromnej partii materiału archeologicznego, zarówno z terytorium Białorusi, jak i bliższych, sąsiednich regionów, skłania do weryfikacji i skonkretyzowania poprzednich osądów i hipotez. Inne powody mają charakter subiektywny. Ostatnimi czasy w białoruskiej historiografii, w tekstach poświęconych wczesnym okresom Księstwa Połockiego, można zaobserwować totalne ignorowanie naszych poprzednich opracowań na temat problemów kształtowania się granic i obszaru państwowego Księstwa. Czytelnikom proponuje się nową konstrukcję, a w rzeczy samej jest ona kompilacją i plagiatem. Na obecnym etapie badań źródła historyczne i archeologiczne pozwalają na wyróżnienie czterech okresów chronologicznych, podczas których odbyło się kształtowanie granicy Księstwa Połockiego od połowy X do końca XI w. Pierwszy obejmuje okres od lat 40. do 70. XI w. – tzw. „Księstwo Rogwołoda", kiedy to powstają na jego terytorium pierwsze umocnione osady spełniające funkcje „placówek strategicznych". Drugi od lat 80. X w. do 1015 r. – czas funkcjonowania namiestnictwa połockiego w ramach państwa Uladzimira Swiatapołkawicza. Trzeci – od śmierci księcia Uladzimira (1015 r.) do śmierci księcia połockiego Braczysława (1044 r.). Czwarty to czasy Usiasława Braczysławicza, czyli lata 1044-1101. W tym okresie ostatecznie formuje się terytorium państwowe Księstwa Połockiego i umacniają się w większości kierunków jego stałe granice. Pod koniec XI w. państwo połockie rozciągało się na ponad 100 tys. kilometrów kwadratowych. Usiasławowi Braczysławiczowi udało się podporządkować sobie Dolne Poddźwinie i w ten sposób umocnić je na brzegu Bałtyku,

przekształcając Księstwo Połockie w państwo nadmorskie. Tworzenie się Księstwa Połockiego i jego terytorium państwowego miało wewnętrzną specyfikę, spowodowaną społeczno-ekonomicznym, politycznym i etnokulturowym rozwojem białoruskiego Poddźwinia. Po pierwsze – sprzyjające położenie geograficzne. Przez terytorium ziemi połockiej lub w jej najbliższym sąsiedztwie przechodziły ważniejsze średniowieczne trasy komunikacyjne – szlak od Waregów do Greków, jego największe odgałęzienia: zachodniodźwińskie i niemeńsko-dnieprowskie. Po drugie, w odróżnieniu od ziemi kijowskiej (centrum imperium Rurykowiczów), której terytorium powiększało się dzięki władzy centralnej, Księstwo Połockie rozszerzało się kosztem lokalnych zasobów. Dla społeczeństwa Księstwa Połockiego jedyną siłą, która spełniała jego potrzeby, była miejscowa dynastia książęca Ragwałodowiczów, swoisty symbol niezależności w średniowieczu. Po trzecie, Połock prowadził aktywną politykę wobec sąsiednich narodów słowiańskich, bałtyckich i bałtycko-fińskich. Tak zwany „aspekt bałtycki" okazał się istotnym czynnikiem genezy przyszłego, niezależnego Księstwa Połockiego i jego funkcjonowania w porównaniu do innych tworów państwowych terenu Europy Wschodniej.

## Summary

Henadź Siemianchuk, *The Principality of Polotsk in the 11th Century: State Territory Formation*

Traditionally, the three main traits of statehood in the Middle Ages are defined as territorial division, taxation and the formation of a concrete entity of authority. The text is a specific return to the subject which the author engaged in over twenty-five years ago. There are a number of reasons for this. One of the objective ones is the methodological, methodical and interpretative changes which have taken place in historical-geographic research on the subject of the formation of state territories and borders in the Middle Ages in the region of Central and Eastern Europe. Similarly, the discovery and introduction of an enormous portion of archaeological material into scientific circulation, both from the territory of Belarus and closer, neighbouring regions, demands the verification and definition of earlier evaluations and hypotheses. In recent times in Belarusian

historiography, in texts dedicated to the early periods of the Principality of Polotsk, there has been a total neglect of earlier publication on the subject of problems in forming the borders and state territory of the Principality. A new construction has been proposed to readers, which in itself is a compilation and plagiarisation. At the current stage, studying historical and archaeological sources allows distinguishing four chronological periods during which the formation of the Principality of Polotsk's borders took place, from the first half the 10th century to the end of the 11th century. The first period encompasses the period from 940-970 – the so-called "Rogvolog's Principality", as a result of which the first fortified settlements were established, fulfilling the function of "strategic outposts". The second, from 980-1015, was a period that Polotsk governorship functioned within the framework of Vladimir Sviatoslavich's state. The third period is from the death of Vladimir (1015), until the death of Prince Bryachislav of Polotsk (1044), while the fourth is the period of Vseslav of Polotsk (1044-1101). During this period, the state territory of the Principality of Polotsk was shaping to encompass its eventual area, and its permanent borders were strengthened in most directions. At the end of the 11th century, the state of Polotsk spread over more than 100,000 square kilometers. Vseslav of Polotsk was able to conquer "Lower sub-Daugava" enabling him to strengthen the borders at the edge of the Baltic, a particular symbol of independence in the Middle Ages. Thirdly, Polotsk conducted active policies with regard to neighbouring Slavic, Baltic and Baltic-Finnish nations. The so-called "Baltic aspect" turned out to be a significant factor in the genesis of the future independent Principality of Polotsk and its functioning compared to other state creations in Eastern Europe.

**Аляксандр Краўцэвіч**
**(Варшава/Гродна)**

# БІТВА НА СІНІХ ВОДАХ (1362 ГОД)

У эпоху Сярэднявечча адбылося шмат бітваў, пра якія мы з-за недахопу гістарычных крыніц мала што ведаем, або не ведаем амаль нічога. Да такіх бітваў з надзвычай беднай інфармацыйнай базай належыць і Сіняводская, якая адбылася прыблізна ў канцы верасня – пачатку кастрычніка 1362 г. у Падоллі на тэрыторыі Украіны. Аднак феномен гэтай гістарычнай падзеі ў тым, што няпроста знайсці ў гісторыі яшчэ адно збройнае сутыкненне, пра якое б так мала ведалі і адначасова так шмат пісалі. Даследаваннем бітвы на Сініх Водах займаецца ўжо некалькі пакаленняў гісторыкаў, пачынаючы ад 70-х гадоў ХІХ ст.[1] Ва Украіне бітве на Сініх Водах былі прысвечаныя дзве канферэнцыі: у 1997 і 1998 гг. Матэрыялы апошняй надрукаваныя ў зборніку артыкулаў *"Сіняводская праблема ў навейшых даследаваннях"*[2]. Прычына такой увагі крыецца ў важнасці падзеі, а дакладней, у маштабе яе наступстваў.

Перамога войскаў Вялікага Княства Літоўскага[3] над татарамі на Сініх Водах у 1362 г. належным чынам ацэненая спецыялістамі-гісторыкамі, але ў масавай свядомасці яна займае значна больш сціплае месца ў параўнанні, напрыклад, з Кулікоўскай бітвай 1380 г. Апошняя высілкамі расійскай гістарыяграфіі і прыгожага пісьменніцтва вырасла ў гэтай краіне да рангу аднаго з галоўных нацыянальных міфаў, разглядаецца як знакавая падзея ў вызваленні ад мангола-татарскага панавання.

У сапраўднасці Кулікоўская бітва пераўзыходзіла Сіняводскую толькі ў адным – была больш маштабнай па колькасці ўдзельнікаў.

---

1 Агляд літаратуры і крыніц гл.: Ф. Шабульдо, *Битва біля Синіх Вод 1362 р.: маловідомі та незнані аспекти*, "Український історичний журнал", 1996, вип. 2, (№ 407), с. 3-15; ён жа, *Синьоводська проблема: можливий спосіб її розв'язання. Історичні зошити,* Київ 1998; ён жа,*Синьоводська битва 1362 р. у сучасній науковій інтерпретаці*, [у:] *Синьоводська проблема у новітніх дослідженнях*, Київ 2005, с. 9-27.

2 *Синьоводська проблема у новітніх дослідженнях*, наук. ред. Ф. М. Шабульдо, упор. О. Д. Брайченко, Київ 2005.

3 Тэрмін "Літва" ў тэксце тоесны паняццю "Вялікае Княства Літоўскае". Спецыяльна адзначаецца ўжыванне тэрміна "Літва" як цэнтральнай вобласці дзяржавы (Уласна Літва, Гістарычная Літва).

Аднак па непасрэдных і далёкіх гістарычных наступствах Сіняводская перамога аказалася непараўнальна больш важнай за Кулікоўскую[4]. Найперш матывацыяй пераможцаў, што прывяла іх да збройнага сутыкнення з татарамі. Вялікі князь літоўскі Альгерд біўся за далучэнне украінскіх зямель да сваёй дзяржавы і вызваленне Украіны ад Арды. І гэта было дасягнута перамогай на Сініх Водах. Маскоўскі князь Дзмітрый Іванавіч падняў зброю супраць цёмніка Мамая як незаконнага сюзерэна, бо не хацеў плаціць таму даніну ханскіх памераў. Кулікоўская перамога нікога не вызваліла, бо праз некалькі месяцаў Дзмітрый Іванавіч афіцыйна прызнаў сябе васалам новага ардынскага хана Тахтамыша[5]. Расіі давялося чакаць канца "іга" яшчэ адно стагоддзе[6].

І яшчэ важнае. Разгром татараў на Сініх Водах стаў прэлюдыяй, натхняльнікам перамогі на Куліковым полі, бо пазбавіў мангола-татарскія войскі арэолу непераможнасці.

## Крыніцы і гістарыяграфія

Звесткі пра Сіняводскую бітву надзвычай сціплыя і ўсе паходзяць з крыніц наратыўнага характару (летапісаў і хронік). Самая ранняя сярод іх – *"Аповесць пра Падолле"*[7], змешчаная ў беларуска-літоўскіх летапісах. Даследчыкі ацэньваюць яе як палітычны дакумент, створаны ў Вялікім Княстве Літоўскім каля 1432–1435 гг. з мэтай абгрунтавання правоў беларуска-літоўскага гаспадарства на Падолле ў канфлікце за гэтую зямлю з Польскім каралеўствам[8].

4 Ф. М. Шабульдо, *Битва біля Синіх Вод 1362 р.: маловідомі та незнані аспекти*, с. 5.
5 А. А. Горский, *Москва и Орда*, Москва 2001, с. 100-101.
6 Ю. Г. Алексеев, *Освобождение Руси от ордынского ига*, Ленинград 1989.
7 *Полное собрание русских летописей* (далей – *ПСРЛ*), Москва, т. 35, с. 66.
8 В. Чамярыцкі, *Аповесць пра Падолле,*[у:] *Вялікае Княства Літоўскае. Энцыклапедыя у 3 т*, Мінск, 2005, т. 1: *Абаленскі – Кадэнцыя*, с. 234.

**Аповесць пра Падолле**

“Коли господар был на Литовскои земли князь великы Олгирд и, шед в поле с литовъскимь воиском, побиль татаров на Синѣи воде, трех братов: князя Хочебия а Кутлубугу а Дмитрея. А то си браты, татарскыа князи, отчичи и дедѣчи Подолскои земли, а от них завѣдали втамони а боискаки, приезьдяючи от них утамонъв, имывали ис Подолъскои земли дань. А брать великого князя Олгирдов держав Новъгородн Литовскыи, князь Коръять, а в него были четыре сыны: князь Юръи а князь Александро, князь Костентин, князь Федор. Ино тыи княжятя Коръятевичи три браты: князь Юръи а князь Александр, князь Костентин и князь Федор со князя великого Олгирдивым презволениемь и с помочию Литовския земли пошли в Подолскую землю. И тогды в Подолскои земли не быль ни один город ни деревом рубленого, а ни каменем будованого. И тогды тые княжята Корятовичи пришли в Подолскую землю от татар, и боскакомь выхода не почали давати. И на первое нашли собѣ твержю на рецѣ на Смотрити, а в другомь мѣсте были черници в горе, и в том мѣсте наредили город Бакоту”
(*Полное собрание русских летописей*, т. 35, с. 66).

У *Густынскім летапісным зводзе* (створаны ў XVII ст.) звесткі пра бітву дапаўняюцца інфармацыяй пра заняцце Альгердам Кіева[9].

“Въ лѣто 6870 (1362). … В сіе лѣто Олгердъ побѣди трехъ царковъ Татарскихъ и зъ ордами ихъ, си естъ, Котлубаха, Качэея (Качбея), Дмитра; и оттоли отъ Подоля изгна власть Татарскую. Сей Олгердъ и инныя Рускія державы во свою власть пріятъ, и Кіевъ подъ Феодоромъ княземъ взятъ, и посади въ немъ Володымера сына своего; и нача надъ сими владѣти, имъ же отци его дань даяху.”
(*Густинская летопись,* [у:] *ПСРЛ*, Санкт-Петербург 1843, т. 2, с. 350)

9 *ПСРЛ*, Санкт-Петербург 1843, т. 2, с. 350.

Яшчэ трохі інфармацыі дадаюць *Рагожскі летапіс* (першая палова XV ст.) і *Ніканаўскі летапісны звод* (XVI ст.), якія маюць у аснове летапісанне Цвярскога княства[10].

> "Того же лѣта Литва взяли Коршевъ и сотворишас[я] мятежи и тягота людемъ по всеи земли. Тое же осени Олгѣрд Синю воду и Бѣлобережїе повоевалъ."
> (*Рогожский летописец,* [у:] *ПСРЛ*, Петроград 1922, т. 15, вып. 1, стб. 75)

Вядомы аўтар XVI ст. Мацей Стрыйкоўскі змясціў апісанне бітвы ў сваёй *"Хронiцы польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі"*, упершыню надрукаванай у 1582 г. *"Хроніка"* Стрыйкоўскага лічыцца гістарычным творам, для напісання якога выкарыстоўваліся рукапісныя крыніцы, у тым ліку тыя, што не дайшлі да нашага часу. У прыватнасці, апісанне Сіняводскай бітвы прызнаецца гісторыкамі адпаведным рэальнасці, верагодна, аўтар карыстаўся нейкай невядомай нам ардынскай крыніцай[11].

Навуковае даследаванне гэтай гістарычнай падзеі пачалося з апошніх дзесяцігоддзяў XIX ст. і працягваецца да сённяшняга дня. Гісторыкі розных краін здабываюць усё новую інфармацыю пра акалічнасці бітвы праз вывучэнне, акрамя названых пісьмовых звестак, актавых матэрыялаў, даных тапанімікі, археалогіі, нумізматыкі, нават фальклору з мясцін, дзе адбылася бітва. Вядуцца дыскусіі пра лакалізацыю месца бітвы, склад войскаў, пра яе хаду, пра дакладнасць перададзеных летапісцамі імёнаў татарскіх князёў, іх месца ў ардынскай іерархіі і г. д. Выказваліся самыя розныя меркаванні, напрыклад, што адбылася не адна, а тры бітвы (з кожнай ардой паасобку), нехта нават усумніўся, што бітва на Сініх Водах увогуле мела месца ў рэальнасці.

Даследчыкі раздзялілі ў часе бітву і здабычу першых уладанняў на Падоллі пляменнікамі Альгерда братамі Карыятавічамі, а таксама заняцце ліцвінамі Кіева. Паводле іншых крыніц выяўлена, што ўжо

10 *ПСРЛ*, Петроград 1922,т. 15,вып. 1, стб. 75; *ПСРЛ,* Санкт-Петербург, 1885, т. 10, с. 5.
11 Maciej Stryjkowski, *Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiéj Rusi*, Warszawa 1846, t. II, s. 6-7; Ф. М. Шабульдо, *Мацей Стрийковський як історик Синьоводської битви*, [у:] *Синьоводська проблема: можливий спосіб її розв'язання. Історичні зошити,* с. 78.

каля першай паловы 40-х гадоў XIV ст. уладу сыноў Міхала-Карыята Гедымінавіча прызнала насельніцтва міжрэчча Днястра і сярэдняга цячэння Паўднёвага Буга, тэрыторыі, якая непасрэдна прымыкала да Галіцкай зямлі, – уладанняў іх дзядзькі Любарта. Фармальны гаспадар тых зямель – Арда –па розных прычынах (міжусобныя сваркі, войны ў Закаўказзі, эпідэмія "Чорнай смерці") аслабіла сваю актыўнасць у гэтым накірунку. Часам далучэння да Літвы Кіеўскай зямлі гісторыкі лічаць 1361г. – пачатак1362 г.[12]

Урэшце, адзін з самых актыўных даследчыкаў праблемы ўкраінскі гісторык Фелікс Шабульда, прааналізаваўшы крыніцы і працы папярэднікаў, акрэсліў месца Сіняводскай бітвы ў агульным гістарычным кантэксце[13]. Ён ацаніў бой на Сініх Водах як кульмінацыю шырокамаштабнага наступу Вялікага Княства Літоўскага на ўладанні Залатой Арды па абодвух берагах Дняпра ў лесастэпавой зоне і стэпах Паўночнага Прычарнамор'я. Гэты наступ быў рэалізаваны ў 1362 г. двума паходамі. Першы кіраваўся на поўдзень Дняпроўска-Донскага міжрэчча ажно да вусця Дона і Азова, ягоным вынікам было здабыццё Коршава. Другі, падчас якога і адбылася Сіняводская бітва, дасягнуў вусця Дняпра і Паўднёвага Буга[14]. Абодва паходы прайшлі, верагодна, на мяжы летняга і восеньскага сезонаў 1362 г. Першы, задняпроўскі, павінен быў скончыцца да 1 верасня; другі, сіняводска-белабярэжны, – напэўна ў канцы верасня – пачатку кастрычніка[15].

## Міжнародная сітуацыя

Уварванне войскаў Альгерда на татарскія землі ў 1362 г. было першым ліцвінскім наступам на татараў за ўсю гісторыю ліцвінска-ардынскіх адносінаў. Хоць баявыя сутыкненні неаднойчы здараліся і раней, пачынаючы ад сярэдзіны XIII ст., дагэтуль атакуючым бокам заўсёды былі ардынцы.

Пад канец XIII ст., пасля распаду агромністай мангольскай імперыі, найбуйнейшай сухапутнай дзяржавы ў гісторыі чалавецтва,

12 Ф. М. Шабульдо, *Земли Юго-Западной Руси в составе Великого Княжества Литовского*, Киев 1987, с. 60.

13 Ф. Шабульдо,*Синьоводська битва 1362 р. у сучасній науковій інтерпретації*, с. 9-27.

14 Ф. Шабульдо, *Битва біля Синіх Вод 1362 р.: маловідомі та незнані аспекти*, с. 4.

15 Ф. Шабульдо, *Синьоводська битва 1362 р. у сучасній науковій інтерпретаці*, с 15.

заходняя яе частка Залатая Арда (ці "улус Джучы" – сына Чынгісхана) стала галоўным гульцом на палітычнай арэне Усходняй Еўропы. Мангола-татары трымалі пад сваёй уладай усю Паўночна-Усходнюю Русь (Расію) і Украіну. Нават мацнейшая на той час дзяржава на Русі – Галіцка-Валынскае княства – была вымушаная ў 1259 г. прызнаць сябе васалам татарскіх ханаў.

Толькі заходняя частка ўсходнеславянскага арэалу (Беларусь) пазбегла мангола-татарскага пагрому, і менавіта тут праз саюз беларускіх гарадоў з мясцовымі балцкімі плямёнамі ўзнікла новая дзяржава – Вялікае Княства Літоўскае. Працэс яе ўтварэння пачаўся на тэрыторыі Беларускага Панямоння (Гістарычная Літва) і татарская пагроза, нароўні з крыжацкай, была яго асноўным каталізатарам[16].

На працягу XIII ст. татарскія войскі неаднаразова бралі ўдзел у спробах задушыць маладую дзяржаву ў яе калысцы – Панямонні. Ужо ў 1250–1252 гг. дапаможныя атрады полаўцаў (палавецкія землі апынуліся ў складзе Залатой Арды) удзельнічалі ў паходах на Літву, арганізаваных галіцка-валынскімі князямі, а менавіта на Наваградак, Гародню і іншыя панямонскія гарады. З летапісных крыніц вядома таксама пра паходы татарскіх войскаў на Літву ў 1258, 1275, 1277, 1324 гадах. Здараліся і выпадкі татарска-ліцвінскага супрацоўніцтва, як у 1340 г., калі ардынскае войска дапамагло Любарту Гедымінавічу ў вайне супраць палякаў у Галіччыне[17].

Бліжэй да сярэдзіны XIV ст. ва Усходняй Еўропе акрэсліліся тры важнейшыя сілы: акрамя Залатой Арды яшчэ Вялікае Княства Літоўскае (пад кіраваннем Гедыміна, 1316–1341 гг.) і Маскоўскае княства пры князі Іване Данілавічы па мянушцы "Каліта" (1325–1340 гг.).Менавіта ў першай палове XIV ст. Залатая Арда дасягнула сваёй найбольшай моцы за ўсю гісторыю. На той час яна ўжо не была выключна краінай стэпавых качэўнікаў. Яе кіраўнікі, асабліва ханы Узбек (панаваў у 1312–1341 гг.) і Джанібек (1342–1357 гг.), праводзілі актыўную горадабудаўнічую палітыку. У выніку па берагах Волгі і яе прытокаў на дзясяткі кіламетраў працягнуліся аседлыя

16 А. Краўцэвіч, *Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага*, Беласток 2008, с. 126, 160.
17 А. Краўцэвіч, *Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага*, Гародня-Уроцлаў 2015, с. 217.

землі са шматлікімі гарадамі[18]. Сярод качавой знаці паступова распаўсюджвалася мусульманства, хоць да поўнай ісламізацыі татарскага грамадства было яшчэ далёка[19].

Татарскія ханы цвёрда трымалі ўладу над Паўночна-Усходняй Руссю і большай часткай Украіны. Маскоўскія і іншыя князі паўночна-усходніх зямель Русі лічылі татарскіх ханаў сваімі законнымі валадарамі, ездзілі да іх па дазвол (грамата-ярлык) кіраваць сваім княствам і супернічалі перад ханам за ярлык на Вялікае Княства Уладзімірскае. Расейскія князі і летапісцы называлі ханаў "царамі" ("цэсарамі"), як раней візантыйскіх імператараў[20]. Хан рабіў, што хацеў: мог даць ярлык, а мог і забіць, мог адарваць кавалак аднаго княства і перадаць другому, затрымаць князёў як закладнікаў і г. д.

У такіх умовах Іван Каліта здолеў узвысіць сваё Маскоўскае княства праз пастаянную дэманстрацыю вернасці хану, выплату не толькі даніны, але і частых "падарункаў" (хабару). Ён стаў першым з маскоўскіх князёў, які да канца жыцця ўтрымаў за сабой тытул вялікага князя ўладзімірскага. Справу Каліты паспяхова працягнулі ягоныя сыны: Сямён Ганарлівы (1340–1353 гг. – рэкардсмен па колькасці паездак у Арду), Іван Іванавіч (1353–1359 гг.), а таксама ўнук Дзмітрый Іванавіч Данскі (1359–1389 гг.)[21].

Вялікае Княства Літоўскае пад кіраўніцтвам Гедыміна ў той час гартавала сілы ў вайне з Тэўтонскім ордэнам, палітычна і эканамічна аб'ядноўвала беларускія землі ды асцярожна прасоўвалася далей на ўсход. Ужо пры вялікім князі Віцені, а потым пры Гедыміне ліцвінскія ўплывы пачалі заходзіць у зону татарскага кантролю. У прыватнасці, ужо на рубяжы XIII – XIV ст. Вялікае Княства Літоўскае апанавала стратэгічна важную частку паўночнай Смаленшчыны, а менавіта камунікацыйны вузел на вытоку ўсіх важнейшых рэк Усходняй Еўропы (Дняпра, Волгі, Заходняй Дзвіны і Ловаці)[22].

Асцярожная ўсходняя палітыка ліцвінскіх гаспадароў тлумачылася нежаданнем залішне раздражняць залатаардынскіх ханаў, якія маглі выставіць на вайну не толькі ўласныя буйныя

18 В. Л. Егоров, *Историческая география Золотой Орды в XIII – XIVвв.*, Москва 1985, с. 47, 77.
19 Г. А. Федоров-Давыдов, *Общественный строй Золотой Орды*, Москва 1973, с. 103, 107.
20 А. А. Горский, *Москва и Орда*, Москва 2001, с. 87-89.
21 Тамсама, *Москва и Орда*, с. 60-118.
22 В. Л. Янин, *Новгород и Литва. Пограничные ситуации 13 – 15 веков*, Москва 1998, с. 52-53.

сілы, але і “падняць” падуладных ім паўночна-рускіх князёў. Тым не менш, экспансія Вялікага Княства Літоўскага працягвалася, напруга ў ліцвінска-татарскіх адносінах нарастала, і ўжо ў часы Гедыміна было ясна, што раней ці пазней справа дойдзе да сур’ёзнага збройнага сутыкнення.

Інакш складваліся маскоўска-ардынскія адносіны. Маскоўскае княства на той час было слабейшае не толькі за Арду, але і за Літву. Прэтэнзіі маскоўскіх князёў на вялікае княжанне ўладзімірскае аспрэчваліся не толькі цвярскімі, але суздальскімі, ніжагародскімі і іншымі князямі. Змагацца за звяржэнне татарскага “іга” там ніхто і не думаў; калі нехта з князёў уваходзіў у канфлікт з ханам, дык толькі з-за таго, што той падтрымліваў ягоных супернікаў. Духоўнай апорай татарскага панавання ў будучай Расіі была тамтэйшая праваслаўная царква, іерархі якой мелі ад ханаў спецыяльныя прывілегіі і імунітэты (вызваленне ад пэўных падаткаў). Адначасова Масква старалася рознымі спосабамі, у тым ліку збройнай сілай, стрымліваць ліцвінскую экспансію ў Смаленскай і Чарнігаўскай землях.

Пасля таго як Альгерд і Кейстут перанялі вярхоўную ўладу ў Літве (на рубяжы 1344–1345 гг.), яны шмат папрацавалі над узмацненнем сваёй дзяржавы, асабліва пасля прыкрай паразы ад Ордэна ў 1348 г. Ужо праз пяць гадоў Вялікае Княства Літоўскае вярнулася на пазіцыю адной з мацнейшых дзяржаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. А яшчэ праз некалькі гадоў суадносіны сіл паміж трыма важнейшымі гульцамі ва Усходняй Еўропе раптоўна і істотна памяняліся. Сваю пазіцыю захавала Літва, але часова аслабла Маскоўскае княства і, галоўнае, пачалася працяглая міжусобная вайна ў Залатой Ардзе.

У Маскве пасля смерці Івана Іванавіча князем стаў ягоны сын Дзмітрый, якому было ўсяго дзевяць гадоў, таму хан не даў яму вялікае княжанне ўладзімірскае, і з-пад улады Масквы выйшла буйная тэрыторыя з гарадамі Уладзімірам, Пераяслаўлем, Кастрамой, Юр’евам-Польскім, Дзмітравам, Яраполчам. Да таго ж па тастаменту Івана Іванавіча Маскоўскае княства было падзеленае на тры часткі паміж ягонымі сынамі і пляменнікам. Павінна было прайсці яшчэ некалькі гадоў, пакуль апекунам Дзмітрыя ўдалося вярнуць уладзімірскі вялікакняскі пасад (у 1363 г.) і зноў аб’яднаць дзяржаву

(у 1365 г.)[23]. Але на гэтыя гады (1359–1365) Масква выпала з вялікай міжнароднай палітыкі.

Трохі раней пачала развальвацца Залатая Арда. Там у выніку "вялікай замятні" – міжусобнай вайны – за 24 гады паміж 1357 і 1381 гг. памянялася 25 ханаў[24]. Толькі ў адным 1361 г. было 6 прэтэндэнтаў на прастол – пяць ханаў і малалетні "царэвіч Абдуллах", марыянетка ў руках Мамая. Джанібека ў 1357 г. забіў уласны сын Бірдзібек, а каб ліквідаваць канкурэнтаў, ён дадаткова пазбавіў жыцця ўсіх сваіх братоў[25]. Пасля яго смерці ў 1359 г. у Залатой Ардзе не засталося законных спадкаемцаў ханскага трону па лініі Бату – сына Джучы і ўнука Чынгісхана. Тады авалодаць дзяржавай захацелі прадстаўнікі іншай галіны Джучыдаў, якая паходзіла ад старэйшага брата Бату Арда-Ічэна. Мясцовыя сталічныя арыстакраты з Сарая не жадалі гэтага дапусціць і пачалі вылучаць сваіх ханаў-марыянетак.

Прыблізна каля 1359 г. ва ўсходнім Прыкарпацці, якое знаходзілася пад уладай татараў, узнікла новае палітычнае ўтварэнне – Малдаўскае княства. Тут, галоўным чынам у Прута-Дняcтроўскім міжрэччы, размяшчаўся самы заходні ўскраінны ўлус Залатой Арды. Акрамя малдаван там жыло шмат татараў, якія даволі грунтоўна засвоілі гэтую зямлю і вялі як качавую (на поўдні рэгіёна), так і аседлую (на поўначы) гаспадарчую дзейнасць. Скарыстаўшыся аслабленнем Арды, Малдаўскае княства павяло наступ на татарскае насельніцтва, і ўжо ў 60-я гады XIV ст. цалкам выдаліла яго за Днестр[26].

У 1361 г. на ардынскай палітычнай сцэне пачала вымалёўвацца фігура Мамая, які пры Бірдзібеку займаў вышэйшую дзяржаўную пасаду беклярэбека і ажаніўся з яго сястрой. Мамай не быў Чынгізідам, таму не мог займаць ханскі трон, але здолеў кіраваць пад прыкрыццём ханаў-марыянетак. Фактычна самастойнымі сталі і татарскія феадалы на ўскраінных землях Залатой Арды, у тым ліку паміж Дняпром і Паўднёвым Бугам на Падоллі (якраз іх і перамог Альгерд у бітве на Сініх Водах).

23 А. А. Горский, *Москва и Орда*, с. 80 – 81.

24 И. Б. Греков, *Очерки по истории международных отношений Восточной Европы 14 – 16 вв.*, Москва 1963, с. 42.

25 В. Л. Егоров, *Золотая Орда перед Куликовской битвой* [в:] *Куликовская битва*, Москва 1980, с. 181.

26 В. Л. Егоров, *Историческая география Золотой Орды в XIII – XIV вв.*, с. 50 – 51.

У 1362 г. Залатая Арда раскалолася на дзве часткі па лініі Волгі. На правым баку панаваў Мамай (кантраляваў тэрыторыю паміж Волгай, Донам і Дняпром, Паўночны Каўказ і Крым), час ад часу спрабуючы заняць і левабярэжную частку дзяржавы. Там знаходзілася сталіца краіны Сарай ал-Джэдзід, дзе рэй вялі мясцовыя арыстакраты, якія змянялі ханаў, як хацелі[27].

Такім чынам, у 1359 г. на нейкі час аслабела заслона, якая стрымлівала экспансію Літвы на ўсходзе. Яшчэ ў 1358 г. на перамовах з германскім імператарам вялікі князь літоўскі Альгерд агучыў палітычную праграму ўсходняй палітыкі Літвы, а менавіта аб’яднанне ў Вялікім Княстве Літоўскім усіх рускіх (усходнеславянскіх) зямель. Ліцвінскія дуумвіры Альгерд і Кейстут, як сапраўдныя дзяржаўныя мужы, трымалі руку на пульсе міжнароднага жыцця і не прамінулі выкарыстаць спрыяльную сітуацыю. За кароткі прамежак часу паміж 1359 і 1362 гг. яны далучылі да Літвы беларускае Пасожжа, Мсціслаўскую, Ржэўскую, Кіеўскую, Бранскую землі. Нарэшце, упершыню ў гісторыі ліцвінскія гаспадары наважыліся пасягнуць на тэрыторыю, непасрэдна кіраваную татарамі, а менавіта на заходні ўскраек Залатой Арды – Падолле, дзе практычна самастойна кіравалі некалькі татарскіх феадалаў.

Разлік аказаўся дакладным – Масква слабая і далёка, Арда ў “замятні”, з Польшчай яшчэ ў 1356 г. заключаны мір. Адно толькі дзяржава Тэўтонскага ордэна скарысталася занятасцю ліцвінскіх сіл на ўсходзе і ўзмацніла мілітарны націск на саму Літву. У 1361 г. на некалькі месяцаў у крыжацкі палон трапіў Кейстут, а ў 1362 г., незадоўга да падольскіх паходаў Альгерда, браты-рыцары здабылі і знішчылі Ковенскі замак[28]. Але падобныя тактычныя паразы здараліся і раней, яны не маглі затрымаць ліцвінскі разгон на ўсходзе. Замак у Коўне амаль адразу пачаў адбудоўвацца, а Кейстут неўзабаве вызваліўся (уцёк з Мальбарка ў лістападзе 1361 г.) і зноў вярнуўся да сваёй звыклай справы – абароны заходніх межаў краіны. Ён за гэта адказваў паводле дамовы з братам-дуумвірам. Альгерд вёў усходнюю палітыку Літвы, таму і стаў на чале першага ў гісторыі ліцвінскага наступу на татарскія землі.

27 Тамсама, с. 58-60.
28 Wigandi Marburgensis, *Chronicon seu Annales*, Poznań 1842, s. 118-131.

## Месца сустрэчы

Бітва ліцвінаў з татарамі на іх тэрыторыі адбылася не проста дзесьці каля рэчышча Сініх Водаў (украінская назва – Сінюха), ракі працягласцю больш за сотню кіламетраў, а каля аднайменнага паселішча з замкам, побач з цяперашняй украінскай вёскай Таргавіца (Торговиця) Кіраваградскай вобласці. У познім Сярэднявеччы Сінія Воды былі прыкметным і добра вядомым у стэпе месцам, дзе, па ўсёй верагоднасці, рэгулярна збіраліся татарскія вайсковыя аддзелы. Пастаянны пункт збору стэпавых войскаў заўжды пераўтвараўся ў базар. Рынкі пры месцах збору і пастою войскаў – звычайная справа, асабліва ў стэпе. Войска качавых супольнасцей прывозіла з сабой вялікую колькасць тавараў, якія паходзілі з тэрыторыі аседлых народаў: каштоўныя металы і камяні, прадукты земляробства, рамесныя вырабы і рабоў. Тавары гэтыя ў большасці здабываліся збройнай сілай, таму войска ў стэпавых грамадствах адыгрывала асаблівую ролю ў таварным абмене. Вядома, напрыклад, што рынак увесь час суправаджаў стаўку хана Батыя.

Калі вызначалася месца, дзе пастаянна збіралася войска, то там адразу ўзнікаў базар, у татараў з’явіўся нават спецыяльны тэрмін “ордубазар” – ваенны паходны рынак. Наяўнасць камяністага ўзвышша каля Сінюхі, якое ўскладняе доступ да паселішча, само па сабе тлумачыць выбар гэтага месца як зручнага пункта збору татарскіх войскаў. Мясцовыя славянскія жыхары адлюстравалі яго дадатковую функцыю базара ў сваёй назве – Таргавіца. Развіццю гэтай функцыі несумненна істотна паспрыяла тая акалічнасць, што паселішча размяшчалася на важнай гандлёвай дарозе – т. зв. Чорным шляху, які злучаў Львоў з Крымам[29].

Такім чынам, Сінія Воды даволі пераканаўча лакалізуюцца ля сучаснага паселішча Таргавіца, якое ў часы Альгерда было важным гандлёвым месцам і крэпасцю на дняпроўскім стэпавым Правабярэжжы. На месцы паселішча і могільніка пры ім ад апошніх гадоў XX ст. праводзяцца археалагічныя раскопкі, якія

29 О. Галенко, *Золота Орда у битві біля Синіх Вод 1362 р.*, [у:] *Синьоводська проблема у новітніх дослідженнях*, с. 143-144.

выявілі характэрныя рысы гарадской залатаардынскай культуры[30]. Шматлікія знаходкі ардынскіх манет на могільніку дадаткова засведчылі існаванне тут у XIV ст. важнага палітычнага і эканамічнага цэнтра правабярэжжа Дняпра. Антрапалагічны аналіз пахаванняў з могільніка паказаў, што мясцовае насельніцтва, як і па ўсёй Цэнтральнай Украіне, фармавалася з нашчадкаў аланаў, балгараў і славян[31].

Горад і замак Сінія Воды, які пазней стаў адным з “украінных” замкаў Вялікага Княства Літоўскага на стэпавым паграніччы, паводле некаторых даных ідэнтыфікуецца з татарскім Ябу-горадам, які ў першай палове XIV ст. быў рэзідэнцыяй ханскіх намеснікаў ва ўладаннях Залатой Арды на захад ад Дняпра. Таму зразумела, чаму сюды кіраваўся Альгерд і чаму дзесьці паблізу адбылася бітва. У гістарыяграфіі выказвалася меркаванне, што мэтай выправы Альгерда была здабыча менавіта гэтага месца не толькі дзеля магчымасці збору падаткаў у звонкай манеце, але і для доступу да важнага міжнароднага гандлёвага шляху і даходаў з яго.

## Войскі

**Ліцвіны**: Альгерд прывёў у стэп коннае войска, касцяк якога складала ягоная асабістая (прыбочная) дружына – дасведчаныя і загартаваныя ў баях ваяры. Па дарозе, па ўсёй верагоднасці, забіраліся аддзелы з паасобных зямель дзяржавы, у тым ліку нядаўна да яе далучаных. Па той прычыне, што землі, здабытыя ў выніку Сіняводскай бітвы, пазней адміністрацыйна падпарадкоўваліся Кіеву, выказвалася меркаванне пра ўдзел у паходзе кіеўскай дружыны. Як заўсёды, паводле звычаю Альгерда, ніхто не ведаў дакладна, куды і супраць каго паход.

Войска для далёкай выправы мусіла быць мабільным, г. зн. без абозу і пяхоты. Асноўная баявая адзінка – кап’ё – складалася з цяжкаўзброенага рыцара і некалькіх (двух-трох) лягчэй узброеных

30 Н. Бокій, І. Козир, *Комплекс золотоординського часу біля с. Торговиця на Кіровоградщині (попередня публікація),* [у:] *Синьоводська проблема у новітніх дослідженнях,* с. 79.

31 Л. Литвинова, *Антропологічний склад населення Центральної України доби середньовіччя (за матеріалами ґрунтового могильника Торговиця)*, [у:] *Синьоводська проблема у новітніх дослідженнях,* с. 89.

стральцоў, у тым ліку збраяносца (адказваў за запаснога каня рыцара). Улічыўшы, што частка ліцвінскага рыцарства мусіла несці службу ў залогах галоўных гарадоў краіны і прыгранічных замках, а дружына Кейстута засталася пры ордэнскай мяжы, можна меркаваць, што колькасны склад ліцвінскага войска, якое падышло пад Сінія Воды, быў меншы ці блізкі да 10 тысяч вершнікаў.

**Татары:** Крыніцы называюць адзінага кіраўніка ў ліцвінаў, вялікага князя Альгерда, і трох – у татараў, прычым ніводнага з іх не тытулуюць ханам. Паводле феадальнай іерархіі хан у татараў быў роўназначны еўрапейскаму імператару і азначаў суверэннага правіцеля. Гэты тытул маглі ўжываць толькі прадстаўнікі асноўнай лініі дынастыі Джучы (сына Чынгіс-хана), нават калі яны і не займалі ханскі прастол. Сярод татарскіх правадыроў пад Сінімі Водамі не было Джучыдаў. Іх статус акрэсліваецца ў крыніцах як "царкі", што адпавядае татарскаму тытулу "бек" ці еўрапейскаму "князь" (princeps, regulus). Адсюль выснова пра тое, што тытулы татарскіх правадыроў сведчаць пра іх прыналежнасць да вышэйшага кіруючага кола ўлусных, ці туменных, бекаў. У адміністрацыйных адносінах "тумен" (па-русінску -- "цьма", адсюль "цёмнік") адпавядаў тэрміну "улус", сінонімам якога было "княства". Таму цалкам правамерна называць татарскіх правадыроў пад Сінімі Водамі князямі.

Тумен складаўся з 10 тысяч воінаў, але ў нашым выпадку ён з'яўляўся тэрытарыяльным апалчэннем, колькасны склад якога залежаў ад колькасці насельніцтва. Ад 40-х гадоў XIV ст. тэрыторыю Арды неаднакроць наведвалі эпідэміі і голад, вядома, што тумены маглі быць напалову меншымі за 10 тысяч чалавек, а часам мелі яшчэ меншую колькасць. Лічыцца, што ўсіх татарскіх вояў на Сініх Водах было ад 10 да 20 тысяч[32].

Імёны татарскіх князёў-бекаў таксама гістарычныя. Кутлубуга атаясамліваецца з вядомым па крыніцах Інакам Кутлубугай, блізкім litaradcam і сваяком хана Джанібека (кіраваў Залатой Ардой у 1342–1357 гг.). У цюркскім вымаўленні яго імя гучала як Кутлу-Буга ("блаславёны бык"). Ягонае княства-улус называлася ўмоўна Крымскім (не займала паўвострава), таму што яго сталіцай быў горад Крым, а межамі з'яўляліся рэкі Дон на ўсходзе і Днепр на захадзе.

32 О. Галенко, *Золота Орда у битві біля Синіх Вод 1362 р.*, с. 132-135.

Імя бека Качубея ў арыгінале магло гучаць як Кочыбей, Коджыбей або Кочубей. Ягоным улусам было Белабярэжжа (Белабярэжскі улус), ці тэрыторыя паміж Дняпром і Днястром. У стэпавай традыцыі бакі свету абазначаліся колерамі: белым – захад, сінім – усход. Белабярэжжа атрымала назву адносна лініі Дняпра і азначала тэрыторыю на захад ад гэтай ракі (пазнейшае Правабярэжжа). Дарэчы, на левым усходнім беразе Дняпра знаходзіцца вядомы па крыніцах Сіні лес. Рака Сіняя Вада, хоць і размешчаная на захад ад Дняпра, але атрымала сваю "ўсходнюю" назву з прывязкай да лініі Паўднёвага Бугу, усходнім прытокам якога яна з'яўляецца. Сам Паўднёвы Буг качэўнікі называлі Белай вадой.

Трэці татарскі князь у славянскіх і венгерскіх крыніцах абазначаны хрысціянскім імем Дзімітрый (Dmeitrus), якое ўтворанае ад імя Цемюр (Цемір, Дземір), або нейкага складнога імя, напрыклад, Дзін-Цемір ці Бай-Дземір. Яго княства – "Задняструоўскі улус" – размяшчалася ў міжрэччы Днястра і Сірэта (прыток Дуная)[33]. Некаторыя аўтары гістарычных прац ужываюць таксама іншыя назвы ордаў, якія бралі ўдзел у бітве, напрыклад, Перакопская і Ямбалукская.

## Зброя

Тагачаснае ўзбраенне войскаў Вялікага Княства Літоўскага фармавалася пад заходнееўрапейскім уплывам, найперш, нямецкім. Працяглае ваеннае супрацьстаянне з Тэўтонскім ордэнам прывяло да пераймання ліцвінамі ўзораў заходнееўрапейскай зброі і тэхнікі. Захоўваліся таксама ўласныя ўсходнеславянскія і балцкія традыцыі. Крыжацкія хронікі неаднаразова адзначалі майстэрства "русінаў" (беларусаў) у валоданні лукам і эфектыўнае выкарыстанне ліцвінскімі ваярамі балцкага паходжання кідальных коп'яў – суліцаў. У той самы час, напрыклад, Маскоўскае княства, якое мела моцныя сувязі з Ардой, засвойвала ўзоры татарскага ўзбраення паводле вядомай гістарычнай заканамернасці: імкненне пераймаць ад мацнейшага.

Узбраенне ліцвінскага рыцара сярэдзіны XIV ст. спалучала як уласныя, так і еўрапейскія традыцыі. Напрыклад, маглі адначасова ўжывацца шлем усходнеславянскай сфераканічнай формы без наносніка, з калявочнымі выразамі, барміцай з выразам для твару і абарона торса

33 Тамсама, с. 136-142.




Паходы Альгерда 1362 г.

т. зв. крытай кірасай, складзенай з буйных металічных частак, абцягнутых зверху тканінай або скурай. Мог выкарыстоўвацца шлем, запазычаны ад немцаў, – т. зв. баскінет з "псінай пысай" са своеасаблівай выцягнутай формай звона і заслоны, а таксама кальчужнае пакрыццё тулава[34].

Для абароны торса ў XIV ст. шырока выкарыстоўвалася брыгандына – камізэлька з прымацаванымі з сярэдзіны металічнымі пласцінамі. Ногі прыкрываліся кальчужнымі панчохамі з металічнымі ці скуранымі накаленнікамі. Для аховы рук і ног ужываліся сталёвыя

34 Ю. М. Бохан, *Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове 14 – канцы 16 ст.*, Мінск 2008, с. 442, 49-286.

наплечнікі, зарукаўі, набедранікі, нагаленнікі, налакотнікі, накаленнікі, чаравікі. Да апошніх, як і да кальчужных панчох, мацаваліся доўгія рыцарскія шпоры з колцамі. Шчыты звычайна былі невялікімі, трохкутнай ці іншай формы. Магло ўжывацца абарончае пакрыццё баявога каня, патрэбнае для прыкрыцця ад шырокалязовых татарскіх стрэл.

Наступальнае ўзбраенне рыцара-баярына складалася з дрэўкавай зброі (кап'я або кідальнай дзіды), суліцы, меча, кінжала. Выкарыстоўваліся баявыя сякеры, булавы, чаканы і інш. Лягчэй узброенымі і слабей прыкрытымі ахоўнай бранёй былі збраяносцы, слугі рыцараў, аддзелы стральцоў і лёгкай конніцы, якая ў паходзе выконвала дазорныя і выведчыя задачы. У бітве на Сініх Водах бралі ўдзел конныя арбалетчыкі, што адзначана ў апісанні Мацея Стрыйкоўскага. Яны павінныя былі стаць нейкай процівагай масе татарскіх конных лучнікаў і адыгралі ў бітве не апошнюю ролю.

У тагачасным татарскім (мангола-татарскім) войску таксама мелася цяжкая кавалерыя. Цяжкаўзброены мангола-татарскі вершнік быў абаронены шлемам, панцырам ці кальчугай, наплечнікамі, зарукаўямі, мелася адпаведнае прыкрыццё ног і шчыт. У дыстанцыйным баі вершнік мог карыстацца лукам і вялікім запасам стрэл, якія трымаліся ў калчанах, а таксама суліцамі. Для захоўвання і нашэння лукаў ужываліся налуччы і саадакі. У бліжнім баі выкарыстоўваліся кап'ё, меч, палаш, шабля, баявая сякера, булава, кінжал. Конь прыкрываўся абарончай папонай[35].

Аднак пераважалі ў татарскім войску лёгкаўзброеныя вершнікі. Іх абарончае адзенне рабілася з мяккай скуры, войлака, тоўстай тканіны. Пра дамінаванне ў мангола-татарскім войску лёгкай конніцы сведчаць матэрыялы археалагічных даследаванняў. Значную большасць у здабытым археолагамі комплексе ўзбраення складаюць сродкі паражэння неабароненага панцырам праціўніка ў дыстанцыйным баі – стрэлы з плоскімі шырокалопаснымі наканечнікамі (у апісанні бітвы Стыйкоўскага неаднаразова згадваюцца "танцы" – гарцаванне татараў перад франтам і флангамі ліцвінскага войска). Бранябойныя наканечнікі сярод набору стрэл нешматлікія і тыпалагічна даволі аднастайныя.

35 Ю. С. Худяков, *Вооружение центральноазиатских кочевников в эпоху раннего и развитого средневековья,* Новосибирск 1991, с. 148.

Найбольш характэрнай зброяй бліжняга бою для мангола-татараў былі слабавыгнутыя шаблі з пласцінчатым перакрыжаваннем і коп'і з падоўжана-рамбічным пяром[36].

## Бітва

**Бітва на Сініх Водах у апісанні Мацея Стрыйкоўскага:**

"А калі прыйшлі на ўрочышча да Сіняй Вады, мінуўшы Канеў і Чаркасы, паказалася ў полі вялікая арда татараў на чале з трыма царкамі, падзеленая на тры гуфы: адзін вёў Кутлубах салтан, другім кіраваў Качыбейкірэй, а трэці вёў Дзімейтэр салтан: тое ўбачыўшы Альгерд, што татары ішлі ў бітву, пашыхтаваў сваіх на шэсць закругленых гуфаў, паставіўшы іх паасобна з бакоў і спераду, каб татары, як намерваліся, не маглі агарнуць іх звыклымі танцамі і шкодзіць стрэламі. А потым татары ў запале пусцілі на літву з лукаў жалезны град, закружыўшы танцы па некалькі разоў, але мала зашкодзілі стральбой, бо тыя добра шыхтаваліся і хутка расступаліся. Літва да іх з русінамі скочыла, пачала біць коп'ямі і шаблямі, прарвалі іх фронт і змяшалі танцы, іншыя з арбалетаў балта́мі, асабліва наваградцы з Карыятавічамі, валілі іх з коней, наступаючы з бакоў, аж ляцелі нібыта снапы ад моцнага ветру; не маглі больш стрымліваць літву спераду, пачалі перамешвацца і ў россып уцякаць па шырокіх палях, на пабоішчы засталіся забітыя тры іх царкі, Кутлубах, Кацібей (ад якога і сёння ёсць названае салёнае возера Качубейскае ў дзікіх палях, да Ачакава ідучы) і Дзімейтр салтан, а пры іх мурзаў і уланаў вельмі шмат."
(Maciej Stryjkowski, *Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiéj Rusi*, Warszawa 1846,т. II, s.6-7)

Ліцвінскае камандаванне мела вопыт баявых сутыкненняў з татарамі і было знаёмае з традыцыйнай тактыкай качэўнікаў: рассыпное пастраенне, імкненне ахапіць праціўніка па фронту і з флангаў, завабіць пад скрыжаваны абстрэл з трох бакоў (чацвёрты пакідаўся ворагу для ўцёкаў). Татарскія лёгкія вершнікі наляталі на варожыя шыхты, з адлегласці выпускалі хмару стрэл, цэлілі не толькі

36 Тамсама, с. 152-153.

ў людзей, але найперш у коней. Мяркуецца, што татарскія вої стралялі не хаатычна, а залпамі з вельмі невялікім інтэрвалам. Адкатваліся назад, праносіліся перад фронтам, зноў налятэлі, і ўсё зладжана, па камандзе. Пастаянна выкарыстоўваўся прыём прытворных уцёкаў, каб заманіць ворага ў засаду.

З апісання Сіняводскай бітвы вынікае, што ліцвінскае войска было добра вышкаленае і падрыхтаванае да бою са стэпавікамі. Тактычная задума Альгерда на бітву таксама бачная па апісанні. Татары былі вядомыя дысцыплінай і зладжанасцю ў манеўраванні. Спецыяльнымі адпрацаванымі гукавымі і візуальнымі камандамі татарская конная лава кідалася ў атаку, адкрывала залпавы агонь з лукаў, хутка паварочвала ў патрэбным кірунку, праносілася ўздоўж шэрагаў праціўніка і гэтак жа зладжана імітавала беспарадачныя ўцёкі, каб завабіць ворага ў пагоню і такім чынам разбурыць ягонае пастраенне. Калі акрыленыя ўяўнай перамогай варожыя вої кідаліся ў пераслед, то неўзабаве траплялі ў засаду, а ўцекачы раптоўна разварочваліся і зноў зладжана нападалі. Асобныя аддзелы пасылаліся ў абход з флангаў і з тылу, каб стварыць эфект акружэння. Атакі лавай з масіраваным абстрэлам маглі паўтарацца адна за адной шмат разоў. Галоўная іх задача – нанесці як мага большыя страты ворагу і яго коням стрэламі з пляскімі наканечнікамі (ад шырокіх ран трацілася шмат крыві), прарадзіць і парушыць варожыя шыхты і ўрэшце давяршыць справу франтальнай атакай.

Шансам на перамогу ліцвінаў было якраз лабавое сутыкненне са спадзевам на добрае ўзбраенне і асабістае майстэрства ліцвінскіх рыцараў, загартаваных у бясконцых баях на ордэнскай мяжы. Адпаведна, задачай ліцвінскага кіраўніцтва было ўтрымаць войска ў сціснутым кулаку, не дапусціць вялікіх страт ад абстрэлу (добрай аслонай вояроў і іх коней даспехамі, шчытамі і ўмелым манеўраваннем, якое аблягчалі прамежкі паміж гуфамі[37]) і не кідацца раней часу ў пераслед адступаючай конніцы. Бакавыя гуфы былі развернутыя так, каб франтальна сустракаць флангавыя атакі.

Камандзіры гуфаў мелі асноўную задачу: любым коштам утрымаць шыхты, дачакацца, пакуль татары расстраляюць запас стрэл і пачнуць лабавую атаку, а там ужо, з Божай дапамогай,

37 Ф. М. Шабульдо, *Земли Юго-Западной Руси в составе Великого Княжества Литовского*, с. 69.

у сечу. Спецыяльна падрыхтаваныя конныя арбалетчыкі, найперш з наваградскай дружыны, сканцэнтраваныя, паводле апісання Стыйкоўскага, на флангах, павінныя былі выбіваць з невялікай адлегласці цяжкую татарскую кавалерыю. Арбалеты (самастрэлы) значна саступалі лукам у хуткастрэльнасці і дальнабойнасці, але кароткая, з цяжкім наканечнікам страла самастрэла (болт) мела высокую пачатковую хуткасць палёту і лёгка выбівала вершніка з сядла. Калі справа дайшла да лабавога сутыкнення, то ліцвінам не было часу выстраіцца традыцыйным клінам – звужаным да пераду пастраеннем. Можна меркаваць, што кожны аддзел-гуф біўся ўласным клінам.

Разлікі ліцвінскага камандавання спраўдзіліся, сталёвыя ліцвінскія гуфы не падвялі – татары не вытрымалі лабавога сутыкнення і кінуліся наўцёкі. На полі бітвы засталіся забітымі ўсе тры іх князі, якія, верагодна, насуперак тактычнаму правілу кіравання боем з адлегласці, у вырашальны момант узялі непасрэдны ўдзел у сечы.

## Наступствы

Сіняводская бітва распачала працяглы перыяд заняпаду Залатой Арды, які закончыўся яе канчатковым тэрытарыяльна-палітычным распадаму 20-я гады XV ст. Непасрэдным вынікам бітвы на Сініх Водах было канчатковае замацаванне зямель Цэнтральнай Украіны (Кіеўскай, Валынскай, большай часткі Падольскай і Чарнігава-Северскай) у складзе Вялікага Княства Літоўскага, дзяржаўныя межы якога дасягнулі на поўдні ніжняга цячэння Дняпра і Днястра, а на паўднёвым усходзе – рэк Ворсклы і Ціхай Сасны. Літва ад таго часу ўчэпіста трымала новаздабытыя землі, што спрыяла іх земляробчаму засваенню і засяленню. Мясцовае насельніцтва вызвалілася ад цяжкай рэгулярнай даніны і непасрэднага палітычнага кантролю Ардынскай дзяржавы. Відавочна, быў ліквідаваны кандамініум (сумесная рэалізацыя на пэўнай тэрыторыі дзяржаўнай улады дзвюма ці больш дзяржавамі) у заходнеўкраінскіх землях, якія знаходзіліся пад уладай польскага караля, але адначасова плацілі даніну і татарам.

Адначасова параза і смерць трох татарскіх князёў узмацніла пазіцыі і павялічыла тэрытарыяльна ўладанні ўлуснага бека Мамая. На падставе таго, што перамога Альгерда на Сініх Водах была выгодная таксама Мамаю, узнікла гіпотэза пра ваенна-палітычны

саюз Мамая з Альгердам, як вядома, пазней прадоўжаны пры Ягайле Альгердавічы[38]. Перамога ліцвінаў спрыяла ўзмацненню таксама Малдаўскага княства, а менавіта, аблегчыла яму выдаленне татараў са сваёй тэрыторыі.

Сіняводская перамога ліцвінаў распачала ўтварэнне балтыйска-чарнаморскай гандлёвай зоны, разгортванне земляробчай каланізацыі стэпу, асяданне на зямлю і ўкраінізацыю качэўнікаў, узнікненне казацтва, стварэнне Крымскага ханства. Літва атрымала кантроль над участкамі найважнейшых гандлёвых артэрый Усходняй Еўропы, па якой наплывала маса манетнага металу як з усходу, так і з захаду. Кіеўскае княства стала адным з першых цэнтраў манетных эмісій ва Усходняй Еўропе ва ўмовах адсутнасці мясцовай здабычы каляровых металаў, што, несумненна, было выклікана эканамічнымі прычынамі[39].

У агульным культурна-гістарычным кантэксце перамены, якія надышлі пасля 1362 г., азначалі канец пераважных уплываў еўразійскага „Pax nomadica" (качавога свету) на ўкраінскіх землях і больш чым стагадовай іх ізаляцыі ад заходняй (еўрапейска-лацінскай) цывілізацыі. Далучэнне асноўнага масіву ўкраінскіх зямель да Вялікага Княства Літоўскага ў пачатку 60-х гадоў XIV ст. не толькі дадало імпэту яго інтэграцыйнай палітыцы на Русі, але неўзабаве вызначыла геапалітычную пераарыентацыю гэтых зямель з Усходу на Захад[40].

## Streszczenie

Aliaksandr Kraucewicz, *Bitwa nad Sinymi Wodami (1362 rok)*

W artykule rozpatrywane są różne aspekty jednego z najważniejszych wydarzeń w historii Europy Wschodniej XIV w. – bitwy nad Sinymi Wodami pomiędzy wojskami Wielkiego Księstwa Litewskiego a trzema oddziałami tatarskimi w 1362 r. „Sinowodzka bitwa" fragmentarycznie przedstawiona jest w źródłach pisemnych, ale od XIX w. do dnia dzisiejszego przyciąga

38 Ф. Шабульдо, *Чи існував ярлик Мамая на українські землі? (до постановки проблеми)*, [у:] *Синьоводська проблема у новітніх дослідженнях*, с.102.

39 Г. Козубовський, *Синьоводська битва 1362 р. і зміни у грошовому обігу Південної Русі-України*, [у:] *Синьоводська проблема у новітніх дослідженнях*, с. 94, 97.

40 Ф. Шабульдо, *Синьоводська битва 1362 р. у сучасній науковій інтерпретаці*, с. 22.

uwagę badaczy, którzy oceniają ją jako ważniejszą pod kątem konsekwencji historycznych niż znana Bitwa na Kulikowych Polach z 1380 r. Bitwa nad Sinymi Wodami była pierwszym w historii zwycięstwem nad wojskiem tatarskim na jego terytorium. Doprowadziła do dołączenia znacznej części ziem ukraińskich do Wielkiego Księstwa Litewskiego i spowodowała jego geopolityczną reorientację ze Wschodu na Zachód. Wzmianki o bitwie istnieją tylko w krótkim zapisie w latopisach białorusko-litewskich. Opis przebiegu bitwy pozostawił po sobie XVI-wieczny autor Maciej Stryjkowski, który, według badaczy, opierał się na starszych źródłach, więc można wierzyć jego przekazowi. Dwie wyprawy wojsk Wielkiego Księstwa Litewskiego na step w 1362 r. odbyły się w sprzyjających Litwie warunkach międzynarodowych – osłabnięcia głównych przeciwników: Złotej Ordy i Moskwy. W Ordzie trwał „zamęt" – walka o władzę pomiędzy przedstawicielami dynastii Dżoczi i pojedynczymi feudałami tatarskimi, spośród których najważniejszą figurą był nojon Mamaj. Moskwa była czasowo osłabiona po zmianie księcia, kiedy na czele państwa stał młody Dymitr Doński. Podczas bitwy Lićwini wykazali się znajomością taktyki tatarskiej (nie rozproszyli swoich szeregów, kiedy Tatarzy imitowali odwrót), dzięki odpowiednim manewrom uniknęli znacznych strat spowodowanych ostrzałem z łuków i wyprowadzili frontalny atak, w którym mieli przewagę zarówno w uzbrojeniu, jak i w personalnych umiejętnościach.

## Summary

Aliaksandr Kraucevich, *The Battle of Blue Waters (1362)*

The article investigate various aspects of one of the most important events in the history of 14th century Eastern Europe – the Battle of Blue Waters, between the armies of the Grand Duchy of Lithuania and three Tatar detachments in 1362. The battle has been fragmentarily introduced in written sources, but mostly from the 19th century. To this day, it attracts the attention of researchers who deem it of more significant historical consequence than the well-known Battle of Kulikovo in 1380. The Battle of Blue Waters was the first victory in history over the Tatar army on its own territory. It led to the annexation of a large swathe of Ukrainian lands for the Grand Duchy of Lithuania and caused its geopolitical reorientation from the East to the West. Mentions of the battle exist only in a short

entry in the Belarusian-Lithuanian chronologies. The 16th century author, Maciej Stryjkowski left behind a description of the battle's course of events, which, according to researchers, was based on earlier sources and thus can be trusted. The two expeditions to the steppe by the armies of the Grand Duchy of Lithuania in 1362, took place during favourable international conditions: the weakening of its two main enemies – the Golden Horde and Moscow. The Horde was undergoing a period of "confusion" – a struggle for power among representatives of the Jochi dynasty and individual Tatar feudal lords, the most important of which was the figure of Khan Mamai. Moscow was temporarily weakened, when after the death of Ivan II, young Dmitry Donskoy took the throne. During the battle, the Litvins displayed considerable knowledge of Tatar tactics (they did not scatter their ranks when the Tatar's feigned retreat). Thanks to skilled manoeuvres they avoided significant casualties from arrow barrages and carried out a frontal attack, where they possessed the advantage both in armour and individual combat skills.

**Святлана Куль-Сяльверстава**
**(Варшава/Беласток)**

# ВАРШАЎСКІ І ВІЛЕНСКІ ЎНІВЕРСІТЭТЫ ПАДЧАС УНІВЕРСІТЭЦКАЙ РЭФОРМЫ 1819–1823 гг.

Варшаўскі ўніверсітэт адыграў адметную і неадназначную ролю ў гісторыі вышэйшай адукацыі Расійскай імперыі першай чвэрці XIX ст., у прыватнасці, у лёсе Віленскага ўніверсітэта. Гэта было абумоўлена як спецыфікай працэсу ўтварэння і ўладкавання ўніверсітэта ў Варшаве, так і поглядамі расійскіх улад на прынцыпы існавання навучальных устаноў і іх функцыі ў Расійскай імперыі.

Да 1816 г., калі быў заснаваны Варшаўскі ўніверсітэт, у Расіі дзейнічала 6 універсітэтаў: Маскоўскі, Казанскі, Харкаўскі, Дэрптскі, Абоскі ўніверсітэт у Турку (пасля 1827 г. -- у Гельсінгфорсе) і Віленскі. З іх тры апошнія былі старымі еўрапейскімі ўніверсітэтамі, якія мелі даўнія традыцыі і аўтарытэт. Яны апынуліся ў складзе імперыі з-за захопу тэрыторый, на якіх былі размешчаныя. На працягу ўсяго часу свайго існавання гэтыя ўніверсітэты разглядаліся як "замежныя", якія не цалкам адпавядаюць поглядам улад на статус і функцыі вышэйшай школы і адрозніваюцца ад уласна расійскіх універсітэтаў. У сучаснай расійскай гістарыяграфіі гэтая традыцыя захавалася: універсітэты, якія дзейнічалі ў Расійскай імперыі, падзяляюць на ўласна расійскія, ці ўніверсітэты "ўнутранай Расіі", і ўніверсітэты імперскіх ускраін – Дэрптскі, Гельсінгфорскі, Віленскі і Варшаўскі[1].

Універсітэцкая адукацыя ў Расійскай імперыі пачала складвацца ў XVIII ст. Але да пачатку XIX ст., нягледзячы на намаганні ўлад, не набыла значнага развіцця. Маскоўскі ўніверсітэт, заснаваны 12 студзеня 1755 г. па ўказу імператрыцы Елізаветы, у канцы XVIII ст., паводле акрэслення расійскага даследчыка Паўла Ферлюдзіна, меў "*вартае жалю становішча*"[2]. На працягу ўсёй другой паловы XVIII ст. колькасць студэнтаў у Маскоўскім універсітэце была нязначнай,

---

1 *Университет в Российской империи XVIII – первой половины XIX века,* под общ. ред. А. Ю. Андреева, С. И. Посохова, Москва 2012, с. 10.

2 П. Ферлюдин, *Исторический обзор мер по высшему образованию в России,* Вып. 1. *Академия наук и университеты*, Саратов 1893, с. 48.

не перавышала 100 чалавек, а колькасць тых, хто скончыў курс у асобныя гады, вымяралася адзінкамі[3].

Універсітэцкая рэформа пачатку XIX ст. была часткай рэформы ўсёй сістэмы адукацыі ў Расійскай імперыі. Яна фактычна паклала пачатак гісторыі ўніверсітэтаў, паколькі не толькі засноўвала новыя навучальныя ўстановы, але закладала падмурак у механізм дзяржаўнага рэгулявання дзейнасці ўніверсітэтаў, акрэслівала іх статус у дзяржаве, іх правы і прынцыпы дзейнасці. На думку расійскага даследчыка Фёдара Пятрова, менавіта з гэтага часу правамоцным робіцца паняцце "расійскі ўніверсітэт", пад якім разумеецца сістэма вышэйшай школы на тэрыторыі Расійскай імперыі, што мае акрэсленую структуру, заканадаўчае ўнармаванне і пэўныя функцыі ў соцыуме[4].

Універсітэцкая рэформа праводзілася ў першыя гады царавання Аляксандра I, адзначаныя лібералізмам. Таму статуты ўніверсітэтаў, прынятыя ў 1803-1804 гг., адрозніваліся выразным ліберальным духам. Правядзенне рэформы асветы ішло вельмі хутка, асноўныя заканадаўчыя акты былі распрацаваныя на працягу аднаго года. Пры іх падрыхтоўцы выкарыстоўваліся як праекты, што з'явіліся яшчэ ў часы Кацярыны II, так і вопыт еўрапейскіх краін, у тым ліку Аўстрыйскай імперыі, Прусіі, а таксама Камісіі Народнай Асветы Рэчы Паспалітай. Непасрэдны ўплыў на працу камісіі, якой была даручаная апрацоўка ўніверсітэцкіх статутаў і прыняцці рашэнняў аб рэарганізацыі ці адкрыцці ўніверсітэтаў, мелі міністр асветы граф Пётр Завадоўскі і граф Севярын Патоцкі.

Пры распрацоўцы прынцыпаў дзейнасці ўніверсітэтаў у камісіі, якая займалася падрыхтоўкай рэформы адукацыі (у яе ўвайшлі Мікалай Фус, Мікалай Азерацкоўскі, Фёдар Янкавіч дэ Мірыева, Фрыдрых Клінгер), узніклі спрэчныя меркаванні: пакласці ў аснову дзейнасці ўніверсітэтаў французскую сістэму ці нямецкую, паводле якой былі арганізаваныя былая Галоўная Літоўская школа (будучы Віленскі ўніверсітэт) і Дэрптскі ўніверсітэт[5]. Дзейнасць французскіх

3 А. Аврус, *История российских университетов. Очерки*, Москва 2001, с. 12.
4 Ф. Петров, *Формирование системы университетского образования в России*. Т. 1. *Российские университеты и устав 1804 года*. Москва 2002, с. 7-26.
5 В. Голованова, *Становление высшего образования в Российской империи в начале XIX века: правовой аспект,* "Вестник Нижегородского университета им. Н. И. Лобачевского", 2014, № 5 (2), с. 54.

універсітэтаў, як і ўсёй сістэмы асветы ў Францыі, у гэты час усё больш бралася пад дзяржаўны кантроль. Закон, прыняты Канвентам 1 мая 1802 г., фактычна ліквідаваў універсітэты і забяспечваў дастаткова жорсткую сістэму рэгламентацыі адукацыі, у тым ліку вышэйшай школы. У дзеяннях Напалеона акрэсліваліся тэндэнцыі да яшчэ большай канцэнтрацыі і іерархізацыі сістэмы асветы, якая павінна была абслугоўваць інтарэсы дзяржавы. Імператарскі ўніверсітэт, у якім гэтыя прынцыпы знайшлі ўвасабленне, быў заснаваны Напалеонам у 1806 г.[6]

Правілы функцыянавання нямецкіх універсітэтаў складаліся на працягу стагоддзяў, у іх аснову былі пакладзены аўтаномны статус у дзяржаве, самакіраванне, уласныя фінансавыя рэсурсы, уласная юрысдыкцыя ў стасунку да сяброў універсітэтскай супольнасці, карпаратыўная салідарнасць. *"Без акадэмічнай свабоды для выкладчыкаў і навучэнцаў не будзе існаваць больш і нямецкіх універсітэтаў, яны панізяцца да ступені рамесных школ,* – пісаў прафесар Генрых Дэрнбург. – *Свядомасць акадэмічнай свабоды ўзвышае нашу студэнцкую моладзь, выхоўвае яе ідэальнае пачуццё, узмацняе пачуццё гонару і ўплывае доўга на ўсё наступнае жыццё. Усякі, нават умераны дотык да яе* [волі], *закранае і саму ўстанову"*[7]. У канцы XVIII–пачатку XIX ст. у Прусіі пачалі распаўсюджвацца ідэі Вільгельма Гумбальдта, які лічыў свабоду навучання і аўтаномію ўніверсітэцкай дзейнасці галоўнымі ўмовамі асветы. У будучым, на пасадзе міністра асветы, ён распрацаваў і ажыццявіў праект новага нямецкага ўніверсітэта ў Берліне.

За аснову ўніверсітэцкай рэформы ў Расійскай імперыі вырашана было ўзяць прускі вопыт. Апрача іншага, на такі выбар паўплывала наяўнасць трох старых вышэйшых навучальных установаў, у якіх менавіта нямецкая сістэма арганізацыі навучання ўжо была выкарыстаная. Пытанне, наколькі поўна так званая нямецкая мадэль універсітэта была рэалізаваная ў расійскай сістэме вышэйшай адукацыі, абмяркоўваецца ўжо амаль два стагоддзі. Сутнасць абмеркавання і яго вынікі прадставіў Сяргей Посахаў, адзначыўшы пры тым, што само паняцце "нямецкай" мадэлі ўніверсітэта

6 Э. Лависс, А. Рамбо, *История XIX века,* Москва 1938, т. I, с. 265-269.

7 П. Ферлюдин, *Исторический обзор мер по высшему образованию в России,* с. 30.

эвалюцыянавала ў часе, і менавіта на пачатак XIX ст. прыпадае перыяд найбольш значнай яго трансфармацыі.[8]

Адметнасці "замежных" універсітэтаў прымусілі рэфарматараў адмовіцца ад адзінага стандартнага статута і скласці асобныя правілы для Віленскага і Дэрптскага ўніверсітэтаў. Пры гэтым першым па часе з'явіўся статут Віленскага ўніверсітэта, праца над якім вялася адначасова з распрацоўкай агульнага дакумента для "рускіх" універсітэтаў. Існуе меркаванне, што менавіта Віленскі статут, зменены ў некаторых артыкулах, быў пакладзены ў аснову агульнага статута для трох "рускіх" універсітэтаў – Маскоўскага, Казанскага і Харкаўскага.[9]

*Акт ухвалення Віленскага ўніверсітэта* з'явіўся 4 красавіка 1803 г.[10], яго статут, які складаўся з 5-ці глаў і 56-ці параграфаў, – 18 мая 1803 г.[11] Ва ўніверсітэце прадугледжвалася фарміраванне чатырох аддзяленняў: фізічных і матэматычных навук; медыцынскіх ведаў; маральных і палітычных навук; славесных навук і прыгожых мастацтваў. У штаце ўніверсітэта статутам было прадугледжана на фізіка-матэматычным аддзяленні 10 прафесараў, на медыцынскім – 7, на маральна-палітычным – 10, на аддзяленні славесных навук і прыгожых мастацтваў – 5. Усяго 32 прафесары, 12 ад'юнктаў і *"настаўнікі моў, таксама прыемных мастацтваў і гімнастычных практыкаванняў"*[12]. Кіраванне ўніверсітэтам ажыццяўляла ўніверсітэцкая рада, якая складалася з рэктара і прафесараў, што збіраліся раз на месяц.

Звернем увагу на некаторыя пункты ўніверсітэцкага статута і *Акта ўхвалення*, якія, на нашу думку, у далейшым будуць вызначальнымі ў яго лёсе і адыграюць адметную ролю пры спробах пераўладкавання Віленскага ўніверсітэта па ўзору ўніверсітэта Варшаўскага. Так, згодна з п. 53 *Акта ўхвалення* на Віленскі

8 С. Посохов, *Роль «немецкого образца» в процессе становления и развития университетов России XIX века: оценки и мнения в российской публицистике и историографии*, "Научные ведомости Белгородского государственногоуниверситета. Сер. История, политология, экономика", 2008, вып. 5, № 1 (41), с. 170-179.

9 Е. Жарова, *Университетские Уставы 1803–1804 гг.*, "Вопросы образования", 2011, № 4, с. 275-276, 281-282.

10 *Полное собрание законов Российской империи* (далей – ПСЗРИ), т. XXVII (1802–1803), Санкт-Петербург 1830, с. 526-530.

11 Тамсама, с. 610-620.

12 Тамсама.

ўніверсітэт маглі распаўсюджвацца статуты іншых універсітэтаў *”адносна ўнутранага ў іх распарадку па навучальнай або гаспадарчай частцы”*. Аднак яшчэ ў 1803 г. *”па ўласнай ініцыятыве ўніверсітэта, з дазволу міністра, быў заснаваны камітэт з прафесараў для разгляду ўрадавых пастаноў аб іншых універсітэтах імперыі і прымянення іх да Віленскага ўніверсітэта”*[13]. Паводле дакументаў адметную ролю ў кіраванні ўніверсітэтам адыгрываў яго куратар. Інстытут куратара навучальнай акругі, які засноўваўся рэформай, павінны быў зрабіцца дадатковым інструментам кантролю за дзейнасцю ўніверсітэтаў з боку дзяржавы. Фармальна куратар з’яўляўся папячыцелем навучальнай акругі і сябрам Галоўнага праўлення вучылішчаў. *Акт ухвалення* наўпрост указваў, што куратар не павінны жыць у Вільні, а мусіць толькі наведваць час ад часу даверанную яму акругу і ўніверсітэт[14]. Паўсядзённым жыццём універсітэта кіравалі Рада і рэктар.

Пункт 6 *Акта ўхвалення* надаваў універсітэту права ўласнай юрысдыкцыі ў грамадзянскіх справах не толькі ў стасунку да сваіх працаўнікоў і студэнтаў, але нават у тых выпадках, калі ў справе, апрача іх, фігуравалі асобы па-за ўніверсітэта. Што ж тычыцца крымінальных і маёмасных спраў, універсітэт мусіў прымаць актыўны ўдзел у разбіральніцтве, праводзіць першаснае следства.[15]

Для лёсу ўніверсітэта важнае значэнне мела яго фінансавае становішча. У адрозненне ад іншых універсітэтаў, якія ствараліся ў Расійскай імперыі паводле рэформы 1803 – 1804 гг., а таксама і будучых, у тым ліку Варшаўскага, універсітэт у Вільні меў уласнае фінансавае забеспячэнне, пры тым дастаткова значнае. *Акт ухвалення* ўніверсітэта дэклараваў пераемнасць яго даўніх традыцый, згадваючы даты заснавання езуіцкага калегіума і Галоўнай Літоўскай школы. Такім чынам, універсітэт атрымліваў пацвярджэнне правоў на паезуіцкую маёмасць. У дадзеным дакуменце дэкларавалася, што, калі выявіцца нейкая паезуіцкая спадчына, якая не мае гаспадара, Віленскі ўніверсітэт мае права прэтэндаваць на яе. Дарэчы, гэты пункт *Акта ўхвалення* мог, пры іншай сітуацыі ва ўніверсітэце, стаць падставай да перадачы яму маёмасці Полацкай езуіцкай

13 Е. Жарова, *Университетские Уставы 1803–1804 гг.*, с. 276.
14 *ПСЗРИ*, т. XXVII, с. 526.
15 Тамсама, с. 527.

акадэміі пасля забароны ордэна ў Расійскай імперыі ў 1820 г. Сувязь гісторыі ўніверсітэта з езуітамі, якія ў Расіі знайшлі прытулак пасля забароны ордэна ў 1773 г., добра ўсведамлялася ўладамі. У 1800 г. быў распрацаваны, а затым падпісаны Паўлам I праект аб вяртанні Галоўнай Літоўскай школы езуітам, рэалізацыя якога павінна была распачацца з верасня 1801 г. Яго ажыццяўленню перашкодзіла толькі раптоўная смерць імператара[16]. Сума, якую ўніверсітэт атрымліваў паводле распараджэнняў міністэрства, у 1803 г. складала 15 300 руб. срэбрам[17]. Пасля Дэрпта гэта была самая вялікая сума дзяржаўных датацый. Але ўніверсітэцкія даходы не абмяжоўваліся толькі дзяржаўнымі грашыма, бо ўніверсітэт меў яшчэ паступленні ад платы студэнтаў за вучобу, ад уласнай маёмасці, фундушавых грошай, здадзеных у рост пад працэнты, ад арэнды маёнткаў, якія яму належалі, і іншых рэсурсаў. У 1816 – 1819 гг. бюджэт універсітэта складаў да 200 тыс. рублёў штогод, з гэтай сумы сродкі, атрыманыя ад здадзенай у арэнду паезуіцкай маёмасці, дасягалі ад 19 тыс. да 26 тыс. рублёў срэбрам[18]. Паводле статута распараджацца гэтымі грашыма мусіла праўленне, куды абіраліся прафесары. Раз на тры гады рэктар рабіў фінансавую справаздачу на ўніверсітэцкай радзе. Адносная фінансавая незалежнасць падтрымлівала аўтаномны статус Віленскага ўніверсітэта.

Такім чынам, становішча Віленскага ўніверсітэта ў сістэме навучальных установаў Расійскай імперыі было выключным: шырокая аўтаномія, падмацаваная адноснай фінансавай незалежнасцю, дазваляла праводзіць уласную палітыку ў адукацыйнай сферы, а моцныя пазіцыі пры імператарскім двары папячыцеля Віленскай навучальнай акругі Адама Чартарыйскага былі гарантыяй недатыкальнасці ўніверсітэцкіх традыцый.

Варшаўскі ўніверсітэт ствараўся ў іншую эпоху – у перыяд, калі на змену ліберальным інтэнцыям расійскіх улад прыходзіць палітыка захавання існуючых у імперыі сацыяльных інстытутаў, павялічваецца палітычны кантроль, пачынае праводзіцца палітыка нівеліравання нацыянальных адрозненняў імперскіх ускраін. І хаця

16 *Российский государственный исторический архив* (далей – РГИА), ф. 1374, оп. 3, 1800, д. 2428, л. 10-30.
17 Е. Жарова, *Университетские Уставы 1803–1804 гг.*, с. 290.
18 J. Bieliński, *Uniwersytet Wileński ( 1579- 1831 ),* Kraków 1899, T. II, s. 351-360.

ў першыя гады пасля Венскага кангрэса 1815 г. і ўтварэння Царства Польскага Аляксандр I імкнуўся заручыцца падтрымкай і сімпатыяй жыхароў новаздабытых тэрыторый, водблескі змен у характары ўнутранай палітыкі адбіваліся і на сітуацыі ў польскіх землях.

У адрозненне ад універсітэцкай рэформы 1803 – 1804 гг., калі ідэя заснавання ўніверсітэтаў нараджалася і набывала форму ў імператарскім акружэнні, ініцыятыва адкрыцця ўніверсітэта ў Варшаве паходзіла ад мясцовых асветнікаў і палітыкаў. Праца па стварэнні ўніверсітэта пачалася фактычна 20 мая 1816 г., разам з прызначэннем на пасаду начальніка Дэпартамента народнай асветы Царства Польскага Станіслава Косткі Патоцкага, які неўзабаве звярнуўся да Аляксандра I з просьбай разгледзець магчымасць адкрыцця вышэйшай школы ў Варшаве. Імператар даў дазвол, была створаная спецыяльная камісія для распрацоўкі праекта ўніверсітэцкага статута, структуры і штатаў, фінансавага забеспячэння дзейнасці і іншых неабходных дакументаў і сродкаў. Над стварэннем універсітэта актыўна працавалі асобы, якія ў мінулым дзейнічалі ў складзе Камісіі народнай адукацыі, у тым ліку Станіслаў Сташыц і сам міністр Станіслаў Костка Патоцкі. Задача спрашчалася той акалічнасцю, што ў Варшаве ўжо дзейнічалі два факультэты – права (адкрыты ў 1808 г.) і медыцынскі (адкрыты ў 1809 г.)[19]. Існаванне гэтых факультэтаў у якасці асобных навучальных адзінак тлумачыцца распаўсюджаннем на Герцагства Варшаўскае тагачаснай французскай структуры вышэйшай школы, у якой не прадугледжвалася стварэнне ўніверсітэтаў, якая была арыентаваная на падрыхтоўку спецыялістаў для дзяржаўных патрэб.

Польская даследчыца Ганна Шылер адзначае: "*Універсітэт у Варшаве створаны ў 1816 г. паводле ўказа імператара Аляксандра I. На гэтай падставе некаторыя гісторыкі далучаюць яго да сям'і расійскіх універсітэтаў ад самага пачатку яго існавання. Аднак таксама, як універсітэты ў Вільні, Дэрпце, Гельсінгфорсе, ці ўніверсітэт у Кіеве, які ўзнік у 1834 г., ён меў асобны статут і ў прынцыповых пытаннях свайго ўладкавання валодаў асобным прававым статусам, які выходзіў за межы расійскага заканадаўства. З пункту гледжання мовы, нацыянальнай прыналежнасці пераважнай большасці прафесараў*

19 J. Bieliński, *Królewski uniwersytet Warszawski 1816-1830,* Warszawa-Kraków 1907, t. I, s. 19.

*і студэнтаў, ён, несумненна, быў польскім універсітэтам"*[20]. З гэтым тэзісам можна пагадзіцца толькі часткова. Варшаўскі ўніверсітэт увайшоў у лік так званых замежных універсітэтаў Расійскай імперыі, аб якіх пісалася вышэй. Але з прававога поля імперыі ягоны статус не выходзіў, паколькі заканадаўчыя дакументы аб яго зацвярджэнні, яго фінансы, органы кіравання і іншыя элементы яго структуры, як і накірункі дзейнасці, ад самага пачатку праходзілі ўзгадненне з расійскімі ўладамі, а сам ён з першых гадоў быў пад пільным наглядам намесніка ў Царстве Польскім. Апрача таго, статут універсітэта так і не быў канчаткова зацверджаны манархам і не набыў моц закона.

Першы варыянт універсітэцкага статута рыхтаваўся на падставе статута ўніверсітэта ў Кракаве, запатрабаваны быў таксама прускі вопыт, асабліва практыка стварэння гумбальдтаўскага ўніверсітэта ў Берліне[21]. Заўважым, што менавіта на нямецкі вопыт абапіралася камісія, якая рыхтавала ўніверсітэцкую рэформу 1803 – 1804 гг. Да закрыцця ўніверсітэта былі зробленыя два варыянты статута (у 1818 г. і ў 1821 г.), якія лічыліся часовымі, неканчатковымі і не прадстаўляліся на зацвярджэнне ні Аляксандру І, ні, пазней, Мікалаю І. У гэтыя дакументы ўвесь час уносіліся папраўкі і дапаўненні. Да самога свайго закрыцця Варшаўскі ўніверсітэт так і не набыў галоўнага дакумента, які б рэгуляваў яго дзейнасць. Такая сітуацыя давала магчымасці для умяшальніцтва ў справы ўніверсітэта кіруючых органаў Царства Польскага, увядзення шляхам выдання дэкрэтаў і распараджэнняў новых правіл дзеянняў, адсоўвання рэктара і калегіяльных органаў універсітэта ад вырашэння ўнутраных пытанняў.

Паводле *Акта ўхвалення* Варшаўскі ўніверсітэт складаўся з пяці факультэтаў: тэалогіі, права і адміністратыўных навук, медыцынскага, фізіка-матэматычнага, прыгожых мастацтваў. У далейшым фізіка-матэматычны факультэт фігуруе ў дакументах універсітэта як філасофскі, хаця па сваёй структуры, па тэматыцы кафедр, лабараторый і наяўнасці абсерваторыі ён больш адпавядаў сваёй першаснай назве. Фактычна структура ўніверсітэта, прапанаваная яго стваральнікамі і ўхваленая Аляксандрам І, была

20 А. Шиллер, *Императорский Варшавский университет в системе российских университетов,* [w:] *Академии наук Польши и России, университеты, высшая школа, научные учреждения и общества: история польско-российских отношений в сфере науки. Тезисы*, Москва 2010, с. 43

21 J. Bieliński, *Królewski uniwersytet Warszawski*, s. 28-37.

падобная на структуру Віленскага ўніверсітэта, розніца была толькі ў факультэце тэалогіі, які не прадугледжваўся ў Вільні паводле Статута 1803 г. З усіх тагачасных расійскіх універсітэтаў тэалагічны факультэт, паводле *Акта ухвалення* меў толькі ўніверсітэт у Дэрпце. Існаванне гэтых факультэтаў было мэтазгодным менавіта ў Варшаве і Дэрпце, паколькі яны забяспечвалі падрыхтоўку святароў для тых частак імперыі, дзе пераважалі так званыя іншаверныя канфесіі – каталіцтва і пратэстантызм. У рэчаіснасці ж, хоць гэта і не прадугледжвалася *Актам ухвалення*, факультэт тэалогіі ў Вільні быў. Ён застаўся яшчэ з часоў Галоўнай Літоўскай школы і працаваў дзякуючы той акалічнасці, што яго кафедры адкрываліся на іншых факультэтах ці да іх належалі (да прыкладу, кафедра хрысціянскай навукі ў 1822 г. адкрылася на факультэце права)[22].

Падставы, на якіх дзейнічаў Варшаўскі ўніверсітэт, рабілі яго пазіцыю дастаткова хісткай. І фінансава, і адміністратыўна ён моцна залежаў ад Міністэрства асветы і вераспавяданняў Царства Польскага. Універсітэт не меў уласных фундушаў, сродкі на яго ўтрыманне штогод вылучала міністэрства. Сумы, якія прасіў універсітэт на свае патрэбы, амаль заўсёды пераглядаліся і змяняліся ў бок памяншэння. Так, да прыкладу, у 1828 г. універсітэт склаў каштарыс патрэбных выдаткаў на зарплаты выкладчыкам, адпаведна якому запрасіў 28 650 злотых. Пасля разгляду падання сума скарацілася на 5 тыс. злотых[23]. Памер фінансавання Варшаўскага ўніверсітэта, уключаючы непрадбачаныя расходы, складаў ад 209 744 злотых у 1817 г. да 455 225 злотых у 1824 г.[24] Пры курсе, які трымаўся ў гэты час (15 кап. срэбрам за 1 злоты), гэта складала 13 982 і 30 348 рублёў срэбрам.

Фактычна адзінай крыніцай, паступленнямі з якой мог самастойна распараджацца ўніверсітэт, былі выплаты студэнтаў за вучобу. Але і ў гэтым выпадку існавалі абмежаванні. Паводле рашэння Міністэрства асветы і вераспавяданняў гэтыя сродкі павінныя былі ісці толькі на патрэбы навучальнага працэсу, іх нельга было выкарыстоўваць, напрыклад, на замежныя камандзіроўкі ці на набыццё навуковай літаратуры. Да таго ж сума, якую студэнты

22 J. Bieliński, *Uniwersytet Wileński ( 1579-1831 ),* Kraków 1899, t. II, s. 11-12.
23 J. Bieliński, *Królewski uniwersytet Warszawski*, s. 385.
24 Тамсама, s. 350-351.

мусілі плаціць за вучобу, акрэслівалася міністэрствам, што таксама ўплывала на даходы ўніверсітэта.

Першапачаткова рэктар універсітэта Войцех Швейкоўскі ўваходзіў у склад Урадавай камісіі па справах рэлігійных канфесій і грамадскай асветы (Міністэрства) і мог аператыўна вырашаць бягучыя пытанні і ўплываць на рашэнні камісіі па ўніверсітэцкіх справах[25]. Але ўжо са зменай кіраўніцтва міністэрства ў 1819 г. рэктар быў выведзены з яе складу.

Варшаўскі ўніверсітэт, у адрозненне ад Віленскага, ствараўся з канкрэтнай мэтай: забяспечыць Царства Польскае чыноўнікамі, дактарамі, настаўнікамі. Накірунак яго дзейнасці, праграмы курсаў, прадметы, якія выкладаліся, былі падпарадкаваныя гэтай мэце. Мацей Яноўскі заўважае: *"Варшаўскі ўніверсітэт лічыўся больш слабым, чым Віленскі, больш, чым апошні, быў скіраваны на практычныя веды, якія неабходныя будучым чыноўнікам. Магчыма, гэтым практыцызмам тлумачыцца той факт, што віленскія студэнты з энтузіязмам паставіліся да лекцый Яўхіма Лелявеля, а ў Варшаве, каб яго паслухаць, прыходзіла не больш за тры чалавекі"*[26]. Арганізацыя ўніверсітэта ў Варшаве як асяродка, які павінен рыхтаваць чынавенства, акрэслівала, як падаецца, і стаўленне ўлад да яго выкладчыкаў і студэнтаў: яны разглядаліся як элемент адміністратыўнага апарата, які цалкам залежны ад вышэйшых інстанцый. У гэтай сітуацыі не магло быць гаворкі пра нейкую карпаратыўную салідарнасць, аўтаномію і самакіраванне. Такое становішча Варшаўскага ўніверсітэта было выкарыстана ўладамі (і найперш Мікалаем Навасільцавым) падчас рэфармавання сістэмы адукацыі ў рэакцыйным духу, для ўзмацнення нагляду за выкладчыкамі і студэнтамі. Варшаўскі ўніверсітэт у пачатку 1820-х гг. стаў своеасаблівай пляцоўкай, дзе апрабіраваліся метады і сродкі дзяржаўнага кантролю за дзейнасцю вышэйшай школы.

Адыход ад ліберальных памкненняў першых гадоў царавання Аляксандра I выразна акрэсліўся ўжо ў 1815 г., калі ў Вене быў створаны Свяшчэнны саюз еўрапейскіх імператараў. Кангрэсы

25 R. Gawkowski, *Poczet Rektorow Uniwersytetu Warszawskiego. Monumenta Universitatis Varsoviensis. 1816–2016,* Warszawa 2016, s. 33.
26 M. Janowski, *Narodziny inteligencji. 1750-1831,* Warszawa 2008, s. 145.

манархаў у Аахене (1818 г.), Трапаў (1820 г.), Лейбахе (1821 г.) і Вероне (1822 г.) узмацнялі ахоўныя тэндэнцыі ва ўнутранай і знешняй палітыцы буйнейшых дзяржаў Еўропы. *“Вялікія дзяржавы,* -- адзначае Давід Кінг, -- *змянілі форму свайго саюза, які першапачаткова прадугледжваў толькі супрацьстаянне ўсялякім спробам парушэння спакою, прызнаючы сабе больш агульнае права на ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы дзяржаў дзеля абароны права і парадку. Такім чынам вялікія імперыі сталі тым, што Каслры*[27] *назваў “агульнай еўрапейскай паліцыяй”*[28]. У Расійскай імперыі ў палітыцы ў дачыненні да ўніверсітэтаў наступствам кожнага з гэтых кангрэсаў было ўзмацненне дзяржаўнага нагляду за дзейнасцю вышэйшай школы, скасаванне ліберальных здабыткаў у галіне асветы першага дзесяцігоддзя XIX ст.

24 кастрычніка 1817 г. замест Міністэрства народнай асветы было створанае Міністэрства духоўных спраў і народнай асветы. У маніфесце аб яго стварэнні ўказваліся мэты новага органа: “*Каб хрысціянская набожнасць складала заўсёды падставу сапраўднай асветы, а асвета спрыяла гэтай набожнасці*”[29]. Міністрам застаўся Аляксандр Галіцын, які ўзначальваў былое міністэрства з 1816 г. Менавіта пад яго кіраўніцтвам адбылося рэфармаванне нагляду за сістэмай асветы, і, найперш, за ўніверсітэтамі. Штуршком для правядзення рэформы сталі падзеі ў нямецкіх універсітэтах, а ўзорам – дзеянні ў дадзенай сферы аўстрыйскага ўраду. Пасля студэнцкіх хваляванняў у Вартбургу і забойства ў Мангейме студэнтам Карлам Людвігам Зандам рэакцыйнага пісьменніка і тайнага паліцэйскага агента Аўгуста фон Кацабу нямецкімі, а затым аўстрыйскімі ўладамі былі распрацаваныя меры па ўтаймаванні свавольства студэнтаў і рэарганізацыі ўніверсітэтаў. *“Смерць Кацабу адгукнулася лёсавызначальнымі наступствамі па ўсёй Германіі і часткова за яе межамі”*, -- пісаў Міхаіл Сухамлінаў[30]. Па ініцыятыве аўстрыйскага ўрада ў Карлсбадзе адбылася канферэнцыя прадстаўнікоў нямецкіх дзяржаў, на якой былі выпрацаваныя меры

27 Роберт Сцюарт, віконт Каслры, брытанскі палітык, міністр замежных спраў (1812-1821 гг), удзельнік Венскага кангрэса.
28 D. King, *Wiedeń 1814,* Poznań 2009, s. 414.
29 Ю. Кондаков, *Князь А. Н. Голицын: придворный, чиновник, христианин*, Санкт-Петербург 2014, с. 150.
30 М. Сухомлинов, *Исследования и статьи по русской литературе и просвещению,* Санкт-Петербург 1889, Т. 1, с. 178.

па рэфармаванні вышэйшай школы, найперш універсітэтаў. Міністр замежных спраў Аўстрыі Клеменс фон Метэрнік між іншым прапанаваў скасаваць аўтаномнае становішча ўніверсітэтаў; стварыць інстытут куратараў, якія б кантралявалі ўніверсітэты і ўвогуле навучальныя ўстановы і накіроўвалі асвету ў рэчышча, вызначанае ўладамі; выдаліць з універсітэтаў і іншых навучальных устаноў нядобранадзейных выкладчыкаў. Прапановы К. Метэрніка былі прынятыя да ажыццяўлення ў Аўстрыі, да іх дададзеныя яшчэ некалькі пунктаў, у прыватнасці, аб забароне тайных студэнцкіх таварыстваў, аб кантролі не толькі выкладчыцкай дзейнасці, але і прыватнага жыцця выкладчыкаў; аб забароне выкладання звольненым з навучальных устаноў па палітычных прычынах прафесарам, ад'юнктам і настаўнікам ды інш.[31]

У Расійскай імперыі з увагай паставіліся да аўстрыйскай ініцыятывы. Непакой расійскіх улад быў узмоцнены той акалічнасцю, што расійскія ўніверсітэты, у тым ліку нядаўна створаны Варшаўскі, уладкаваныя былі па ўзору нямецкіх навучальных устаноў, мелі цесныя кантакты з нямецкімі ўніверсітэтамі, а сярод выкладчыкаў было шмат нямецкіх прафесараў[32]. Планы перабудовы вышэйшай школы, падобныя да прапановы Карлсбадскай канферэнцыі, ужо выказваліся чыноўнікамі Міністэрства духоўных спраў і народнай асветы Расійскай імперыі, у тым ліку Аляксандрам Стурдзам і Лявонціем Магніцкім[33]. Ужо з 1819 г. пачынаюць абмяркоўвацца захады па рэарганізацыі сістэмы ўніверсітэцкай адукацыі, у тым ліку яе зместу, актыўна вядзецца цэнзураванне навучальных праграм і падручнікаў. У 1820 г. Міністэрства ўнутраных спраў звярнулася да рэктараў некаторых універсітэтаў з прапановай паўздзейнічаць на тых студэнтаў, якія выехалі на вучобу ў нямецкія ўніверсітэты, каб яны працягнулі адукацыю ў навучальных установах Расіі або іншых краін. У 1822 г. выйшаў загад міністра А. Галіцына, зацверджаны імператарам, паводле якога забаранялася расійскім падданым наведваць універсітэты ў Гейдэльбергу і іншых нямецкіх гарадах[34].

31 Тамсама, с. 180-181.

32 Е. Петухов, *Императорский Юрьевский, бывший Дерптский, университет за сто лет его существования (1802-1902): Исторический очерк*, т. 1 *: Первый и второй периоды (1802-1865),* Юрьев 1902, с. 338.

33 М. Сухомлинов, *Исследования и статьи по русской литературе и просвещению,* с. 182.

34 Е. Петухов, *Императорский Юрьевский, бывший Дерптский, университет за сто лет его существования (1802-1902)*, с. 342.

У 1820-1822 гг. адбыліся т.зв. пагромы ўніверсітэтаў у Казані і Пецярбургу. У 1819 г. сябра Галоўнага ўпраўлення па справах вучылішчаў Лявонцій Магніцкі быў накіраваны ў Казань для рэвізіі спраў мясцовага ўніверсітэта і Казанскай навучальнай акругі. Падчас праверкі выкрыліся значныя фінансавыя парушэнні, неахайнасць у справах выкладання, нізкая кваліфікацыя прафесараў і выкладчыкаў, слабыя веды студэнтаў. Л. Магніцкі прапанаваў увогуле закрыць універсітэт, як непатрэбны. 24 мая 1819 г. на сходзе Галоўнага ўпраўлення вучылішчаў быў зачытаны ўказ імператара па справе Казанскага ўніверсітэта. У ім прадпісвалася наступнае: увесці выкладанне багаслоўя і хрысціянскага вучэння; звольніць шэраг прафесараў, прызначыць паліцэйскага чыноўніка ў званні дырэктара для назірання за парадкам ва ўніверсітэце; папячыцелю скласці праект рэфармавання гімназіі. 15 верасня 1819 г. Л. Магніцкі рапартаваў міністру духоўных спраў і народнай асветы пра выкананне ўказа імператара аб прывядзенні ў парадак Казанскага ўніверсітэта[35]. Наступнай ахвярай стаў Пецярбургскі ўніверсітэт. Справа аб ім пачалася ў 1821 г. з адхілення цэнзурай кнігі прафесара Аляксандра Куніцына *«Историческое изображение древнего судопроизводства в России»*. Затым свавольства вучняў пансіёна пры ўніверсітэце прывяло да патрабавання з боку міністэрства ўзмацніць паліцэйскі нагляд і, нарэшце, да адстаўкі папячыцеля Пецярбургскай навучальнай акругі Сяргея Уварава. Новым папячыцелем быў прызначаны Дзмітрый Руніч, які правёў поўную рэвізію ўніверсітэта. У выніку тайнай праверкі зместу лекцый былі адхіленыя ад выкладання пяць прафесараў, а адзін звольнены, узмацніўся нагляд за студэнтамі[36]. Найменш пацярпеў Харкаўскі ўніверсітэт – за выступленні супраць Захара Карнеева, папячыцеля Харкаўскай навучальнай акругі, быў звольнены рэктар – вядомы матэматык Цімафей Асіпоўскі, а ў выкладанні ўзмацнілася роля рэлігіі.[37]

Пераўтварэнні ў Варшаўскім універсітэце, а затым і ў Віленскім, такім чынам, з'яўляліся звёнамі адзінага ланцуга дзеянняў па руйнаванні вышэйшай адукацыі, узмацненні ў ёй ролі

35 Ю. Кондаков, *Князь А. Н. Голицын: придворный, чиновник, христианин*, с. 158.
36 Тамсама, с. 159-160.
37 Тамсама, с. 160.

дзяржаўнага нагляду, знішчэнні рэштак аў універсітэцкай аўтаноміі і свабоды думак і выказванняў. Ролю Руніча і Магніцкага ў гэтых двух выпадках адыграў Мікалай Навасільцаў, які з 1813 г. займаўся польскімі справамі як давераная асоба імператара, а з 1816 г. – ягоны прадстаўнік пры ўрадзе Царства Польскага.

Асоба М. Навасільцава па-рознаму ацэньваецца ў польскай, беларускай і расійскай гістарыяграфіях. У расійскай гістарыяграфіі апошнім часам з'явіліся станоўчыя ацэнкі дзейнасці Мікалая Навасільцава ў дачыненні да польскіх і беларускіх зямель. Для імперыі, на думку некаторых расійскіх даследчыкаў, ён прынёс шмат карысці, імкнучыся інтэграваць нацыянальныя ўскраіны ў адзіны імперскі арганізм. Пры гэтым інтарэсы саміх т.зв. нацыянальных ускраін расійскія даследчыкі ставяць ніжэй, чым агульнаімперскія. Так, Алег Любезнікаў, які прысвяціў М. Навасільцаву кандыдацкую дысертацыю, піша наступнае: *"Дзейнічаючы ў рамках аляксандраўскай ліберальнай палітычнай парадыгмы, М. М. Навасільцаў, які заняў пасады паўнамоцнага дэлегата пры Дзяржаўным савеце Царства Польскага і папячыцеля Віленскай навучальнай акругі, імкнуўся правесці ў жыццё меры, якія спрыялі агульнаімперскай інтэграцыі жыхароў гэтых тэрыторый без гвалтоўнай русіфікацыі польскага насельніцтва або паланізацыі габрэйскага. Шчыра спрабуючы зацвердзіць аўтарытэт агульнаімперскай улады, дамагаючыся лаяльнасці насельніцтва заходняй ўскраіны імперыі, ён не ўлічваў глыбіню ментальных і сацыякультурных установак яе жыхароў, ступень укаранення ідэі незалежнасці сярод польска-літоўскага насельніцтва, з прычыны якой рэпрэсіўныя дзеянні, што праводзіліся ім у адносінах да таемных патрыятычных арганізацый, не давалі плёну"*[38].

Для беларускіх[39] і польскіх гісторыкаў М. Навасільцаў – адыёзная постаць, русіфікатар і знішчальнік вышэйшай школы, чалавек з нізкімі маральнымі якасцямі. *"Навасільцаў увайшоў у гісторыю Польшчы як цынічны і бязлітасны высокапастаўлены царскі чыноўнік, які неадкладна выконваў дырэктывы, атрыманыя з Пецярбургу, і каманды*

38 О. Любезников, *Николай Николаевич Новосильцов – государственный деятель императорской России первой трети XIX века,* Автореферат дисс. канд. ист. наук, Санкт-Петербург 2013, с.18.

39 *Філаматы і філарэты. Зборнік*, Мінск 1998; В. Швед, *Праявы ліцвінскасці (беларускасці) у дзейнасці вучнёўскіх і студэнцкіх гурткоў і таварыстваў на беларускіх землях (першая чвэрць XIX ст.),* „Białoruskie zeszyty historyczne", 2006,nr 26, s. 92-101 i nast.

*вялікага князя Канстанціна, жорстка ўціхамірваў вольналюбівыя памкненні палякаў і з дапамогай буйнамаштабных, шырокіх рэпрэсій, асабліва ў дачыненні да моладзі, у значнай ступені спрыяў паскарэнню росту антырасійскіх настрояў у Царстве Польскім, якія ў рэшце рэшт прывялі да непрадбачаных наступстваў"*[40], -- піша польскі даследчык Барталамей Шындлер. У лёсах Варшаўскага і асабліва Віленскага ўніверсітэтаў М. Навасільцаў адыграў, бясспрэчна, адмоўную ролю, быў не проста выканаўцам загадаў з Пецярбургу, а ініцыятарам і натхняльнікам разбурэння гэтых навучальных устаноў.

Першым па часе ў рэчышчы рэакцыйнай палітыкі ў дачыненні да вышэйшай школы пачаў пераўладкоўвацца Варшаўскі ўніверсітэт. Ужо ў 1819 г. з'яўляецца загад рэктара аб забароне студэнтам ствараць таварыствы і саюзы, збірацца на сходы па-за ўніверсітэцкімі сценамі[41]. У лістападзе гэтага ж года па ініцыятыве М. Навасільцава намеснік Юзаф Заёнчак выдаў распараджэнне аб неабходнасці прызначэння прэфектаў з ліку прафесараў універсітэта. У іх абавязкі ўваходзіла наведванне два разы на тыдзень студэнтаў у месцах пражывання для кантролю за іх паводзінамі. Намеснік рэктара, дэкан факультэта права Ян Бандке ў шматслоўным паданні напісаў пра немагчымасць выканання загада. Аргументамі паслужылі загружанасць прафесараў выкладчыцкай працай, а таксама меркаванне аб негатыўным уплыве такіх абавязкаў на іх аўтарытэт сярод студэнтаў. Адначасова пашыраныя былі паўнамоцтвы педалеў (выхавацеляў), якія атрымалі права ў адсутнасць прафесараў выконваць іх функцыі па кантролі за паводзінамі студэнтаў ва ўніверсітэце і даносіць аб парушэннях і непадпарадкаванні ўніверсітэцкаму начальству. У 1822 г., згодна з распараджэннем Міністэрства духоўных спраў і народнай асветы, прафесары ўніверсітэта мусілі два разы на тыдзень правяраць прысутнасць студэнтаў на лекцыях і паведамляць пра адсутных у дэканат[42].

Наступнай важнай вехай у справе ўзмацнення нагляду стаў кантроль за зместам лекцый, якія чыталіся ва ўніверсітэце. Прафесары, якія выкладалі так званыя палітычныя навукі (права,

40 B. Szyndler, *Mikolaj Nowosilcow (1762-1838): portret carskiego inkwizytora,* Warszawa 2004, s. 174.

41 R. Gawkowski, *Poczet Rektorow Uniwersytetu Warszawskiego. Monumenta Universitatis Varsoviensis. 1816–2016,* s. 31.

42 J. Bieliński, *Królewski uniwersytet Warszawski*, s. 144-146.

гісторыю і інш.), згодна з рэскрыптам Міністэрства духоўных спраў і народнай асветы ад 17 лютага 1823 г. мусілі перад пачаткам заняткаў прадстаўляць адміністрацыі ўніверсітэта не толькі тэматыку, але таксама кароткія тэзісы лекцый і спіс літаратуры, на якой яны грунтуюць свае заняткі[43]. Безумоўна, цэнзураванне тэзісаў лекцый яшчэ не гарантавала, што на саміх занятках прафесары не дазволяць сабе выказванняў, якія маглі б расцэньвацца як вольнадумныя. Мацей Яноўскі, у прыватнасці, адзначае: *"Кіраўніцтва асветы ў Варшаве так і не здолела знішчыць дух лібералізму ва ўніверсітэцкіх сценах; прафесары прадстаўлялі для кантролю агульныя канспекты лекцый, але пасля гаварылі – канешне, з пэўнай асцярожнасцю – тое, што хацелі"*[44]. Каб зрабіць кантроль паўнавартасным, трэба было мець давераных асоб -- даносчыкаў сярод студэнтаў, але агульны настрой студэнцкай моладзі не даваў на гэта шансаў.

Цалкам перабудаваць сістэму нагляду за Варшаўскім універсітэтам павінна была пастанова намесніка Царства Польскага аб увядзенні так званага школьнага Дазору, ухваленая 1 ліпеня 1823 г. Распрацоўка гэтага дакумента ініцыяваная Мікалаем Навасільцавым, які вызначыў асноўныя патрабаванні да арганізацыі нагляду за студэнтамі і выкладчыкамі ўніверсітэта, а таксама іншымі навучальнымі ўстановамі акругі. Непасрэдна распрацоўкай новых правіл займаўся сябра Камісіі духоўных спраў і народнай асветы Юзаф Каласанты Шаняўскі. Выконваючы функцыі кіраўніка справамі выхавання, Ю. Шаняўскі яшчэ ў 1819 г. распрацаваў праект стварэння Генеральнага куратарства – школьнай паліцыі, у веданні якой знаходзіліся б школы розных ступеняў, ад элементарных і да вышэйшай. Праект гэты быў праявай клопату аўтара не толькі аб ўзроўні адукацыі, але асабліва аб выхаванні маладога пакалення ў духу веры ў Бога, павагі да існага сацыяльнага ладу. У аснову праекта пакладзеная магчымасць умяшання інспектараў навучальных устаноў у пазашкольнае жыццё вучняў і ў іх рэлігійныя практыкі. У сферы інспектарскага кантролю знаходзіліся таксама прафесары і выкладчыкі ўніверсітэта, а станоўчая ацэнка грамадствам маральнасці і рэлігійнасці асобы была ўмовай уваходнага квітка

43 Тамсама, s. 97.
44 M.Janowski. Dz. cyt., s. 222.

ў сцены вышэйшай навучальнай установы[45]. Менавіта гэтыя прынцыпы былі рэалізаваныя ў прынятым 1 ліпеня 1823 г. дакуменце.

Паводле новых правіл функцыі навучання і выхавання былі падзеленыя: выкладчыкі павінныя былі толькі вучыць, а наглядаць за паводзінамі студэнтаў (як у сценах універсітэта, так і па-за імі) мусілі чыноўнікі, падпарадкаваныя генеральнаму куратару, які не ўваходзіў у штат універсітэта і падпарадкоўваўся непасрэдна намесніку. Ён меў права юрысдыкцыі ў стасунку да студэнтаў і вучняў; паўнамоцтвы цэнзара навучальных праграм, лекцый і падручнікаў; права кантролю за фінансамі, якія выдзяляюцца на справы асветы. У яго распараджэнні знаходзіліся інспектары і наглядчыкі, якія не падпарадкоўваліся ўніверсітэтскай ці вучылішчнай адміністрацыі. Апрача гэтага, у прынятым 1 ліпеня 1823 г. дакуменце прадугледжвалася стварэнне сеткі даносчыкаў з вучнёўскага і студэнцкага асяроддзя, у задачу якой уваходзіла паведамленне чыноўнікам Дазору пра ўсё, што перашкаджае вучобе ці выхаванню добранадзейнасці ў студэнтаў і вучняў.

Чыноўнікі на ўсе пасады ў новай кантрольнай службе прызначаліся. Генеральнага куратара прызначаў імператар, астатніх – Камісія духоўных спраў і народнай асветы. Ні ўніверсітэт, ні іншыя навучальныя ўстановы не мелі магчымасці неяк уплываць на гэтыя прызначэнні. Генеральны куратар, які ўваходзіў у склад камісіі, меў права не толькі кантраляваць дзейнасць універсітэта, у тым ліку змест выкладання, фінансавую дысцыпліну і інш., але прымаць непасрэдны ўдзел у кіраванні вышэйшай школай праз выданне рэскрыптаў на адрас рэктара, якія былі абавязковымі для выканання. Галоўнай мэтай усяго т.зв. Дазору на чале з генеральным куратарам, паводле распараджэння намесніка Юзафа Заёнчака, было *"чуванне над падтрыманнем духа набожнасці, маральнасці і добрых нораваў вучнёўскай моладзі"*[46]. Была распрацаваная градацыя пакаранняў – ад вымовы да публічнага выдалення з універсітэта без права вучобы ў Расійскай імперыі. Пры неабходнасці працаўнікі Дазору маглі прыцягваць для дапамогі паліцыю і іншыя карныя і следчыя органы.

---

45 E. Zarzycka-Pawlak, *Sylwetka naukowa Józefa K. Szaniawskiego na tle kultury filozoficznej pierwszej połowy XIX wieku,* [w]: *Zeszyty Naukowe Towarzystwa Doktorantów Uniwersytetu Jagiellońskiego.* Nauki Humanistyczne, nr spec. 2 (1/2011) Kierunki badawcze w filozofii. Materiały z czwartej ogólnopolskiej konferencji naukowej Kraków, 13-14 maja 2010 r., Kraków 2011, s. 114.

46 J. Bieliński, *Królewski uniwersytet Warszawski*, s. 146.

Такім чынам, пасля ўвядзення новых правіл нагляду за навучальнымі ўстановамі, у прыватнасці, Варшаўскім універсітэтам, апошні трапляў пад поўны кантроль дзяржаўнай адміністрацыі. Універсітэцкая Рада, рэктар, дэканы і прафесары ўніверсітэта афіцыйна пераводзіліся ў разрад чыноўнікаў, якія мусяць дакладна выконваць распараджэнні вышэйшых інстанцый; фактычна ліквідаванае самакіраванне і рэшткі ўніверсітэцкай незалежнасці.

З усіх універсітэтаў Расійскай імперыі ў 1823 г. рэвізіі пазбеглі толькі Маскоўскі і Віленскі ўніверсітэты. Універсітэт у Або (Турку), які таксама разглядаўся як "замежны", пачаў рэфармавацца з 1818 г. Зменены статут, т.зв. Канстытуцыя ўніверсітэта, узмацнілася роля дзяржавы ў яго дзейнасці, уведзеныя пасады інспектараў, якія, праўда, прызначаліся з саміх прафесараў універсітэта[47]. Дэрптскі ўніверсітэт, які знаходзіўся ў прывілеяваным становішчы, таксама зазнаў некаторае рэфармаванне: заменены куратар універсітэта, пазбаўлены працы "нядобранадзейны" прафесар Ёхан Снэль, забаронена прымаць ва ўніверсітэт тых, хто раней наведваў замежныя, найперш нямецкія, універсітэты[48]. Маскоўскі ўніверсітэт не быў рэвізаваны дзякуючы моцнай пазіцыі яго куратара князя Андрэя Абаленскага, прызначанага на пасаду ў 1817 г. па пратэкцыі самога міністра А. Галіцына.

Варшаўскі ўніверсітэт фактычна стаў пунктам, з якога пачаўся наступ на адзіную ў Расійскай імперыі нерэфармаваную вышэйшую школу – у Вільні. Пакуль куратарам Віленскага ўніверсітэта заставаўся Адам Чартарыйскі, які яшчэ не страціў даверу Аляксандра I, прадпрымаць нейкія рашучыя дзеянні ў дачыненні да яго і падуладнага яму ўніверсітэта было цяжка. А. Чартарыйскі зрабіў некаторыя захады, каб стварыць выгляд рэфармавання ўніверсітэта. Занепакоенасць А. Чартарыйскага сітуацыяй, што складаецца вакол універсітэта, адчуваецца ў яго лістах да Яна Снядэцкага, з якім ён дзяліўся сваімі планамі ва ўніверсітэцкіх справах. У прыватнасці, ён піша: "*Цяперашні час няпросты і патрабуе, каб у супольнасці выкладчыкаў побач з руплівасцю панавалі ўвішнасць і адзінства. Трэба*

47 *Императорский Александровский университет в Финляндии: Очерк его организации и значения в общественной жизни Финляндии,* Санкт-Петербург 1902, с. 24-30.

48 Е. Петухов, *Императорский Юрьевский, бывший Дерптский, университет за сто лет его существования (1802-1902)*, с. 341-344.

*таксама, каб універсітэт цалкам давяраў свайму куратару і разумеў, што нават калі ў сваіх дзеяннях ён* [куратар] *не заўсёды дасягае чаканых вынікаў, але хаця б вялікшым непрыемнасцям не дае адбыцца (…) крокі мае, якія я не павінен тлумачыць, маюць адзіную мэту – зберагчы ад патрасенняў народную адукацыю"*. Замена ў чэрвені 1822 г. Шымона Малеўскага на Юзафа Твардоўскага на рэктарскай пасадзе была з боку А. Чартарыйскага спробай залагодзіць сітуацыю. Ю. Бяліньскі адзначае: *"Князь-куратар, ведаючы пра ўсё, што адбывалася ў Вільні (было гэта яшчэ перад філарэцкай навальніцай), а што ў Пецярбургу, і разумеючы, што на кампраміс можна пайсці толькі ў тым выпадку, калі рэктара, які мае старыя погляды, замяніць на нейтральную асобу, якая чэрпае натхненне ад куратара, даў зразумець, што Малеўскаму пара адпачыць, бо болей за 30 гадоў выкладае ва ўніверсітэце"*.

По даручэнні куратара ў канцы 1822 г. створаная спецыяльная ўніверсітэцкая камісія пад кіраўніцтвам рэктара Юзафа Твардоўскага. Яна пачала распрацоўку ўласнай інструкцыі аб наглядзе за паводзінамі студэнтаў і вучняў, вучылішчнай паліцыі, абавязках і правах вучняў і студэнтаў і аб цэнзуры. Згодна з праектам, падрыхтаваным у пачатку 1823 г., павінна была павялічыцца колькасць наглядчыкаў, якія сачылі за паводзінамі студэнтаў на кватэрах, спецыяльным пунктам забаранялася арганізацыя таварыстваў без згоды кіраўніцтва, павялічваўся склад цэнзурнага камітэта і г. д.[49] Гэты праект не быў дапрацаваны, паколькі ў траўні 1823 г. адбыліся вядомыя падзеі ў Віленскай гімназіі, якія паклалі пачатак справе аб філарэтах і філаматах.

Першыя асцярожныя крокі па пераўладкаванні Віленскага ўніверсітэта на ўзор Варшаўскага былі зробленыя Мікалаем Навасільцавым падчас побыту ў Вільні ў пачатку следства па справе тайных таварыстваў. Для азнаямлення і выкарыстання ён перадаў Юзафу Твардоўскаму праект арганізацыі нагляду ў Варшаўскім універсітэце, т. зв. *Дазору*, пра які пісалася вышэй. Віленскі рэктар зрабіў падрабязны аналіз гэтага дакумента і абгрунтаваў немагчымасць яго выкарыстання ў нязмененым выглядзе ў давераным яму ўніверсітэце.

49 J. Bieliński, *Reforma Uniwersytetu wileńskiego i szkół jemu podwładnych za rektoratu Twardowskiego,* Kraków 1895, s. 5-10.

Гэты дакумент цалкам друкуе Ю. Бяліньскі ў адной са сваіх прац[50]. На думку Ю. Твардоўскага, мэты і задачы, якія дэкларуюцца ў першай частцы гэтага дакумента, -- выхаванне маральнасці, спрыянне вучэбнай дзейнасці – цалкам стасуюцца да тых задач, якія прапісаныя ў Статуце Віленскага ўніверсітэта. Што ж тычыцца арганізацыйнай часткі нагляду, ён мяркуе, што ўсе неабходныя дзеля гэтага пасады і асобы ўжо ёсць і ва ўніверсітэце, і ў навучальнай акрузе, трэба толькі больш дакладна вызначыць іх правы і абавязкі. Рэктар, між іншым, заўважае, што ў Віленскай навучальнай акрузе няма строгага падзелу на вучэбныя і наглядальныя функцыі, а нагляд ажыццяўляюць тыя ж асобы, што і вучаць: прафесары, выкладчыкі і настаўнікі. Увесь час падкрэсліваючы, што праект арганізацыі Дазору ў Царстве Польскім вельмі карысны і мае шмат падабенства з правіламі, якія ўжо распрацаваныя ў Вільні пад ягоным кіраўніцтвам, Ю. Твардоўскі адначасова знаходзіць аргументы, якія дазваляюць пакінуць парадак, які існуе ў Віленскай навучальнай акрузе, без значных змен. У прыватнасці, ён лічыць немэтазгодным спецыяльна агаворваць магчымасць прыцягнення паліцыі для дапамогі ва ўніверсітэцкіх справах, немагчымым і непатрэбным называе патрабаванне аб вызначэнні чыноўнікамі месцаў, у якіх могуць жыць студэнты і вучні, не згаджаецца з патрабаваннем прадастаўлення дакументаў аб добрых паводзінах для залічэння ва ўніверсітэт і г. д. Асабліва рашуча Ю. Твардоўскі адмаўляе ўвядзенне цялесных пакаранняў для студэнтаў і вучняў, пра што пісалася ў варшаўскім праекце. Адным з аргументаў, які, на думку рэктара, робіць немагчымым увядзенне спецыяльнай універсітэцкай і вучылішчнай паліцыі, былі вялікія выдаткі на аплату яе чыноўнікаў, якія не можа дазволіць сабе ўніверсітэт і ўвогуле Віленская навучальная акруга.

Пасля рапарта Ю. Твардоўскага з аналізам парадку, уведзенага ў Варшаўскім універсітэце, А. Чартарыйскі накіраваў ліст у Міністэрства духоўных спраў і народнай адукацыі. Віленскі куратар быў прынцыпова супраць стварэння спецыяльнай паліцыі ў самім універсітэце. На ягоную думку, наглядчыкі патрэбныя былі толькі для кантролю за паводзінамі студэнтаў па-за ўніверсітэтам, найперш, на кватэрах, дзе яны жылі. У лісце да міністра асветы і духоўных

50 Тамсама, s. 11-25.

спраў А. Галіцына ён пісаў, што ва ўніверсітэце дастаткова пільнасці саміх прафесараў, яны самі здольныя падтрымаць дысцыпліну сярод студэнтаў, што можна павялічыць колькасць педалеў (выхавацеляў), даць спецыяльныя інструкцыі кіраўніцтву ўніверсітэта, але ствараць адмысловы орган, як гэта зроблена ў Варшаўскім універсітэце, няма патрэбы[51].

Юзаф Бяліньскі, працы якога па гісторыі Варшаўскага і Віленскага ўніверсітэтаў у XIX ст. да сёння не згубілі сваёй каштоўнасці і з'яўляюцца, на нашую думку, найбольш грунтоўнымі і поўнымі, следам за Ю. Твардоўскім зрабіў параўнанне органаў нагляду за дзейнасцю абодвух універсітэтаў напярэдадні разгрому ўніверсітэта ў Вільні ў сувязі са справай філарэтаў і філаматаў. У яго апрацоўцы сітуацыя выглядала наступным чынам (табліца 1).

**Табліца 1. Органы нагляду ў Віленскім і Варшаўскім універсітэтах у 1823 г.**[52]

| **Віленскі ўніверсітэт** | **Варшаўскі ўніверсітэт** |
|---|---|
| ***Знешні нагляд*** | ***Знешні нагляд*** |
| Міністр міністэрства духоўных спраў і народнай асветы | Урадавая камісія па справах рэлігійных канфесій і грамадскай асветы |
| Галоўнае ўпраўленне вучылішчаў | Генеральны куратар, сябра камісіі з дарадчым голасам, прызначаны па загаду цара |
| Куратар, член Галоўнага ўпраўлення вучылішчаў, прызначаны згодна з загадам міністра | Камітэт з чатырох асесараў і візітатараў пад кіраўніцтвам генеральнага куратара |
| ***Нагляд ва ўніверсітэце*** | ***Нагляд ва ўніверсітэце*** |

51 *РГИА*, ф. 733, оп. 63, д. 8502, л. 1-5.
52 J. Bieliński, *Królewski uniwersytet Warszawski*, s. 220-221.

| | |
|---|---|
| Рэктар | Інспектар, прызначаны Урадавай камісіяй па справах рэлігійных канфесій і асветы па прадстаўленні генеральнага куратара |
| Дэканы факультэтаў | Інспектары факультэтаў, прызначаныя Урадавай камісіяй па справах рэлігійных канфесій і асветы па прадстаўленні генеральнага куратара |
| Два педалі (выхавацелі) для нагляду за вучнямі ў аўдыторыях і ў горадзе | Падінспектары для нагляду за студэнтамі па-за ўніверсітэтам, прызначаныя генеральным куратарам са студэнтаў, па адным на 20-30 чалавек |
| Прыватныя наглядчыкі, прызначаныя рэктарам, па адным на кожныя 10 чалавек, без аплаты | |

Як паказвае параўнанне дзвюх сістэм нагляду, у Вільні галоўную ролю ў гэтай справе адыгрывалі выкладчыкі і працаўнікі ўніверсітэта. Гэта гарантавала карпаратыўную салідарнасць, большы давер паміж студэнтамі і прафесарамі, захаванне духу лібералізму, закладзенага падчас заснавання ўніверсітэта. Сапраўды, атмасфера, якая панавала ў вышэйшай школе ў Вільні, значна адрознівала яе ад іншых універсітэтаў Расійскай імперыі. Дастаткова ўзгадаць узаемаадносіны прафесараў-цэнзараў і аўтараў-студэнтаў, або згадкі пра стаўленне тагачаснага кіраўніцтва ўніверсітэта да студэнцкіх таварыстваў.

Выпадак у Віленскай гімназіі, а затым няўдалая авантура Юзафа Масльскага далі магчымасць М. Навасільцаву, адсунуўшы А. Чартарыйскага ад куратарства, распачаць пераўтварэнне Віленскага ўніверсітэта[53]. Адзначым, што разгром вышэйшай школы

53 Падрабязней аб справе філарэтаў і філаматаў, акалічнасцях і ўмовах пагрому Віленскага ўніверсітэта аўтар згадвае ў: С. Куль-Сяльверстава, *Студэнцкія тайныя таварыствы і разгром Віленскага ўніверсітэта (1820—1824 г.),* «ARCHE-Пачатак», 2015, № 9 (142), с. 219-242.

ў Вільні адбываўся паводле сцэнара, ужо адпрацаванага ў іншых расійскіх універсітэтах. Таксама як у Пецярбургскім, повадам да ўмяшальніцтва ва ўніверсітэцкія справы стала свавольства гімназістаў; як і ў Варшаве, былі адцэнзураваныя канспекты лекцый (найперш па філасофіі і праву); таксама як у Казанскім і Дэрптскім універсітэтах, былі звольненыя папулярныя выкладчыкі; як у Харкаўскім, сваю пасаду страціў рэктар універсітэта. У выпадку Вільні розніца была ў тым, што падставай для разгрому служыла не слабая маральнасць ці занядбанне фінансавай дысцыпліны, а мясцовы ліцвінскі патрыятызм студэнтаў і выкладчыкаў. Менавіта таму ўлады ў асобе М. Навасільцава дзейнічалі асабліва жорстка, выкарыстоўваючы метады, якія не дазвалялі сабе ў іншых навучальных акругах. Велізарным непаразуменнем у вачах мясцовай супольнасці, да прыкладу, быў арышт М. Навасільцавым рэктара Ю. Твардоўскага. Станіслаў Мараўскі піша: *"У гэты ж час расіяне, якія не разумелі яшчэ тады годнасці навукі і асветы, не маглі дадумацца, што гэты арышт рэктара важным можа быць для нашага краю выпадкам. У іх рэктар – чыноўнік, такі самы, як павятовы страпчы ці паліцэйскі асэсар"*[54]. І сапраўды, зважаючы на становішча прафесараў і выкладчыкаў Варшаўскага ўніверсітэта, менавіта такое стаўленне расійскіх улад было ў той час нормай. Залішне жорсткім у вачах сучаснікаў-ліцвінаў падавалася тое, што гімназістаў і студэнтаў за дзіцячыя свавольствы і сяброўства кінулі ў вязніцы і разгарнулі велізарнае следства. Але для Расійскай імперыі такое стаўленне да вучнёўскай моладзі было ўжо ўзаконенае. У Казанскім універсітэце Л. Магніцкі практыкаваў зняволенне студэнтаў за правіннасці ў спецыяльны турэмны пакой. Інструкцыя, якая тлумачыла функцыі і паўнамоцтвы т. зв. Дазору ў Варшаўскім універсітэце, прадугледжвала магчымасць арышту студэнта за злачынства ці неадпаведныя паводзіны паводле рашэння генеральнага куратара. Тэрмін арышту мог складаць ад адной гадзіны да двух месяцаў, а віну студэнта акрэсліваў сам куратар[55].

Пасля замены рэктара і завяршэння следства ў Віленскім універсітэце былі ўведзеныя амаль тыя ж правілы нагляду, што

54 S. Morawski, *Kilka lat młodości mojej w Wilnie,* Warszawa 1924, s.188.
55 J. Bieliński, *KrólewskI uniwersytet Warszawski,* s. 161.

і ў Варшаўскім. Ю. Бяліньскі піша, што гэтыя правілы грунтаваліся на праекце, распрацаваным яшчэ ў час рэктарства Ю. Твардоўскага, а новы рэктар Венцэслаў Пелікан толькі ўнёс у іх некаторыя папраўкі і ўдакладненні[56]. На наш погляд, гэтыя ўдакладненні былі даволі істотнымі і наўпрост пераклікаліся з прынцыпамі варшаўскага Дазору. Дэканы, як і рэктар, цяпер не абіраліся, а прызначаліся, прытым пажыццёва. Адхіліць ад пасады іх мог толькі куратар[57]. У наглядзе за студэнтамі і вучнямі былі пашыраныя паўнамоцтвы гарадской паліцыі, у прыватнасці, адміністрацыя навучальных устаноў мусіла рэгулярна падаваць у паліцэйскія органы спісы студэнтаў і вучняў з пазначэннем месца іх пражывання[58]. Павялічылася колькасць наглядчыкаў, якія кантралявалі студэнтаў і вучняў як па месцы іх жыхарства, так і ў сценах навучальнай установы. Надзвычай пільны нагляд ажыццяўляўся за літаратурай, якую трымалі ў сябе студэнты і вучні. Згодна з правіламі, уведзенымі куратарам, вучні гімназій і вучылішчаў маглі мець толькі падручнікі і іншую вучэбную літаратуру, прадпісаную праграмай. Пры ад'ездзе з горада студэнт мусіў паведамляць пра гэта дэкану, дазвол патрэбны быў на наведванне тэатра ці балю, абавязковымі рабіліся студэнцкія і вучнёўскія мундзіры, нельга было збірацца без дазволу адміністрацыі ўніверсітэта ці гімназіі нават у выпадку сумеснай падрыхтоўкі да заняткаў і інш.[59]

Кардынальным чынам змяніўся кантроль над фінансамі ўніверсітэта. У час куратарства М. Навасільцава быў уведзены фактычна той парадак, які ён усталяваў у Варшаўскім універсітэце: фінансы знаходзіліся ў поўным веданні куратара, праўленне ўніверсітэта, якое раней імі распараджалася і давала ўніверсітэцкай радзе справаздачы аб выкарыстанні сродкаў, было адхіленае ад гэтых правоў і абавязкаў. Раскраданне ўніверсітэцкіх фундушаў М. Навасільцавым і набліжанымі да яго асобамі неаднаразова было падставай для скаргаў у вышэйшыя інстанцыі[60].

56 Тамсама, s. 222.
57 *Государственный архив Российской Федерации* (далей – ГАРФ), ф. 109, оп. 2, 1824, д. 396, л. 1 об.
58 *Lietuvos valstybinis istorios archyvas*, f. 721, ap. 1, b. 423, lp. 38.
59 *РГИА*, ф. 732, оп. 2, д.270, л. 1-13.
60 *ГАРФ*, ф. 109, оп. 3, д. 164, л. 91 об.

У 1827 г. парадак нагляду за студэнтамі і вучнямі гімназій, прыняты ў Віленскай навучальнай акрузе, быў распаўсюджаны на ўсе навучальныя акругі Расійскай імперыі[61].

Цалкам змяніць прынцыпы, на якіх дзейнічаў Віленскі ўніверсітэт, пераўтварыць яго ў дзяржаўную ўстанову накшталт універсітэта ў Варшаве, дзе выкладчыкі выконвалі ролю чыноўнікаў, а кіраванне ўніверсітэтам знаходзілася ў руках генеральнага куратара, М. Навасільцаў так і не здолеў, нягледзячы на ўсе намаганні. Па-першае, працягваў дзейнічаць Статут 1803 г., зацверджаны царом, што абмяжоўвала рэфармаванне ўніверсітэта. Па-другое, у 1824 г. А. Галіцына, які падтрымліваў пачынанні М. Навасільцава, на пасадзе міністра духоўных спраў і народнай асветы замяніў А. Шышкоў, што варожа ставіўся да пачынанняў свайго папярэдніка. А яшчэ праз год змена манарха паклала пачатак новай, яшчэ больш рэакцыйнай палітыцы ў галіне асветы.

Лёс Варшаўскага і Віленскага ўніверсітэтаў па-рознаму складваўся ў Расійскай імперыі. Віленскі, заснаваны ў часы ліберальнай палітыкі расійскіх улад, у першай чвэрці XIX ст. стаў сапраўдным цэнтрам патрыятычнага выхавання моладзі, захоўваў традыцыі еўрапейскіх універсітэтаў: самакіраванне, аўтаномію, карпаратыўную салідарнасць. Варшаўскі ўніверсітэт ствараўся ў часы рэакцыі, калі ў большай частцы Еўропы, у тым ліку ў Расійскай імперыі, пачынаецца падпарадкаванне ўніверсітэтаў дзяржаве, ліквідацыя даўніх дэмакратычных традыцый вышэйшай школы. Розніца эпох абумовіла і розніцу ва ўнутраным уладкаванні ўніверсітэтаў, і ў выніку – ступень і жорсткасць рэпрэсіўных дзеянняў расійскіх улад у дачыненні да ўніверсітэцкай супольнасці. Віленскі ўніверсітэт быў разгромлены і разрабаваны, Варшаўскі адразу працаваў як установа адукацыі, якую цалкам кантралююць улады. Абодва ўніверсітэты, нягледзячы на намаганні ўлад, выхавалі пакаленне, якое адзначылася актыўнай барацьбой супраць захопнікаў, ствараючы тайныя таварыствы і змагаючыся ў шэрагах паўстанцаў у 1830 г. Абодва былі закрытыя пасля паўстання, але Варшаўскі адноўлены на паўстагоддзя раней, чым Віленскі.

61 *РГИА*, ф. 732, оп. 2, 1827, д. 270, л. 1.

## Streszczenie

Swiatłana Kul-Sialwierstawa, *Uniwersytety Warszawski i Wileński podczas reformy uniwersyteckiej lat 1819-1823*

Uniwersytet Warszawski odegrał istotną rolę w reformie uniwersyteckiej w Cesarstwie Rosyjskim w latach 1819-1823. Był on wzorem, według którego władze carskie chciały zreformować uniwersytet w Wilnie. Uniwersytet Wileński był założony w okresie liberalnej polityki Aleksandra I, co pozwoliło na zachowanie tradycji europejskich w procesie jego organizacji i w funkcjonowaniu. Zgodnie ze statutem z 1803 r. oraz *Aktem założenia* uniwersytet w Wilnie miał względną autonomię, w tym finansową, oraz samorząd, który był ograniczany tylko władzą kuratora Adama Czartoryskiego i wspierał tradycje solidarności grupowej. Uniwersytet Warszawski powstał w epoce charakteryzującej się wzmocnieniem konserwatywnej polityki bezpieczeństwa w Cesarstwie Rosyjskim. Jedną z podstawowych zasad jego działalności była pełna kontrola państwa nad procesem edukacyjnym i wychowawczym, a wykładowcy byli traktowani jak urzędnicy podporządkowani administracji centralnej. Przekształcenie uniwersytetów europejskich, zainicjowane przez Austrię, spotkało się ze wsparciem innych krajów Świętego Przymierza. W Cesarstwie Rosyjskim od 1819 r. rozpoczyna się rewizja uniwersytetów, zmieniani są kuratorzy okręgów szkolnych, zwalniani są liberalni rektorzy i wykładowcy, weryfikowane są treści edukacyjne. Na początku 1823 r. niezreformowane były tylko Uniwersytet Moskiewski, który i bez tego znajdował się po kontrolą władzy, oraz uniwersytet w Wilnie. W Królestwie Polskim, z inicjatywy Nikołaja Nowosilcowa, została zorganizowana tzw. Szkolna Straż – struktura niezależna od uniwersytetu, którą kierował kurator generalny. Jego zadaniem była kontrola działalności placówek naukowych, przede wszystkim Uniwersytetu Warszawskiego. Otrzymał prawo do kontrolowania zachowań studentów i uczniów nie tylko w murach szkolnych, ale również i w życiu prywatnym. Wprowadzono cenzurę zajęć, zweryfikowano program nauczania. W 1823 r. Nowosilcow zaproponował rektorowi Uniwersytetu Wileńskiego rozważenie możliwości wprowadzenia takich samych porządków w Wilnie. Ale Józef Twardowski, wsparty przez Adama Czartoryskiego, odmówił ze względu na sprzeczność tych zasad ze statutem uczelni. Po rezygnacji Czartoryskiego i procesie filomatów

i filaretów Nowosilcow wprowadził w okręgu wileńskim znaczną część zasad kontroli, wypróbowanych na Uniwersytecie Warszawskim. Na tej podstawie zreorganizowana została państwowa kontrola nad placówkami edukacyjnymi w wileńskim okręgu szkolnym. W 1827 r. taki porządek, zgodnie z nakazem Ministerstwa Spraw Duchowych i Oświaty Publicznej, został rozszerzony na inne okręgi szkolne Cesarstwa Rosyjskiego.

**Summary**

Sviatlana Kul-Sialviestrava, *The Universities of Warsaw and Vilnius during the University Reform (1819-1823)*

The University of Warsaw played a significant role in the Russian Empire's university reform in the years 1819-1823. It was a model, according to which the imperial authorities wanted to reform the University of Vilnius. The University of Vilnius was established during a period of liberal policy by Alexander I, which allowed it to retain European traditions in the process of its organization and functioning. In accordance with the 1803 statute and the *Act of Establishment*, the University of Vilnius possessed relative autonomy, including over its finances and self-government, which was only limited by the authority of its curator, Adam Czartoryski, and which supported the tradition of group solidarity. The University of Warsaw was the effect of an epoch which was characterised by the strengthening of conservative security policy in the Russian Empire. One of the fundamental principles of its activity was the state's full control over the educational and didactic process, while lecturers were treated as state officials subordinated to the central administration. The transformation of European universities initiated by Austria was met with the support of other Holy Alliance countries. In the Russian Empire, the revision of universities began in 1819 – school district curators were replaced, liberal rectors and lecturers were fired and educational content was verified. By the beginning of 1823, only the University of Moscow remained unreformed, finding itself under the control of the authorities, just like the University of Vilnius. On the initiative of Nikolay Novosiltsev, a so-called "School Guard" was formed in the Kingdom of Poland – a structure independent of the university, under the stewardship of the curator general. Its assignment was to control the activity of academic institutions, mainly the University of

Warsaw. It not only possessed the right to control the behaviour of students and pupils within school walls, but also within the privacy of their own homes. A censure of school subjects was carried out and the learning curriculum was verified. In 1823, Novosiltsev proposed to the rector of the University of Vilnius to consider introducing the same types of measures in Vilnius. However, Józef Twardowski, supported by A. Czartoryski, refused on account of the discrepancy of these principles with the school's statute. Following Czartoryski's resignation and the trial of Philomaths and Filarets, Novosiltsev introduced a large number of principles of control, previously tried out at the University of Warsaw. On this basis, state control of educational institutions in the Vilnius school district was reorganised. In 1827, this agenda – in accordance with the order of the Ministry of Religious Affairs and Public Education – was widened to include other school districts of the Russian Empire.

**Сяргей Токць**
**(Варшава/Гродна)**

# ШЛЯХТА БЕЛАРУСІ І БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ РУХ У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX – ПАЧАТКУ XX ст.

Пытанні станаўлення беларускага нацыянальнага руху выклікаюць вялікую зацікаўленасць сярод даследчыкаў пачатку XXI ст. Актуальнасць гэтай праблематыкі ў значнай ступені абумоўленая няпростым працэсам станаўлення беларускай дзяржаўнасці і ўзроўнем нацыянальнай самасвядомасці беларусаў на сучасным этапе. Характэрнай з'явай у развіцці азначанага накірунку даследаванняў стаў пошук канцэптуальных падыходаў, якія б далі магчымасць знайсці адэкватныя адказы на вельмі складаныя пытанні. На сённяшні дзень у свеце існуе вялізная колькасць навуковых прац, прысвечаных тэарэтычным аспектам развіцця мадэрных нацый і нацыяналізмаў. Натуральным крокам для даследчыкаў беларускага нацыяналізму сталі спробы выкарыстання тэарэтычных мадэлей, выпрацаваных такімі вядомымі прадстаўнікамі гэтага навуковага накірунку, як Эрнэст Гелнэр, Энтані Сміт, Міраслаў Грох і інш. Таксама больш увагі звяртаецца цяпер на агульна- і ўсходнееўрапейскі кантэксты генезісу беларускага руху, праблемы яго ўзаемадзеяння з польскім, расійскім, украінскім і іншымі нацыянальнымі праектамі. На нашу думку, узровень даследаванасці азначанай праблематыкі за апошнія дваццаць гадоў кардынальна ўзрос. Аднак застаюцца недастаткова даследаванымі і нявысветленымі асобныя пытанні і аспекты беларускага нацыянальнагу руху. Да іх ліку, як нам уяўляецца, належаць сацыяльныя аспекты зараджэння беларускага нацыяналізму, роля асобных сацыяльных груп тагачаснага грамадства ў яго генезісе. Асабліва цікавым і спрэчным застаецца пытанне ўнёску ў гэты працэс прадстаўнікоў шляхецкага стану. У дадзеным артыкуле зроблена спроба знайсці адказ менавіта на гэтае пытанне.

Адным з найбольш грунтоўных даследаванняў нацыянальнай свядомасці жыхароў Беларусі XIX ст. з'яўляецца праца польскага сацыёлага Рышарда Радзіка *"Między zbiorowością etniczną a wspólnotą narodową: Białorusini na tle przemian narodowych w Europie Srodkowo-*

*Wshodniej XIX stuliecia*”[1]. Радзік вылучыў тэзу пра запозненасць працэсу фармавання мадэрнай беларускай нацыі ў параўнанні з іншымі народамі Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Адной з трох асноўных прычын гэтага (апроч зместу традыцыйнай культуры беларусаў і палітыкі ўлад Расійскай імперыі) ён лічыць асаблівасці сацыяльнай структуры грамадства Беларусі, а дакладней менавіта тое, што да беларусаў, на яго думку, належала амаль выключна сялянства[2], ды яшчэ падзеленае паводле веравызнання на праваслаўных і каталікоў (пасля ліквідацыі ўніяцкай царквы ў 1839 г.).

Традыцыя адносіць шляхту на ўсходніх абшарах Рэчы Паспалітай да палякаў, а сялян – да русінаў і літвінаў у навуковай літаратуры і статыстычных даведніках была закладзеная ў першай палове XIX ст. У 1825 г. ва Уроцлаве выдадзена на польскай мове даследаванне Станіслава Плятэра «*Jeografia wshodniej części Europy*», у якім прыводзіліся дадзеныя пра этнічны склад насельніцтва на абшарах былой Рэчы Паспалітай. Шляхта і мяшчане хрысціянскага вызнання на землях сучаснай Беларусі ў гэтай працы акрэсліваюцца як палякі, а сяляне – як русіны і літвіны[3]. Адносна русінаў аўтар сцвярджаў, што іх мову можна лічыць дыялектам польскай. У выдадзеным у 1838 г. у Парыжы статыстычным даследаванні Анджэя Славачыньскага сялянства Беларусі і Украіны аднесенае да “рускай сям’і”: “*Ród słowiański, najliczniejszy jest w rodzinie ruskiej, która dzieli się na trzy gałęźy, na gałęź białoruską i czarnoruską, na ukraińską, podolską i wołynską, i na czerwonoruską czyli galicką. Dzwie pierwsze i ostatnia najbardziej się zbliżają do Polaków*”[4]. Такім чынам, сялянскае насельніцтва на тэрыторыі сучаснай Беларусі Славачыньскі называў “беларусамі” і “чарнарусамі”. Потым гэты падыход выкарыстоўваўся ў статыстычных даследаваннях, якія праводзіліся ўжо па ініцыятыве расійскай улады.

На думку Рышарда Радзіка, у беларускім грамадстве ў XIX ст. адсутнічала сацыяльная група, якая была б зацікаўленая ў стварэнні

1 R. Radzik, *Między zbiorowością etniczną a wspólnotą narodową: Białorusini na tle przemian narodowych w Europie Srodkowo-Wshodniej XIX stuliecia,* Lublin 2000.

2 Тамсама, s. 257.

3 S. Plater, *Jeografia wshodniej części Europy czyli opis krajów przez wielorakie narody słowiańskie zamieszkałych*, Wrocław 1825.

4 *Polska w kształcie Dykcyonariusza historyczno-statystyczno-jegraficznego opisana przez Jędzreja Słowaczyńskiego*, Paryż 1833-1838, s. XXVI.

мадэрнай беларускай нацыі і магла актыўна падтрымаць гэты працэс[5]. Такой сацыяльнай групай, напрыклад, выступала ў заходніх украінцаў, што жылі ў імперыі Габсбургаў, уніяцкае духавенства. Шляхта ж Беларусі, як лічыць Радзік, не магла стаць сацыяльнай базай беларускага нацыянальнага руху, паколькі нідзе ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе шляхта не выступала ініцыятарам мадэрных нацыянальных рухаў, якія развіваліся пад эгалітарысцкімі лозунгамі і ставілі пад сумніў яе пануючыя сацыяльныя пазіцыі[6]. Вядомы чэшскі даследчык і аўтар тэорыі развіцця нацыянальных рухаў "малых" народаў Еўропы (да іх ліку ён адносіў і беларусаў) Міраслаў Грох таксама сцвярджае, што адносна ўдзелу шляхты ў працэсах нацыябудаўніцтва гэтых народаў дзейнічала наступнае правіла: калі прадстаўнікоў шляхты няма ў сацыяльнай структуры этнічнай групы на самым пачатку развіцця нацыянальнага руху, дык і пазней яны не з'яўляцца сярод нацыянальных актывістаў[7]. У дадзеным выпадку "няма" азначае адсутнасць у статыстычных дадзеных, якія ў той перыяд заўсёды з'яўляліся вельмі моцным спрашчэннем складанай рэальнасці.

Рышард Радзік пагаджаецца, што прадстаўнікі шляхецкага саслоўя аказалі вялікую падтрымку беларускаму нацынальнаму руху, але гэтая падтрымка мела выключна культурніцкі характар, выяўлены найперш у літаратурнай форме, а не нацыянальна-палітычны[8]. Творцы "новай" беларускай літаратуры шляхецкага паходжання, такія як Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Францішак Багушэвіч і іншыя, з'яўляліся культурна амбівалентнымі людзьмі ў сэнсе засваення як "высокай" (польскай) культуры, так і народнай (беларускай). Больш таго, пачынальнікі беларускай літаратуры надалі ёй выразна "плебейскі" характар, паколькі беларускай мовай у іх творах карысталіся выключна прадстаўнікі сялянства, у той час як эліты размаўлялі по-польску ці па-руску, а гэта, як лічыць Радзік, мела істотныя негатыўныя наступствы для спецыфікі далейшага развіцця беларускага руху[9].

5 Тамсама, s. 259.
6 Тамсама, s. 264.
7 M. Hroch, *Małe narody Europy,* Wrocław 2003, s. 87.
8 Тамсама, s. 265.
9 Тамсама, s. 266-267.

Сярод манаграфічных даследаванняў беларускіх аўтараў, прысвечаных праблематыцы працэсу фармавання мадэрнай беларускай нацыі, канцэптуальны характар маюць працы Паўла Церашковіча і Валера Булгакава. Манаграфія Церашковіча грунтуецца на палажэннях мадэрнізацыйнай тэарэтычнай парадыгмы[10]. Аўтар таксама пагаджаецца з тэзай аб запозненасці беларускага нацыянальнага руху: *"Белорусы стали одним из последних народов в Европе, вставшим на путь национальной консолидации, что, впрочем, характерно для всей восточной части Центрально-Восточной Европы"*[11]. Галоўнай прычынай гэтага, на думку Церашковіча, была ніжэйшая ступень агульнай мадэрнізаванасці грамадства Беларусі ў параўнанні з суседнімі краінамі.

Калі Церашковіч параўноўвае беларусаў з украінцамі, дык галоўную ролю адводзіць фактару гістарычнай памяці і ролі так званага Пьемонта (да якога залічвае ўкраінскую Галіцыю ў імперыі Габсбургаў). У даследаванні фактара гістарычнай памяці, на думку Церашковіча, у першую чаргу патрэбна звярнуць увагу на тыя сацыяльныя групы, для якіх гэтая памяць з'яўлялася важным культурным капіталам. Такой сацыяльнай групай ва Украіне, паводле гэтага аўтара, стала казацтва Левабярэжнай Украіны, якое страціла многія свае правы і прывілеі ў выніку палітыкі расказачвання, праведзенай расійскімі ўладамі. Ва ўмовах Беларусі падобнай "пакрыўджанай" сацыяльнай групай стала дробная шляхта, што пацярпела ад урадавай палітыкі верыфікацыі шляхецтва і дэкласацыі ў шэрагі ападаткаваных саслоўяў. Але дробная шляхта ў Беларусі моцна трымалася гістарычнай памяці пра былую Рэч Паспалітую, цалкам задавальнялася самаідэнтыфікацыяй з польскім палітычным народам-шляхтай і імкнулася ўсімі сіламі захоўваць сацыяльную дыстанцыю адносна сялянства. Таму, як лічыць Церашковіч, гістарычная памяць шляхты аказалася абсалютна нефункцыянальнай з пункту гледжання развіцця беларускага нацыянальнага руху.

Адной з галоўных ідэй у постмадэрнісцкай працы Валера Булгакава "*История белорусского национализма*"[12] з'яўляецца

10 П. В. Терешкович, *Этническая история Беларуси XIX – начала XX в.: В контексте Центрально-Восточной Европы,* Минск 2004.

11 Тамсама, с. 192.

12 В. Булгаков, *История белорусского национализма,* Вильнюс 2006.

наступная: “*(...) отнюдь не дефицит национализма является отличительной чертой белорусов и белорусской ситуации, а начало на белорусской территории в течение фактически одного столетия четырех противоборствующих национальных проектов*”[13]. Прычым беларускі нацыянальны праект, на думку Булгакава, з’явіўся пазней за польскі, расійскі і ўкраінскі, з якімі ён канкурыраваў. Падобнага падыходу прытрымліваюцца таксама расійскія гісторыкі Міхаіл Далбілаў і Аляксей Мілер у калектыўнай манаграфіі “*Западные окраины Российской империи*”. Яны сцвярджаюць, што на беларускіх, украінскіх і літоўскіх этнічных землях у першай палове XIX ст. развіваўся працэс польскага нацыябудаўніцтва, цалкам падтрыманы мясцовымі шляхецкімі элітамі, але палітыка дэпаланізацыі расійскага ўрада незваротна падарвала магчымасці польскага праекта. Нацыянальныя працэсы ў гэтым рэгіёне аўтары дадзенай манаграфіі разглядалі найперш праз прызму супрацьстаяння расійскага і польскага нацынальных праектаў[14].

Валер Булгакаў сцвярджае: “(…) *слабость собственно белорусского нациостроительства объясняется не отсталостью белорусов, а силой и действенностью более ранних и более мощных национализмов в Беларуси*”[15]. Спазненне ж беларускага нацыяналізму ў параўнанні з канкурэнтнымі праектамі было абумоўлена адсутнасцю крытычных умоў для яго з’яўлення – асвечаных традыцыяй уяўленняў пра Беларусь як гістарычны рэгіён, якія сканструяваныя мясцовымі інтэлектуаламі толькі ў другой палове XIX ст. Праграму мадэрнага беларускага нацыяналізму ў апошняе дзесяцігоддзе гэтага стагоддзя, на думку Булгакава, сфармуляваў пісьменнік Францішак Багушэвіч. Спатрэбілася яшчэ дзесяць гадоў, каб беларуская ідэнтычнасць зрабілася ідэнтычнасцю болей чым дзесяці чалавек[16].

Для ўсіх вышэйназваных даследчыкаў агульным з’яўляецца прызнанне рэакцыйнасці альбо дысфункцыянальнасці ролі шляхты як сацыяльнай групы ў працэсе ўзнікнення і далейшага развіцця беларускага мадэрнага нацыяналізму. Іншую пазіцыю займаюць

13 Тамсама, с. 310.
14 М. Долбилов, А. Миллер, *Политика «русского дела» в западных губерниях,* [в:] *Западные окраины Российской империи,* Москва 2006, с. 252.
15 Тамсама.
16 Тамсама, с. 303.

даследчыкі, якіх умоўна можна назваць прыхільнікамі *літвінска-краёвай* канцэпцыі. Інспірацыяй для іх даследаванняў паслужылі ідэі выдатнага польскага гісторыка Юліўша Бардаха, паводле якога нацыянальная самасвядомасць прадстаўнікоў шляхецкага саслоўя на беларуска-літоўскіх землях мела двухузроўневую структуру і адпавядала формуле *"Gente Lituane, natione Polonus"*[17]. Прыхільнікі *літвінскай* канцэпцыі засяродзіліся на даследаванні ўзроўня літвінскай самасвядомасці, якую яны бачаць у якасці альтэрнатывы польскай нацыянальнай свядомасці. Літвінская самасвядомасць разглядаецца ў працах гэтых аўтараў, сярод якіх у першую чаргу варта ўзгадаць гродзенскіх даследчыкаў Святлану Куль-Сяльверставу і Вячаслава Шведа, у якасці неабходнай умовы для зараджэння і развіцця беларускага мадэрнага нацыяналізму[18].

*Краёвая* канцэпцыя самасвядомасці шляхты на землях Беларусі і Літвы блізкая да літвінскай. Паводле аднаго з найбольш аўтарытэтных даследчыкаў краёвасці Алеся Смаленчука, краёвая плынь дамінавала ў польскім грамадска-палітычным руху на беларускіх і літоўскіх землях у другой палове XIX – пачатку XX ст., і можна нават гаварыць пра існаванне асобнай нацыі – *літоўскіх палякаў*[19]. Ідэолагі краёўцаў вылучылі праект стварэння *нацыі літвінаў*, які грунтаваўся найперш на гістарычных традыцыях Вялікага Княства Літоўскага, а не на этнічна-моўных падмурках. Беларусы бачыліся прыхільнікам азначанага праекта складовай часткай гэтай шматэтнічнай грамадзянскай супольнасці. Але, як адзначае Алесь Смалянчук, ва ўмовах пачатку XX ст. краёвая канцэпцыя аказалася не больш чым "*рэтраспектыўнай утопіяй*"[20].

Самай істотнай асаблівасцю сацыяльнай структуры грамадства Беларусі ў першай палове XIX ст. выступаў адносна вельмі высокі паказчык колькасці шляхты, што з'яўлялася характэрнай рысай для ўсяго абшару былой Рэчы Паспалітай. Другой важнай асаблівасцю

17 J. Bardach, *O świadomości narodowej polaków na Litwe i Białorusi w XIX- XX w.* [w] J. Bardach, *Między Polską etniczną a historyczną,* Warszawa 1988, s. 232.

18 W. Szwed, *Przejawy lićwinskości w życiu społeczno-politycznym na ziemiach Białorusi (pierwsza połowa XIX wieku,* „Rocznik Centrum Studiów Białoruskich/Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў", nr 1, 2015 s. 57.

19 А. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй: польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях 1864-люты 1917 г.* , Санкт-Пецярбург 2004, с. 263.

20 А. Смалянчук, *Краёвасць як ідэалогія "літоўскіх палякаў"*, „Rocznik Centrum Studiów Białoruskich/ Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў", nr 1, 2015 s. 93.

з’яўлялася абсалютная дамінацыя яўрэяў сярод мяшчанскага саслоўя. Толькі на тэрыторыі этнічнай Польшчы мяшчане, якія паходзілі са складу аўтахтоннай этнічнай групы, а таксама прышлыя мяшчане хрысціянскага веравызнання, якія асіміляваліся ў польскую культуру, адыгрывалі заўважную ролю ў эканамічным і культурным жыцці. Беларуская ж буржуазія, як і інтэлігенцыя мяшчанскага паходжання, не магла адыграць якой-небудзь істотнай ролі ў нацыятворчым працэсе з-за выключнай малалікасці і слабасці беларускага мяшчанства.

Апроч шляхты, толькі духоўнае саслоўе ва ўмовах Беларусі XIX ст. магло ўзяць на сябе выпрацоўку і папулярызацыю нацыянальнай ідэалогіі. Але праваслаўнае духавенства пасля ліквідацыі ўніяцкай царквы ў 1839 г. і паўстання 1863-1864 гг. у абсалютнай сваёй большасці ўспрыняло і падтрымала ідэі *заходнерусізму*, у адпаведнасці з якімі беларусы разглядаліся як частка трыадзінага рускага народа і мусілі з часам перайсці на рускую мову (беларускай мове *заходнерусы* не надавалі асаблівай вартасці і не верылі ў яе будучыню). Разгляд прычын гэтай з’явы не ўваходзіць у задачы дадзенага артыкула. Каталіцкае ж духавенства ў сярэдзіне XIX ст. фармавалася амаль выключна з прадстаўнікоў шляхецкага саслоўя і падзяляла яго каштоўнасці. Толькі ў пачатку XX ст., калі значная частка парафіяльнага каталіцкага духавенства на беларускіх землях ужо рэкрутавалася з шэрагаў сялянства, паўстала група ксяндзоў, якія падтрымлівалі беларускі нацыянальны рух і фарміравалі яго хрысціянска-дэмакратычнае крыло. Але яны не стварылі нацыянальны рух, а толькі далучыліся да ўжо выпрацаванага праекта, прапанаваўшы альтэрнатыўны шлях яго рэалізацыі.

Інтэлігенцыя сялянскага паходжання пачынае фармавацца як сацыяльная група пасля скасавання паншчыны ў 1861 г. Але гэты працэс быў адносна павольны. Нешматлікія напачатку інтэлігенты з сялянскім радаводам траплялі ў новае для сябе сацыяльна-культурнае асяроддзе і хутка ў ім асіміляваліся. Апроч таго, інтэлігенцыя сялянскага паходжання пад уплывам канфесійнай палітыкі расійскіх улад фармавалася пераважна з праваслаўнага сялянства. Значная частка гэтай інтэлігенцыі ахвотна ўспрымала ідэі *заходнерусізму*.

Такім чынам, велізарную ролю ў грамадска-палітычным і культурным жыцці грамадства Беларусі ў сярэдзіне XIX ст.

адыгрывала шляхта. Прычым памешчыкі-зямяне складалі меншасць шляхецкага саслоўя. Напрыклад, даследчык Гродзенскай губерні Павел Бабровскі лічыў, што на 1860 г. памешчыкі складалі прыблізна 12-15 % ад усёй шляхты ў гэтай губерні[21]. У астатніх беларускіх губернях сітуацыя выглядала падобным чынам. Значная частка прадстаўнікоў прывілеяванага саслоўя выконвала ў грамадстве тыя функцыі, якія ў краінах Заходняй Еўропы належалі выхадцам з трэцяга саслоўя. Гэта найперш датычылася так званай служэбнай шляхты, прадстаўнікі якой займаліся прадпрымальніцтвам, навукай, асветай, кіравалі фабрыкамі, мануфактурамі, фальваркамі і г. д. Менавіта гэтая шляхта на землях былога ВКЛ стала асноўнай крыніцай для фармавання новай сацыяльнай групы мадэрнага грамадства – інтэлігенцыі.

Як заўважыў у сваім даследаванні Валер Булгакаў, адной з асноўных праблем у генезісе мадэрнага беларускага нацыяналізму з'яўлялася адсутнасць асвечаных традыцыяй уяўленняў пра Беларусь як гістарычны рэгіён. Але насамрэч такія ўяўленні існавалі. І ў гэтым значэнні гістарычнага рэгіёна тэрмін *Беларусь* быў сэнсава роўназначным тэрміну *Літва*, хаця меў значна менш багатае напаўненне. Да 1860-х гг. Беларусь атаясамлівалася з гістарычным рэгіёнам на ўсходзе былой Рэчы Паспалітай, межы якога не былі дастаткова выразна акрэсленымі. Напрыклад, удзельнік паўстання 1830-1831 гг. Аляксандр Рыпінскі выдаў у 1840 г. у Парыжы кнігу *"Białoruś. Kilku słów o poezii prostego ludu tej naszej polskiej prowincji, o jego muzyce, spiewie, tańcach"*[22]. У гэтай кнізе аўтар піша, што Беларусь *„stanowi niewyłączną część drogiej Ojczyzny naszej"*[23], а яе межы акрэсліў наступным чынам: *„na lewo Prypeć i błoto Pińskie, a ku północy po Pskow, Opoczki i Łuki"*[24]. Адносна саміх беларусаў Рыпінскі пісаў: *„Zamieszkał tam lud prosty Sławiańskiego rodu, od dawna sciśle z rodziną Lechów spokrewniony, poczciwy, lecz ubogi, a mało nawet Polsce własnej Ojczyznie znany, choć ją nad wszystko ukochał"*[25]. У гэтым апісанні Рыпінскага ўвогуле адсутнічае Літва, а Беларусь з'яўляецца неад'емнай часткай Польшчы.

21 П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Гродненская губерния,* Санкт-Петербург 1863, ч. 1, с. 720.

22 A. Rypiński, *Białoruś. Kilku słów o poezii prostego ludu tej naszej polskiej prowincji, o jego muzyce, spiewie, tańcach,* Paryż 1840.

23 Тамсама, s. 18.

24 Тамсама.

25 Тамсама.

Валер Булгакаў адзначыў, што ў апісаннях Беларусі як усходняга рэгіёна ці правінцыі Рэчы Паспалітай шляхецкімі аўтарамі актыўна выкарыстоўваліся каланіяльныя схемы. Амаль усе яны стала ўзнаўлялі міф, паводле якога беларусы (русіны) былі слабым, няшчасным і пакрыўджаным гісторыяй народам. Пэўнай кампенсацыяй негатыўнай нагрузкі прызнавалася тое, што беларуская мова называлася самай чыстай сярод славянскіх моў і атаясамлівалася з пісьмовай мовай эпохі росквіту Вялікага Княства Літоўскага. Адам Міцкевіч, напрыклад, так выказваўся пра беларускую мову ў размове з сваім сябрам Аляксандрам Ходзькам: *"Zabytków pisanych mało, tylko Statut Litewski pisany ich językiem, najharmonijniejszym i najmniej skażonym ze wszystkich dialektów słowiańskich*". Адначасова вялікі паэт і прарок узнаўляў міф пра трагічны лёс беларусаў: *"Zycie ich całe w duchu. Na ziemi przeszli całą historię w okropnej nędzy i ucisku. Nawet ziemia, na której mieszkają, uboga, sucha, bezpłodna, piaski albo bagna*"[26].

Але для развіцця мадэрнага беларускага праекта, як зазначыў Валер Булгакаў, якраз неабходна было пераўтварэнне Беларусі з правінцыі ў калонію[27]. І гэта зрабілі найперш прадстаўнікі *заходнерускай* інтэлігенцыі ў 1860-ыя гг. А ўпершыню гісторыя Беларусі як гісторыя народу, а не рэгіёна была прапанаваная ў *"Рассказах на белорусском наречии"*, выдадзеных у Вільні ў пачатку 1863 г.[28] Аўтары гэтай працы, як і іх саслоўная прыналежнасць, нам невядомыя, а яе ўплыў на беларускае сялянскае насельніцтва, для якога дадзеная праца і прызначалася, быў практычна незаўважным. Але заходнеруская агітацыя, якая праводзілася праваслаўным духавенствам, народнымі настаўнікамі і царскімі чыноўнікамі ў часе і пасля паўстання 1863-1864 гг., трапляла на падрыхтаваную глебу і прыносіла эфект. Праваслаўнае сялянства ахвотна ўспрымала ідэі пра шматвяковы прыгнёт "рускага" народа панамі-палякамі, паколькі спадзявалася выкарыстаць іх у змаганні з памешчыкамі за зямлю. Памешчыца Ядвіга Кяневіч пісала з Мазырскага павета ў канцы 1861 г., што "*straszny pożar rewolucyjny obejmuje nas wokoło (...) a co tu myśleć o wpływie dworów, gdy widzimy, że ten był żaden, nawet*

26 A. Mickiewicz, *Dzieła wszystkie,* Warszawa, t. XVI, s. 230.

27 Валер Булгаков, *История белорусского национализма,* с. 140.

28 *Рассказы на белорусском наречии*, Вильно 1863.

*tam, gdzie z zupełnym poświęceniem ludowi się oddawał*”[29]. Затое заклікі супрацьстаяць паўстанню і лавіць паўстанцаў часта ўспрымаліся сялянамі з вялікім энтузіязмам. Ядвіга Кяневіч напісала пра гэта 28 лютага 1863 г.: “*Dane hasło chłopstwu do łowienia do końca przyjęte od nich z uniesieniem – więcej od wojska dokazywali (...). Cała kastowa nienawiść manifestuje się z fanatyzmem, ścigać co polskie i katolickie. W ów dzień 19 odczytali przy ich nabożeństwie, czy też wyrzekli ich duchowni:* Kończyło się nad wami proklatoje panowanie Lachów. *I echem radości odpowiedzieli:* Łowit Polaków!”[30] Перспектывы развіцця польскага нацыянальнага праекта сярод беларускага праваслаўнага насельніцтва ў выніку былі заблакаваныя. Дзяржаўныя ўлады свядома ізалявалі шляхту ад якіх-кольвек магчымасцей уплыву на сялян, а прыходскае праваслаўнае духавенства актыўна праводзіла сярод вернікаў агітацыйную працу ў заходнерускім духу.

Толькі ў 60-ыя гады XIX ст. пaступова замацоўваецца разуменне Беларусі як тэрыторыі, населенай асобным народам, які гаворыць на асобнай мове і мае ўласную гісторыю, няхай гэта была ў тагачасным дыскурсе найперш гісторыя паражэнняў, уціску і прыгнёту. У папулярна-навуковым выданні “*Живописная Россия*” вядомы гісторык і публіцыст Адам Кіркор так апісаў гэтую эвалюцыю тэрміна Беларусь: ”*Сначала Белорусью называли только нынешния Могилевскую и Витебскую губернии (…) но в настоящее время с этнографической точки зрения, как в племенном, так в бытовом и народном отношении Белоруссией справедливо называют все три губернии: Могилевскую, Витебскую и Минскую (…) Можно-бы сделать ещё изъятие для Пинского, отчасти и Мозырского уездов Минской губернии, где наречие более подходящее к малороссийскому. Но все другия этнографические условия ничем не отличают жителей этих уездов от Белорусского смежного племени. К Белоруссии принадлежит и часть жителей Смоленской губернии (…) Этого мало. К Белорусскому племени надобно причислить жителей Вилейского и Дисненского уездов Виленской губернии, юго-восточной части Ошмянского и Свенцянского уездов и юговосточной части Лидского (…) и большую часть Гродненской губернии (…) Число жителей,*

29 S. Kieniewicz, *Dereszewicze 1863*, Wrocław 1986, s. 100, 101.
30 Тамсама, s. 104.

*принадлежащих к Белорусскому племени, считают до 3 миллионов, но оно в настоящее время гораздо больше*"[31].

Але ў свядомасці мясцовых шляхецкіх эліт доўгі час захоўвалася разуменне Беларусі, як гістарычнага рэгіёна, які быў складовай часткай больш вялікага палітычнага арганізма. У 1880-ыя гг. вядомая публіцыстка і адна з ідэолагаў *краёвай* ідэі Канстанцыя Скірмунт, ураджэнка Пінскага павета Мінскай губерні, прытрымлівалася менавіта такога падыходу ў сваёй *"Гісторыі Літвы"*[32]. У геаграфічным апісанні "даўняй Літвы" яна пералічвала яе наступныя гістарычныя рэгіёны: уласна Літва, Жмудзь, Русь Літоўская, Падляшша, Палессе, Беларусь, Валынь, Украіна, Падолле. Такім чынам, тэрыторыя сучаснай Беларусі, паводле К. Скірмунт, уключала ў сябе чатыры рэгіёны: Літоўскую Русь, Беларусь, Падляшша і Палессе. К. Скірмунт лічыла і называла сябе *літвінкай.*

У шматлікіх творах польскамоўнай літаратуры і публіцыстыкі яшчэ доўгі час ужываліся тэрміны "русіны" і "чарнарусы" адносна беларускамоўнага сялянства. Напрыклад, у час падарожжа па рацэ Нёман вядомы публіцыст і рэгіянальны гісторык Зыгмунт Глогер адзначаў, што русіны сядзелі па берагах Нёмана аж да ўпадзення рэчкі Белай Ганьчы[33]. Небагаты памешчык Адам Буцькевіч, "хлопаман" і дэмакрат паводле сваіх перакананняў, які быў высланы з Беларусі ў час паўстання 1863 г., у рукапіснай працы *"Obrazki stanu włościan litewskich do ich usamowolnienia to jest do roku 1864"*, напісанай да 1894 г., называў беларускамоўных сялян "litewskimi": "*Lecz jakąż przyszłość możemy rokować włościanom litewskim na polu cywilizacji? (...) Być może, iż społeczność nowa nada kierunek swoim dążnościom socyalnym, może kierowana rozumem zdrowym i solidarnością zapragnie swobod politycznych dla swej narodowości i samoistnienia międzynarodowego dla Litwy swej ojczyzny?"*[34] Буцькевіч пасля вяртання са ссылкі жыў у польскім Плоцку. Ён як бы застыў у рэаліях Беларусі да 1863 г.

31 *Живописная Россия, Литовское и Белорусское Полесье*, Репринтное воспроизведение издания 1882 года, Минск 1994, с. 249-250.
32 K. Skirmunt, *Dzieje Litwy, opowiedziane w zarysie,* Kraków 1886.
33 Z. Gloger, *Dolinami rzek, Opisy podróży wzdłuż Niemna, Wisły, Buga i Biebrzy przez Zygmunta Glogera*, Warszawa 1903, s. 28.
34 *Obraz wsi sokólskiej połowy XIX wieku w rękopisie Adama Bućkiewicza*, Sokółka 2011.

З прадстаўнікоў шляхты першым сфармуляваў вобраз беларускай "ідэалагічнай айчыны" ў духу мадэрнага нацыяналізму пісьменнік Францішак Багушэвіч у культавай для беларускіх нацыяналістаў прадмове да зборніка вершаў "*Дудка Беларуская*" (1891 г.). Галоўным маркерам і духоўнай каштоўнасцю гэтай айчыны выступала менавіта беларуская мова: "*Можа хто спытае, гдзе ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывецъ: Яна ад Вільна да Мазыра, ад Вітэбска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Міньск, Магілёў, Вільня й шмат мястэчкаў і вёсак*"[35]. У Багушэвіча Беларусь выступала ўжо не гістарычным рэгіёнам, не своеасаблівай этнічнай тэрыторыяй, але ўяўляла сабой сакральную сімвалічную прастору. Сакральнасць была звязаная найперш з мовай, на якой размаўляе мясцовае сялянскае насельніцтва. Цяжка адказаць на пытанне: ці з'яўляўся Багушэвіч беларускім нацыяналістам? Кола яго блізкіх знаёмых і сяброў было польскамоўным, хоць і прыхільным да ідэі развіцця беларускамоўнай творчасці. Але само чытанне твора Багушэвіча ўжо схіляла пазней канкрэтных асоб да прыняцця беларускага мадэрнага нацыяналізму ў якасці асабістага жыццёвага выбару. Так, унук Францішка Багушэвіча Зыгмунт Абрамовіч выступаў у першай беларускай тэатральнай трупе Ігната Буйніцкага[36].

Тэксты Багушэвіча сталі важнымі элементамі беларускага культурнага канона, а сам ён зрабіўся адной з культавых постацей беларускага мадэрнага нацыяналізму. Але тыя прадстаўнікі шляхты, якія ў другой палове XIX і на пачатку XX ст. цікавіліся беларускім нацыянальным праектам і беларускай народнай культурай, апынуліся перад складанай праблемай: каб асабіста далучыцца да беларускага нацыянальнага праекта, неабходна было прызнаць роднай беларускую мову, на якой размаўлялі сяляне, – аснова беларускай нацыі, а таксама адмовіцца ад сваёй шляхецкай выключнасці. Зрабіць гэта было вельмі няпроста, паколькі патрабавалася пераадолець складаны псіхалагічны бар'ер. Магчыма, адным з першых паспрабаваў гэта зрабіць Вайніслаў Савіч-Заблоцкі, якога падверглі за гэта астракізму ў сваім жа шляхецкім асяроддзі.

35 Ф. Багушэвіч, *Творы: Вершы, паэма, апавяданні, артыкулы, лісты,* Мінск 1991, с. 16.
36 А. Чарнякевіч, *Нараджэнне беларускай Гародні*, Мінск 2015, с. 151.

У тэкстах аўтараў шляхецкага паходжання першай паловы XIX ст. беларускамоўнае сялянства звычайна акрэсліваецца як “яны” ў адрозненні ад “нас”, прадстаўнікоў палітычнага народа-шляхты. Напрыклад, Адам Міцкевіч з вялікай сімпатыяй і спачуваннем ставіўся да беларускіх сялян, але пры гэтым пісаў: *“Ze wszystkich narodów słowiańskich Rusini, t.j. chłopi gubernji pińskiej, a po części mińskiej i grodzieńskiej, przechowywali najwięcej. W* ***ich*** [вылучана аўтарам артыкула – С. Т.] *bajkach i pieśniach jest wszystko”*[37]. Адам Буцькевіч, які нават у выніку збегу пэўных акалічнасцей некаторы час пражыў у сялянскай хаце і шчыра сімпатызаваў сялянам, таксама рэанімуе ў сваёй кнізе міф пра іх адвечую забітасць і падпарадкаванасць: *“Cały szczep Rusinów osiadłych i rozplenionych na całej Litwie i na dawnej ziemi Jadźwingów od XI wieku bez przerwy pędził swój żywot w niewoli”*[38].

Для многіх адукаваных шляхцічаў яшчэ да сялянскай рэформы 1861 г. натуральным шляхам эмансіпацыі сялян-беларусаў бачылася ўключэнне іх у склад польскага мадэрнага народа, найперш праз адукацыю. Сяляне мусілі засвоіць польскую мову і веды пра мінулае свайго краю, якое разумелася тады як дзеі палітычнага народа-шляхты. Прагматычныя прадстаўнікі шляхецкага саслоўя разумелі, што непазбежнае вызваленне сялян ад прыгоннай залежнасці абавязкова прынясе з сабой вялізныя змены ў грамадстве, і, рана ці позна, вяскоўцы пачнуць набываць нацыянальную самасвядомасць. Зямянка Ядвіга Кяневіч пісала пра гэта яшчэ ў 1858 г.: *“I nasz biedny kmiotek zdobędzie kiedyś przez wieki mu zamkniętą oświatę, nie za dni naszych wprawdzie rozwinie w piersi pojęcie narodowości, ale czy naszej, czy z rąk szlachty – bodajby to nie była utopia! Zwłaszcza tam, gdzie wiary przegroda będzie zawsze nieprzebitym wałem”*[39]. Такім чынам, для адукаванай зямянкі нацыянальнае ўсведамленне сялян уяўлялася напярэдадні рэформы 1861 г. яшчэ аддаленай перспектывай, і, больш таго, яна скептычна глядзела на тое, што вяскоўцы пойдуць у гэтым пытанні ўслед за сваімі панамі. Калі Ядвіга Кяневіч пісала “нашае паняцце нацыянальнасці”, то мела на ўвазе мадэрную польскую нацыянальную самасвядомасць.

37 Adam Mickiewicz, *Dzieła wszystkie*, Warszawa, t. XVI, s. 230.
38 *Obraz wsi sokólskiej połowy XIX wieku*, s. 69.
39 S. Kieniewicz, *Dereszewicze 1863*, Wrocław 1986, s. 103.

Як мог уплываць на стаўленне шляхты да беларускай нацыянальнай ідэі літвінскі патрыятызм, пашыраны, як вышэй ужо адзначалася, на абшарах былога Вялікага Княства Літоўскага? Вельмі важным уяўляецца таксама пытанне: наколькі пашыраным? Часамі літвінская ідэнтычнасць уваходзіла ў супярэчнасць з польскай нацыянальнай ідэнтычнасцю і выклікала спрэчкі паміж прадстаўнікамі шляхецкай эліты. Прыклад гэтаму зноў жа можна знайсці ў лісце Ядвігі Кяневіч да яе сяброўкі Гелены Скірмунт, напісаным у пачатку 1860 г., дзе мы якраз бачым фрагмент дыскусіі адносна нацыянальнай самасвядомасці і этнічнага паходжання мясцовага зямянства: *"Nie będę Ci wspominała irlandzkiego protoplasty* [сярод Кяневічаў быў пашыраны міф, што пачынальнік іх роду паходзіў з Ірландыі. – С. Т.], *jeśli Ci się nie podoba, bo to mi kompletnie obojętnie. Wiem, że wszyscy od jednego Adama pochodzimy i że jeden z synów Noego nam dał początek, a żaden bodaj na Litwie ni na Polesiu nie osiadł, więc czy Hunów czy Scytów mam odgrzebywać przodków, nie troszczę się o tym. Należe do kraju, gdzie od kilku pokoleń żyjemy, należe do narodu, którego pojęcia i uczucia tchnieniem rodzinnym wszczepione w serce, którego mową pierwszą modlitwę wyjąkałam. I jeśli tak tzrymasz o imię Litwinki, to nieoddzielnie od Polki-Litwinki, jako córka, która roku matki się nie wyrzeka, ale imieniem ojca się mianuje. I gdybym tak dalekich czasów w rodowodzie swoim domacać się mogła, chciałabym widzieć jakiegoś praszczura w orszaku królowej Jadwigi niźli jakimś krywiejtą w świętych gajach... Nie zdzierajmy z palca Jagiełły obrączki Jadwigi, którą do śmierci nosił (...) Nie dzielę żadnej antypatii narodowej, prócz antypatii rządów i ich wpływów. Zadnego narodu potępiać arbitralnie nie można, zalety i zdolności wzsystkie (…) iednako rozdzielone. Nie tyle imię nawet, co duch nas czyni członkiem narodu. Któż Polakiem nie nazwie Pola, Kremera, któż Polskę mógł opiewać, jak Chopin, a jednak zbyt wyraźnie niesłowiańskiego pochodzenia*"[40]. З гэтага вялікага фрагмента тэксту вынікае, што Ядвіга Кяневіч была прыхільніцай польскай нацыянальнай свядомасці, а літвінскасць уважала за неад'емную складовую частку польскасці, у чым і спрабавала пераканаць сваю сяброўку Гелену Скірмунт, якая займала больш радыкальную літвінскую пазіцыю ў гэтым пытанні.

40 Тамсама, s. 103.

Яркім прыкладам літвінскага патрыятызму з’яўляецца вядомы віленскі літаратар, выдавец і навуковец Адам Кіркор. Дарыюс Сталюнас і Міхаіл Далбілаў ідэнтыфікавалі некалькі невядомых даследчыкам тэкстаў А. Кіркора[41]. Апошні, напрыклад, пісаў у адным з лістоў да сваёй жонкі, што менавіта Літва дала Польшчы шмат знакамітых людзей, такіх як Міцкевіч і Касцюшка: *"Разве Литва для того чтобы вместе* [зашифрованный текст] *должна перестать быть Литвою? Нет! Я Литвин, никто, никогда не уничтожит во мне этого чувства. Я люблю свою родину со всем вдохновением юноши, со всем самоотвержением мужа. Я имею сердце и чувствую симпатию к Польше настолько, сколько судьба её связана с нашей; я, сохрани Бог, и не думаю о раздоре, не думаю о* [зашифрованный текст] *не пока* [зашифрованный текст] – *будем думать и действовать, как приготовить себя, высвободить себя из моральной дряхлости, из моральной нищеты"*[42]. У іншым сваім тэксце А. Кіркор падкрэсліваў, што літвіны *"никогда не забывают, что и Собесский, и Костюшко, и Мицкевич и многие другие, коими гордится Польша, были не поляки, но русские и литовцы. Кто изучил этнографию обоих народов, тот ясно видит, как велика между ними разница в характере, способностях и вообще во внутреннем настроении"*[43]. Разам з тым, А. Кіркор прызнаваў, што амаль уся мясцовая шляхта ды і значная частка сялян лічаць сябе палякамі: *"А между тем, факт тот, что здешний дворянин, однодворец, гражданин, почти все мещане, да многие и из крестьян глубоко убеждены, что они поляки. Спросите первого встречного нищего, кто он? Он вам ответит: поляк. Спросите дворового человека, он повторит то же"*. Аднак тут жа Кіркор дадаваў цікавае назіранне: *"Скажу более: многие, да почти и все, с небольшими разве исключениями, называющие себя поляками ненавидят так называемых коронных поляков, т. е. уроженцев Царства* [падкрэслена аўтарам артыкула. – С. Т.]. *Известно, что многие, даже из деятелей последнего мятежа, глубоко ненавидели поляков и втайне работали для себя, для Литвы, для Руси"*[44].

41 М. Долбилов, Д. Сталюнас, *Обратная уния: из истории отношений между католицизмом и православием в Российской империи, 1840-1873,* Вильнюс 2010.

42 Тамсама, с. 62.

43 Тамсама, с. 58, 59,

44 Тамсама, с. 186.

Адам Кіркор, на нашу думку, звярнуў увагу на вельмі істотны момант. Менавіта дробная шляхта, аднадворцы, мяшчане і нават сяляне каталіцкага вызнання лічылі сябе палякамі. Цытаваныя вышэй разважанні адносна літвінскай ідэнтычнасці мала падыходзілі для прапаганды нацыянальнай ідэі сярод шырокіх пластоў непісьменнага насельніцтва, у тым ліку і сярод засцянковай шляхты. Можна сцвярджаць, што літвінства, як пазней і краёвасць, з'яўлялася элітарным інтэлектуальным праектам, пашыраным амаль выключна ў памешчыцкіх салонах сярод высокаадукаванага зямянства і інтэлігенцыі. Такі праект не спрацоўваў у масавай нацыянальнай агітацыі, адрасаванай сялянству ці неадукаванай дробнай шляхце. Прыкладам можа паслужыць газета *"Мужыцкая Праўда"* і іншыя матэрыялы агітацыі паўстанцаў 1863-1864 гг., дзе практычна не ўзгадваецца Вялікае Княства Літоўскае і не падкрэсліваецца якая-небудзь адрознасць Літвы-Беларусі ад Польшчы.

*"Мужыцкая праўда"* з'яўлялася адным з першых прыкладаў выкарыстання беларускай мовы ў мэтах палітычнай прапаганды. У адным з першых нумароў у вельмі радыкальным духу сяляне ўпершыню акрэсліваюцца як галоўная грамадская сіла, здольная нават без паноў скінуць расійскае панаванне і здабыць для сябе свабоду. Пры гэтым у тэкстах *"Мужыцкай праўды"* адсутнічаюць якія-небудзь элементы менавіта беларускай нацыянальнай ідэалогіі. Больш таго, у *„Пісьме ад Яські-гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай"* аўтар звяртаецца, зноў жа на беларускай мове, да сялян: *„(…) чы ж мы дзецюкі, сідзець будзем? мы, што жывем на зямлі Польскай, што ямо хлеб Польскі, мы, Палякі з векаў вечных"*[45]. Хаця беларускія даследчыкі запярэчвалі таму, што менавіта Канстанцін Вінцэнты Каліноўскі быў аўтарам дадзенага паслання, але яго змест не пярэчыць прынцыпова той самай формуле "*Gente Lituane, natione Polonus*", пашыранай сярод мясцовых шляхецкіх інтэлектуалаў.

Рабілася відавочным, што ідэі польскага патрыятызму і адпаведныя лозунгі таксама не ўспрымаліся беларускімі сялянамі, якія ў большасці выразна супрацьпастаўлялі сабе *паноў-палякаў*. 3 мая 1863 г. быў выдадзены *Маніхвест* Нацыянальнага польскага ўрада, адрасаваны менавіта беларусам: *"...Усе раўны, усе сыны адной*

45 Тамсама, с. 242 .

*Польшчы Айчызны нашай... Усе, што пойдуць у войска Польскае, даецца шляхецтва на век. Вера для ўсіх свабодная, як хто хоча. Уніяты, каторых перавярнулі ў праваслаўе могуць вярнуць да сваёй веры. Браты Беларусы, прышла пара добрая (...) бараніце волі, зямлі і веры вашай, а Бог вам дапаможа"*[46]. Адначасова з апошнім нумарам "*Мужыцкай праўды*" з'яўляецца і беларускамоўны загад Ронду Польскага "*Да народу зямлі Літоўскай і Беларускай*", у якім аўтар выгаворвае сялянам за тое, што яны дапамагаюць "маскалям". Расчараванне і адчай, выкліканыя пасіўнасцю і часта варожасцю да паўстанцаў з боку беларускамоўнага сялянства, выяўляюцца тут выразам: "*Што вы сігодня дурныя як авечкі*"[47]. У "*Лістах з-пад шыбеніцы*", перададзеных Каліноўскім з царскай турмы, Яська-гаспадар піша, што жадае, "*каб знаў свет Божы, як мужыкі Беларусы глядзяць на маскалёў і паўстанне польскае*"[48]. У гэтым жа пасланні сцвярджалася, што "маскали" *„там, гдзе жылі палякі, літоўцы і беларусы, заводзяць маскоўскія школы, а ў гэтых школах учаць па-маскоўску, гдзе ніколі не пачуеш і слова па-польску, па-літоўску да і па-беларуску, як народ таго хоча"*[49]. Напэўна, гэта было вынікам пэўнай эвалюцыі палітычных і нацыянальных поглядаў Канстанціна Каліноўскага за час паўстання, але недахоп крыніц не дазваляе рабіць нейкія адназначныя высновы. Прычым адначасова *Яська-гаспадар* атаясамліваў сябе з палякамі: "*Доўга палякі чакалі памоцы з заграніцы, народы чужаземныя крычалі многа і да гэтай пары нічога для нас не зрабілі"*[50].

Пасля падаўлення паўстання 1863-1864 гг. некаторыя прадстаўнікі мясцовага зямянства выказвалі ідэі, блізкія да беларускага этнанацыяналізму. Ужо ўзгаданы вышэй памешчык Віцебскай губерні Вайніслаў Савіч-Заблоцкі пісаў вядомаму ўкраінскаму нацыянальнаму дзеячу Міхалу Драгаманаву пра беларускіх сялян, што "*а народ гэты сваю думку мае: не лях ён та і не маскаль, ён рускі – мяжа сярод іх!*". Адзіным правільным выбарам для мясцовай шляхты Савіч-Заблоцкі лічыў вяртанне да мовы продкаў: "*(...) і даўненька*

46 К. Каліноўскі, *За нашую вольнасць,* Мінск 1994, с. 241.
47 *Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне,* фонд 1, вопіс 34, справа 169, аркуш 166.
48 Кастусь Каліноўскі, *За нашую вольнасць,* с. 40.
49 Тамсама.
50 Тамсама, с. 44.

*пара б была, штобы мы ўсе, крывіцкіх зямель пасядзіцелі, мы былой польскай Рэчы Паспалітай абывацелі беларускія, да сваявіцы вярнуліся та і гукаці па-дзядоўску з сабой мовай мужыцкай, халопскай гэтай нашай ялі (...)*"[51]. Аднак, як ужо адзначалася, у мясцовым шляхецкім асяроддзі пазіцыя Савіч-Заблоцкага разглядалася як русафільства, здрада польскай справе, а сам ён быў падвергнуты астракізму.

Традыцыі літвінскай самаідэнтыфікацыі захавалі свае моцныя пазіцыі ў асяроддзі беларускай заможнай шляхты. Выхадзец з зямянства Міншчыны Міхал Паўлікоўскі ўзгадваў у сваіх успамінах: "*Polacy minscy, świadomi tradycji Rzeczypospolitej Obojga Narodów, nazywali siebie przed pierwszą wojną światową Litwinami w odróżnieniu do mieszkańców Królewstwa Polskiego, czyli koroniaży*"[52]. Гэты аўтар таксама пісаў пра моцны польскі патрыятызм засцянковай шляхты, якая "*...mówiła osobliwym językiem polskim, takim językiem, jakim mówiono za czasów młodości Mickiewicza. Strzegła swej polskości i była bardzo patriotyczna*"[53]. Міхал Паўлікоўскі негатыўна ставіўся да "эндэцкай" ідэалогіі, ці радыкальнай (прынамсі, адносна беларускіх зямель) версіі польскай нацыянальнай ідэі. Прычым ён сцвярджаў, што падобнае стаўленне падзяляла большасць мясцовага зямянства: "*Dwór "obywatelski" był z reguły przychylny białorusczyźnie. Z chłopem rozmawiało się po białorusku. Poprawne i płynne mówienie po białorusku było jak by swoistym stylem. Zachęta i pielęgnowanie języka, folkloru i obyczaju białoruskiego było uważane za jedyny skuteczny, no i legalny sposób walki z rusifikacją. Wyśmiewano i tępiono zarówno rusycyzmy jak polonizmy. Dwory, które pod wpływem zaniesionej z zachodu **zarazy endeckiej*** [вылучана аўтарам артыкула. – С. Т.] *próbowały polonizować białorusinów, były bardzo nieliczne*"[54].

Некаторыя зямяне пісалі, што асабіста рабілі практычныя крокі ў кірунку падтрымкі беларускага руху. Цікавым прыкладам з'яўляецца выхадзец з зямянства Магілёўскай губерні Караль Барысовіч. Ён так апісваў у сваіх успамінах нацыянальныя адносіны на ўсходніх землях Беларусі: "*(...) na tle narodowościowym – antogonizmy*

51 *Беларуская літаратура XIX ст*: *Хрэстаматыя,* склад. А.А. Лойка і В.П. Рагойша, 2-е выданне, Мінск 1988, с. 312.
52 M. K. Pawlikowski, *Mińszczyzna,* [w] *Pamiętnik Wilenski,* Londyn 1972 s. 293.
53 Тамсама, s. 294.
54 Тамсама, s. 301.

*nie ujwniały się wcale. Lud Białoruski, zajęty ciężką pracą przy zdobywaniu chleba powszedniego, nie mógł wyłonić ze swego środowiska bojowników o odrodzenie narodowe. Natomiast zasługi tutejszego żywiołu polskiego, zwłaszcza w dziejach piśmiennictwa białoruskiego, są ogromne. O ile rywalizująca z nami na tym terenie kultura rosyjska-carska była zaborczą i niszczyła odrębności miejscowe, o tyle tutejci Polacy w swych wypowiedziach podkreslali, że lud białoruski, jak każdy inny, ma prawo do niezależnego rozwoju narodowego. Widząc sięgającą coraz głębiej rusyfikację kraju przez cerkiew (po zniesieniu białoruskiego kościołu narodowego – Unii), przez szkołę i służbę w wojsku – garstka inteligencji polskiej dążyła do stworzenia odrębnego ruchu białoruskiego. Mówiono wówczas o nas, że wszyscy Białorusini mogą źmieścić się na jednej kanapie – i to nie było przesadą – poczucie narodowe w szerszych masach nie istniało"*[55]. У выказваннях Барысовіча бачым выразныя праявы пэўнай амбівалентнасці: ён то далучае сябе да актывістаў беларускага нацыянальнага руху, то ўжо піша пра сябе як пра прадстаўніка польскага грамадства і актыўнага дзеяча ў справе пашырэння польскай самасвядомасці: *"Udział i wpływ Polaków Kresowych na odrodzenie Białorusi tłomaczy się tym, że – z jednej strony obchodził nas los przyszły ziemi ojczystej i ludu, z którym się współżyliśmy do wieków, z drugiej zaś – sądziliśmy, że w ten sposob ratujemy ten Kraj przed zlaniem się z Moskwą i że szykujemy niepodległość Białorusi, ewentualnie zjednoconej czy sfederowanej w przyszłości z Rzeczpospolitą Polską. Wielowiekowe współżycie polsko-białoruskie wytworzyło typ człowieka, co będąc Polakiem kochał po swojemu Białoruś, jako część składową Polski, albo – będąc Białorusinem – kochał swoją szerszą ojczyznę Rzeczpospolitą Polską. Byli to ludzie, którzy rozwój społeczeństw opierali nie na wyniszczającej wzajemnie i zatruwającej dusze nienawiści, lecz na miłości i zgodnej współpracy tych których łączyło wspólne życie do dziada-pradziada. Niemal każdy z nas mógł powiedzieć o sobie „Gente Alba-Ruthenus, natione – Polonus", gdyż praojcowie nasi przejęli kulturę polską wraz z herbem i wolnościami, jakie przynależność do szlachty polskiej dawała. Nie zerwaliśmy jednak więzów duchowych z ludem Białoruskim – i może podświadomie dążyli do wyrównania krzywd, dokonanach w przeszłości"*[56]. Барысовіч

55 *Zakład Narodowy im. Ossolińskich, Dział Rękopisów,* 15413 – II, Karol Borysowicz, Pamiętniki do 1939 r., cz. 1. Białoruś jaką pamiętam, s. 38-39.

56 Тамсама, s. 39-40.

сцвярджаў, што асабіста выпісваў беларускія календары, друкаваныя выдавецтвам *“Наша Ніва”* і раздаваў іх народным настаўнікам[57]. Адначасова пры гэтым ён займаўся і паланізацыяй дробнай засцянковай шляхты, якая яшчэ заставалася беларускамоўнай: *“Marzyłem więc o spolszczeniu drobnej szlachty z pochodzenia polskiej, ale przeważnie już zbiałorusiałej i zbiałoruszczeniu tutejszego ludu, już w dużej mierze przez wojsko i szkołe – zrusifikowanego. Zprzęgnięcie Polaków i Białorusinów do harmonijnej współpracy na polu gospodarczym i kulturalnym dla dobra wspólnego Kraju. Uważałem to za cel swojej działalności. Było by zarazem przeciwdziałanie dążeniom słowianofiłów – aby strumienie słowiańskie zlały się w morzu rosyjskim”*[58]. Такім чынам, бачым цікавую спробу пагадзіць польскі і беларускі нацыянальныя праекты. Барысовіч называе сябе беларусам ці *„Gente Alba-Ruthenus, natione – Polonus”*, пашырае сярод сялян беларускамоўныя выданні, але прагне вярнуць польскасць у асяроддзе ўжо збеларусізаванай дробнай шляхты. Такім чынам, беларускасць, у яго разуменні, зноў жа замыкаецца ў саслоўных рамках сялянства.

У мемуарах іншых прадстаўнікоў зямянства беларускае пытанне ўвогуле не ўзгадваецца. Напрыклад, вядомая пісьменніца Марыя Чапская ў сваіх успамінах адзначала, што нічога не ведала пра беларускі нацыянальны рух: *“Czym był nasz kraj rodzinna Białoruś, jak nie częścią Wielkiego Księstwa Litewskiego, przez cztery wieki z Polską połączony, przez Rosję zagarnięty? O budzącej się świadomości narodowej Białorusinów nic wtedy nie wiedzialiśmy. Należało wybierać między Polską a Rosją, a nie wątpiliśmy, że kraj nasz do Polski wrócić powinien, Polski niepodległej, w dawnych, przedrozbiorowych granicach. Należało więc uświadamiać w polskości służbę naszą, katolicką i z pochodzenia polską, utwierdzać w nich polskość – tak sądziliśmy”*[59]. І падобных прыкладаў можна прывесці шмат.

Шляхецкае саслоўе, і ў тым ліку зямянства, перажывала ў другой палове XIX ст. і ў пачатку XX ст. істотныя структурныя змены. З яго асяроддзя выйшлі шматлікія прадстаўнікі навуковай інтэлігенцыі, значная частка прадстаўнікоў так званых вольных

57 Тамсама, s. 41.
58 Тамсама.
59 M. Czapska, *Europa w rodzinie. Czas odmieniony,* Kraków 2004, s. 228.

прафесій (юрыстаў, урачоў, інжынераў і г. д.). Вельмі істотную ролю на пачатковым этапе станаўлення беларускага нацыянальнага руху адыграў якраз прадстаўнік такой інтэлігенцыі Вацлаў Іваноўскі, які быў сынам заможнага землеўладальніка і адначасова высокапастаўленага царскага чыноўніка Леанарда Іваноўскага, але звязаў сваё жыццё з навукай і выкладаннем. Іваноўскі склаў зварот на польскай мове якраз да інтэлігенцыі шляхецкага паходжання: *"Odcięci od samodzielnej kultury dla swojej garstki i poszliście w poniewierkę u sąsiadów. I słusznie – nie zdobyliście się na to, na co zdobyli się stokroć mniej liczebni od was Litwini, Bułgarowie, Serbowie, Chorwaci etc."*[60] Агульнавядомы той факт, што два родныя браты Вацлава Іваноўскага лічылі сябе палякамі (Ежы – вядомы польскі дзеяч і сябра Юзафа Пілсудскага, і Станіслаў), а яшчэ адзін брат Тадэвуш стаў літоўцам (у мадэрным сэнсе), вядомым навукоўцам у міжваеннай Літве.

У той жа час для суседа Іваноўскіх – уладальніка маёнтка Малое Мажэйкава ў тагачасным Лідскім павеце Віленскай губерні Анджэя Брахоцкага – праблемы выбару нацыянальнасці не існавала ўвогуле. Польскасць мясцовай шляхты ўяўлялася яму нечым абсалютна натуральным і несумненным. Брахоцкі пісаў у сваіх мемуарах: *"Miejscowa ludność w pięcdziesięciu procentach była polska, katolicka, zaś pozostali – byli to głównie Białorusini – prawosławni. W sąsiedztwie Małego Możejkowa były dwie „okolice" – Rouby i Stankiewicze. Z tych szlacheckich „okolic" pochodziło dużo pracowników, zatrudnionych przez mego ojca. Po przeszkoleniu byli to oddani i uczciwi ludzie, bezkompromisowi Polacy, którzy cenili sobie tę pracę u mego ojca i polonizowali inne majątki w mniej polskich stronach"*[61]. Сваё бачанне свету і, так бы мовіць, геапалітычных рэалій у дзяцінстве Брахоцкі ахарактарызаваў так: *"Wiedzieliśmy, że gdzieś wyżej konkurowały ze sobą jako siły wyższe religie katolicka i prawosławna, pierwsza podległa Papieżowi w Rzymie, która dla nas była uosobieniem polskości i symbolem utraconej niepodległości, druga popierana przez cara i rząd w Petersburgu. Gdzieś za górami i lasami był cesarz rosyjski, gnębiciel Polski Polaków. O polityce nic nie wiedzieliśmy (...) Spiewaliśmy dużo piosenek patriotycznych, jak naprz. "Grmią pod Stoczkiem armaty" etc.,*

60 J. Turonek, *Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi,* Warszawa 1993, s. 28.

61 *Zakład Narodowy im. Ossolińskich, Dział Rękopisów,* 15 615 – II Andrzej Brochocki, Na przełomie dwóch epok: zapiski obszarnika (wspomnienie z lat 1894-1939), s. 14.

*(...) z pogardą odnosząc się do prystawów i uriadników, jako przedstawicieli wrogiego ustroju"*[62]. З успамінаў Брахоцкага таксама вынікае, што многія абшарнікі актыўна развівалі польскае школьніцтва ў сваіх маёнтках: *"Po roku 1905-ym w każdym majątku mój ojciec miał nauczycielkię, która prowadziła tajną szkołę polską. Nikt tych szkół jakoś nie wykrywał i wszystko było w porządku"*[63]. Вядомы польскі пісьменнік Мельхіор Ваньковіч, які паходзіў з заможнага зямянства Мінскай губерні, таксама атаясамліваў прыналежнасць да класа абшарнікаў з польскасцю і каталіцтвам і лічыў, што падобнае стаўленне цалкам падзяляе і беларускае сялянства: *"Do pojęcia pańskości nieodłącznie były przywiązane polskość i katolicyzm"*[64].

Несумненным фактам з'яўляецца той, што роля выхадцаў са шляхты на першым этапе развіцця беларускага нацыянальнага руху была выключна важнай і вырашальнай. Сярод беларускіх "абуджальнікаў" на пачатку XX ст. бачым дзеячаў, якія паходзілі з засцянковай шляхты (Іван Луцэвіч (Янка Купала), Вацлаў Ластоўскі), прадстаўнікоў беззямельнай інтэлігенцыі шляхецкага паходжання (браты Іван і Антон Луцкевічы), збяднелых памешчыкаў (Казімір Кастравіцкі), сярэдніх і дробных памешчыкаў (Вацлаў Іваноўскі, Алаіза Пашкевіч (Цётка), нават арыстакратыі (Магдалена Радзівіл). У большасці гэтыя асобы прынялі мадэрны беларускі нацыяналізм у яго этна-моўным варыянце, а некаторыя нават свядома перайшлі на беларускую мову з польскай. Менавіта выхадцы са шляхты колькасна пераважалі ў беларускім нацыянальным руху на пачатковай фазе яго развіцця і стварылі тады большасць тэкстаў, якія заклалі культурны канон нацыянальнай ідэі.

А хада гісторыі ў гэты час якраз распальвала ў грамадстве сацыяльны канфлікт. Падзеі рэвалюцыі 1905 г., якія часта суправаджаліся адкрытымі і часам вельмі агрэсіўнымі выступленнямі сялян супраць землеўладальнікаў, яшчэ больш павялічвалі і без таго вялікую сацыяльную, культурную, а таксама і нацыянальную дыстанцыю паміж памешчыкамі і сялянствам і абвастрылі пытанне нацыянальнай прыналежнасці прадстаўнікоў шляхецкіх эліт. Ядвіга

62 Тамсама, s. 19.
63 Тамсама.
64 M. Wańkowicz, *Szczenięce lata*, Warszawa 1934, s. 78.

Скірмунт з Кобрынскага павета пісала да пісьменніцы Элізы Ажэшкі 29 сакавіка 1907 г. пасля бунту сялян у маёнтку Моладава: “*Wiedziałam przecież dawniej, że lud nasz różny jest od nas mową, narodowością i wiarą, wiedziałam, że może zachować złe wspomnienia z pańszczyźny, wiedziałam, że jest ciomny i nieufny, podatny do złych wpływów, ale nie przypuszczałam, że jest tak od nas daleki, tak zamknięty przed nami, tak idący za każdym nienawistnym podmuchem*”[65]. Блізкі сваяк Ядвігі Раман Скірмунт, багаты землеўладальнік і таленавіты прадпрымальнік, пачынае цікавіцца пытаннем беларускага руху, што пазней прывяло яго на пасаду прэм’ер-міністра Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэта ж можна сказаць і пра яго сябра, аднаго з самых уплывовых і паважаных землеўладальнікаў Беларусі Эдварда Вайніловіча, які быў адным з нямногіх памешчыкаў, хто адкрыта прызнаваўся ў беларускім паходжанні свайго роду: “*(...) zaznaczyć muszę, że był to ród miejscowy białoruski*”[66]. Тое ж ён пісаў адносна часткі мясцовага зямянства: “*Poważną część ziemiaństwa polskiego na Białorusi, obejmującej część gubernji wileńskiej, większość grodzieńskiej i całość mińskiej, mohylewskiej i witebskiej, stanowią autochtoni, szlachta miejscowego pochodzenia, niegdyś wyznająca obrządek wschodni, lecz naogół w XVII wieku już katolicka i spolszczona. Poczuwała się ona do wspólności krwi z ludem miejscowym, a przytem znała jego język, obyczaje i bynajmniej nie dążyła do jego polszczenia, ale owszem, współczuła przejawiającym się już w 2-giej połowie XIX w., wprawdzie bardzo słabym, ale istotnym, odruchom narodowościowym, którego pierwszymi pionierami byli ziemianie polscy*”[67]. Вайніловіч таксама цікавіўся беларускім нацыянальным рухам, але яго, як перакананага кансерватара, адштурхоўваў усё больш выразны сацыялістычны кірунак гэтага руху.

Блізкі сусед і хросьнік Эдварда Вайніловіча памешчык Зыгмунт Даманьскі прытрымліваўся хутчэй *эндэцкіх* поглядаў на праблему нацыянальных адносін на беларускіх землях. Ён сцвярджаў, што яго род паходзіў з Любельшчызны і некалькі стагоддзяў таму перасяліўся на Случчыну[68], і пісаў адносна мясцовай шляхты: “*...byliśmy odwiecznymi*

65 M. Nowak-Kiełbikowa, *Konstanty Skirmunt: polityk i dyplomata,* Warszawa 1998, s. 29.
66 E. Woyniłłowicz, *Wspomnienia 1874-1928*, Wilno 1931, cz. 1, s. 5.
67 Тамсама, s. 210.
68 *Zakład Narodowy im. Ossolińskich, Dział Rękopisów,* 15414 – II, Zygmunt Domański, Pamiętniki, t.1, Pol. XX s., s. 18.

*autochtonami, wywodzączmi się albo bezposrednie z miejscowej ludności, albo przybyli drogą penetracji sąsiedzkiej z Polski przed setkami lat. Zupełnie to samo można powiedzieć o tamtejszej szlachcie zaściankowej i nielicznej inteligencji miast i miasteczek*"[69]. Стаўленне Даманьскага да беларускага нацыянальнага руху было, хутчэй, негатыўным: "*Zawsze oburzało mnie i oburza jako falsz historyczny nazywanie dawnych ziem północno-wschodnich Rzeczypospolitej Polskiej ziemiami białoruskimi. Jest to oczewista nieprawda, gdyż do wielu wieków były to ziemie polsko-białoruskie, gdzie obok siebie przez stulecia zamieszkiwała ludność polska, świadoma swej narodowości i białoruska przed kilkuset laty również świadoma, ale która świadomość tę utraciła i stała się ludnóścią – „tutejszą" – W każdym razie jak najmocniej podkreślić trzeba, że nigdy na ziemiach północno-wshodnich nie było antagonizmów narodowych polsko-białoruskich. Rozumie się zdarzały się zatargi wsi ze dworem, ale powstawały one nie na podłożu narodowościowym, a jedynie socjalnym. Tym się nasze kresy północno-wschodnie różniły od południowo-wshodnich, gdzie antogonizmy polsko-ukraińskie miały znacznie głębsze podłoże, a różnorodność ich była wielka: narodowość, religia, kultura, warunki gospodarcze*"[70]. Стаўленне Даманьскага да беларускага нацыянальнага руху яскрава выяўляецца таксама ў наступнай цытаце з яго ўспамінаў: "*Właściwie za czasów mego dzieciństwa nie tylko w ogóle nie wówiłło się o narodzie białoruskim, ale nawet ludność białoruska sama siebie nie nazywała nigdy Białorusinami, a tylko tutejszymi. Cgy później, już po pierwszej wojnie światowej zaczęto tworzyć „naród białoruski", wtenczas krążyła następująca anegdota: „Byli ruskije, byli niemcy, byli polaki, a tiepier niejkije białorusy przyszli*"[71]. Сапраўднай мяжой падзелу ў грамадстве Беларусі, на думку Даманьскага, выступала не нацыянальнасць, а рэлігія[72].

Гэты аўтар таксама пісаў, што ў панскіх дварах вельмі пашыраныя былі тайныя польскія школкі, якія, хоць і былі забароненыя ўрадам, дзякуючы схільнасці паліцыі да хабару, дзейнічалі даволі свабодна і выкрываліся рэдка: "*W szkółkach nauczano polskiego czytania i pisania, katechizmu, historii polskiej i rachunków, a nikomu nie przychodziło do głowy, że to białorusożercza działalność polskich*

69 Тамсама, s. 19.
70 Тамсама, s. 19-20.
71 Тамсама, s. 20.
72 Тамсама.

Працытуем больш эмацыйны зварот: "*Из газет мы узнали, что Священник Вераксин утверждал в Государственной Думе, что нас поляков нет в Дисненском уезде. Это удивительно – когда мы хотим купить землю у православного, открыть школу, поступить на государственную службу, то нам говорят в глаза: "Вы поляки, вам нельзя, разве тогда лишь, когда примете православие". Когда же отдаем ребенка в школу, то, несмотря на протесты наши, на то, что мы умеем читать по-польски, нас же называют белорусами (…). Молим Вас со слезами – не дозвольте Священникам Вераксиным убивать нас душевно, скажите в Думе, что у нас столько жизненных сил, что мы все перенесем (…). Мы просим Вас, окажите нам помощь открыть хоть начальные польские школы – хоть на наши средства*"[45].

У Глыбокім існавала таемнае навучанне польскай мове. Ёсць таму некалькі сведчанняў. У адным з прашэнняў, падобных прыведзеным вышэй, гаварылася: "*У нас принято как заповедь Божия не отдавать ребенка в школу, пока не обучим тайком читать и писать по-польски. Если же местные условия, ставимые полицией, так тяжелы, что по-польски мы не можем обучать ребёнка, то вовсе не посылаем в русскую школу*"[46]. У снежні 1907 г. у Глыбокім уладамі была выкрытая таемная польская школа, якую арганізаваў ксёндз Буйвіс на сродкі таварыства *"Асвета"* ў доме, нанятым у селяніна Мацея Садоха. У ёй польскай і рускай грамаце навучаліся 75 дзяцей, настаўнікамі былі дваранкі Марыя Буш, Станіслава Мастовіч і мешчанін Адольф Кляноўскі[47].

У кастрычніку 1908 г. Глыбоцкі аддзел *"Саюза рускага народа"*[48] звяртаўся ў Віленскі губернскі аддзел гэтай арганізацыі з прашэннем аб закрыцці польскай школы ў Глыбокім "*как противогосударственной, имеющей своей целью не просвещение народа, а воспитание в духе ненависти к Русскому Царю, Русскому Народу и Православию. Пользуясь бедствием нашей Родины, поляки напрягают все усилия к разложению ея, и на развалинах Русского Государства они стремятся*

45 *LMAVB RS,* f. 43, vnt. 25024, l. 1.
46 *LMAVB RS,* f. 43, vnt. 25024, l. 5.
47 *LVIA,* f. 378, агульны аддзел 1911 г., b. 45, l. 44.
48 "Саюз рускага народа" – расійская палітычная арганізацыя ў 1905-1917 гг., праграма і дзейнасць якой грунтаваліся на манархічных, шавіністычных і антысеміцкіх ідэях, а таксама праваслаўным радыкалізме; карысталася падтрымкай ўрада.

*восстановить Польшу от моря до моря. А для этой цели им нужно посредством школ ополячить и окатоличить Русский Православный Народ"*[49]. Папячыцель Віленскай вучэбнай акругі рапартаваў віленскаму генерал-губернатару аб тым, што вучылішча гэта было ліквідаванае, а дзеці распушчаныя па хатах бацькоў.

Такім чынам, прыведзеныя факты паказваюць, што школа, а праз яе і шырокія масы мясцовага насельніцтва былі ўцягнутыя ў вострае польска-расійскае ідэалагічнае супрацьстаянне, суперніцтва паміж Праваслаўнай царквой, што карысталася падтрымкай расійскіх улад, і Каталіцкім касцёлам, які меў падтрымку памеснай шляхты каталіцкага веравызнання. Ад гэтага цярпелі, найперш, беларусы, не маючы магчымасці вучыць дзяцей на роднай мове.

Увогуле, неабходна падкрэсліць, што палітычныя фактары ў другой палове XIX – пачатку XX ст. негатыўна паўплывалі на міжканфесійныя адносіны. Адным з яскравых паказчыкаў гэтага з'яўляецца змяншэнне колькасці змяшаных шлюбаў паміж праваслаўнымі і каталікамі. У даследаванні Сяргея Токця, прысвечаным Глыбоцкаму праваслаўнаму прыходу 1843–1902 гг., выяўленая наступная дынаміка змяшаных шлюбаў: за 1843–1862 гг. у Глыбоцкім прыходзе было зафіксавана 15,5 % змяшаных шлюбаў; за 1863–1882 гг. – 5,7 %; за 1883–1902 гг. – 2,9 %. Так, палітычная сітуацыя пасля паўстання 1863 г. накладалася на чалавечыя адносіны і ўзмацняла бар'еры, якія абмяжоўвалі магчымасці ўзаемадзеяння паміж людзьмі, што жылі ў прасторы агульнай этнічнай культуры і размаўлялі на адной мове[50].

Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, паступова пашыралася беларускае нацыянальна-культурнае Адраджэнне. Гэты працэс зрабіў уплыў і на частку жыхароў Глыбокага, аб чым сведчыць наяўнасць на старонках *"Нашай Нівы"* карэспандэнцый з гэтага мястэчка. У прыватнасці, у 1910 г. нехта з глыбачан у тэксце *"Хватае грошы на кірмаш, а на кніжкі – німаш"* з сумам і заклапочанасцю пісаў у газету пра цяжкасці пашырэння асветы сярод простага люду: «*на глыбочанскіх кірмашах заўсягды народу паўнюсенька. Таргі ідуць бойка: у дзьвох*

49 *LVIA*, f. 378, агульны аддзел 1908 г., b. 354, l. 4.

50 С. Токць, *Змены ў рэлігійным жыцці беларускай вёскі ў другой палове XIX – напачатку XX ст.*, "Rocznik Centrum Studiów Białoruskich/Гадавік Цэнтра беларускіх студыяў", 2015, № 1, с. 101.

*манапольках, у дзьвох карчмах і па ўсіх тайных шыночках, – а іх знойдзеш амаль не ў кожнай хаце. А як прыйшлося зрабіць прыгавор, каб скінуцца па капейцэ з дзесяціны і адкрыць гарадское вучылішча, дык падняілі такі гвалт, што хоць ты вушы затыкай! "І бяз кніжкі, – загудзелі яны, – патрапяць нашы дзеці араць ды баранаваць!" Толькі цікаўна, гдзе змесьцяцца гэтыя аратыя; бо найбольш гаспадароў такіх, што зямліцы маюць па чацьверціне, а аратых поўны падпечэк. (…) Але знайшліся людзі, каторые можэ і даб'юцца лепшай справы»*[51]. У прыведзенай цытаце адбілася і такая вострая праблема той эпохі, як малазямелле. Адлюстравалася на старонках *"Нашай Нівы"* таксама абурэнне карэспандэнта з Глыбокага негатыўным уплывам дзейнасці шавіністычнага *"Саюза рускага народа"*: *"У чэрвені прыежджаў у Глыбокае ковенскі Архірэй пасьвенцаць у Берэзвечы цэркву, каторая была калісь-то з Базыльянскім манастыром. Глыбочане чэкалі і перэймалі высокага духоўніка хлебам і соляй – і ўсё было-б добра, каб не якіесь-то злыдні, каторые пачалі раздаваць народу лісткі, у каторых цкуюць людзей адных на адных"*[52]. На старонках газеты "злыднямі" мясцовыя карэспандэнты часта называлі чарнасоценцаў з *"Саюза рускага народа"*. Факты звяртання жыхароў Глыбокага з праблемамі, якія іх хвалявалі, у газету *"Наша Ніва"* варта таксама трактаваць у кантэксце ўзнятай намі тэмы абароны лакальнай супольнасцю сваіх інтарэсаў.

## Актыўнасць габрэйскага насельніцтва Глыбокага

Добрыя прыклады абароны сваіх інтарэсаў дэманстравалі габрэі. Зрабіўшыся ў выніку комплекса гістарычных фактараў пераважнай большасцю насельніцтва мястэчак, манапалізаваўшы сферу гандлёва-прамысловага прадпрымальніцтва, габрэі праяўлялі значную актыўнасць у абароне не толькі сваіх эканамічных інтарэсаў, аднак старанна захоўвалі сваю традыцыйную культуру, у тым ліку рэлігію, мову, сістэму адукацыі. У той жа час габрэйскія абшчыны (штэтлы) імкнуліся адаптавацца да новых павеваў і абставін. Дакументы, выяўленыя ў архівах Мінска і Вільні, сведчаць пра розныя

51 *"Наша Ніва"*, 1910, № 7.
52 *"Наша Ніва"*, 1910, № 34.

бакі жыцця габрэйскай абшчыны Глыбокага, дазваляюць прадставіць маштабы іх дзейнасці, стратэгіі паводзінаў у той ці іншай сітуацыі.

Падчас антырасійскіх паўстанняў 1830–1831 гг., 1863–1864 гг. габрэі беларуска-літоўскага краю, як правіла, прытрымліваліся нейтралітэту. Здавалася, што цікавую інфармацыю павінен змяшчаць дакумент пад назвай *"Справа па прашэнні мешчаніна м. Глыбокага Шавеля Фрыдмана аб зняцці з яго паліцэйскага нагляду, устаноўленага за датычнасць да польскага паўстання 1831 г."*. Але выявілася, што паліцэйскі нагляд за названым мешчанінам быў устаноўлены па прычыне таго, што ў яго былі знойдзеныя некаторыя рэчы з ліку скрадзеных у памешчыка Рудамінава. Паводле тлумачэнняў Фрыдмана, гэтыя рэчы былі ім набытыя ў габрэя Ізраіля Шромана. Мясцовае насельніцтва, у тым ліку і габрэі, цярпелі страты з-за рэквізіцый падчас паўстання. Адзін з глыбоцкіх мяшчан Вульф Спаер звярнуўся да губернскіх улад са скаргай, у якой патрабаваў кампенсаваць яму ўзятыя ў яго 28 верасня 1831 г. сотнікам казацкага палка Харытонавым для казённых коней 30 чвэрцяў аўса і 80 пудоў сена[53].

Адным з найстрашэнных і досыць частых бедстваў ў мястэчку былі пажары. Напрыклад, вядома, што Глыбокае гарэла ў 1700, 1756, 1831, 1859, 1874, 1882, 1910 гадах. Як правіла, пагарэльцаў ратавала ўзаемадапамога жыхароў як самога Глыбокага, так і іншых мястэчак. Даводзілася звяртацца і да ўладальнікаў мястэчка. Так зрабілі 40 габрэйскіх сямействаў, якія пацярпелі ад пажару ў 1831 г., узяўшы ў князя Льва Вітгенштэйна пазыку на аднаўленне дамоў у памеры 1 684 руб. 83 кап. срэбрам (ад 18 да 150 рублёў на кожную сям'ю). У 1859 г. гэта гісторыя мела працяг, калі адначасова разглядаліся дзве судовыя цяжбы: 1) па пазове князя Пятра Вітгенштэйна аб спагнанні грошай, выдадзеных пацярпелым ад пажару габрэям па пазыковых абавязацельствах; 2) па пазове жыхароў Глыбокага аб няправільным спагнанні Эканоміяй князя з жыхароў мястэчка гандлёвага збору за розныя прадукты. Габрэі спрабавалі давесці суду, што сума ў памеры 1 684 руб. 83 кап. была князем Вітгенштэйнам габрэям падараваная "*по случаю их бедности*". Калі губернскае праўленне дало дазвол на вопіс і ацэнку маёмасці глыбоцкіх габрэяў-даўжнікоў для продажу

53 *LVIA*, f. 378, агульны аддзел, 1832 г., b. 99.

з публічных таргоў, то габрэі звярнуліся з прашэннем, у якім прапаноўвалі "*оба дела кончить миролюбным порядком, дабы раз и навсегда прекратить дальнейшие обоюдные распри и тяжбы*"[54].

У 1874 г. пагарэльцы Глыбокага (габрэі і хрысціяне) звярталіся з прашэннем да віленскага генерал-губернатара з просьбай аб выдачы ім дапамогі. Паведамлялася, што згарэлі 30 жылых дамоў, без даху над галавой засталіся 60 сямействаў. Пад прашэннем паставілі свае подпісы і габрэі, і хрысціяне мястэчка. За шасцярых непісьменных хрысціян распісаўся Вацлаў Багдановіч, габрэі ж распісаліся ўласнаручна (тыя, хто не валодаў рускай мовай, каля сваіх імёнаў, напісаных па-руску, паставілі подпісы на ідышы)[55].

У 1898 г. у Глыбокім заснаванае пажарнае таварыства. Захаваўся яго зварот да віленскага генерал-губернатара ў 1899 г. з просьбай аб водпуску 150 рублёў на набыццё новых пажарных інструментаў з сум Глыбоцкага натарыяльнага збору (у натарыяльнай канторы ў Глыбокім спаганяўся збор з актаў на карысць мястэчка)[56].

У 1881 г. упаўнаважаныя ад габрэйскай абшчыны Глыбокага хадайнічалі аб дазволе скарыстаць з сум каробачнага збору[57] 665 руб. на прадукты харчавання для бедных габрэяў мястэчка. Просьбіты сцвярджалі, што больш за 200 сямействаў "*живет впроголодь и терпит крайнюю нужду*", назапасіліся вялікія нядоімкі дзяржаўных падаткаў[58].

Архіўныя дакументы захавалі сведчанні абароны габрэямі Глыбокага сваіх эканамічных інтарэсаў. Так, у 1882 г. яны спрабавалі дамагчыся пераносу Дзісенскага з'езда міравых суддзяў з г. Дзісны ў м. Глыбокае, спадзеючыся, што гэта паспрыяе ажыўленню эканамічнага жыцця мястэчка[59]. У 1895 г. габрэяў, якія жылі і гандлявалі на Віленскай вуліцы, устрывожыў факт залажэння ўладальнікам мястэчка Карлам Скерстам новай вуліцы да вакзала: яны лічылі, што ў выніку гэтага Віленская вуліца можа страціць сваю каштоўнасць

54 *НГАБ,* ф. 694, воп. 4, адз. зах. 5377, арк. 54 – 54 адв., 91 – 92.
55 *LVIA,* f. 378, агульны аддзел, 1874 г., b. 275, l. 2.
56 *LVIA,* f. 378, агульны аддзел, 1899 г., b. 561.
57 Каробачны збор – унутрыабшчынны падатак, галоўным чынам, на кашэрнае мяса (прыдатнае да ўжывання іўдзеямі згодна з рэлігійнымі прадпісаннямі), са сродкаў каробачнага збору выплачваўся заробак рабінам, а таксама пакрываліся выдаткі на іншыя патрэбы кагала. У Расійскай імперыі каробачны збор стаў асноўнай крыніцай выплаты дзяржаўных павіннасцей і пагашэння кагальных даўгоў.
58 *LVIA,* f. 378, агульны аддзел, 1881 год, b. 690.
59 *LVIA,* f. 378, агульны аддзел, 1882 г., b. 174.

у гандлёвым сэнсе. Каб перашкодзіць ініцыятыве Скерста, габрэі звярнулі ўвагу губернскага начальства на тое, што сход гаспадароў мястэчка не даваў згоды на стварэнне новай вуліцы, абмяркоўваліся толькі пытанні ўстаноўкі ліхтароў, пасадкі дрэў па вуліцах[60].

У 1904 г. Абрам Фрумін атрымаў праз таргі падрад на работы па брукаванню дарогі ад Глыбокага да станцыі Беразвечча. Абвешчаная ім цана была найменшай з прапанаваных на таргах і менш за каштарысную на 286 руб. 19 кап.[61]

У 1880 і 1882 гг. купцы і абывацелі Глыбокага (мяркуючы па подпісах пад прашэннямі – усе габрэі) звярталіся з хадайніцтвам да віленскага генерал-губернатара аб адкрыцці коннага паштовага тракту па Глыбоцка-Свянцянскай ваенна-камунікацыйнай дарозе з усталяваннем паштовых станцый з коньмі ў Глыбокім, Паставах, Дунілавічах, Гадуцішках. Глыбоцкія габрэі даводзілі, што "*наше местечко по числу жителей и торговле крайне нуждается в таковой станции и почтовом тракте*"[62].

У 1903 г. габрэі Глыбокага пратэставалі супраць забудовы рынкавай плошчы крамамі, якую распачаў уладальнік мястэчка Вікенцій Восіпавіч Путырскі (набыў Глыбокае ў Скерста ў 1897 г.). У сваім прашэнні абураныя габрэі пісалі пра тое, што Путырскі пад выглядам рухомых лавак часовага характару пабудаваў 3 крамы, якія здае ў арэнду за 60 руб. у год, склаў на рынку будаўнічыя матэрыялы і збіраецца забудаваць плошчу з усіх чатырох бакоў крамамі. Падаўцы скаргі патрабавалі забараніць Путырскаму далейшую забудову базарнай плошчы і выдаць распараджэнне пра знос незаконна збудаваных лавак. Сваю пазіцыю глыбачане абгрунтоўвалі так: "*Местечко Глубокое, имея населения 8 тысяч и имея общественное и мещанское управление, носит городской характер. Мы сами устроили Базарную площадь, устроили колодец, провели мостовую за свой счет, мы сами очищаем эту площадь, мы пользуемся гноем, собранным на площади, мы постоянно торгуем на этой площади, а главное – Базарная площадь никогда не находилась в фактическом владении ни Путырского, ни прежних владельцев*"[63]. На ўзроўні губернскай адміністрацыі просьба

60 *LVIA*, f. 382, ap. 1, b. 1652.
61 *LVIA*, f. 378, агульны аддзел, 1904 г., b. 411.
62 *LVIA*, f. 378, агульны аддзел, 1882 г., b. 693, l. 25-26.
63 *LVIA*, F. 382, ap. 2, b. 1079.

глыбоцкіх габрэяў не была задаволеная. Вядома, што яны звярталіся з нагоды гэтай праблемы ў Сенат.

Часам супярэчлівыя і канфліктныя адносіны складваліся паміж самімі габрэямі Глыбокага. Прыклады гэтага даносяць як архіўныя дакументы, так і матэрыялы перыядычнага друку. У 1835 г. канцылярыя віленскага генерал-губернатара атрымала ананімную скаргу глыбоцкіх габрэяў на кіраўніцтва кагалу аб розных злоўжываннях. Паведамлялася, што “*кагал обще с местным начальством делают разные злоупотребления, притесняют всяким образом тамошних евреев, от чего они пришли в совершенную бедность*”. А каб прыцягнуць увагу ўлады да злоўжыванняў кагальнай вярхушкі, у скарзе гаварылася пра недасканалы ўлік насельніцтва, што было важным для падаткаў: адзначалася, у прыватнасці, што ў Глыбоцкім кагале лічыцца 949 мужчын і 1 190 жанчын, і што пры складанні апошніх рэвізскіх сказак утоена каля 100 чалавек[64].

У фондзе канцылярыі віленскага генерал-губернатара захавалася таксама перапіска аб тым, што ў 1870 г. купец 2-й гільдыі Лейзер Вольфсан звярнуўся з прашэннем аб дазволе яму заснаваць у Глыбокім вінакурны завод. Аднак супраць гэтага выступіў арандатар казённага млына Залман Мірман, баючыся, што вінакурня можа паўплываць на змяншэнне ўзроўню вады ў рацэ[65]. У 1893 г. на разгляд віленскага генерал-губернатара паступіла справа па ананімным прашэнні домаўладальнікаў Глыбокага аб незаконных дзеяннях ліхвяра Шмуйлы Левіна. Ліхвярствам ён займаўся разам з жонкай Ханай. У скарзе паведамлялася, што справядліваму разгляду гэтай справы перашкодзіў хабар у памеры 500 руб.[66]

Дастаткова камічныя сцэны вырашэння канфліктаў паміж габрэямі шляхам традыцыйных боек у сінагозе ўтрымліваюць матэрыялы мясцовай газеты *“Gluboker lebn”* (*“Жыццё ў Глыбокім”*) ад 25 верасня 1931: “*Іншыя людзі любяць біцца ў корчмах (...) Мы аддаем перавагу бойкам ў сінагозе. Усе спрэчкі, усе эмоцыі (…) зберагаліся для сінагогі на Шабат ці свята. Калі хтосьці затаіў крыўду супраць кагосьці (...), ён чакае Суботы*”. Газета паведамляла, што ў папярэднюю

64 *LVIA,* F. 378, агульны аддзел, 1835 г., b. 680, l. 2, 4v.
65 *LVIA,* F. 382, ap. 1, b. 769.
66 *LVIA,* F. 378, агульны аддзел 1893 г., b. 341.

суботу былі бойкі ў трох сінагогах Глыбокага. Асабліва буйная сутычка адбылася ў 1932 г. на Йом-Кіпур[67]. Спатрэбілася нават умяшальніцтва паліцыі, 25 чалавек былі прыцягнутыя да суда. Рэдактар мясцовай газеты заклікаў апазіцыйныя партыі прымірыцца перад пачаткам суда. Нейкі час здавалася, што гэта атрымалася, але, як толькі пачаўся суд, узаемныя абвінавачванні аднавіліся, выклікаючы смех прысутных[68].

Аднак усё ж габрэйская грамада мястэчка, нягледзячы на выпадкі, падобныя апісанаму вышэй, характарызавалася досыць высокай ступенню салідарнасці і ўзаемадапамогі, арганізаванасці і адказнасці ў вырашэнні агульных спраў. Цікава, што гэтыя якасці габрэяў былі падкрэсленыя ў адной з публікацый *"Нашай Нівы"* ў 1911 г. У артыкуле Аляксандра Уласава (рэдактар-выдавец газеты) "*Воласное земства і жыды*" паказвалася значная роля габрэяў у развіцці гандлю, адукацыі і медыцынскай справы. Аўтар пераконваў, што нельга абмяжоўваць габрэяў у правах на ўдзел у мясцовым самакіраванні: *"Нашы беларускія жыды са сваёй большай культурнасцю і практычным розумам былі б надта карыснымі ў валасным земстве. І цяпер, калі ў нас няма ніякага земства, то местачковыя жыды наймаюць доктара, ад каторага карысць не толькі жыдам(...) Цяпер шмат адкрываецца па гарадах і мястэчках гімназій і сярэдніх школ, і ўсё гэта арганізуюць жыды, а там вучацца і хрысціяне. Выходзіць, што жыды ў нас сваёй ахвотай робяць тое, што павінны рабіць земствы, гарадскія думы і ўрад. Жыды ў нас першымі пачалі адкрываць і хаўрусныя банчкі. Яшчэ трэба сказаць, што жыды ў грамадскіх арганізацыях ніколі не крадуць і не марнуюць грамадскіх грошай, як гэта у нас скрозь вядзецца..."*[69]. Мясцовыя карэспандэнты *"Нашай Нівы"* таксама падкрэслівалі станоўчыя і карысныя бакі дзейнасці габрэяў. З Гродзеншчыны нехта М. Арол пісаў: "*У маім родным мястэчку жыды маюць свой хаўрусны банчок, свой пастаянны тэатр, дзе часта іграюць пьесы са свайго жыцця, – адным словам, жывуць для свайго народу. А нашы інтэлігенты (ёсць многа вучыцелёў) нічым не цікавяцца, акрамя карт і гарэлкі..."*[70].

67 Судны дзень – самае важнае са святаў у габрэйскай традыцыі, дзень посту, пакаяння і адпушчэння грахоў.

68 D. S. Kassow, *Community and Identity in the Interwar Shtetl,* [w:] *The Jews of Poland between Two World Wars,* ed, Yisrael Gutman and others, University Press of New England 1989, p. 204-205.

69 *"Наша Ніва"*, 1911, № 14.

70 *"Наша Ніва"*, 1911, № 34.

Габрэйская салідарнасць і ўзаемадапамога асабліва відавочнымі былі ў часы бедстваў (пажараў, пагромаў, войнаў). Акрамя прыведзеных вышэй прыкладаў падтрымкі збяднелых местачкоўцаў, пацярпелых ад пажараў, варта прыгадаць і факт функцыянавання ў Глыбокім у гады Першай сусветнай вайны аддзялення Габрэйскага таварыства дапамогі ахвярам вайны і пагромаў (пакідаючы мястэчка, расійскія войскі зладзілі некалькі пагромаў у жніўні і верасні 1915 г.)[71].

Захавалася даволі багата звестак пра актыўнасць габрэяў у розных сферах жыцця Глыбокага ў міжваенны час. Паводле інфармацыі глыбоцкага ксяндза, у 1935 г. у мястэчку жылі 3 711 габрэяў: за дзесяцігоддзе з 1925 па 1935 г. эміграваλі 17 сем'яў. Галоўным заняткам габрэяў Глыбокага быў гандаль – ім займаліся 433 сям'і, 94 сям'і існавалі за кошт рамесніцкіх заняткаў, 3 габрэйскія сям'і былі звязаныя з земляробствам[72]. У мястэчку функцыянавалі каса ўзаемадапамогі, якая выдавала беспрацэнтныя пазыкі, габрэйскі банк, бальніца, паліклініка. Уражвае даволі развітая інфраструктура габрэйскага культурнага жыцця міжваеннага Глыбокага. Габрэйскія дзеці навучаліся ў двух агульнаадукацыйных польскіх, двух габрэйскіх школах (у адной з іх выкладанне вялося на ідышы, у другой – на іўрыце), а таксама ў польскай школе для габрэйскіх дзяцей з выходным днём па суботах (так званая "Шабасувка"). Акрамя гэтага, у Глыбокім быў габрэйскі гандлёвы тэхнікум "Хандлювка", навучанне ў якім вялося на ідышы. У мястэчку дзейнічалі пяць сінагог, столькі ж малітоўных школ, больш за дзесяць хедараў (пачатковых рэлігійных школ), а таксама ешыва (вышэйшае талмудысцкае вучылішча). Існавала габрэйская прэса: выдаваліся газеты *"Gluboker lebn"* (*"Жыццё ў Глыбокім"*), *"Gluboker shtime"* (*"Голас з Глыбокага"*), *"Gluboker vokh"* (*"Тыдзень у Глыбокім"*). З кнігамі габрэйскіх пісьменнікаў, а таксама з перакладзенымі на ідыш творамі рускіх, ангельскіх, польскіх і нямецкіх класікаў літаратуры можна было азнаёміцца ў Глыбоцкай бібліятэцы. Пра дастаткова насычанае культурнае жыццё ў тыя гады сведчыць таксама факт, што для габрэяў у двух кінатэатрах нароўні з польскімі кінастужкамі былі ў пракаце і габрэйскія кінастужкі на ідышы, выробленыя ў ЗША[73]. Па дадзеных на 1928 г. адзін з кінатэатраў

71 *Głębokie*, Доступ: http://www.sztetl.org.pl/be/article/glebokie/7,-/45378,-/
72 *LMAVB RS*, f. 318, vnt. 14839, l. 12.
73 *Głębokie*, Доступ: http://www.sztetl.org.pl/be/article/glebokie/7,-/45378,-/

Глыбокага належаў Давіду Брудно[74]. Меліся таксама хор, аркестр, некалькі драматычных гурткоў і футбольная каманда *"Макабі"*. У Глыбокім функцыянавалі філіялы некалькіх сіянісцкіх арганізацый, атрымала распаўсюджванне і дзейнасць *"Бунда"*. Усе габрэйскія палітычныя партыі і грамадскія арганізацыі пасля ўваходжання Глыбокага ў 1939 г. у склад БССР былі ліквідаваныя савецкімі ўладамі. Мабыць, апошняй габрэйскай арганізацыяй у мястэчку было створанае ў Глыбоцкім гета падполле, якое арганізавала ўзброены супраціў падчас знішчэння гета ў жніўні 1943 г.[75]

## Высновы

Прадстаўленыя старонкі гісторыі мястэчка Глыбокае адлюстравалі вір актыўнасцей яго жыхароў у гаспадарчай, рэлігійнай, асветніцкай, культурнай, сацыяльнай, грамадска-палітычнай дзейнасці. Мястэчка Глыбокае на працягу стагоддзяў з'яўлялася зонай інтэнсіўных міжэтнічных і міжрэлігійных кантактаў, для якіх характэрныя дынаміка, разнастайнасць, супярэчнасці, канфлікты. Прадстаўленыя прыклады змагання жыхароў Глыбокага за свае правы сведчаць аб тым, што мелі месца разнастайныя формы, стратэгіі і тактыкі абароны імі сваіх інтарэсаў: ад пасіўных да радыкальных. Глыбачане даволі часта праяўлялі дастаткова высокую ступень чалавечай годнасці, актыўнасці, самаарганізацыі, салідарнасці пры дасягненні сваіх мэтаў. Выяўленыя дакументальныя крыніцы пацвердзілі характарыстыку жыхароў Глыбокага, якую даў ім у другой палове XIX ст. мясцовы святар, падкрэсліваючы высокае *"практычнае разумовае развіццё"* глыбачан, веданне імі законаў, уменне не даць сябе падмануць, пастаяць за сябе і за сваіх братоў[76].

На прыкладзе Глыбокага, а таксама шэрагу іншых мястэчак, лакальная гісторыя якіх стала прадметам спецыяльнага даследавання, можна сцвярджаць, што мястэчкі рабілі ўнёсак у працэс фарміравання грамадзянскай супольнасці ў Беларусі. На вялікі жаль, гэтыя пазітыўныя працэсы з-за неспрыяльных

74 *Lietuvos centrinis valstybės archyvas* , f. 51, ap. 4, b. 290, l. 15.
75 И. Альтман, *Глубокое*, [в:] *Холокост на территории СССР*. Москва 2009, с. 220-223.
76 Цыт. па: Н. Храпавіцкая, *Сацыяльна-дэмаграфічнае становішча хрысціянскага насельніцтва прыватнаўласніцкай часткі м. Глыбокае*, с. 37.

гістарычных фактараў замаруджваліся, часам перапыняліся і да гэтай пары застаюцца незавершанымі. Вельмі негатыўна адбіліся на гэтым працэсе страта штэтла з актыўным, прадпрымальным, салідарным габрэйскім насельніцтвам, рэпрэсіі ўлад, русіфікацыя і саветызацыя. Тым не менш Глыбокае і сёння застаецца вельмі цікавым горадам з незвычайным гістарычным мінулым, багатай культурнай спадчынай, шэрагам актыўных краязнаўцаў-патрыётаў[77], эклектычнай алеяй герояў у цэнтры мястэчка, упрыгожанай бюстамі славутых прадстаўнікоў Глыбоччыны[78], з цікавай гістарычнай памяццю старажылаў мястэчка[79].

77 Іосіф Бунто, Уладзімір Скрабатун, Юрый Калбасіч, Кастусь Шыталь, Надзея Храпавіцкая, Маргарыта Кажанеўская ды іншыя

78 Сярод іх Іосіф (Юзаф) Корсак (1590-1643), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, мецэнат, заснавальнік парафіяльнага касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім, манастыра ўніяцкага базыльянскага ордэна ў Беразвеччы, касцёла і кляштара кармелітаў у Глыбокім; Ігнат Буйніцкі (1861-1917), беларускі акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч, заснавальнік першага прафесійнага нацыянальнага беларускага тэатра; Вацлаў Ластоўскі (1883-1938), беларускі пісьменнік, гісторык, філолаг, літаратуразнавец, грамадскі і палітычны дзеяч, прэм'ер-міністр Беларускай Народнай Рэспублікі, дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея; Язэп Драздовіч (1888-1954), беларускі жывапісец, графік, скульптар, пісьменнік, фалькларыст, этнограф і археолаг; Алесь Дубровіч (1910-1942), беларускі паэт, грамадскі і палітычны дзеяч; Эліэзер Бэн-Егуда (1858-1922), габрэйскі мовазнаўца, "бацька сучаснага іўрыту"; Павел Сухі (1895-1975), савецкі авіяканструктар; Юрый Сабалеўскі (1923-2002), заснавальнік нацыянальнай школы геатэхнікі; Пётр Казлоў (1893-1944), генерал-лейтэнант, Герой Савецкага Саюза. Памяць пра польскага пісьменніка, аўтара вядомага рамана "Знахар" Тадэвуша Даленгі-Мастовіча (1898 -1939) увекавечана мемарыяльнай дошкай на доме №2 па вул. Савецкай. Інфармацыя пра Клаўдзія Дуж-Душэўскага (1891-1959), беларускага грамадска-палітычнага і культурнага дзеяча, архітэктара, журналіста, аўтара эскіза бел-чырвона-белага сцяга маецца ў экспазіцыі Глыбоцкага гісторыка-краязнаўчага музея.

79 Так, падчас экспедыцыі ў Глыбокае, прысвечанай памяці пра 1939 год (ліпень 2014 г.), былі запісаныя шматлікія аповеды пра "героя Палчынскага": гэты польскі афіцэр быў начальнікам памежнай заставы, 17 верасня ён прыкрываў адыход сваіх салдат і, паводле рэспандэнтаў, забіў з кулямёту да 100 чырвонаармейцаў. Пра гэта распавядалі з выразным гонарам! Таксама прыгадвалі, што прыходзіў на танцы да мясцовых дзяўчат. Размаўляў па-беларуску і г. д. Можна казаць, што адбываецца пэўны працэс беларусізацыі "героя" (*Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі,*/ рэд. А. Смаленчук, Мінск 2015, с. 19.). Шмат цікавых вусных успамінаў было сабрана ў Глыбокім падчас экспедыцыі, прысвечанай памяці пра габрэйскае мястэчка (ліпень 2015 г.). Навуковае выданне па выніках гэтай экспедыцыі рыхтуецца да друку маскоўскім Цэнтрам іўдаікі "Сэфер".

## Streszczenie

Ina Sorkina, *Lokalne społeczności miasteczek Białorusi w obronie swoich interesów (na przykładzie Głębokiego w XIX – początku XX w.)*

Artykuł poświęcony jest historii walki o swoje prawa i interesy mieszkańców miasteczka Głębokie w okresie jego przynależności do Cesarstwa Rosyjskiego (od końca XVIII do początku XX w.). Niektóre wyraźne przykłady takiej walki zaczerpnięte są z materiałów z późniejszego okresu. Te badania zostały przeprowadzone, przeważnie, na podstawie dokumentów znalezionych przez autorkę w Narodowym Archiwum Historycznym Białorusi w Mińsku, Litewskim Historycznym Archiwum Państwowym w Wilnie oraz w działach rękopisów bibliotek Uniwersytetu Wileńskiego i Akademii Nauk Litwy. Autorka opierała się na wcześniejszych badaniach, poświęconych historii Głębokiego: pracy Otto Hedemanna, Nadziei Hrapawickiej i innych. Artykuł podzielony jest na części tematyczne. Oprócz wstępu i zakończenia z wnioskami, wyodrębnione są rozdziały, w których rozpatrywana jest dynamika i struktura wspólnoty lokalnej Głębokiego; najbardziej jaskrawe przejawy oportunistycznych nastrojów i czynów jego mieszkańców od XIX do drugiej połowy XX w.; walka o wolność i ziemię, wiarę i język; aktywność żydowskiej społeczności Głębokiego w obronie swoich praw i interesów.

Zaprezentowane karty historii miasteczka Głębokie zilustrowały mozaikę działalności jego mieszkańców na polu gospodarczym, religijnym, oświatowym, kulturowym, socjalnym i społeczno-politycznym. Miasteczko Głębokie w przeciągu wieków było strefą intensywnych kontaktów międzyetnicznych i religijnych, dla których charakterystyczne były dynamika, różnorodność, sprzeczności i konflikty. Przedstawione przykłady walki mieszkańców Głębokiego o swoje prawa świadczą o tym, że stosowane były przez nich różnorodne formy, strategie i taktyki obrony swoich interesów: od biernych po radykalne. Mieszkańcy Głębokiego często przejawiali przy osiąganiu swoich celów wysoki poziom ludzkiej godności, aktywności, samoorganizacji i solidarności. Na przykładzie Głębokiego widać, że miasteczka miały swój wkład w proces formowania się na Białorusi wspólnoty obywatelskiej, jako grupy charakteryzującej się aktywnością i zdolnością do samoorganizacji, wyznaczenia oraz osiągnięcia celów bez impulsu ze strony władzy państwowej. Niestety,

te pozytywne procesy z powodu czynników historycznych przeciągały się, a czasem zatrzymywały, zostając do tej pory niedokończone. Bardzo negatywnie wpłynęły na to: zniszczenie przez nazistów *sztetla* z jego solidarnym i przedsiębiorczym żydowskim społeczeństwem, represje władz, rusyfikacja i sowietyzacja.

## Summary

Ina Sorkina, *Local Belarusian Town Communities in Defence of their Interests (The Example of Głębokie from of the 19th to the Start of the 20th Century)*

The article is dedicated to the history of struggle for rights and interests by the residents of the town of Głebokie, during the period when they belonged to the Russian Empire (end of the 18th century to the start of the 20th century). Some clear examples of this struggle are drawn from materials from a later period. Research was mostly carried out on the basis of documents located by the author in the National Historical Archives of Belarus in Minsk, the Lithuanian State Historical Archives in Vilnius, as well as the manuscript sections of the libraries of the University of Vilnius and the Lithuanian Academy of Sciences. The author based her research on earlier research dedicated to the history of Głębokie by Otto Hedemann, Nadzieia Hrapawicka and others. The article is divided into thematic sections. Besides the introduction and conclusion which contains findings, there are separate chapters in which the dynamics and structure of the local community of Głebokie are analysed – the most vivid displays of opportunistic attitudes and actions of its inhabitants from the 19th century to the second half of the 20th century, including the struggle for freedom and land, faith and language, as well as the activeness of the Głębokie Jewish community in defence of their rights and interests.

The presented events from the history of Głębokie are best illustrated by the whirlwind of activity of its inhabitants in economic, religious, educational, cultural, social and social-political spheres. Throughout the ages, the town of Głębokie was an area of intense interethnic and religious contacts, which were characterised by their dynamic nature, diversity, antagonisms and conflicts. The examples presented in the article evidence

the various forms, strategies and tactics they utilised – from the passive to the radical – which the citizens of Głębokie utilised in the struggle for their rights. The inhabitants of Głębokie often displayed a high degree of human dignity, activity, self-organisation and solidarity in achieving their goals. The example of Głębokie shows that towns had an influence on the process of forming civic community in Belarus – groups characterised by their activeness, talent for self-organisation, determining and achieving goals without stimulation from the state authorities. Unfortunately these positive processes, were protracted and sometimes even halted due to historical factors, remaining uncompleted to this day. They were very negatively influenced by the Nazi destruction of the *shtetl* (with its united and enterprising Jewish community), state repressions, Russification and Sovietization.

**Аляксандр Смалянчук**
**(Варшава/Гродна)**

# *“ПАКАЖЭЦЕ ЎСЯМУ СЬВЕТУ, ШТО ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ...”* РАМАН СКІРМУНТ І ДЗЕЙНАСЦЬ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА КАМІТЭТА Ў САКАВІКУ – ТРАЎНІ 1917 г.

Беларускі нацыянальны камітэт як кіраўнічы цэнтр беларускага нацыянальна-культурнага і палітычнага Адраджэння быў створаны напрыканцы сакавіка 1917 г. на менскім з’ездзе беларускіх партый і арганізацый. У яго склад былі абраныя пераважна прадстаўнікі адроджанай Беларускай сацыялістычнай Грамады (БСГ), а кіраўніком стаў Раман Скірмунт (1868-1939).

Р. Скірмунт ніколі не быў прыхільнікам сацыялістычнай дактрыны. Ён нарадзіўся ў сям’і Аляксандра Скірмунта, землеўласніка і стваральніка буйнога прамысловага цэнтра на Піншчыне. Да грамадска-палітычнага жыцця далучыўся напярэдадні Першай расейскай рэвалюцыі. Быў адным з ідэолагаў г. зв. краёвасці, якая супрацьпастаўлялася мадэрным нацыяналізмам і грунтавалася на грамадзянскім (ці палітычным) разуменні нацыі. Галоўным крытэрыем нацыянальнай прыналежнасці лічыўся патрыятызм у дачыненні да роднай зямлі (“Краю”). Краёўцы імкнуліся захаваць адзінства зямель і народаў “гістарычнай Літвы”.

У 1906 г. Раман Скірмунт быў дэпутатам Дзяржаўнай Думы і ініцыятарам стварэння асобнай думскай фракцыі ад Беларусі і Літвы. Ён падтрымліваў беларускае Адраджэнне, а напрыканцы 1916 г. па запрашэнні Максіма Багдановіча далучыўся да Менскага аддзела Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны. У канцы студзеня 1917 г. узначаліў аддзел, які ў той час стаў цэнтрам беларускага нацыянальнага руху на ўсход ад лініі расейска-германскага фронту. У пачатку сакавіка па ініцыятыве Р. Скірмунта Менскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны ператварыўся ў Беларускі камітэт і распачаў дзейнасць па прапагандзе беларускай ідэі і кансалідацыі ўсіх наяўных беларускіх сіл.

Трэба адзначыць, што менавіта Беларускі камітэт і яго кіраўнік Раман Скірмунт першымі выступілі публічна з лозунгам аўтаноміі

Беларусі ў межах федэратыўнай і дэмакратычнай Расейскай рэспублікі. Гэты лозунг стаў асновай дзейнасці беларускіх адраджэнцаў у 1917 г. Праца па нацыянальна-культурным Адраджэнні пачала сумяшчацца з актыўнай палітычнай дзейнасцю.

Якраз актыўнасць Беларускага камітэта прадвызначыла паважлівае стаўленне да беларушчыны ў Менску ў сакавіку 1917 г., якога раней не назіралася. Так, у прыватнасці, запланаваныя групай менскіх адвакатаў папулярныя лекцыі пра спосабы выбараў ва Устаноўчы сход абяцалі чытаць на рускай, польскай, беларускай мовах, а таксама на ідыш[1]. Камітэт грамадскай бяспекі вырашыў адкрыць у Менску Народны дом і даверыць кіраванне ім Беларускаму камітэту[2].

Вялікая заслуга ў гэтым належала Р. Скірмунту, які быў адзіным сябрам камітэта, што меў вопыт палітычнай дзейнасці і шырокія сувязі як з чыноўніцкай элітай, так і сярод грамадскіх дзеячаў Менскай губерні. У той час ён узначальваў аддзел забеспячэння ў новаствораным Менскім губернскім харчовым камітэце[3] і адначасна заставаўся віцэ-старшынёй Менскага таварыства сельскай гаспадаркі (МТСГ). Гэта найбольш значная арганізацыя мясцовых палякаў пасля Лютаўскай рэвалюцыі ўжо не абмяжоўвалася выключна вырашэннем гаспадарчых праблем, а спрабавала ўплываць на грамадска-палітычнае жыццё Меншчыны. Р. Скірмунт разам з Э. Вайніловічам імкнуліся захаваць “краёвы” характар МТСГ, накіроўваючы яго на вырашэнне праблем Беларускага краю, а не Каралеўства Польскага.

Трэба пагадзіцца з высновай гісторыка Станіслава Рудовіча, што яшчэ да сакавіцкага з’езда беларускіх арганізацый менскі асяродак ператварыўся ў рэальны цэнтр беларускага нацыянальнага руху і пачаў выконваць каардынацыйныя функцыі[4]. Менавіта Беларускі камітэт узяў у свае рукі арганізацыю і правядзенне з’езда

1 „*Минский голос*”, 1917, 19 марта
2 Цытата паводле: С. Рудовіч, *Час выбару. Праблема самавызначэньня Беларусі ў 1917 г.* Мінск 2001, с. 80.
3 С. Рудовіч, *“Беларускі дзеяч з вялікіх паноў...” Эпізоды палітычнай біяграфіі Рамана Скірмунта,* „Гістарычны альманах”, 1999, т. 2, с. 42. Гісторык спаслаўся на інфармацыю газеты *“Новое варшавское утро”* ад 25 і 28 сакавіка 1917 г.
4 С. Рудовіч, *Утварэнне каардынацыйнага цэнтра беларускага нацыянальнага руху ў Менску (сакавік 1917 г.)*, „Спадчына”, 1996, № 3, с. 19.

беларускіх арганізацый, які павінен быў з'яднаць іх на аснове рэальнай палітычнай праграмы і стаць пэўнай дэманстрацыяй волі і магчымасцей кансалідаванага беларускага руху.

Неабходнасць такога з'езда абумоўлівалася не толькі пэўнымі ўнутранымі патрэбамі беларускага Адраджэння, але і знешнімі фактарамі. Галоўным з іх была легалізацыя нацыянальных рухаў, якія ўсё часцей выступалі з ідэяй уласнай нацыянальнай аўтаноміі ў межах федэратыўнай Расеі. Так, 4 сакавіка 1917 г. у Кіеве было абвешчана стварэнне Украінскай Цэнтральнай Рады (УЦР), якая выступіла з лозунгам аўтаноміі Украіны. Увесну канцылярыя Часовага ўраду амаль штодня атрымлівала тэлеграмы ад розных украінскіх арганізацый з просьбай або патрабаваннем аўтаноміі[5]. Выразныя імкненні да аўтаноміі праяўляліся таксама ў дзеяннях літоўскіх і латышскіх арганізацый.

Кансалідацыя нацыянальных рухаў суседніх народаў і выдвінутыя лозунгі аўтаноміі непасрэдна закраналі інтарэсы беларусаў і датычылі тэрыторыі іх пражывання. Патэнцыйную небяспеку таксама ўтрымліваў у сабе працэс палітычнага адраджэння незалежнай Польшчы.

Наогул, сакавік быў месяцам бурлівых дыскусій пра будучыню Расеі, а для іх беларускіх удзельнікаў таксама пра лёс беларускай зямлі. Некаторыя рашэнні ўрада Г. Львова (заява пра незалежнасць Польшчы, пашырэнне аўтаноміі Фінляндыі) давалі падставы спадзявацца на пераўтварэнне імперыі ў федэрацыю.

Сітуацыя патрабавала кансалідацыі беларускіх сіл. Камітэт, разумеючы гэта, вёў актыўную прапаганду беларускай ідэі. У прыватнасці, распаўсюджвалася друкаваная ўлётка *"Беларусы"*[6], якая звярталася да беларусаў з заклікам: *"Будуйце сваю сьветлую будучыню. Пакажэце ўсяму сьвету, што жыве Беларусь, пакажэце, што жыве яе спрадвечная мова, што жыве народ Беларускі, каторы вынес на сваіх плечах гэтулькі крыўды і здзеку і ня згінуў праз столькі вякоў паднявольнага жыцьця"*. Шлях да гэтай "светлай будучыні" бачыўся праз яднанне нацыі: *"Ніхай нас нішто не раздзеліць, хай ні будзе сваркі паміж беларусам праваслаўным і каталіком, бо ўсе*

5 *Государственный архив Российской Федерации* (далей- ГАРФ), фонд 1778, оп. 1, д. 244 и др.
6 *Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь* (далей – НАРБ), фонд 325, воп. 1, адз. зах. 7, арк. 29-29 адв.

*мы дзець аднэй Маткі – Беларусі”*. Улётка друкавалася як польскім варыянтам лацінкі, так і кірыліцай.

З’езд беларускіх арганізацый адбываўся з 25 па 27 сакавіка 1917 г. у Менску. Паводле пратакола з’езда, на ім прысутнічала каля 150 удзельнікаў, што было безумоўным поспехам арганізатараў.

Найбольш важныя рашэнні былі прынятыя на другі дзень з’езда, калі старшынёю прэзідыума быў абраны якраз Раман Скірмунт. Зміцер Жылуновіч пазней патлумачыў гэтае абранне імкненнем дэпутатаў прадухіліць раскол, што намеціўся ў першы дзень працы з’езда[7]. Арганізатары спадзяваліся на той аўтарытэт, які Р. Скірмунт меў сярод земцаў і чыноўнікаў, для якіх непрымальнай была беларуская ідэя.

І, сапраўды, калі верыць пратаколу, другі дзень з’езда абышоўся без скандалаў. Для кіравання краем з’езд сфармаваў Беларускі нацыянальны камітэт (БНК), асноўнымі задачамі якога абвяшчаліся *“арганізацыя Беларусі”* ў кантакце з Часовым урадам, падрыхтоўка выбараў у Беларускую Краёвую Раду і прапаганда выбараў ва Устаноўчы сход на прынцыпах федэратыўнай і дэмакратычнай Расейскай рэспублікі. Дзеля вырашэння гэтых задач планавалася стварэнне губернскіх, павятовых і нават валасных аддзелаў БНК.

У склад БНК былі абраныя Раман Скірмунт, Аркадзь Смоліч, Павел Алексюк, Лявон Заяц, Эдвард Будзька, Усевалад Фальскі, Браніслаў Тарашкевіч, ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, Яўсей Канчар, Іван Краскоўскі, Алесь Бурбіс, Казімір Кастравіцкі, Бабарыкін, Фабіян Шантыр, Міхаіл Кахановіч, Вацлаў Іваноўскі, Лявон Дубяйкоўскі і Зміцер Жылуновіч. Як ужо адзначалася, большасць сяброў БНК належала да БСГ. Аднак старшынёю Беларускага нацыянальнага камітэта пасля доўгіх і вострых спрэчак быў абраны Раман Скірмунт.

Ксёндз В. Гадлеўскі пазней тлумачыў, што ў той момант ніхто з сяброў БНК, а магчыма і ўдзельнікаў з’езда не думаў пра далейшае хуткае развіццё рэвалюцыі аж *“да камунізму”*. Урад князя Г. Львова выглядаў даволі трывалым, і перамагло меркаванне, што з кадэтамі лягчэй будзе весці размову якраз Р. Скірмунту, а не беларускім сацыялістам[8].

7 З. Ж. [Жылуновіч З.], *З’езд беларускіх нацыянальных арганізацый. 25 сакавіка 1917 г.* „Полымя”, 1925, № 6, с. 205.

8 В. Гадлеўскі, *Зь беларускага палітычнага жыцьця ў Менску,* „Спадчына”, 1997, № 5, с. 21-22.

У Прэзідыум БНК апроч Р. Скірмунта абралі П. Алексюка і У. Фальскага як "таварышаў" (намеснікаў) старшыні, а таксама Л. Зайца (скарбнік) і Б. Тарашкевіча (пісар). Таксама з'езд вызначыў склад беларускай дэлегацыі ў Петраград, якая павінна была распачаць перамовы пра аўтаномію Беларусі. Апроч Р. Скірмунта былі абраныя Іван Краскоўскі, Эдвард Будзька, Яўсей Канчар, Павел Алексюк, Міхаіл Кахановіч і Іван Касяк. Таксама з'езд выказаўся за *"прылучэньне"* да дэлегацыі прадстаўнікоў праваслаўнага і каталіцкага духавенства[9].

Такім чынам, напрыканцы сакавіка 1917 г. з'езд беларускіх арганізацый і БНК заявілі пра ўласную гатоўнасць забяспечыць канстытуяванне Беларусі як аўтаномнай палітычнай адзінкі ў складзе Расейскай федэрацыі. Ва ўмовах рэвалюцыйнай эйфарыі і пашыранай веры ў добрую волю новых кіраўнікоў "свабоднай Расеі" гэтая задача здавалася цалкам вырашальнай. Аднак красавіцкі візіт дэлегацыі БНК у Петраград і перамовы з прадстаўнікамі Часовага ўрада высветлілі эфемернасць беларускіх спадзяванняў.

Як слушна заўважыў С. Рудовіч, у тагачасных умовах Беларускаму нацыянальнаму камітэту надзвычай праблематычна было стаць зародкам агульнакраёвай улады ў Беларусі. Ён мог быць толькі грамадскай установай, каардынацыйным цэнтрам, вакол якога адбывалася палітычная і нацыянальна-культурная кансалідацыя той часткі беларусаў, што заставалася пад юрысдыкцыяй Расеі[10].

Гэтаму цэнтру трэба было як мага хутчэй зразумець рэальную сітуацыю новай Расейскай дзяржавы, дзе выразна дамінавалі цэнтралісцкія тэндэнцыі, якія мелі моцных саюзнікаў у Беларусі. Апроч таго, у краі і побач з ім разгортваліся нацыянальныя рухі суседніх народаў, інтарэсы якіх трэба было таксама ўлічваць у справе *"арганізацыі Беларусі"*. А яшчэ важна было дакладна акрэсліць тыя сілы, якія гатовыя былі з'яднацца вакол праграмы БНК, каб зразумець рэальнасць уласных нацыянальных прэтэнзій.

Відавочна, што першасны склад БНК на чале з Р. Скірмунтам быў арыентаваны на кансалідацыю ЎСІХ наяўных беларускіх сіл, а таксама на пошук і прыцягненне патэнцыйных саюзнікаў сярод

9 *Пратакол з'езду беларускіх нацыанальных арганізацый у Мінску 25-27 марца 1917 г.* „Спадчына", 1990, № 4, с. 33.

10 С. Рудовіч, *Час выбару. Праблема самавызначэньня Беларусі ў 1917 г.*, с. 92-93.

іншых нацыянальнасцей Беларусі. Менавіта такой была пазіцыя арганізатараў з'езда і самога Рамана Скірмунта, які яшчэ да сакавіцкага з'езда імкнуўся далучыць да беларускага руху буйных землеўласнікаў. Невыпадкова значную фінансавую дапамогу беларускай арганізацыі аказалі княгіня Марыя Магдалена Радзівіл і Эдвард Вайніловіч. Станіслаў Радзівіл даслаў сакавіцкаму з'езду прывітальную тэлеграму. У пасяджэннях БНК удзельнічаў таксама Геранім Друцкі-Любецкі.

Паводле В. Гадлеўскага, кіраўнік БНК наогул імкнуўся стварыць *"беларускую абшарніцкую партыю"*[11]. Не думаю, што гэта сапраўды ўваходзіла ў планы Р. Скірмунта. Ён добра арыентаваўся ў настроях мясцовых абшарнікаў каталіцкага веравызнання і разумеў немагчымасць стварэння падобнай партыі. У 1907 г. у яго не атрымалася стварыць Краёвую партыю Беларусі і Літвы з прадстаўнікоў мясцовага кола землеўласнікаў, дык няўжо ў 1917 г. ён бачыў магчымасць стварэння *"беларускай абшарніцкай партыі"*?

Больш верагодна, што ў гэты момант праявілася характэрная рыса Рамана Скірмунта як палітыка. Ён заўсёды імкнуўся да аб'яднання і кансалідацыі розных палітычных сіл. А тое, што В. Гадлеўскі лічыў *"абшарніцкай партыяй"*, на самой справе было толькі імкненнем прыцягнуць да беларускай палітычнай дзейнасці некалькіх вядомых сваёй грамадскай і гаспадарчай дзейнасцю ўплывовых землеўласнікаў.

Пра імкненне кіраўніка БНК да кансалідацыі таксама сведчыць яго пазітыўнае стаўленне да абрання прадстаўніка беларускай арганізацыі ў Менскі Савет рабочых дэпутатаў для пастаяннага кантакту, пра што са здзіўленнем згадваў пазней Лявон Заяц[12]. Таксама вядома, што кіраўнік БНК угаворваў сацыяліста і палітыка прарасейскай арыентацыі Яўсея Канчара не выходзіць са складу БНК, *"таму што пункт гледжання Канчара ў камітэце патрэбны"*[13].

Дарэчы, Я. Канчар 30 сакавіка 1917 г. напісаў ліст да Р. Скірмунта, у якім якраз выказаў сумненні ў шчырасці нацыянальных матываў дзейнасці абранага кіраўніка БНК і цікавіўся ягоным стаўленнем да *"ўяўнага ўдзелу"* палякаў у беларускім руху. Раман Скірмунт напісаў ліст у адказ, які захаваўся дзякуючы таму, што быў апублікаваны

11 В.Гадлеўскі, *З беларускага палітычнага жыцця*,с. 22.
12 С. Рудовіч,*"Беларускі дзеяч з вялікіх паноў..." Эпізоды палітычнай біяграфіі Рамана Скірмунта*, с. 38.
13 Тамсама.

Канчарам увесну 1918 г. на старонках часопіса*"Чырвоны шлях"*[14], якi выдаваў Беларускі аддзел Наркамата па справах нацыянальнасцей у Петраградзе.

У сваім лісце Р. Скірмунт не кляўся ў прыналежнасці да беларускай нацыі, ён толькі адзначыў, што з'яўляецца *"ўраджэнцам беларускага Палесся"* і дадаў, маючы на ўвазе Беларусь: *"Я заўсёды быў і буду горача аддааны сваёй радзіме і свайму народу"*.

На верагодны падтэкст пытання наконт *"уяўнага ўдзелу"* палякаў ён не стаў рэагаваць, адзначыўшы адсутнасць у яго сумненняў наконт шчырасці тых прадстаўнікоў каталіцкага духавенства, якія выступаюць за ўвядзенне беларускай мовы ў дадатковым набажэнстве. Р. Скірмунт адкінуў ідэю "гістарычных парахункаў" беларусаў з іншымі народамі, заявіўшы, што *"адносіны да іншых заўсёды будуюцца на ўзаемнасці"*.

Падзеі, якія адбываліся пазней, разбуралі той узнёсла-пераможны настрой, з якім беларускія адраджэнцы правялі свой сакавіцкі з'езд. Па-ранейшаму найбольш актуальнай заставалася праблема адзінства.

Аднымі з першых на заклік беларусаў да яднання адрэагавалі мясцовыя праваслаўныя іерархі. Так, 2 красавіка 1917 г. епіскап Менскі і Тураўскі Георгій у адмысловым пасланні да духавенства даводзіў *"польскі характар"* Беларускага камітэта, што нібыта падрываў асновы праваслаўнай веры і падманваў беларусаў, якія на самой справе з'яўляюцца толькі адгалінаваннем *"вялікага рускага народа"*[15].

Між тым, выконваючы рашэнне сакавіцкага з'езда, дэлегацыя БНК у сярэдзіне красавіка выправілася ў Петраград на перамовы з Часовым урадам па найбольш актуальных пытаннях існавання беларускай нацыі.

Дарэчы, напярэдадні візіту, 8 красавіка ў Петраградзе адбыўся мітынг мясцовых беларусаў у будынку цырка "Мадэрн". Беларусы віталі Часовы ўрад і заявілі, што апроч агульнадэмакратычных перамен выступаюць за федэратыўны лад Расеі як неабходную ўмову яе свабоднага развіцця. Беларусь яны бачылі адным са *"штатаў свабоднай*

14 „*Чырвоны шлях*". 1918, № 1-2, с. 12-13.

15 С.Рудовіч,*Час выбару. Праблема самавызначэньня Беларусі ў 1917 г.*, с. 99-100.

*федэратыўнай Расеі”*[16]. Была прынятая адпаведная дэкларацыя ў адрас Часовага ўрада. Яе падпісаў Вацлаў Іваноўскі як “старшыня мітынгу”. Праз некалькі дзён ён далучыўся да дэлегацыі БНК.

Візіт беларускай дэлегацыі быў ледзь заўважаны петраградскім друкам. Пра яго паведамілі толькі газета партыі кадэтаў *“Речь”* і *“Русская воля”*, якую выдаваў былы царскі міністр унутраных спраў А. Пратапопаў. З заметкі на старонках *“Русской воли”* чытачы маглі даведацца, што 11 красавіка ў Петраград прыбыла дэлегацыя беларусаў у складзе *“былога дэпутата Дзяржаўнай Думы Рамана Скірмунта, інжынера Іваноўскага, народнага настаўніка Касяка, публіцыста Будзяка”* (на самой справе Э. Будзькі) ды інш. Адзначалася, што дэлегаты наведаюць Часовы ўрад і Выканкам рабочых і сялянскіх дэпутатаў, каб прывітаць іх ад імя беларускага з’езда[17].

На старонках *“Речи”* фігуравалі таксама іншыя сябры дэлегацыі: ксёндз Гадлеўскі, праваслаўны святар Разумовіч, рэдактар *“Могилевского вестника”* М. Кахановіч і ўпаўнаважаны Усерасейскага Саюза гарадоў І. Краскоўскі. Адзначалася, што дэлегаты ўручаць пастановы беларускага з’езда Часоваму ўраду і Выканкаму Савета[18].

Першы візіт дэлегацыя нанесла кіраўніку Часовага ўрада і адначасна міністру ўнутраных спраў князю Георгію Львову. Яму была ўручаная падрыхтаваная загадзя *Докладная записка*[19]:

*«25, 26 и 27 марта 1917 года в Минске состоялся Съезд белорусских общественных деятелей, который избрал из своей среды для проведения в жизнь постановлений съезда «Белорусский Национальный Комитет».*

*По вопросам общеполитическим съезд высказался следующим образом: «Признавая, что основные взаимоотношения между Белоруссией и Российской Державою должны быть определены Всероссийским Учредительным Собранием, Съезд белорусских общественных деятелей считает, что единственной возможной формой государственного устройства Российской Державы является федеративная республика. Ядром Белоруссии являются губернии: Минская, Могилёвская, Витебская, Гродненская и Виленская.*

16 *ГАРФ,* фонд 1778, оп. 1, д. 244, л. 31.
17 *„Русская воля”.* 1917, 12 апреля; *НАРБ,* фонд 60п, воп. 3, адз. зах. 175, арк. 16.
18 *„Речь”.* 1917, 12 апреля; *НАРБ*, фонд 60п, воп. 3, адз. зах. 175, арк. 17.
19 *ГАРФ,* фонд 1880, оп. 1, д. 44, л. 1-1 об.

*В виду отсутствия в некоторых губерниях земских организаций, а в других наличия лишь «столыпинских» упрощенных организаций самоуправления, необходимо ускорить введение в Крае учреждений городского и земского самоуправления на демократических началах».*

*По вопросам народного образования съезд высказался следующим образом: «Необходимо назначение в местные органы Центральных управлений по Министерству народного просвещения людей Края, предложенных местными национальными организациями. Преподавание в низших народных школах Белоруссии должно вестись на родном белорусском языке. В учительские и духовные семинарии вводится изучение Белорусского языка, истории Белоруссии, Белорусской литературы и краеведения. Те же предметы вводятся факультативно и в средние школы Белоруссии. Необходимо немедленное учреждение в Белоруссии университета и высшего специального учебного заведения. В университете необходимо учредить кафедры белорусского языка, литературы, истории и краеведения Белоруссии».*

*По вопросу о возмещении населению убытков, причиненных военными действиями, съезд высказался за необходимость немедленного изменения закона от 6 октября 1916 г. для действительного обеспечения разоренному населению возможности получить возмещение убытков, причиненных военными действиями».*
*14 апреля 1917 г.*
*Председатель съезда Р. А. Скирмунт*
*Члены делегации:*
*Крестьянин Виленской губ. Будславской вол. Э. Будзько.*
*Народный учитель Виленской губ. И. Косяк*
*Доктор медицины А. П. Еремич, уроженец Минской губ.*
*Инженер, техник, доктор технических наук В. Л. Ивановский, Виленская губ.*
*Преподаватель Могилёвского Ремесленного училища М. С. Каханович*
*Юрист П. П. Алексюк Гродненская губ.*
*Минск, Захарьевская, 31*
*Белорусский национальный комитет»*

Адпаведна падчас размовы падкрэслівалася неабходнасць абвяшчэння Расеі федэратыўнай рэспублікай, дэмакратызацыі

гарадскога і земскага самакіравання, пэўнай беларусізацыі адукацыі (напр., увядзення беларускамоўнага навучання ў сістэме народных школ, вывучэнне беларускай мовы, гісторыі Беларусі, а таксама беларускай літаратуры і краязнаўства ў настаўніцкіх і духоўных семінарыях ды інш). Таксама закраналася пытанне кампенсацыі тых страт, якія панесла беларускае насельніцтва падчас ваенных дзеянняў.

П. Алексюк, прыгадваючы гэты візіт, адзначыў, што князь Львоў *"выслухаў усё гэта ўважна, але сказаў, што ўсе гэтыя дамаганьні належуцца да розных міністраў"*[20]. Паводле В. Гадлеўскага, кіраўнік урада заявіў, што пажаданні беларусаў можа задаволіць толькі Устаноўчы сход[21].

М. Кахановіч на старонках *"Могилевского вестника"* (№ 89 ад 20.04.1917 г.) таксама адзначыў, што дэлегацыя звярнула ўвагу міністра-старшыні на беспадстаўнасць літоўскіх прэтэнзій на беларускія тэрыторыі ў межах Ковенскай, Сувалкаўскай і Віленскай губ. і таксама на Вільню. Князь Львоў заявіў, што прымае да ведама беларускі пратэст і прызнаў, што ўжо атрымаў Дэкларацыю літоўцаў, у якой згадваюцца тэрыторыі трох губерняў. Беларуская дэлегацыя яшчэ раз заявіла пра адсутнасць падстаў для падобных прэтэнзій[22].

На асобніку *дакладной запіскі*, які захаваўся ў фондзе Міністэрства ўнутраных спраў Часовага ўрада (Дзяржаўны архіў Расейскай Федэрацыі), выразна відаць рэзалюцыю князя Львова, які накіраваў гэты дакумент свайму намесніку па Міністэрству ўнутраных спраў Сяргею Лявонцьеву.

Дэлегацыя наведала Сяргея Лявонцьева, які пачаў размову з пытання: якая рэальная сіла стаіць за дэлегацыяй? Павел Алексюк сказаў пра вялікую маральную сілу беларусаў. Згадаўшы пра гэта падчас ліпеньскага з'езда беларускіх арганізацый (1917), ён прызнаў, што на чыноўніка гэтае прызнанне не зрабіла аніякага ўражання. С. Лявонцьеву таксама паскардзіліся на губернскіх камісараў з ліку радных былога "сталыпінскага" земства, якія працягвалі *"абрусіцельную палітыку"*. Ён заявіў, што *"спагадае гэтай бядзе, але памагчы нічым ні можа, ня можа ісьці проціў выбарной уласьці"*.

20 „*Вольная Беларусь*". 1917, 21 ліпеня.
21 W.Hadleuski, *Autobijahraficzny narys*, „Biełaruskaja Krynica" (Wilnia) 1927.
22 *НАРБ,* фонд 60п, воп. 3, адз. зах. 171, арк. 22.

Міністр народнай асветы Аляксандр Мануйлаў таксама ўважліва выслухаў пажаданні адкрыцця ў Беларусі ўніверсітэта і Сельскагаспадарчага інстытута, дапасавання школьных праграм да краёвагажыцця і перадачы кіравання сістэмай адукацыі ў рукі мясцовых ураджэнцаў. Міністр пагадзіўся з выказанымі прапановамі, але заявіў, што ён нічога не можа зрабіць і параіў накіраваць беларускіх прадстаўнікоў у Камітэт пры Міністэрстве народнай асветы.

Паводле ўспамінаў П. Алексюка, найбольш канкрэтнай была размова з обер-пракурорам Сінода Уладзімірам Львовым. Ён, дарэчы, актыўна падтрымліваў дэмакратычна і рэфарматарскі настроеную частку духавенства і часта канфліктаваў з іерархамі праваслаўнай царквы. Сябры дэлегацыі звярнулі ўвагу на палітычныя выступы асобных высокіх прадстаўнікоў царквы ў Беларусі, якія, на іх думку, распальвалі міжнацыянальную і міжрэлігійную варожасць. У. Львову перадалі асобнік адозвы аднаго з такіх іерархаў, і ён пагадзіўся, што такіх людзей нельга трымаць на пасадзе. Таксама абмяркоўвалася кандыдатура епіскапа-беларуса. Але ніякіх наступстваў гэта не мела.

Намеснік Р. Скірмунта прыгадаў яшчэ візіт дэлегацыі да адміністратара Магілёўскай архідыяцэзіі і кіраўніка Каталіцкага касцёла ў Расеі біскупа Яна Цэпляка, якому былі выказаныя пажаданні ўвядзення беларускай мовы ў набажэнства, адкрыцця беларускай духоўнай семінарыі ды інш. Каталіцкі іерарх таксама спагадліва паставіўся да беларускай дэлегацыі, але і гэты візіт не меў аніякіх практычных вынікаў.

П. Алексюк нічога не сказаў пра наведванне Выканкама Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, але, відавочна, што і той візіт меў аналагічны вынік. Усе ўважліва слухалі, спагадалі і... нічога не рабілі. Агульны вынік працы дэлегацыі, паводле П. Алексюка, можна перадаць адным словам рускай мовы – "вообще"[23].

Ацэньваючы гэты візіт, варта адкінуць эмоцыі, характэрныя для маладых беларускіх палітыкаў вясны і лета 1917 г., якія з цяжкасцю пазбываліся рэвалюцыйнай эйфарыі. Магчыма, галоўным вынікам працы беларускай дэлегацыі на чале з Раманам Скірмунтам было давядзенне да ведама новага ўрада рашучага імкнення дзеячаў беларускага руху да аўтаноміі Беларусі і федэралізацыі Расеі,

23 *„Вольная Беларусь"*. 1917, 21 ліпеня.

адстойванне нацыянальных інтарэсаў. Таксама важным момантам было наладжванне пастаяннага кантакту паміж Часовым урадам і БНК праз упаўнаважаных апошняга. Такімі паўнамоцтвамі Р. Скірмунт надзяліў Эдварда Будзьку і Аляксандра Ярэміча, пра што паведаміў намесніку міністра ўнутраных спраў Дзмітрыю Шчэпкіну[24].

Магчыма, гэты візіт таксама паспрыяў актывізацыі сіл, варожых беларускаму руху. Дарэчы, водгукі змагання адчуваліся нават у сталіцы Расеі. Так, газета *”Речь”* (№ 85 ад 13.04.1917 г.) змясціла пратэст БНК супраць тых заяваў, якія рабіліся арганізатарамі І з’езда сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губ.

Ад імя Беларускага нацыянальнага камітэта было заяўлена наступнае: *“На белорусском национальном съездзе присутствовало до 150 человек, представители политических партий Белоруссии: Белорусской социалистической грамады, народно-демократической беспартийной группы, демократической католической партии и других различных групп, которые в своих декларациях и своим единогласным принятием резолюций определили характер съезда. Таким образом, это был не «так называемый съезд», а действительно съезд белорусских общественных деятелей, работающих уже много лет над делом возрождения Белоруссии, среди которых было немало представителей старой краевой политической партии, имеющей свою историю и заслуги, Белорусской социалистической грамады. Правильно организованного представительства крестьян и рабочих на этом съезде, как и на съездах других организаций быть не могло, но заявление, что «белорусский народ в лице своих трудовых классов – крестьян и рабочих» в работах национального съезда никакого участия не принимал – совершенно неверно”*[25].

Між тым 20-23 красавіка 1917 г. у Менску адбыўся І з’езд сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губ. Ён сабраў больш за 800 дэлегатаў і праходзіў пад старшынствам М. Фрунзе. Як сведчыць Дакладная запіска яго намесніка Філіпа Караткевіча ад 1 снежня 1917 г., галоўнай задачай арганізатараў было супрацьдзеянне беларускаму руху і рашэнням сакавіцкага з’езда[26]. На з’ездзе панавалі антыбеларускія

24 *ГАРФ*, фонд 1880, оп. 1, д. 44, л. 2.
25 *НАРБ,* фонд 60п, воп. 3, адз. зах. 175, арк. 18.
26 Тамсама, фонд 4, воп. 1, адз. зах. 98, арк. 188.

настроі. М. Фрунзе нават спрабаваў забараніць прадстаўнікам БСГ і БНК выступаць на беларускай мове.

Аўтары артыкула пра Рамана Скірмунта на старонках *Польскага слоўніка біяграфічнага* Чэслаў Бжоза і Каміль Стэпан сцвярджалі прысутнасць Р. Скірмунта на гэтым з’ездзе і ягоныя намаганні нейтралізаваць уплывы бальшавіцкай фракцыі, якая крытыкавала БНК як *“памешчыцкую інтрыгу”*[27].

Гэта быў мужны пастулак палітыка, які не збіраўся хавацца за чужымі спінамі, і адкрыта адстойваў свае погляды нават у самых неспрыяльных абставінах. Аднак супрацьстаяць бальшавіцкай прапагандзе на з’ездзе беларускага сялянства было надзвычай складана. Прысутнасць Р. Скірмунта на ім нават узмацніла атакі на БНК з боку прадстаўнікоў розных партый сацыялістычнага накірунку. У авангардзе гэтых атак ішлі бальшавікі і эсэры.

А на самім І з’ездзе дэлегаты прагаласавалі за рэзалюцыю, якая асуджала ідэю палітычнай аўтаноміі Беларусі і выказвалася за абласное самакіраванне ў межах Расейскай рэспублікі.

Сябра БНК Яўсей Канчар таксама ўдзельнічаў у згаданым сялянскім з’ездзе і быў моцна расчараваны пазіцыяй сялянскіх дэлегатаў (*“белорусские крестьяне поведены по неправильному пути”*[28]), а таксама пазіцыяй кіраўніцтва БНК. Паводле яго ацэнкі, гэтае кіраўніцтва абавінавацiла сялянства ў адсталасці, у неразуменні гістарычных, дзяржаўных, нацыянальных і культурных задач і выкрэсліла яго са сферы сваіх дзеянняў. Стаўку вырашылі зрабіць на інтэлігенцыю. Я. Канчар у знак пратэсту падаў заяву пра выхад з БНК.

Пазней ён прыгадаў сустрэчу з Р. Скірмунтам і П. Алексюком на беларускім спектаклі, які адбыўся пасля заканчэння з’езда. Р. Скірмунт прапанаваў Я. Канчару забраць сваю заяву і застацца ў складзе камітэта, бо ягоны пункт гледжання важны для БНК. П. Алексюк запытаў, ці верыць ён у беларускую культуру? Я. Канчар адказаў, што верыць, але мільёны беларускіх сялян адкінутыя ад яе, яны засталіся без нацыянальных правадыроў і зжыліся з *“вялікай рускай культурай”*. Я. Канчар заявіў пра ўласны намер ісці ў сялянства

27 Cz. Brzoza, K. Stepan, *Skirmunt Roman (1868-1939),* [w:] *Polski słownik biograficzny,* t. XXXVIII/2, zeszyt 157, Warszawa-Kraków 1998, s. 185.

28 Е. С. Канчер, *Из истории общественных, национальных и революционных движений белорусов* (публікацыя В. Скалабана), „Нёман”, 1993, № 1, с. 147.

і абуджаць у ім нацыянальнае пачуццё. Гэтая ідэя падалася яго суразмоўцам цяжка выканальнай. Яўсей Канчар усё ж выйшаў са складу БНК[29].

Трэба прызнаць, што большасць беларускага сялянства сапраўды была заклапочаная не праблемай нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння Беларусі, а пытаннямі зямлі і міру, штодзённымі турботамі сацыяльна-эканамічнага характару. Прапаганда агульнарасейскіх сацыялістычных партый, якая сцвярджала "непадзельнасць" Расеі, выкрывала нібыта "буржуазна-памешчыцкі" характар Беларускага нацыянальнага камітэта і "польскую арыентацыю" БСГ, а таксама абяцала сялянам хуткае вырашэнне ЎСІХ існуючых праблем, аказалася даволі эфектыўнай. Яна распальвала сацыяльныя інстынкты ніжэйшых пластоў насельніцтва, і беларуская ідэя "згарала" ў гэтым полымі, не вытрымліваючы канкурэнцыі.

У 1918 г. сацыяліст Аляксандр Цвікевіч адной з галоўных прычын гэтай няўдачы назваў знаходжанне на чале БНК Рамана Скірмунта, *"чалавека надзвычай непапулярнага сярод сялянскага насельніцтва"*[30].

Гэта ж адзначыў у сваёй працы *"Белорусское движение"* (1921) іншы прадстаўнік беларускіх сацыялістаў Фёдар Турук: *"Факт участия в Белорусском национальном комитете Р. Скирмунта, человека «непопулярного среди крестьян и связанного узами идейного родства с польско-литовской ориентацией», был первой крупной политической ошибкой в истории белорусского движения наших дней, которой умело воспользовались противники [...] сумевшие на крестьянских съездах и собраниях рабочих внедрить в сознание широких масс населения Белоруссии убеждение, что «белорусский вопрос в его целом есть просто польско-помещицкая интрига, направленная к отделению Белоруссии от России и порабощению белорусского крестьянства польскими панами»*[31]*"*.

Варта прывесці таксама ацэнку сітуацыі адным з лідараў левага крыла ў БСГ Зміцерам Жылуновічам. У 1925 г., згадваючы пра сакавіцкі

29 Тамсама.
30 А. Цвикевич, *Краткий очерк возникновения Белорусской Народной Республики*. Киев 1918, с. 7.
31 Ф. Турук, *Белорусское движение,* Москва 1921, с. 33.

з'езд і стварэнне БНК, ён адзначаў, што *"сам па сабе Нацыянальны Беларускі Камітэт, як скутак з'езду, займае значнае месца ў гісторыі беларускага нацыянальна-рэвалюцыйнага руху. Ён адыграў значную ролю і зрабіў бы шмат большую работу, каб на чале яго ня стаў Скірмунт. Гэтая фігура, далёка не адпавядаючая сутнасьці беларускага руху, які выключна грунтаваўся на беларускіх працоўных масах, унясла сабою сумную старонку ў гісторыю яго развіцьця"*[32].

Сапраўды, Р. Скірмунт яшчэ з часоў І Дзяржаўнай Думы (1906) меў рэпутацыю абаронцы памешчыцкага землеўладання. Ва ўмовах хуткай радыкалізацыі сацыяльных нізоў, у т. л. сялян, якія былі найбольш заклапочаныя вырашэннем аграрнага пытання, постаць кіраўніка БНК выклікала пэўную насцярожанасць. Яна стала аб'ектам палітычных спекуляцый з боку ворагаў беларушчыны. Той жа М. Фрунзе на ўжо згаданым з'ездзе сялянскіх дэпутатаў заяўляў, што *"Белорусский национальный комитет является помещичьей интригой"*, а *"Белорусская социалистическая грамада на поводу у помещиков"*[33].

А як мясцовая польская супольнасць адрэагавала на лідарскую ролю Р. Скірмунта ў беларускім руху? Прадстаўнік яе "левай" часткі пінчук Ежы Асмалоўскі ў сваім *"Дзённіку"*адзначыў з'яўленне ў Менску Беларускага камітэта на чале са сваім добрым знаёмым Раманам Скірмунтам. Пры гэтым ён адразу падкрэсліў "кансерватыўны" характар гэтай арганізацыі, залічыўшы ў "кансерватары" нават А. Смоліча. Р. Скірмунта ён ахарактарызаваў як *"колішняга паляка, які абвясціў сябе беларусам"*. У гэтай характарыстыцы не было іроніі. Е. Асмалоўскі наогул з павагай ставіўся да нацыянальнага выбару Р. Скірмунта. Таксама ў *"Дзённіку"* адзначалася пераважна культурніцкая дзейнасць БНК, якая, на думку Е. Асмалоўскага, стала магчымай дзякуючы фінансавай падтрымцы "беларускі" княгіні Марыі Магдалены Радзівіл ды іншых прыхільнікаў беларускага руху[34].

Аднак у траўні 1917 г. з польскага боку ўжо прагучала выразная крытыка пазіцыі Р. Скірмунта і яго прыхільнікаў сярод

32 З. Ж. [Жылуновіч З.], *З'езд беларускіх нацыянальных арганізацый. 25 сакавіка 1917 г.*, „Полымя". 1925, № 6, с. 206.

33 *НАРБ*, фонд 325, воп. 1, адз. зах. 2, арк. 15.

34 J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914-1921. T. 1 (1914-1917)*, [w:] Dział mikroform BN Polski. Akc. 6797, к. 221.

мясцовых землеўладальнікаў. Газета *“Новы кур’ер літэўскі”* змясціла ананімны артыкул *“Пра польскасць на крэсах”*, які між іншым звязваў пачаткі беларускага руху з мясцовымі палякамі, што здрадзілі свайму народу[35]. Аўтар (верагодна, Э. Івашкевіч) заклікаў палякаў не выдаваць сябе за *“беларусаў польскай культуры”*. Апошняе ён лічыў *“адхіленнем ад нормы”* і *“надзвычай шкодным”* для польскай супольнасці. У якасці прыкладу аўтар прыгадаў інтэрв’ю *“аднаго польскага дэпутата”* І Дзяржаўнай Думы (гэтым дэпутатам быў Раман Скірмунт!) карэспандэнту *“Дзенніка Кіеўскага”* (1906), у якім дэпутат якраз назваў сябе *“беларусам польскай культуры”*.

Крытык гэтага меркаванага “крывадушша” быў пэўны, што дэклараваная падвоеная свядомасць з’яўляецца фактарам, які расколвае польскую супольнасць і перашкаджае нацыянальнай працы. Адначасна ён не бачыў перспектывы для такіх “перакіньчыкаў” у беларускім руху, прадракаючы, што беларусы будуць успрымаць іх толькі як падманшчыкаў.

Раман Скірмунт, які, безумоўна, чытаў *“Nowy Kurier Litewski”*, павінен быў зразумець, што частка польскай супольнасці, у т. л. мясцовай, пачала яго ўспрымаць як здрадніка, а ягоную беларускую дзейнасць ацэньваць як свядомы раскол польскага руху. Абвінавачванне ўжо прагучала, хоць прысуд яшчэ не быў вынесены.

Між тым усё больш складаным рабілася становішча Рамана Скірмунта ў беларускім руху. Падобна, што ўжо ў другой палове красавіка ў БНК пачала фармавацца свайго роду “антыскірмунтаўская апазіцыя”. Атмасфера на пасяджэннях рабілася напружанай. Беларускія сацыялісты пачалі думаць пра замену кіраўніцтва. Важную ролю адыгрывала і тое, што большасць беларускіх арганізацый на месцах арыентавалася на БСГ.

Беларускі даследчык Арсень Ліс трапна заўважыў: *“Як на прадстаўнічую дэлегацыю ў Петраград да Часовага ўрада з беларускімі пастулатамі, то былы член Думы, імпазантны Скірмунт, пэўна, падыходзіў. Але штосьці іншае было дзейсна весці беларускую работу ў свеце, які імкліва радыкалізаваўся, ды ўнутры БНК, у асяроддзі маладых сацыялістаў […] Аб поглядах яго не пыталіся: якая каму была патрэба ведаць, што гэты памешчык даў слова безаглядна*

35 *„Nowy Kurier Litewski”*. 1917, 8 maja.

*падпарадкавацца ў будучым рашэнню Устаноўчага сходу – перадаць сваю зямлю сялянам”*[36].

Адным з ініцыятараў стварэння гэтай апазіцыі быў кіраўнік Менскага бюро БСГ і рэдактар газеты *“Грамада”* Аркадзь Смоліч[37].

Спадзяванні кіраўніцтва БНК на магчымае паяднанне беларусаў на глебе нацыянальнай ідэі паступова слабелі і разбураліся. Сітуацыю магла б палепшыць спроба пэўнага сумяшчэння беларускай ідэі з папулярнай сацыяльна-эканамічнай праграмай або нават падпарадкаванне гэтай ідэі вырашэнню першачарговых сацыяльных праблем, але ў тагачаснай сітуацыі гэта магло прывесці да “растварэння” беларускіх арганізацый у агульнарасейскім сацыялістычным руху, дзе дамінавалі прадстаўнікі ўжо рэвалюцыйнага цэнтралізму, і ў рэшце рэшт да фактычнай адмовы ад барацьбы за нацыянальныя каштоўнасці і нацыянальна-дзяржаўнае самавызначэнне.

Беларускі нацыянальны камітэт спрабаваў ісці тым шляхам, які быў вызначаны сакавіцкім з’ездам. Працягвалася праца па падрыхтоўцы да выдання беларускай газеты *“Вольная Беларусь”*, значэнне якой Р. Скірмунт выдатна разумеў, і штомесячнага навуковага часопіса *“Белоруссия”*[38]. Яшчэ да сакавіцкага з’езда на патрэбы *“Вольнай Беларусі”* было сабрана і перададзена Паўлам Алексюком сакратару рэдакцыі Вандзе Лявіцкай больш за 1,5 тыс. руб.[39]

Было створанае Таварыства беларускай культуры, якое ў красавіку звярнулася да краёвай інтэлігенцыі з заклікам працаваць на ніве беларускай асветы[40]. Першай рэальнай справай таварыства сталася абвяшчэнне конкурса (з 1 чэрвеня 1917 г.) на напісанне падручнікаў для беларускай пачатковай школы[41].

У пачатку траўня 1917 г. у менскіх газетах з’явіліся абвесткі пра стварэнне пры БНК беларускага тэатра. Першае беларускае таварыства драмы і камедыі запрашала артыстаў, музыкантаў і спевакоў[42].

36 А.Ліс, *Gloria victis! Збор твораў,* Мінск 2010, с. 89.
37 А. Ліс, *Аркадзь Смоліч,* [у] А.Ліс, *Выбранае*, Мінск 2014, с. 156.
38 *НАРБ*, ф. 325, воп. 1, адз. зах. 2, арк. 114-115 адв.
39 Тамсама, адз. зах. 19, арк. 47.
40 Тамсама, адз. зах. 2, арк. 113.
41 Тамсама, арк. 16; *„Новое варшавское утро”.* 1917, 7 июня.
42 *„Новое варшавское утро”.* 1917, 3 мая.

14 траўня *"Новое варшавское утро"* паведамляла пра лекцыю *"Патрэбнасьць нацыанальнага жыцьця для беларусоў"*, якая павінна была адбыцца ў гэты ж дзень у будынку Гарадской Управы. На жаль, імя выступоўцы адсутнічала.

У траўні і чэрвені 1917 г. галоўныя намаганні кіраўніцтва БНК тычыліся як прапаганды ідэі аўтаноміі Беларусі і далейшага разгортвання нацыянальна-культурнай дзейнасці, так і захавання адзінства беларускага руху. Таксама трэба было даваць адпор ягоным праціўнікам ужо з рэвалюцыйнага лагера. Так, 11 траўня 1917 г. на старонках газеты *"Новое варшавское утро"* з артыкулам пра беларускае Адраджэнне выступіў П. Алексюк.

Ён заўважыў, што ва ўмовах свабоднай Расеі беларускае Адраджэнне начакана знайшло абсалютна новых ворагаў: *"[...] На смену гнетущему царизму явились люди из демократических лагерей и, не желая глубже разобраться в нашем прошлом, начали борьбу с этим движением, находя его буржуазным, ведущим к помещичьей кабале, польскому королю и тому подобные дикости. Печальнее всего, что в настоящий момент они привлекают к себе наши крестьянские массы и демократическими выкриками временно сеют рознь между народом и интеллигенцией"*[43].

Падобна, што ў гэты час Павел Алексюк, нягледзячы на сяброўства ў БСГ, быў адным з найбольш актыўных прыхільнікаў пазіцыі Р. Скірмунта. Напрыканцы артыкула ён выказваў надзею на цвярозы інстынкт роднага народа, які не можа не быць беларускім і не можа ганьбіць бацькоўскую мову. Ён урэшце пойдзе шляхам Адраджэння, але, каб гэта здарылася, ягоныя правадыры мусяць захаваць адзінства.

Відавочна, што ў гэты час найбольш грунтоўным падмуркам гэтага адзінства была ідэя аўтаноміі Беларусі. Раман Скірмунт мог толькі вітаць наступныя радкі з артыкула Аркадзя Смоліча (псеўданім –А. Жывіца) *"Зямля"* ў першым нумары газеты БСГ *"Грамада"*: *"Нам трэба на ўвесь край беларускі краёвае земства, куды будуць выбіраць па новым справядлівым законе са ўсіх губерній Беларусі, і якое будзе распараджацца ў нашым краі ўсімі тутэйшымі справамі. Як кажуць вучоныя людзі, нам патрэбна аўтаномія краю нашага альбо шырокае мясцовае самакіраванне"*[44].

43 „*Новое варшавское утро*". 1917, 11 мая.
44 „*Грамада*". 1917, 18 красавіка (1 мая).

Тэма аўтаноміі была адной з дамінуючых на старонках газеты *“Вольная Беларусь”*, першы нумар якой выйшаў 28 траўня 1917 г. Рэдактар Язэп Лёсік ва ўступным артыкуле пісаў: *“Ад шчырага сэрца вітаючы вольнасць Дзержавы Расейскай, мы з набалелаю пакутнаю душою рвемся да новага жыцьця, да культурна-нацыональнаго адраджэньня нашаго народу. Мы цьверда ведаем, што гэтакаго мамэнту двойчы ня будзе, і што страцім цяпер, таго ня найдзем ніколі. Наша сьвятая павіннасьць, доўг кожнаго і сьвядомаго беларуса ня бавіць часу, а цяпер жа да склікaньня Устаноўчага Сэйму (Учредительного Собрания) аддаць свае сілы і розум на службу многапакутнаго народу […] Да вялікай працы, браточкі, уставайця! Да змагання за аўтаномію Беларусі, за дэмакратычную рэспубліку Дзержавы Расейскай!”*[45]

Першы нумар газеты Беларускага нацыянальнага камітэта выйшаў з друку ў момант, калі сітуацыя ў арганізацыі істотна змянілася. Справа ў тым, што падчас сесіі БНК 13–15 траўня 1917 г. адбылося сур’ёзнае сутыкненне паміж сябрамі БСГ і прыхільнікамі Р. Скірмунта.

В. Гадлеўскі ў “*Нарысе беларускага палітычнага жыцця ў Менску ў 1917 – 1918 гг.*” прыгадваў, што падчас сесіі яго прыемна ўразіла выразнае імкненне прысутных землеўласнікаў (Э. Вайніловіча, княгіні М. Радзівіл, князя Г. Друцкага-Любецкага) вярнуцца *“да таго народу, з якога яны вышлі”*. У прыватнасці, Г. Друцкі-Любецкі ў сваёй прамове заявіў, што паходзіць з роду беларускіх князёў і *“што ён не вінаваты, што над яго калыскай пяялі не беларускія, а польскія песні”*.

Аднак большасць сяброў БНК вельмі крытычна паставілася да гэтага “беларускага павароту” землеўласнікаў. Як заўважыў В. Гадлеўскі, *“надыходзіў такі час, што ад князёў і буйных земляўласьнікаў трэба было быць як найдалей, і прыхільнікі Скірмунта, адчуўшы гэты настрой да іх сяброў сэсіі Беларускага Нацыянальнага Камітэту, вышлі, каб болей ужо не вярнуцца. Спужала іх радыкальнасьць беларускага руху”*[46].

Гэтыя ўспаміны сведчаць пра палітычнае паражэнне Р. Скірмунта. Яны не даюць падстаў прыняць меркаванне беларускіх

45 *„Вольная Беларусь”*. 1917, 28 мая.
46 В. Гадлеўскі, *Зь беларускага палітычнага жыцьця ў Менску,* „Спадчына”, 1997, № 5, с. 23.

даследчыкаў У. Ладысева і П. Брыгадзіна, якія сцвярджалі, што ўдзел Э. Вайніловіча, М. Радзівіл і Г. Друцкага-Любецкага ў травеньскай сесіі БНК дапамог Раману Скірмунту заблакіраваць патрабаванні сацыялістычнай часткі камітэта па яго далейшай дэмакратызацыі і спалучэнні палітычнай і нацыянальна-культурнай працы БНК з праграмай сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў[47].

У складзе БНК засталіся толькі Р. Скірмунт і княгіня Радзівіл. Апошняя ніякай палітычнай ролі не адыгрывала, застаючыся фундатаркай беларускай арганізацыі. А вось становішча Скірмунта істотна змянілася. Магчыма, менавіта падчас гэтай сесіі або неўзабаве пасля яе ён адмовіўся ад пасады старшыні Беларускага нацыянальнага камітэта і застаўся толькі яго сябрам. Р. Скірмунт прыгадаў пра гэта ў прамове на з’ездзе беларускіх арганізацый 9 ліпеня 1917 г.: *“Паказывалі на мяне, што шкоджу толькі працы Камітэту, стаючы на чэле яго. Я зараз жэ зьняў з сябе паўнамочыя старшыні Камітэту і застаўся простым яго сябрам”*[48].

Варта прыгадаць, што намеснікамі старшыні БНК (“таварышамі”) былі абраныя П. Алексюк і У. Фальскі. Невядома, ці яны падзялілі паміж сабой абавязкі старшыні, ці адзін з іх папросту замяніў Р. Скірмунта... У апошнім выпадку гэтым наступнікам мог быць П. Алексюк, які вылучаўся сваёй актыўнасцю і быў больш публічным чалавекам, чым У. Фальскі або нават Р. Скірмунт. Дарэчы, згаданы ліпеньскі з’езд беларускіх арганізацый адкрываў якраз Павел Алексюк, а з дакладам пра дзейнасць БНК выступіў Усевалад Фальскі. Даклад аказаўся надзвычай сціплым, і П. Алексюк быў вымушаны дапоўніць калегу[49].

Травеньская сесія выразна высветліла імкненне БСГ манапалізаваць Беларускі нацыянальны камітэт, выдаліць з яго нязгодных з сацыялістычнай праграмай сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў і нават тых, хто прымаў гэтую праграму, але прадстаўляў заможныя колы грамадства. Праўда, у траўні 1917 г. сябры БСГ, відаць, яшчэ не адчувалі сябе досыць упэўнена для цалкам самастойнага вядзення палітычнай дзейнасці, і Р. Скірмунт застаўся ў складзе Беларускага нацыянальнага камітэта.

---

47 У. Ф. Ладысеў, П. І. Брыгадзін, *Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917-1939 гг.),* Мінск 2003, с. 27.

48 *„Вольная Беларусь”.* 1917, 3 жніўня. № 11.

49 *„Вольная Беларусь”.* 1917, 21 ліпеня, № 8.

На ўжо згаданым ліпеньскім з’ездзе беларускіх партый і арганізацый сябры БСГ дамагліся роспуску БНК і абвясцілі пра стварэнне новай арганізацыі – Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый. Раман Скірмунт у склад Выканкама не трапіў.

“Злы геній” беларускага руху Раман Скірмунт толькі аднойчы прамаўляў на з’ездзе. Магчыма, ён да апошняга спадзяваўся на захаванне адзінства беларускага руху. На жаль, адсутнічаюць дакументы, якія маглі б нам падказаць ход думак Р. Скірмунта ў гэты вельмі няпросты для яго перыяд. Фактычна адбылося яго выгнанне з беларускага руху, і нават падзяка не прагучала падчас ліпеньскага з’езда.

У беларускай гістарыяграфіі пашыраная думка, што паглыбленне сістэмнага крызісу краіны, а таксама “дэмакратызацыя” цэнтральнага органа беларускага руху паспрыялі яго далейшаму разгортванню. Гэта, у прыватнасці, адзначалі С. Рудовіч, У. Ладысеў і П. Брыгадзін[50]. Наконт крызісу сумненняў няма, а вось сцвярджэнне пра “дэмакратызацыю” выклікае пытанні. Ці сапраўды ліквідацыя БНК і спроба адлучэння ад беларускага Адраджэння прадстаўнікоў больш заможных колаў грамадства можа разглядацца як “дэмакратызацыя” беларускага руху? Хутчэй варта казаць пра яго радыкалізацыю ў сацыяльным плане. Магчыма, яна сапраўды павялічыла колькасць прыхільнікаў БСГ і беларускай справы, але няма адказу на пытанне: у якой ступені іх прываблівала нацыянальная ідэя, а ў якой сацыялістычная?

Вядомы даследчык Юры Туронак бачыў пэўную заканамернасць у ліквідацыі БНК і выгнанні Р. Скірмунта: *“БНК павінны быў сысці з палітычнай сцэны. Рэвалюцыя адштурхоўвала Скірмунта, які быў не толькі буйным землеўласнікам, але перш за ўсё, як дэпутат былой Дзяржаўнай Думы, кампетэнтнай і вопытнай у палітычных справах асобай. “Рэакцыянерамі” таксама лічылі дзеячаў хадэцыі і народнікаў, сярод якіх толькі некаторыя мелі шляхецкае паходжанне. У нармальных умовах гэта было б роўным самазабойству, але з-за*

---

50 С. Рудовіч, *Час выбару. Праблема самавызначэньня Беларусі ў 1917 г.*, с. 131; У. Ф. Ладысеў, П. І. Брыгадзін, *Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917-1939 гг.)*, с. 35.

*нігілістычнай палітыкі ўрада ў нацыянальным пытанні не мела вялікага значэння"*[51].

З апошнім тэзісам нельга пагадзіцца. У тагачаснай сітуацыі надзвычай важную ролю адыгрывала менавіта дзейнасць партый і арганізацый Беларусі, а не ўрада. Між тым, як трапна заўважыў Алег Латышонак, *"БСГ атрымала перамогу коштам адзінства беларускага нацыянальнага руху"*[52].

Праз усю гісторыю беларускага руху ў 1917 г. чырвонай ніткай праходзіць змаганне сацыялістычнай дактрыны ў варыянце агульнарасейскіх партый з нацыянальнай ідэяй і канцэпцыяй нацыянальнага адзінства. Ліквідацыя БНК у ліпені 1917 г. была ліквідацыяй надзеі на гэтае адзінства. Зразумела, што ў той момант яно мела больш вонкавы характар і было фармальным, але форма ў гістарычных падзеях таксама часам адыгрывае важную ролю. Асабліва ў сітуацыі, калі гісторыя прыспешвае свой ход.

## Streszczenie

Aliaksandr Smalianczuk, *"Pokażcie całemu światu, że Białoruś żyje..."* Roman Skirmunt (1868-1939) i działalność Białoruskiego Komitetu Narodowego od marca do maja 1917 r.

W 1917 r. Roman Skirmunt (1868-1939) był jednym z kierowników białoruskiego ruchu narodowego. W dużym stopniu dzięki jego staraniom białoruskie odrodzenie narodowo-kulturowe przeszło na poziom walki politycznej. Skirmunt jako jeden z pierwszych wystąpił z postulatem autonomii Białorusi w granicach demokratycznej i federacyjnej Rosji. Na początku 1917 r. pomysł ten stopniowo zjednywał prawie całą elitę polityczną Białorusi. Jako kierownik delegacji Białoruskiego Komitetu Narodowego w kwietniu 1917 r. próbował prowadzić negocjacje z Tymczasowym Rządem Rosji odnośnie autonomii Białorusi.

W czasie jego kierownictwa Białoruski Komitet Narodowy stał się centrum propagandy idei białoruskiej i narodowo-kulturowego odrodzenia Białorusi. Ogromne starania były podejmowane dzięki konsolidacji

51 J. Turonek, *Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi,* Warszawa 1992, s. 72.
52 O. Łatyszonek, *Białoruskie formacje wojskowe. 1917-1923,* Białystok 1995, s. 43.

politycznej elity Białorusi. W efekcie w działalność BKN włączyli się tacy obszarnicy i działacze społeczni jak Edward Woyniłłowicz, Stanisław Radziwiłł, Maria Magdalena Radziwiłł, Hieronim Drucki-Lubecki.

Jednak dalszy rozwój rewolucji, radykalizacja nastrojów społecznych zamieniły się w konflikt pomiędzy socjalistyczną większością białoruskiej elity politycznej a kierownictwem BKN. Doktryna socjalistyczna w wydaniu partii ogólnorosyjskich walczyła przeciwko idei narodowej i koncepcji jedności narodowej.

W kwietniu 1917 r. R. Skirmunt zrezygnował z funkcji przewodniczącego Białoruskiego Komitetu Narodowego, ale został w jego składzie jako szeregowy członek. W lipcu w wyniku aktywności członków Białoruskiej Socjalistycznej „Hramady" Białoruski Komitet Narodowy generalnie wstrzymał swoją działalność. Powstała Centralna Rada Organizacji Białoruskich, która w swoim składzie była zupełnie socjalistyczna. Próba konsolidacji wszystkich zwolenników samodzielnego szlaku politycznego Białorusi, której głównym propagatorem i inicjatorem był Roman Skirmunt, nie powiodła się. Jednak R. Skirmunt nie zamierzał się z nią pogodzić. Wiosną 1917 r. i na przestrzeni 1918 r. były kierownik Białoruskiego Komitetu Narodowego wytrwale dążył do zjednoczenia elity białoruskiej już pod flagą walki o niezależność polityczną.


## Summary

Aliaksandr Smalianchuk, *"Show the world that Belarus lives..."* Roman Skirmunt (1868-1939) and the Activity of the Belorussian National Committee (March-May 1917)

In 1917, Roman Skirmunt (1868-1939) was one of the leaders of the Belarusian national revival. In large part thanks to his efforts, the Belarusian national-cultural revival crossed over onto the level of political struggle. Skirmunt was one of the first to come out with a postulate for the autonomy of Belarus within the borders of a democratic and federative Russia. At the beginning of 1917, this idea gradually united almost the whole Belarusian political elite. In April 1917, as head of the Belarusian National Committee delegation, he attempted to conduct negotiations with the Russian Provisional Government regarding Belarusian autonomy.

During his leadership, the Belarussian National Committee (BNC) became a centre of propaganda for the Belarusian concept and the national-cultural revival of Belarus. Enormous efforts were undertaken thanks to the consolidation of the Belarusian political elite. Their effect was that many landlords and social activists joined the cause of the BNC, including Edward Woyniłłowicz, Stanisław Radziwłł, Maria Magdalena Radziwiłł and Hieronim Drucki-Lubecki. However, the further spread of the revolution and the radicalisation of social attitudes, transformed into a conflict between the socialist majority of the Belarusian political elite and the leadership of the BNC. The socialist doctrine emitted by the all-Russia parties met with the national idea and conception of national unity.

In April 1917, Skirmunt resigned as chairman of the BNC, but remained a member of its rank and file. In July, as a result of the activity of members of the Belarusian Socialist Assembly ("Hramada"), the BNC generally halted its activity. The Central Council of Belarusian Parties and Organizations was created, whose makeup was completely socialist. An attempt to consolidate all the supporters of an independent political path for Belarus was made, at the root of which stood Roman Skirmunt – it was a failure. However, Skirmunt did not give up. In the summer of 1917 and throughout 1918, the former head of the BNC persistently fought to unite the Belarusian political elite, now under the flag of struggle for political independence.

**Andrzej Czarniakiewicz**
**(Warszawa/Grodno)**

# PAŃSTWO POLSKIE W IDEOLOGII BIAŁORUSKICH ORGANIZACJI II RZECZYPOSPOLITEJ 1918-1929

Równocześnie z okupacją państwa polskiego jesienią 1939 r. miało miejsce jeszcze jedno wydarzenie, którego prawie nie zauważono. „Wyzwoleńcza" wyprawa Armii Czerwonej w imię praw i wolności ludu białoruskiego niespodziewanie skończyła się „uśmiercaniem" samego „wyzwolonego". Zachodnia Białoruś, która w dużym stopniu była tworem radzieckiej propagandy, nagle pozbyła się swojego kulturalnego i politycznego centrum – Wilna. Po przekazaniu byłej stolicy Wielkiego Księstwa Litewskiego rządowi kowieńskiemu, Moskwa w ten sposób ostatecznie przekreśliła poprzedni postkolonialny projekt, który stracił na swojej aktualności. Zachodnia Białoruś – w swym kulturalno-historycznym wymiarze – więcej już nie istniała.

Jednak znalazła ona swoje miejsce w wyobraźni narodowej, dzięki czemu Polska do dziś pozostaje na Białorusi jednym z głównych historycznych obiektów fobii i źródłem obciążających stereotypów. Wystarczy wspomnieć, że pokój ryski wciąż jest uważany za zbrodnię przeciwko narodowi białoruskiemu, a dzień 17 września 1939 roku – uznawany za święto narodowe. Inne święto – Dzień Niepodległości, przypadające na 3 lipca – do złudzenia jest podobne do obchodzonego w ciągu całego dwudziestolecia międzywojennego na Białorusi Sowieckiej święta 11 lipca – Dnia Wyzwolenia Mińska od „Białopolaków" w 1920 roku.

Spróbujmy znaleźć odpowiedź na pytanie, dlaczego to właśnie Polska zajęła w ideologii większości białoruskich ugrupowań w II Rzeczypospolitej miejsce głównego (i właściwie jedynego) przeciwnika, a walka z „polskim kolonializmem" przekształciła się z czasem w czynnik samoidentyfikacji narodowej. Jak zauważa polska historyk J. Gierowska-Kałłaur: „*Negatywne stereotypy bywają nie tylko zbyt uogólniające i krzywdzące dla każdej ze stron, ale co istotniejsze – mogą przysłaniać realny stan rzeczy i aktualne interesy narodowe i państwowe*

*poszczególnych grup etnicznych. Mogą też wspomagać realizację interesów kogoś innego, interesów sprzecznych z dobrem stron bezpośrednio zainteresowanych*"[1].

Ogólnie rzecz ujmując, problem stosunków białoruskich ugrupowań politycznych do Polski w białoruskiej historiografii badano z punktu widzenia rosyjsko-(sowiecko)centrycznej koncepcji metodologicznej[2]. Czołowe miejsce zajmowało przy tym badanie historii KPZB i jej „przywódczej roli w ruchu wyzwoleńczym". Przy tym stosunki polsko-białoruskie „albo w ogóle nie znajdowały odzwierciedlenia w białoruskiej literaturze historycznej, albo były ukazywane zbyt jednostronnie"[3].

Rajner Lindner zaznacza: *„Przychylność dla idei historii narodowej była w większej mierze charakterystyczna dla specjalistów w dziedzinie historii starożytności, średniowiecza i wczesnej nowożytności niż wśród znawców historii najnowszej, a tym bardziej – historyków partii…*"[4]. Wśród najbardziej drażliwych tematów, dotyczących także historii Białorusi, były wojna polsko-sowiecka oraz wrzesień 1939 roku. I chociaż stosunki polsko-białoruskie nigdy nie stały się tak napięte jak na przykład polsko-litewskie w latach dwudziestych-trzydziestych XX w. lub polsko-ukraińskie podczas drugiej wojny światowej, to jednak i nad nimi co jakiś czas zawisał cień konfliktów, co stwarzało podstawy dla wzajemnych zarzutów[5].

Współczesna białoruska historiografia, dotycząca Polski, rozpoczęła nowy etap, którego ważną cechą, jak zauważył A. Smalianczuk, było stopniowe odchodzenie od „obrazu wroga, którego uczynili z Polaków

1 J. Gierowska-Kałłaur, *Polacy i Białorusini we wzajemnych opiniach w latach 1918-1921*, [w:] *Studia z Dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej*, t. 42, Warszawa 2007, s. 35 .

2 В. Астрога, *Вывучэнне польскай гісторыі на Беларусі (1921-1941 гг.)*, „Берасцейскі хранограф", 1999, № 2, с. 257; Л. Дрожжа, *Вывучэнне Заходнебеларускай праблематыкі беларускімі і замежнымі гісторыкамі (1930-2000-я гг.)*, „Журнал международного права и международных отношений", 2005, № 3.

3 В. Кушнер, *Асвятленне гісторыі Заходняй Беларусі 1921-1941 гг. у сучаснай беларускай гістарыяграфіі*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 2000 nr 13, s. 144; tenże, *Асвятленне гісторыі Заходняй Беларусі 1921-1941 гг. у сучаснай беларускай гістарыяграфіі*, [w:] *Праблемы ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР: Гісторыя і сучаснасць: Матэрыялы Міжнароднай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі, 17-18 верасня 1999 г.*, Мінск 2000, с. 295; tenże, *Wybrane problemy stosunków białorusko-polskich w latach 1920-1944 we współczesnej historiografii białoruskiej*, [w:] *Społeczeństwo białoruskie, litewskie i polskie na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej (Białoruś Zachodnia i Litwa Wschodnia ) w latach 1939-1941*, Warszawa 1995, s. 9.

4 Р. Лінднэр, *Гісторык і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX-XX cт.*, Санкт-Петербург 2003, с. 395.

5 А. Смалянчук, *У пошуках ворага польскай нацыі*, „Беларускі гістарычны агляд", 2003, № 1-2, с. 255.

ideolodzy jeszcze z czasów stalinowskich"[6]. W pewnym stopniu dyskusja została narzucona właśnie przez stronę polską, która zaczęła aktywnie zwalczać stare poglądy. W efekcie nastąpił wyraźny podział. „Prorządowi" historycy białoruscy przyjęli na siebie obowiązek swoistej obrony sowieckich schematów ideologicznych, wykorzystując pokrętnie rozumiane „interesy narodowe"[7]. Drugi kierunek – „narodowy", wolny od dyktatu i cenzury władzy, rozpatruje Białorusinów jako główny podmiot własnej historii, jednak tu czasami czynnik patriotyczny przeważa nad naukowym[8].

Narodowa koncepcja historii, która w poprzednim okresie istniała jedynie w zalążku, teraz wniesiona do wspólnej białorusko-polskiej przestrzeni historycznej XX stulecia powinna była pomóc w określeniu własnej tożsamości narodowo-państwowej, a „czynnik polski" w tym czasie stał się swoistym wskaźnikiem białoruskości[9].

Wyraźną tendencją w białoruskiej historiografii było – według A. Smalianczuka – rozszerzenie pojęcia „polonizacji" kosztem takiej kategorii jak „samopolonizacja", czyli proces „naturalnego" przekształcania miejscowej ludności w Polaków bez nacisku ze strony państwa. Jednak i ten autor musiał przyznać, że „zarówno w ojczystej historiografii, jak i w systemie edukacji wciąż jeszcze rozpowszechnione są poglądy na procesy asymilacyjne, wychodzące nie z założeń naukowych, ale ideologiczno-propagandowych"[10].

W pracach białoruskich autorów, formowanie polonofilskiego ośrodka białoruskiego ruchu do niedawna było traktowane jedynie jako przejaw kolaboracyjnych poczynań garstki działaczy, czy – jak w przypadku A. Łuckiewicza – skutek warszawskich „intryg". Do dzisiaj ukazał się tylko jeden artykuł o kształtowaniu się kierunku polonofilskiego w ruchu białoruskim, autorstwa K. Gomułki[11]. Lepiej natomiast jest przedstawiony sam problem polsko-białoruskich stosunków w latach 1918-1939[12].

---

6 Тамсама.

7 И. Полуян, *Западная Беларусь в период экономического кризиса 1929-1933 гг.*, Мінск 1991.

8 А. Смалянчук, *У пошуках ворага польскай нацыі*, c. 257.

9 А. Смалянчук, *Паміж краёвасцью і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г.*, Санкт-Петербург 2004; tenże, *Палякі Беларусі і Літвы ў рэвалюцыі 1905-1907 гг.*, Гароднящ 2000.

10 А. Смалянчук, *У пошуках ворага польскай нацыі*, c. 262.

11 K. Gomółka, *Białoruskie partie i organizacje prorządowe w II Rzeczypospolitej*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 1997, t. 7, s. 63-73.

12 A. Bergman, *Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej*, Warszawa 1984; J. Gierowska-Kałłaur, *Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich (19 lutego 1919 – 9 września1920),* Warszawa 2003.

Trudno nie zauważyć różnicy pomiędzy współczesną Białorusią i każdym innym państwem na całej przestrzeni pomiędzy Bałtykiem a Morzem Czarnym. Białoruski ruch narodowy do dziś nie zdołał przekształcić się w poważną siłę polityczną w niepodległym już państwie białoruskim, stając się elementem jedynie pewnej „uświadomionej" części działaczy. Białoruski politolog J. Szewcow stwierdza nawet, że: *„[...] Białoruś nie jest etnicznym państwem Białorusinów. Państwo białoruskie to raczej [...] forma politycznej organizacji narodowej przestrzeni z przeważającą liczbą rosyjskiej, jeśli chodzi o kulturę i identyfikację, ludności"*[13].

Stan ów nie jest wyłącznie skutkiem dzisiejszej polityki państwowej. Problem mieści się znacznie głębiej. Wydaje się, że tkwi on przede wszystkim w samym charakterze białoruskiego ruchu narodowego. Już samo powstanie „kwestii białoruskiej" na przełomie XIX i XX w. było konsekwencją rosyjskiej polityki na dawnych ziemiach Rzeczypospolitej. Dzięki temu, że władza wstrzymała proces polonizacji społeczeństwa Białorusi, stworzyła ona podstawę dla formowania się nowoczesnego narodu białoruskiego. Co prawda, sam sposób przedstawienia Białorusinów przez dłuższy czas bardziej odpowiadał narracjom orientalizującym, ukazując ich jako najbardziej zacofany i biedny lud Rosji Zachodniej[14].

Można by powiedzieć jeszcze inaczej – cała ta „kwestia" stanowiła wytwór tej polityki, powstały wbrew oczekiwaniom czynników decyzyjnych, a jednak to właśnie dzięki nim otrzymała prawo do istnienia – „ofiara" i sprzymierzeniec w jednym, „Golem" przez przypadek powołany do życia przez swych twórców i w pewnym momencie usamodzielniony[15]. Właśnie ta identyfikacja z Imperium Rosyjskim, jak zaznacza R. Radzik, była jedną z głównych przyczyn wrodzonej polonofobii białoruskich działaczy: *„Nad twórcami XX-wiecznego białoruskiego ruchu narodowego wyraźnie ciążyła wizja historii wyniesiona z rosyjskich szkół i uniwersytetów"*[16].

13 Ю. Шевцов, *Белоруссия на стыке геополитических пространств* // http://www.posicia.by/news_more/news1869.html. Data dostępu 10.04.2015.

14 A. Tichomirow, *Michaiła Kojałowicza koncepcja „Rosji Zachodniej" w kontekście relacji rosyjsko-polskich*, [w:] *Myślą i słowem. Polsko-rosyjski dyskurs ideowy XIX wieku*, Warszawa 2014, s. 329.

15 R. Radzik, *Między zbiorowością etniczną a wspólnotą narodową. Białorusini na tle przemian narodowych w Europie Środkowo-Wschodniej XIX stulecia*, Lublin 2000, s. 270-271.

16 Tamże, s. 168.

Kwestia białoruska przez dłuższy czas nie wychodziła poza hasła o potrzebie kulturowej autonomii[17]. Podobna strategia nie zagrażała interesom Imperium Rosyjskiego i dlatego nie napotykała ze strony władz znaczniejszego oporu, z wyjątkiem socjalistycznej agitacji o antypaństwowych treściach. Na przykład w notatce generała Glińskiego z 1912 r., zatytułowanej *Przegląd historii ruchu rewolucyjnego na Białorusi* znalazły się następujące słowa: *„Białoruscy nacjonaliści [...] na samym początku przyłączali się do rosyjskich sfer konserwatywnych, jednak ostatnimi czasy da się wśród nich zauważyć odchylenie w stronę demokratyzmu"*[18]. Z drugiej strony, z góry zaliczano białoruski ruch do prądów separatystycznych i od samego początku był on odbierany przez władze jako „polska intryga". Nie rozumiano, że powstająca młoda inteligencja narodowa tylko naśladuje swych polskich kolegów, nie widząc możliwości innych form usamodzielnienia się.

Po krótkim okresie współpracy polsko-białoruskiej na niwie społecznej i politycznej przed pierwszą rewolucją rosyjską i tuż po niej, następuje zupełne odwrócenie akcentów. Bezwzględnie wrogi stosunek do Polski wśród białoruskich działaczy w dużej mierze zaczął się kształtować już podczas I wojny światowej, kiedy to Białoruś została podzielona linią frontu na dwie części: zachodnią, gdzie okupacyjne władze niemieckie tolerowały rozwój białoruskiej działalności kulturalnej, i wschodnią – do 1917 roku pozbawioną takiej możliwości. Teraz jednak „kwestia białoruska" po raz pierwszy pojawiła się jako odrębne zagadnienie polityczne. Jeszcze parę miesięcy przed wybuchem wojny w jednym z rządowych sprawozdań pisano: *„Przejawy ruchu narodowego wśród Białorusinów słabną, w masach ludowych w ogóle go nie ma i tylko część inteligencji białoruskiej poprzez słowo drukowane i innymi sposobami próbuje obudzić wśród Białorusinów świadomość narodową"*[19]. Właśnie dlatego, że, jak to później ujął jeden z referentów polskiego Sztabu Generalnego, „bardziej obeznani z kwestią białoruską okazali się okupujący ten kraj Niemcy", ruch białoruski, który przedtem

17 А. Смалянчук, *Да пытання аб ролі палітычнай ідэалогії ў развіцці беларускага нацыянальнага руху ў XIX – пач. XX стст*, "Гістарычны альманах" 1999, № 2, с. 3-19.

18 А. Смалянчук, *Гісторыя беларускага нацыянальнага руху вачыма чыноўнікаў Дэпартамента паліцыі. 1908, 1913 г.*,"Гістарычны альманах" 2002, № 6, с. 128

19 Т. Викс, *«Мы» или «Они»? Белорусы и официальная Россия, 1863-1914,* [в:] *Российская империя в зарубежной историографии: Работы последних лет*, Москва 2005, с. 595.

był odbierany przez otoczenie jako „polska intryga" (lub „rosyjska" – w zależności od obozu politycznego), pod koniec wojny przekształcił się w „twór polityczny Berlina"[20].

Na Wileńszczyźnie i Grodzieńszczyźnie, w wyniku przymusowej ewakuacji dużej części ludności prawosławnej, nasila się polska akcja narodowa. W rezultacie już wkrótce cała aktywność działaczy białoruskich przekształciła się w zwalczenie za wszelką cenę tych rosnących z dnia na dzień wpływów. „Walka o duszę" miejscowego ludu była tym bardziej bezwzględna, że chodziło w niej o tego samego wiejskiego chłopa-katolika i żadna ze stron nie widziała możliwości kompromisu. Nie ostatnią rolę odegrała tu postawa władz niemieckich, dla których konsolidacja społeczeństwa Ober-Ostu z każdej perspektywy była nie do przyjęcia.

W Mińsku, po drugiej stronie frontu, sytuacja była trochę inna. Tu, w środowisku białoruskim, prawie nie odczuwało się nastrojów wybitnie antypolskich (chociaż wciąż istniała pewna niechęć, polegająca na „różnicy stanowej"). Zaczęła ona jednak stopniowo się zmieniać wraz z utworzeniem I Korpusu Polskiego i nasileniem konfliktu pomiędzy nim a miejscową ludnością wiejską. Jak później ujął to w swym wystąpieniu na posiedzeniu Sejmu poseł I. Grunbaum: *„Generał Dowbor-Muśnicki swego czasu wpoił w ludność białoruską świadomość tego, co ją może czekać, jeśli się dostanie pod panowanie Polski"*[21]. Jednak i w tym wypadku stosunek Białorusinów do żołnierzy I Korpusu Polskiego w pewnym stopniu był efektem zewnętrznego czynnika – propagandy bolszewików[22].

Podpisanie pokoju brzeskiego przez Rosję Sowiecką i Niemcy faktycznie usuwało Białoruś z mapy politycznej powojennej Europy. Dlatego właśnie ogłoszenie 25 marca 1918 r. Białoruskiej Republiki Ludowej „niepodległym i wolnym państwem" wyglądało na akt rozpaczy. Anton Łuckiewicz, stojący u źródeł ruchu narodowościowego, tak scharakteryzował cele białoruskich polityków: *„Na początku Białorusini zgadzali się na samorządność, potem żądali autonomii, następnie wysunęli koncepcję federacji z Rosją, później – z innymi sąsiadami, wreszcie stworzyli*

20 *Centralne Archiwum Wojskowe w Warszawie* (dalej: CAW), II oddział Sztabu Generalnego, I.303.4.2659, s. 30.

21 *Sprawozdanie stenograficzne z Sejmu Ustawodawczego z dnia 8 kwietnia 1919* r., s. XXVIII, 33-34.

22 D. Michaluk, *Białoruska Republika Ludowa 1918-1920. U podstaw białoruskiej państwowości*, Toruń 2010, s. 221.

## Streszczenie

Tadeusz Gawin, *Polityka narodowa władz sowieckich wobec polskiej mniejszości w BSRR w latach 1921-1939*

Po śmierci Włodzimierza Lenina, Józef Stalin, jako główny teoretyk i praktyk polityki narodowościowej w ZSRR, stworzył warunki dla narodowego rozwoju mniejszości narodowych w republikach sowieckich. Społeczno-polityczne oraz kulturalne procesy, które odbywały się w latach dwudziestych i na początku lat trzydziestych XX wieku w środowiskach mniejszości polskiej, zaowocowały wzrostem ich świadomości narodowej oraz politycznej. W drugiej połowie lat trzydziestych system władzy politycznej stworzony przez Stalina, opierający się przeważnie na dowódczych metodach kierowania państwem, elementach gwałtu i przemocy w osiągnięciu zaplanowanych celów politycznych, wcale nie potrzebował ludzi świadomych narodowościowo. Państwu sowieckiemu udało się podporządkować sobie wszystkie warstwy społeczeństwa, w tym i mniejszości narodowe. Za główny cel tej polityki stawiano sowietyzację ludności ZSRR, również mniejszości narodowych. Poza tym Stalin i jego otoczenie nigdy nie pogodzili się z utratą ziem zachodnich byłego Cesarstwa Rosyjskiego. Powrót tych terenów do ZSRR, spowodowany przyszłą wojną z Polską, w ich mniemaniu, był tylko kwestią czasu. Liczna mniejszość polska w ZSRR, a szczególnie mieszkająca w rejonach przygranicznych Białorusi i Ukrainy z Polską, świadoma swego pochodzenia, patriotycznie nastawiona wobec Polski, mogła stwarzać, tak jak to było w trakcie wojny polsko-bolszewickiej, pewne trudności w realizacji tego zadania. Na tym tle stosunek władz centralnych i samego Stalina do zagadnień sowieckiego eksperymentu polonijnego stawał się coraz bardziej podejrzliwy, z czasem stał się nieufny, a w końcu przerodził się w masowe represje skierowane zarówno przeciw komunistycznym przywódcom tej autonomii, jak i przeciwko całej zbiorowości polonijnej w ZSRR. Represje te przeprowadzano w sposób tak drastyczny i okrutny, że wyróżniały się one nawet na tle całego terroru stalinowskiego w latach 1936-1938. Definitywne unicestwienie dobrze zorganizowanego życia polityczno-społecznego oraz kulturalno-oświatowego w tak odgórnie scentralizowanym państwie, jakim było ZSRR, stało się możliwe wyłącznie na polecenie Stalina, a NKWD oraz władze republikańskie i lokalne były tylko jego wykonawcami.

## Summary

Tadeusz Gawin, *Soviet National Policy Regarding the Polish Minority in the BSSR (1921-1939)*

After the death of Lenin, Joseph Stalin – as the main theoretician and practitioner of nationality policies in the USSR – created conditions for the national development of minorities in Soviet republics. Social-political and cultural processes which took place in the 1920s and early 1930s in Polish minority circles bore fruit with the rise of their national and political consciousness. In the second half of the 1930s, the system of political power created by Stalin –mainly based on authoritarian methods of leading the state, elements of coercion and violence in achieving planned political goals – did not require people who were conscious of their nationality. The Soviet state was able to subordinate all levels of society, including national minorities. The main goal of this policy was the Sovietization of the population of the USSR, including national minorities. What is more, Stalin and his circle never reconciled themselves with the loss of the western lands of the former Russian Empire. The return of these lands to the USSR, caused by a future war with Poland, was only a question of time in their manner of thinking. The large Polish minority in the USSR, especially inhabiting the border regions of Belarus and Ukraine with Poland, conscious of its origins and patriotically turned toward Poland, could create – just as it was during the Polish-Soviet war – certain difficulties in the realisation of this task. With this in mind, the relationship of the Central authorities and Stalin himself towards matters of the Soviet Polish experiment became more and more suspicious, eventually becoming untrusting, and finally transforming into mass repression directed both against communist leaders of this autonomy, as well as against the whole collective of Poles in the USSR. These repressions were carried out in such a drastic and cruel manner that they distinguish themselves, even in light of the whole Stalinist Great Terror in the years 1936-1938. The definitive destruction of well-organised social-political and cultural-educational life in such a top-down centralised state as the USSR was only made possible through the singular orders of Stalin, while the NKVD, as well as republic and local authorities, were only its executors.

**Генадзь Сагановіч**
**(Варшава/Мінск)**

# ХРУШЧОЎСКАЯ АДЛІГА Ў БЕЛАРУСКАЙ ГІСТАРЫЯГРАФІІ

Адлігай, як вядома, прынята называць перыяд з сярэдзіны 50-х (дакладней, ад ХХ з'езда КПСС са славутым дакладам генеральнага сакратара Мікіты Хрушчова *"Аб кульце асобы і яго наступствах"*[1] і пастановай ЦК *"Аб пераадольванні культу асобы і яго наступстваў"*[2]) да сярэдзіны 60-х гадоў ХХ ст. Савецкая Беларусь, як і іншыя саюзныя рэспублікі, перажыла ў тыя гады свой варыянт дэсталінізацыі[3]. Наколькі закранула яна асяроддзе гісторыкаў? У працах па гісторыі беларускай гістарыяграфіі адзначалася, што, нягледзячы на пэўную змену ў атмасферы грамадска-палітычнага жыцця, істотных зрухаў і перагляду ранейшых канцэпцый у ёй не адбылося[4]. На думку Міхася Біча: *"Адліга ў грамадска-палітычным клімаце краіны пасля ХХ з'езда КПСС, па-сутнасці, не паўплывала на гістарычную навуку ў БССР"*[5]. Сапраўды, канцэпцыя, перыядызацыя, тэрміналогія і абагульненні ў афіцыйных выданнях перыяду адлігі і застойных 1970-х – пачатку 1980-х гг. амаль нічым сутнасна не адрозніваюцца[6]. Аднак гэта яшчэ не сведчыць, што ў асяроддзе гісторыкаў не прыходзілі перамены і нічога не адбывалася. Ніжэй прапануем папярэднія вынікі нашых назіранняў за беларускай гістарыяграфіяй перыяду адлігі.

Праўдападобна, атмасфера грамадска-палітычнага жыцця ў сталіцы БССР адразу пасля гістарычнага з'езда мала чым

1 Гл.: *Доклад Н. С. Хрущева о культе личности Сталина на ХХ съезде КПСС*, Москва 2002, с. 51–119.

2 *Коммунистическая партия Советского Союза в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК*, 9-е изд, Т. 9 (1956–1960), Москва 1986, с. 90.

3 Дэсталінізацыі ў БССР і яе мясцовым асаблівасцям нядаўна была прысвечана грунтоўная кніга нямецкага даследчыка Райка Айнакса (гл.: R.Einax, *Entstalinisierung auf Weißrussisch: Krisenbewältigung, sozioökonomische Dynamik und öffentliche Meinungin der Belorussischen Sowjetrepublik 1953–1965*, Wiesbaden 2014), але праблемы гуманітарных навук у ёй не разглядаліся.

4 Л. Храпко, *Уплыў грамадска-палітычнай сітуацыі другой паловы 40-х – першай паловы 50-х гадоў на развіццё гістарычнай навукі ў БССР*, [у:] *Старонкі гісторыі Беларусі*, Мінск, 1992, с. 146.

5 М. Біч, *Нацыянальны нігілізм і беларуская гістарыяграфія*, [у:] *З гісторыяй на "Вы". Публіцыстычныя артыкулы*, Мінск 1991, с. 85.

6 Пар.: Р. Лінд
нэр, *Гісторыкі і ўлада. Нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX – XX ст.* /пер. з ням. Л. Баршчэўскага, Мінск 2003, с. 384; Г. Сагановіч, *Канструяванне афіцыйнага выкладу гісторыі ў пасляваеннай БССР*, "Rocznik Centrum Studiów Białoruskich / Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў", R. 1, nr. 1, Warszawa 2015, s. 210.

адрознівалася ад настрояў, характэрных для Масквы ці Ленінграда. Як вынікае з успамінаў прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, прынамсі ў пісьменніцкім асяроддзі вясной 1956 г. адчулася вялікая перамена – людзі пазбыліся страху і пачалі гаварыць[7]. Праўда, даклад Хрушчова ўспрымаўся савецкім грамадствам неадназначна, часта выклікаў недавер, а кіраўніцтва партыі жорстка рэагавала на праявы вольнадумства – кваліфікавала іх як варожыя вылазкі, як форму "антыпартыйных" і "антысацыялістычных" поглядаў і арганізоўвала праслед "*варожых элементаў*"[8]. У Мінску ж, дзе прызвычаіліся ўсё кантраляваць, яны адсочваліся з асаблівай пільнасцю.

Рашэнні ХХ з'езда ў друкаваным органе КПБ у 1956 г. разглядаліся ў аспекце павышэння вытворчай актыўнасці працоўных, і толькі некалькі разоў згадвалася праблема культу асобы[9]. Самай значнай і адзінай публікацыяй часопіса, якая непасрэдна тычылася гісторыі, стаў артыкул сакратара ЦК КПБ па прапагандзе гісторыка Цімафея Гарбунова[10]. Аўтар адзначаў важнасць рашэнняў з'езда па ідэалагічных пытаннях і "*разгорнутай партыяй барацьбы па пераадольванні культа асобы і яго наступстваў*", пісаў, што культ асобы быў шкодны, "*тармазіў наша развіццё, скоўваў ініцыятыву і самадзейнасць у працы, зрабіў адмоўны ўплыў на навуковую дзейнасць і перш за ўсё на развіццё грамадскіх навук*". Аднак, у падачы Гарбунова, шкоднасць культу ўжо растлумачаная партыяй, а памылкі і недахопы, звязаныя з культам асобы Сталіна, "*не змянілі і не маглі змяніць (…) генеральнай лініі нашай партыі*". Недахопы ж у выкладанні грамадскіх навук у БССР аўтар звязваў перш за ўсё з недастаткова строгім кантролем за гісторыкамі і грамадазнаўцамі, які належала ўзмацніць[11].

Калі ў Акадэміі навук БССР на гадавым сходзе, прысвечаным абмеркаванню вынікаў працы за 1956 г., гаварылі пра рашэнні ХХ

7 Н. Гілевіч, *Збор твораў у 23 т. Т. 21: Выбраныя старонкі з дзённікаў, 1954–2002*, Мінск 2013, с. 8–9; В. Тарас, *На высьпе ўспамінаў: мэмуары*, Вільня 2004, с. 107, 168, 175.

8 Гл.: Н. Барсуков, *Оборотная сторона «Оттепели» (Историко-документальный очерк)*, "Кентавр" 1993, № 4, с. 129–143. Пра грамадскія настроі ў Беларусі і рэакцыю партыі гл.: *Гісторыя Беларусі. У 6 т. Т. 6. Беларусь у 1946–2009 гг.*, Мінск 2011, с. 192–197.

9 Гл.: "*Коммунист Белорусии*" 1956, № 4, с. 9, 12.

10 Т. Горбунов, *Поднять уровень преподавания общественных наук и воспитательной работы в высших учебных заведениях Белоруссии*, "Коммунист Белоруссии",1956, № 10, с. 9-19.

11 Тамсама, с. 9, 12–13.

з’езда КПСС і задачы, пастаўленыя з’ездам перад навукоўцамі, то зусім не ў кантэксце пераадольвання наступстваў культу асобы. *“Рашэнні XX з’езда КПСС патрабуюць ад нас узмацніць ідэалагічную работу ў масах, нястомна выкрываць буржуазную ідэалогію, ускрываць яе варожы характар, яе рэакцыйную сутнасць,”*[12] – тлумачыў у сваім дакладзе галоўны вучоны сакратар Прэзідыума АН БССР. Праз нейкі час такую ж задачу перад пісьменнікамі ставіў першы сакратар ЦК КПБ Кірыл Мазураў. Выступаючы на III пленуме Саюза пісьменнікаў Беларусі, ён заклікаў творцаў пяра *“даваць рашучы адпор любым праявам буржуазнага нацыяналізму”*, назваўшы нацыяналістаў *“амерыканскай агентурай”* і *“злейшымі ворагамі будаўніцтва сацыялізму”*[13].

А вось у акадэмічным Інстытуце гісторыі ўспрыманне задач, пастаўленых перад гістарычнай навукай згаданым з’ездам, было больш набліжаным да рэальнасці. Гаворачы пра іх на пасяджэнні вучонага савета 12 сакавіка 1956 г., дырэктар інстытута Іван Краўчанка адзначаў, што *“ў святле рашэнняў з’езда пераглядаецца шэраг палажэнняў у гістарычнай навуцы”*. Для інстытута на практыцы гэта азначала неабходнасць перапрацоўваць планавыя тэксты. Са слоў дырэктара, іх трэба было *“папоўніць новым фактычным матэрыялам, удакладніць перыядызацыю, выдаліць рознага роду нацяжкі і прыхарошванні, паказаць барацьбу з цяжкасцямі”*. Вядома, выдаляць трэба было і спасылкі на вучэнне Сталіна. Дырэктар заклікаў супрацоўнікаў больш сядзець у архівах, *“глыбока вывучаць фактычны матэрыял, не прымаць агульныя схемы цалкам”* і дадаў, што *“трэба назаўсёды пакончыць з культам асобы”*[14]. Пра сам культ, мяркуючы па пратаколах пасяджэнняў, гісторыкі, бадай, не гаварылі, але новыя ўстаноўкі дадалі ім працы. Невыпадкова напрыканцы гэтага ж года пры абмеркаванні справаздач затрымка тэкстаў звязвалася з тым, што *“после XX съезда КПСС все труды дорабатываются”*[15].

12 Ф. Вінакураў, *Асноўныя вынікі навуковай дзейнасці Акадэміі навук БССР за 1956 г.*, “Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук” (далей – “Весці”) 1957, № 2, с. 7.

13 *Третий пленум Союза писателей БССР*, “Советская Белоруссия”, 21 марта 1957, с. 2.

14 *Цэнтральны Навуковы Архіў Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі* (далей – ЦНА НАН Беларусі), ф. 3, воп. 1, спр. 261, арк. 17-18.

15 Тамсама, арк. 223.

Трэба адзначыць, што для гістарычнай навукі рашэнні XX з'езда КПСС абярнуліся нарастаннем перакосу ў бок вывучэння савецкай эпохі і апісанне гісторыі партыі[16]. Не толькі ў Маскве, але і ў Мінску гучалі галасы гісторыкаў, якія ўказвалі на неабходнасць умацоўваць структуры па вывучэнні перыядаў ранейшай гісторыі[17], аднак канцэнтрацыя гістарычных даследаванняў па гісторыі КПСС і савецкага грамадства пры ўмацаванні партыйнага кантролю над працай гісторыкаў з другой паловы 1950-х гг. стала незваротным працэсам. Яе пацвердзіла і чарговая нарада па навуцы ў Крамлі, дзе прэзідэнт АН СССР акадэмік Мсціслаў Келдыш заявіў, што савецкая гістарычная навука *"павінна засяродзіць свае намаганні на распрацоўцы праблем гісторыі КПСС, гісторыі сацыялістычнага і камуністычнага будаўніцтва"*, а таксама займацца *"барацьбой з буржуазнай ідэалогіяй, рэфармізмам і рэвізіянізмам"*[18]. Хоць культ Сталіна крытыкаваўся, прэрагатывы партыі ў сферы навукі свята захоўваліся, а вярхоўным арбітрам па ўсіх пытаннях заставаўся генеральны сакратар ЦК КПСС[19]. У Мінску з трыбуны XXIV з'езда КПБ на неабходнасць актывізаваць працу па гісторыі савецкай эпохі ўказваў Кірыл Мазураў: *"Асабліва інтэнсіўна павінна развівацца навукова-даследчая работа па вывучэнні заканамернасцей развіцця сацыялістычнага грамадства..."*[20] Вынікаў доўга чакаць не давялося: ужо ў 1960-х гг. каля 60 % навуковых супрацоўнікаў Інстытута гісторыі –цэнтральнай установы беларускай гістарычнай навукі – належала да аддзела гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху, а галоўным накірункам даследаванняў была гісторыя савецкага перыяду[21].

Зразумела, гісторыя бальшавіцкай рэвалюцыі і ўсёй савецкай эпохі, якая пачала дамінаваць у планах інстытута, заставалася

16 П. Урбан, *Смена тенденций в советской историографии*, Мюнхен 1959, с.23, 36.

17 Гл. выступ Зіновія Капыскага на вучонай радзе інстытута 10 снежня 1956 г.: ЦНА НАН Беларусі, ф. 3, воп. 1, спр. 261, арк. 210-211.

18 *Всесоюзное совещание научных работников в Кремле 12–14 июня 1961 г. (стенограммы, материалы),* Москва 1961, с. 29-30.

19 Л. А. Сидорова, *Оттепель в исторической науке. Советская историография первого послесталинского десятилетия*, Москва 1997, с. 61, 86–87, 98, 103. Пар.: Н. Иллерицкая, *Становление советской историографической традиции: наука, не обретшая лица*, [в:] *Советская историография*. Серия «*Россия. XX век*», Москва 1996, кн. 2, с. 182–187.

20 К. Мазураў, *Справаздачны даклад Цэнтральнага камітэта Кампартыі Беларусі XXIV з'езду (17 лютага 1960 г.)*, Мінск 1960, с. 61.

21 Р. Лінднэр, *Гісторыкі і ўлада*, с. 377; В. Леоновец, *Организация и развитие исторической науки в БССР (1961-1970)*. Автореферат дисс. канд. ист. наук, Минск 1987, с. 23.

пад асаблівым партыйным кантролем, таму ў апублікаваных працах савецка-партыйнай тэматыкі наўрад ці можна сустрэць несанкцыянаванае новае слова. Затое па гісторыі дасавецкага перыяду ў беларускім друку паспела выйсці нямала публікацый, аўтары якіх адыходзілі ад кананічнай версіі тлумачэння мінулага. Звернемся спачатку да часопіса *"Весці Акадэміі навук БССР"*, які сістэматычна публікаваў вынікі даследаванняў акадэмічных гісторыкаў, адлюстроўваючы іх канцэптуальныя пазіцыі.

Адметна, што з другой паловы 1950-х гг. на старонках названага перыёдыка перасталі спасылацца на вучэнне Сталіна, але і праблема культу асобы ці вызвалення ад дагматызму ніводнага разу ў ім не ўздымалася. Большасць артыкулаў гісторыкаў абгрунтоўвала ці ілюстравала галоўныя палажэнні русацэнтрычнай канцэпцыі, распрацаванай яшчэ пры Сталіне і выкладзенай у 1 томе *"Гісторыі БССР"*. Напрыклад, разглядаючы развіццё гаспадаркі Беларусі ў XVII–XVIII ст., Аляксей П'янкоў так і вызначаў сваю мэту: *"ўдакладніць, а галоўнае дадаткова абгрунтаваць на канкрэтным гістарычным матэрыяле"* тыя асноўныя рысы гаспадарчага развіцця Беларусі, якія вызначаны ў названым выданні. Каб пацвердзіць прагрэсіўнасць акта далучэння Беларусі да Расіі, аўтар сцвярджаў, што ў Беларусі заняпад гарадоў пачаўся ўжо ў першай палове XVII ст., лад Рэчы Паспалітай быў *"перашкодай для далейшага развіцця прадукцыйных сіл краіны"*, тады як у Расіі *"зараджаліся зачаткі больш прагрэсіўных тады капіталістычных адносін"*, таму пасля далучэння да Расіі *"больш перадавая расійская эканоміка пачала аказваць свой магутны ўплыў на народную гаспадарку беларускіх зямель"*[22]. Тэзіс пра аб'ектыўную неабходнасць і гістарычную справядлівасць *"уз'яднання з братнім рускім народам"* прыводзіўся тады ў цэлым шэрагу артыкулаў акадэмічнага перыёдыка[23].

22 А. П'янкоў, *Асноўныя рысы гаспадарчага развіцця Беларусі ў XVII–XVIII ст.*, "Весці" 1958, № 3, с. 29-38.

23 Як прыклады выразна ідэалагізаванага падыходу гл.: В. Горцаў, *Аб эканамічным становішчы беларускага сялянства ў складзе Рэчы Паспалітай*, "Весці" 1958 № 3, с. 64–78; ён жа. *Уз'яднанне Беларусі з Расіяй у перыяд падзелаў Рэчы Паспалітай (другая палавіна XVIII ст.)*, "Весці" 1958, № 4, с. 111–136; ён жа. *Барацьба народных мас Беларусі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне ў XVIII ст.*, "Весці" 1962, №1, с. 66–77; М. Мельнікаў, *Крычаўскае народнае паўстанне 1740–1744 гг.*, "Весці" 1958, № 1, с. 40–46; В. Мялешка, *З гісторыі класавай барацьбы ў Магілёве ў першай палавіне XVII ст.*, "Весці" 1959, № 1, с. 30–43; І. Парфёнаў, *Удзел беларускга народа ў Паўночнай вайне*, "Весці" 1960, № 1 с. 67–80, і інш.

Аднак на старонках таго ж часопіса сустракаюцца і публікацыі, аўтары якіх змаглі кіравацца інтарэсамі аб'ектыўнасці, аддаючы прыярытэт навуковасці сваіх прац, а не ідэалагічным схемам. Аб'ектыўна паспрыяла гэтаму ўстаноўка на больш шырокае выкарыстанне крыніц[24], зададзеная гісторыкам пастановамі XX з'езда, і распачатыя ў інстытуце з 1958 г. даследаванні эканамічнага развіцця гарадоў Беларусі. Плён такой працы выявіўся ўжо праз некалькі гадоў. Напрыклад, Зіновій Капыскі неўзабаве прызнаў, што прааналізаваныя ім новыя архіўныя матэрыялы *"не пацвярджаюць заняпад гандлю гарадоў Беларусі з гарадамі Польшчы ў першай палове XVII ст."*, а, наадварот, сведчаць пра яго развіццё, у сувязі з чым "*вывад аб эканамічным заняпадзе ў гэты перыяд гарадоў Беларусі*", пра які пісалі іншыя гісторыкі, губляе апору[25]. Праз год тэзіс аб заняпадзе гаспадаркі Беларусі з сярэдзіны XVII ст. да падзелаў Рэчы Паспалітай быў пастаўлены пад пытанне і Яфрэмам Карпачовым. Прыйшоўшы да высновы аб высокім узроўні эканамічнага развіцця Мінска ў XVIII ст., гісторык не толькі прызнаў, што гэта не ўкладваецца ў пашыранае ўяўленне аб гаспадарчым крызісе, але і адзначыў, што развіццю гаспадаркі ў Беларусі спрыялі прагрэсіўныя эканамічныя рэформы ў Рэчы Паспалітай[26]. Для прыватнаўласніцкіх гарадоў, на прыкладзе Слуцка, рост гаспадаркі, а не яе заняпад, паказаў Анатоль Грыцкевіч[27], які праз нейкі час засумняваўся яшчэ ў адной пазіцыі афіцыйнай канцэпцыі – аб чужаземным панаванні над беларускім народам у ВКЛ. Даследчык напісаў, што буйныя феадалы Беларусі мелі літоўскае паходжанне, але *"ў большасці сваёй засвоілі беларускую культуру"*, а сярэднія і дробныя – *"у пераважнай масе (...) былі мясцовага беларускага паходжання"*[28]. Іншымі словамі, атрымлівалася, што беларусы таксама панавалі ў ВКЛ, а не толькі былі пад уладай літоўцаў ці палякаў.

24 Важнасць выкарыстання і выдання крыніц у тыя гады неаднаразова падкрэслівалася на пасяджэннях навуковай рады Інстытута гісторыі. Гл.: *ЦНА НАН Беларусі,* ф. 3, воп. 1, спр. 339, арк. 51, 72–77 і інш.

25 З. Капыскі, *Гандлёвыя сувязі гарадоў Беларусі з гарадамі Польшчы*, "Весці" 1961, № 2, с. 85.

26 А. Карпачоў, *Эканамічнае развіццё Мінска ў XVIII ст. (да пытання аб эканамічным развіцці гарадоў Беларусі)*, "Весці" 1962 № 2, с. 83-84.

27 А. Грыцкевіч, *Да пытання аб эканамічным стане прыватнаўласніцкага горада Беларусі ў першай палавіне XVIII ст.*, "Весці" 1963 №2, с. 52-62.

28 А. Грыцкевіч, *Беларусь у канцы XV – першай палавіне XVI ст. (Да 450-годдзя беларускага кнігадрукавання)*, "Весці" 1967 № 3, с. 14-22.

У цэлым, калі характарызаваць публікацыі па гісторыі канца 1950-х і першай паловы 1960-х гг. у акадэмічных *“Вясцях”*, давядзецца прызнаць, што яны ў пераважнай большасці прысвячаліся савецкай тэматыцы і былі выразна ідэалагізаваныя. Эпоха Полацкага княства і ВКЛ тэматызаваліся выключна рэдка, а такія далікатныя праблемы, як гісторыя дзяржаўнасці ці беларускай народнасці, яшчэ наогул не разглядаліся. Значна смялейшыя погляды выказваліся даследчыкамі гісторыі і культуры ў публіцыстыцы, у друкаваных органах беларускіх пісьменнікаў – пераважна ў тыднёвіку *“Літаратура і мастацтва”* і часопісе *“Полымя”*.

З *“Літаратурай і мастацтвам”* звязаная адна з першых сур’ёзных спроб перагледзець адно з палажэнняў сталінскай канцэпцыі гісторыі Беларусі – адстаяць ідэю аб прагрэсіўным характары першых беларускіх газет і беларускага нацыянальнага руху, афіцыйна трактаванага як нацыяналістычны і рэакцыйны. У свой час Міхась Біч звярнуў увагу на тое, што нават у *“Тэзісах”* 1948 г. характарыстыка *“Нашай Нівы”* была больш-менш узважанай. Праўда, аўтары гэтай праграмнай для гісторыкаў публікацыі (Мікалай Нікольскі, Уладзімір Перцаў, Канстанцін Шабуня, Ніна Каменская і інш.) залічвалі газету да ліберальна-нацыяналістычнага лагера, але згадвалі, што ў ёй працавалі і прадстаўнікі беларускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай інтэлігенцыі (Янка Купала, Якуб Колас і інш.)[29]. Затое ў першай акадэмічнай *“Гісторыі БССР”* (1954) тыя ж самыя аўтары ўжо аднеслі *“Нашу Ніву”* да контррэвалюцыйнага лагера, да тых сіл, якія падтрымлівалі царызм[30], што не адпавядала вядомым фактам. І ўжо вясной 1956 г., калі ў краіне адчуліся адліжныя настроі, загадчык кафедры беларускай літаратуры БДУ Міхась Ларчанка выступіў з артыкулам у *“Літаратуры і мастацтве”*, прапанаваўшы зняць ярлыкі “буржуазных нацыяналістаў” з Алеся Гаруна (Аляксандар Прушынскі), Каруся Каганца (Казімір-Рафал Кастравіцкі) ды Ядзвігіна Ш. (Антон Лявіцкі) і прызнаць прагрэсіўную ролю газеты *“Наша Ніва”* ў развіцці беларускай культуры[31]. Аднак лімаўская

29 *Тэзісы аб асноўных пытаннях гісторыі БССР. Ч. 1*, “Бальшавік Беларусі”, 1948, № 8, с. 63.

30 *История Белорусской ССР*, под ред. В.Н.Перцева, Минск 1954, т.1, с. 464. Пар.: М. Біч, *Нацыянальны нігілізм і беларуская гістарыяграфія*, с. 85.

31 М. Ларчанка, *Некаторыя пытанні гісторыі беларускай літаратуры*, “Літаратура і мастацтва”, 1956, № 47, с. 2–4.

публікацыя М. Ларчанкі, у якой аўтар заклікаў да правядзення дыскусіі па важнай тэме, ужо праз месяц была вострa раскрытыкаваная на старонках друкаванага органа ЦК КПБ і Вярхоўнага Савета БССР газеце "Звязда"за "сур'ёзныя памылкі", якія, як сцвярджалася, "*апрача шкоды нічога не могуць прынесці развіццю літаратуразнаўства і крытыкі*"[32]. Крытычную рэцэнзію падпісалі Лаўрэнці Абэцэдарскі і Аляксей Сідарэнка, аднак наўрад ці можна сумнявацца, што яе сапраўдным аўтарам быў першы.

Як вядома, Лаўрэнцій Абэцэдарскі ў гады адлігі з'яўляўся адным з галоўных аўтарытэтаў афіцыйнай гістарычнай навукі ў БССР. З 1951 г. ён кіраваў кафедрай гісторыі СССР, а з 1958 г. – кафедрай гісторыі БССР на гістарычным факультэце БДУ, уваходзячы адначасова ў склад вучонага савета Інстытута гісторыі. Пра яго гістарыяграфічныя пазіцыі і метады працы нямала напісалі і калегі, і апаненты масцітага гісторыка[33], і тут не месца для іх разгляду. Дастаткова нагадаць, што Л. Абэцэдарскі быў рупарам ідэалагізаванай канцэпцыі гісторыі Беларусі сталінскага ўзору і галоўным аўтарам адзінага ў БССР школьнага падручніка па айчыннай гісторыі. Паводле ўспамінаў яго калег, гэта быў "*вораг апалітычнасці*", які "*ў кожнае сваё даследаванне ўносіў партыйны дух*"[34]. Як у навуковых працах, так і ў гістарычным навучанні ён праводзіў сваю версію гісторыі настойліва, бескампрамісна і нават жорстка[35]. Так што афіцыйная гістарычная канцэпцыя ў версіі Л. Абэцэдарскага, можна сказаць, уваходзіла ў плоць і кроў пакаленняў студэнтаў гістфаку і школьнікаў, што вучыліся па яго падручніку.

Пасля разносу Л. Абэцэдарскім артыкула М. Ларчанкі на старонках "*Звязды*", той жа зімой у часопісе камуністаў рэспублікі гэты артыкул узгадалі як прыклад публікацыі з ідэалагічна памылковымі

32 Л. Абэцэдарскі, А. Сідарэнка, *За ідэйную чыстату нашых літаратурных пазіцый*, "Звязда" 12 студзеня 1957, с. 2.

33 Як прыклад гл.: У. Арлоў,"*Совершенно секретно", або адзін у трох іпастасях*, [у:] *З гісторыяй на "Вы". Публіцыстычныя артыкулы,* Мінск 1991, с. 265–267; М. Баранава, Н. Паўлава, В. Маскаленка, *Вучоны і педагог*, "Народная асвета" 1976 № 7, 88–90; В. Грыцкевіч, *Пераадолець інерцыю стылю*, [у:] *Адраджэнне: Гістарычны альманах*, Мінск 1995, вып. 1, с. 124–143; М. Сташкевіч, *Лаўрэнцій Абэцэдарскі: народжаны стаць гісторыкам*, "Беларуская думка" 2011, № 7, с. 60-65; А. Яноўскі, *Напярэдадзе "загонаў" беларускіх савецкіх гісторыкаў*, "Беларуская думка" 2016, № 6, с. 74-81.

34 М. Баранава, Н. Паўлава, В. Маскаленка, *Вучоны і педагог*, с. 89.

35 Падрабязней гл.: А. Яноўскі, *Напярэдадзе "загонаў" беларускіх савецкіх гісторыкаў*, с. 78-79.

поглядамі[36]. У выніку такой крытыкі франтавік прафесар Ларчанка, нягледзячы на заслужаны аўтарытэт даследчыка літаратуры, неўзабаве сам перайшоў на пазіцыі Абэцэдарскага, напісаўшы, што ў творчасці названых беларускіх пісьменнікаў *"пераважалі (...) рэакцыйна-нацыяналістычныя элементы"*[37]. У выніку ацэнка нацыянальна-вызваленчага руху ў гістарыяграфіі заставалася ранейшай. Гэта прыклад таго, як, паводле трапнай заўвагі Міхася Біча, *"у той час, калі ў цэнтрах савецкай гістарычнай навукі пад уздзеяннем рашэнняў ХХ з'езда КПСС пачынаўся паварот да гістарычнай праўды, паварот ад «Кароткага курса» да ленінскай канцэпцыі вызваленчага руху"*, мінскія "заканадаўцы" гістарыяграфіі ігнаравалі заўвагі Леніна наконт неаднастайнасці складу рэвалюцыйнага лагера на этапе буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі і заставаліся ў гэтым пытанні на пазіцыях эпохі Сталіна[38].

З пачатку 1960-х гг. у СССР узяліся ўжо афіцыйна згортваць адлігу. Даследчыкі лічаць, што гэты працэс пачаўся з ХХІІ з'езда КПСС, які *"ўнёс ідэалагічную яснасць"* і даў зразумець, што ўсе перамены павінныя кантралявацца партыяй[39]. Тым не менш у Беларусі менавіта ў тыя гады знаходзіліся навукоўцы-іншадумцы, якія не маўчалі, нягледзячы на рызыку трапіць пад крытыку партыйных органаў. Іх своеасаблівым форумам у гады адлігі стаў часопіс *"Полымя"*, галоўным рэдактарам якога з 1948 па 1967 г. быў Максім Танк. Будучы на той час ужо лаўрэатам дзяржаўнай прэміі СССР, Яўген Іванавіч Скурко з 1961 г. з'яўляўся кандыдатам, у 1966 г. стаў членам ЦК КПБ, а ў 1963 г. пачаў старшыняваць у Вярхоўным Савеце БССР. Такім чынам, ён валодаў вялікім палітычным аўтарытэтам і, верагодна, гэта дзякуючы яму часопіс мог дазваляць сабе ў тыя гады больш за іншыя перыёдыкі.

Адной з першых публікацый *"Полымя"*, што выклікала адмоўную рэакцыю "заканадаўцаў" гісторыі, стаў артыкул Міколы Вераб'я, які таксама спрабаваў адстаяць ідэю аб рэвалюцыйна-

36 А. Короткевич, П. Савочкин, К. Шабуня, *О некоторых вопросах развития исторической науки в республике*, "Коммунист Белоруссии" 1957, № 2, с. 17-18.

37 М. Ларчанка, *На шляхах да рэалізма: Развіцце рэалізма ў беларускай літаратуры дакастрычніцкай litary пары*, Мінск 1959, с. 83–84. Паказальна, што ў названай кнізе аўтар усё яшчэ апеляваў да вучэння Сталіна (гл. с. 86). Пар.: М. Біч, *Нацыянальны нігілізм і беларуская гістарыяграфія*, с. 86.

38 М. Біч, *Нацыянальны нігілізм і беларуская гістарыяграфія*, с. 87.

39 Л. Сидорова, *Оттепель в исторической науке*, с. 219.

дэмакратычным характары *“Нашай Нівы”*[40]. Каб выявіць беспадстаўнасць залічэння газеты ў катэгорыю *“нацыяналістычнага і буржуазна-ліберальнага”* друку і паказаць прагрэсіўныя пазіцыі беларускай газеты, аўтар звяртаў увагу на ідэйную блізкасць ананімнай нашаніўскай публікацыі *“Навуковая сістэма выціскання поту”* (10 траўня 1913 г.) і артыкула У. Леніна ў газеце *“Правда”* (13 сакавіка 1913 г.). Аднак яго прапанова па-новаму паглядзець на быццам бы рэакцыйную ролю *“Нашай Нівы”* была адкінутая востракрытычным водгукам групы навукоўцаў, апублікаваным у друкаваным органе камуністаў рэспублікі[41]. Разам з тым жа Л. Абэцэдарскім яго падпісалі супрацоўнікі АН БССР – Вольга Яфрэмава з Інстытута філасофіі, Яфрэм Карнейчык і Канстанцін Шабуня з Інстытута гісторыі. Рэцэнзенты лічылі, што нават патрабаванне беларускіх школак, з якім выступала газета, было ў тыя часы *“глыбока шкодным, нацыяналістычным”*[42]. Галоўнае ж, што само пытанне пра характар *“Нашай Нівы”*, сцвярджалі аўтары, *“неабходна лічыць ужо высветленым”*, таму *“Полымя”* зрабіла памылку, публікуючы такі тэкст. У выніку рэдакцыя была вымушаная передрукаваць разгромную рэцэнзію на артыкул М. Вераб’я на сваіх старонках[43]. Сімвалічна такое абыходжанне з чарговай спробай пераглядзець адмоўную ацэнку *“Нашай Нівы”* не толькі мусіла стаць навукай для іншых, але мела значна глыбейшы сэнс. Папракнуўшы *“Полымя”* ў змяшчэнні артыкула з “памылковымі” поглядамі на мінулае, партыйныя крытыкі ўзнаўлялі ўзоры сталінскага дагматызму: іх публікацыя нібы перагукалася са славутым лістом Сталіна (1931 г.) у часопіс *“Пролетарская Революция”*, які асудзіў практыку *“дыскусій з фальсіфікатарамі”*[44]. І ўсё ж “*Полымя*” заставалася на сваёй пазіцыі.

Асабліва смелыя погляды на старонках часопіса выказваў тады Мікола Прашковіч, малады супрацоўнік Інстытута літаратуры, які толькі абараніў кандыдацкую дысертацыю па творчасці Сімяона

40 М. Верабей, *Ленінскі твор на старонках газеты “Наша ніва”*, “Полымя” 1963, №2, с.132–136.

41 Л. Абецедарский, О. Ефремова, Е. Корнейчик, К. Шабуня, *Вопреки историческим фактам*, “Коммунист Белоруссии” 1963, №5, с. 64–69.

42 Пар.: М. Біч, *Нацыянальны нігілізм і беларуская гістарыяграфія*, с. 89-90.

43 *“Полымя”* 1963, № 7, с. 163–167.

44 Гл.: И. Сталин, *О некоторых вопросах истории большевизма (Письмо в редакцию журнала “Пролетарская Революция”)*,[в:] *К изучению истории: Сборник*, Москва, 1937, с. 14.

Полацкага[45]. Займаючыся беларускай літаратурай XVI–XVII ст., даследчык імкнуўся падкрэсліваць росквіт беларускай культуры ў тую эпоху, розніцу гістарычных лёсаў Беларусі і Расіі і вяртаць ВКЛ аблічча "сваёй" дзяржавы, а не чужога панавання, г. зн. ён разыходзіўся з асноўнымі палажэннямі савецкай канцэпцыі гісторыі Беларусі. З шасці яго публікацый, што з'явіліся на старонках "*Полымя*" ў сярэдзіне 1960-х гг., найбольш выразны перагляд усталяваных трактовак беларускага мінулага прэзентаваўся ў артыкулах "*Старонка даўняй беларускай паэзіі*", "*Доктар Францішак Скарына*" і "*Слова пра Афанасія Філіповіча*"[46]. Апошняя публікацыя была рэцэнзіяй на кнігу Аляксандра Коршунава – манаграфічнае даследаванне жыцця і творчасці беларускага манаха-палеміста, што ўтрымлівала і публікацыю ягонага "*Дыярыуша*"[47]. У названай рэцэнзіі Прашковіч выклаў сваё бачанне характару ВКЛ і адносін Беларусі з Расіяй. Даючы ў цэлым пазітыўную ацэнку працы і адзначаючы высокі навуковы ўзровень выдання, ён скрытыкаваў некаторыя высновы Коршунава, асабліва прадстаўленне Філіповіча "барацьбітом" за вызваленне беларусаў і ўкраінцаў ад польскага "ярма" і характарыстыку царкоўнай уніі. Даследчык катэгарычна не пагаджаўся з аднабаковым поглядам на унію як на "*ганебную гісторыю насілля*", што несла беларусам і ўкраінцам толькі здзекі і крыўды. "*Царкоўная унія ўберагала ад паланізацыі, магла спрыяць развіццю нацыянальнай свядомасці і пашырэнню еўрапейскай навукі і культуры*", – пісаў ён[48]. Малады даследчык сцвярджаў, што ВКЛ было панаваннем не толькі "*польскіх і літоўскіх магнатаў*", як вынікала з кнігі Коршунава, а дзяржавай, у якой беларускі народ таксама меў сваіх магнатаў, напрыклад Сапегаў, і зусім не імкнуўся пераходзіць пад уладу Расіі, дзе феадальны ўціск быў значна мацнейшы, чым у ВКЛ[49]. Як і ў некаторых іншых публікацыях Прашковіча, тут выказвалася думка, што Беларусь той

45 Біяграфію даследчыка гл.: Г. Урупіна, *Прашковіч Мікола,* [у:] *Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік у 6 т. Мінск*, 1995, т. 5, с. 50-51.

46 Гл. адпаведна "Полымя" 1964, № 6, с.166–171; 1965, № 10, с. 146–154; 1965, № 12, с.174–177. Акрамя іх даследчык апублікаваў некалькі змястоўных рэцэнзій на новыя працы па гісторыі беларускай літаратуры. Гл.: *Па новаму пра старажытнасць*, "Полымя" 1964, № 9, с. 182–185; *Сцежкамі мінулага*, "Полымя" 1965, № 4, с. 184–187; *Пабрацімства культур*, "Полымя" 1966, № 7, с. 175–177.

47 А. Коршунов, *Афанасий Филиппович. Жизнь и творчество*, Минск 1965.

48 М. Прашковіч, *Слова пра Афанасія Філіповіча*, с. 176–177.

49 Тамсама, с. 175.

эпохі, будучы звязанай з Заходняй Еўропай, увогуле апераджала Расію ў гістарычным развіцці. Увагі заслугоўвае і заўвага наконт некрытычнага выкарыстання Коршунавым гістарычнай тэрміналогіі – атаясамлівання азначэння "рускі" часоў Кіеўскай Русі з пазнейшай Расіяй. Наогул, спрабуючы па-новаму характарызаваць месца ВКЛ і Расіі ў гісторыі Беларусі, Прашковіч шмат у чым вяртаўся да поглядаў, характэрных для першай нацыянальнай школы беларускай гістарыяграфіі і абвешчаных буржуазнымі пасля вайны.

Своеасаблівы бунт М. Прашковіча супраць афіцыйнай версіі гісторыі Беларусі, асабліва выразна выказаны ў ягоным *"Слове пра Афанасія Філіповіча"*, не застаўся без адказу. У абарону савецкай канцэпцыі ад перагляду ў цэнтральным друкаваным органе рэспублікі выступілі яшчэ невядомыя грамадскасці аўтары – аспіранты БДУ Ўладзімір Люкевіч і Якаў Трашчанок[50], што былі вучнямі Лаўрэнція Абэцэдарскага. Паўтараючы ключавыя тэзісы, якія агучваў іх кіраўнік, яны рэзка раскрытыкавалі гістарычныя погляды М. Прашковіча. Адыход ад афіцыйнай канцэпцыі ВКЛ як дзяржавы літоўскіх феадалаў імі безапеляцыйна асуджаўся, а падзеі і дзеячы гісторыі Беларусі ацэньваліся з перспектывы інтарэсаў Расіі. Асабліва ганьбілася царкоўная унія, якую аўтары кляймілі як *"вероломную попытку Ватикана и магнатов Речи Посполитой поработить белорусский народ, разорвать его связи с русским народом"*. У такім кантэксце, уніяцкага мітрапаліта пісьменніка-палеміста Іпацыя Пацея яны называлі *"мракобесом"*, а праваслаўнага манаха Апанаса Філіповіча, які шукаў падтрымкі ў Маскве, лічылі выразнікам інтарэсаў беларускага народа. У завяршэнне аўтары – дакладна як іх кіраўнік у водгуку на публікацыю М. Вераб'я – не прамінулі намякнуць, што, паколькі пытанне пра характар ВКЛ, маўляў, ужо вырашанае савецкай навукай, то вяртацца да яго няма чаго, і рэдакцыя *"Полымя"* не мусіла публікаваць тэкст з памылковымі поглядамі[51]. Як бачым, і тут выявілася тыповае для сталінскага дагматызму імкненне пазбягаць дыскусій адносна даведзенай зверху афіцыйнай версіі гісторыі.

50 В. Люкевич, Я. Трещенок, *Истине вопреки*, "Советская Белоруссия" 22 февраля 1966, с. 3.

51 Рэдакцыі "*Полымя*", маўляў, "*нужно напомнить об обязанности внимательно читать все материалы, которые печатаются в журнале*".

Пасля такой рэакцыі публікацыя М. Прашковіча атрымала шырокі грамадскі розгалас і не магла застацца па-за ўвагай дзяржаўна-партыйнага кіраўніцтва. Яна спецыяльна разглядалася на аб'яднаным пасяджэнні вучоных саветаў Інстытута гісторыі і Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР, якое адбылося 8 красавіка 1966 г. Як патлумачыла кіраўніцтва названых інстытутаў, яно вырашыла правесці такое пасяджэнне, кіруючыся палажэннем, што навуковыя супрацоўнікі галіны грамадскіх навук павінны *"весці рашучую барацьбу супраць любых праяў буржуазнай ідэалогіі ў навуковых даследаваннях"*. Гэта было адкрытае абмеркаванне, на якое прыйшлі таксама супрацоўнікі іншых гуманітарных інстытутаў АН, а таксама БДУ і Міністэрства культуры – агулам каля 150 чалавек! Разглядаліся як артыкул М. Прашковіча, так і публікацыя яго крытыкаў. У цэнтры ўвагі аказаліся такія пытанні, як шляхі ўтварэння ВКЛ і вызначэнне, каму ў ім належала ўлада, сутнасць Брэсцкай царкоўнай уніі, а таксама ступень запрыгоньвання сялян у Беларусі і Расіі, якая павінна была адлюстроўваць узровень сацыяльна-эканамічнага развіцця. У размове выявілася, што далёка не ўсе гуманітарыі прытрымліваліся поглядаў Абэцэдарскага і яго аспірантаў[52]. Частка выступоўцаў адкрыта аспрэчвала афіцыйную канцэпыю, сцвярджаючы, што ўлада ў ВКЛ належала не толькі літоўскім, але і беларускім феадалам[53]. Наяўнасць розных пунктаў гледжання па названых пытаннях, як адзначалася ў пастанове па выніках пасяджэння, сведчыць пра *"неабходнасць сур'ёзнага і паглыбленага вывучэння праблем, звязаных з гісторыяй ВКЛ"*. А вось у пытанні пра царкоўную унію выявіўся, відаць, поўны кансэнсус. Прынамсі так падае справу пратакол абмеркавання, у якім сцвярджаецца, што ўсе выступоўцы не згаджаліся з Прашковічам у яго пазітыўнай ацэнцы уніі, бо яна, маўляў, мела на мэце *"ўмацаванне эканамічнага і палітычнага панавання польскіх феадалаў на беларускіх і ўкраінскіх землях"*, а таксама паланізацыю[54].

У пастанове вучоных саветаў Інстытута гісторыі і Інстытута літаратуры праведзенае аб'яднанае пасяджэнне ў цэлым ацэньвалася

52 Гл.: У. Конан, *Пра Лявона-рыцара ды Лаўрэнція-аглабельніка*, "Народная воля" 2008, № 183–184, с. 7. Пар.: А. Дзярновіч, *Акадэмічная дыскусія сярэдзіны 60-х гадоў: паміж свабодай творчасці і палітычным даносам*, [у:] *Бунт у імя свабоды: забыты беларускі ген?*, Варшава 2013, с. 68-70.

53 *ЦНА НАН Беларусі,* ф. 10, воп. 1, спр. 232, арк. 26.

54 Тамсама, арк. 26.

станоўча, і, што яшчэ больш істотна, кіраўніцтва названых інстытутаў прызнала неабходнасць глыбейшага навуковага даследавання праблем беларускай гісторыі XIV–XVIII ст. і патрэбу *"ўвесці ў практыку працы інстытутаў правядзенне дыскусій па найбольш актуальных і менш распрацаваных праблемах гісторыі і гісторыі літаратуры Беларусі"*[55]. Таму дыскусію, справакаваную артыкулам М. Прашковіча, можна лічыць значным поспехам прыхільнікаў дэсталінізацыі гісторыі.

*"Полымя"*, магчыма не без уплыву гэтай падзеі, працягвала весці сваю лінію і па-ранейшаму давала слова іншадумцам, нягледзячы на пільнасць і ўплывовасць партыйных "заканадаўцаў" гістарыяграфіі. Неўзабаве пасля згаданай дыскусіі часопіс змясціў бліскучы палемічны артыкул супрацоўніка Інстытута філасофіі Мікалая Алексютовіча *"А дзе ж ісціна аб'ектыўная?"*[56], які заслугоўвае асобнай увагі.

Рэзка адмоўная рэакцыя на публікацыю М. Прашковіча, пісаў аўтар, маючы на ўвазе рэцэнзію аспірантаў Л. Абэцэдарскага, вынікала з дагматычнай схемы тлумачэння мінулага і з таго, што *"ёсць яшчэ катэгорыя людзей, не здольных зразумець, што не ўсё тое, што звязана з дзейнасцю рускіх цароў і праваслаўнай царквы, было прагрэсіўнае"*. Гэтым неразуменнем і тлумачацца *"праклёны ў адрас усіх каталікоў і дыфірамбы ў адрас праваслаўных дзеячаў, (...) рэверансы ў бок рускай феадальнай дзяржавы і падазронае стаўленне да ВКЛ(...)"*[57]. Сапраўды, навуковы падыход не мог дазваляць падобнай тэндэнцыйнасці. Абапіраючыся на марксісцка-ленінскія прынцыпы тлумачэння гісторыі, аўтар паспрабаваў аб'ектыўна ацаніць як публікацыю Прашковіча, так і рэцэнзію яго апанентаў, характарызуючы іх як *"два пункты гледжання на гісторыю беларускага народа"*. Артыкул першага таксама заслугоўваў крытычных заўваг: Алексютовіч не пагаджаўся з пазітыўнай ацэнкай уніі ў публікацыі калегі, рабіў яму закід у недахопе класавага падыходу і г.д., затое падтрымліваў крытыку кансерватыўнай пазіцыі праваслаўнай царквы і погляды Прашковіча на ВКЛ. Асноўны ж палемічны запал быў скіраваны на аспрэчванне пазіцый Люкевіча і Трашчанка. Даследчык абвяргаў

55 Тамсама, арк. 25–27.

56 М. Алексютовіч, *А дзе ж ісціна аб'ектыўная*? "Полымя" 1966, №5, с.179–185.

57 Тамсама, с. 179.

іх сцвярджэнні аб прагрэсіўнай ролі Расіі для развіцця быццам бы культурна адсталай у XV–XVII ст. Беларусі. Дабратворныя ўплывы на беларускую культуру зрабілі гуманізм і Рэфармацыя, а не праваслаўе ці каталіцтва, і гэта адбылося дзякуючы таму, што Беларусь была ў ВКЛ[58], – даводзіў ён. Падобна Прашковічу, аўтар называў ВКЛ па этнаграфічным складзе, тэрыторыі і культуры *"пераважна беларускім"*, лічыў такой дзяржавай, у якой панавалі не толькі чужыя, але і беларускія феадалы. Менавіта пытанне пра дзяржаўнасць М. Алексютовіч назваў у сваім палемічным артыкуле самым галоўным. Запярэчыўшы сцвярджэнню Люкевіча і Трашчанка аб тым, што беларускі народ атрымаў дзяржаўнасць *"толькі дзякуючы перамозе Кастрычніцкай рэвалюцыі"*, Алексютовіч пісаў: *"калі б яны ўдакладнілі, што сацыялістычную, – то так, а дзяржаўнасць увогуле беларускі народ ведаў здавён".* У мінулым дзяржавамі на Беларусі былі Полацкае і Турава-Пінскае княствы, а потым беларусы разам з літоўцамі мелі дзяржавай ВКЛ, – тлумачыў ён апанентам. Пры гэтым, у адрозненне ад іх, Алексютовіч вітаў дыскусію і нагадваў, спасылаючыся на выказванні Фрыдрыха Энгельса, што *"гістарычная навука не прызнае раз і назаўсёды выпрацаваных догм, пастулатаў"*[59].

Трэба было валодаць немалой грамадзянскай мужнасцю, каб у той час настолькі сур'ёзна абвяргаць асноватворныя тэзісы афіцыйнай канцэпцыі гісторыі Беларусі. Зразумела, на такое адважваліся нямногія. Іншымі аўтарамі публікацый, так бы мовіць, рэвізіяніссцкага зместу былі пераважна даследчыкі літаратуры і мовы – Вячаслаў Чамярыцкі, Аляксандр Яскевіч, Уладзімір Анічэнка і інш. Паказальна, што сярод іх амаль не было супрацоўнікаў Інстытута гісторыі ці тым больш БДУ. Напэўна, гэтую акалічнасць можна неяк тлумачыць большай ідэалагізаванасцю іх асяроддзя, мацнейшым кантролем і самацэнзурай[60]. Сярод тых нямногіх гісторыкаў, што публікаваліся ў *"Полымі"*, быў Міхась Біч, які ў сваім артыкуле абгрунтоўваў прагрэсіўны характар *"Нашай Долі"* – паказваў яе рэвалюцыйна-дэмакратычныя пазіцыі[61]. У 1966 г. рэдакцыя часопіса яшчэ прыняла ад гісторыка аб'ёмны артыкул *"Беларускі нацыянальны*

58 Тамсама, с.181.
59 Тамсама, с. 183.
60 Пар.: Л. Храпко, *Уплыў грамадска-палітычнай сітуацыі,* с. 146.
61 М. Біч, *У змаганні за лепшую долю*, "Полымя" 1966, № 8.

*рух і газета «Наша Ніва»"*, але ўжо так і не надрукавала яго[62]. Магчыма, гэта адбылося з-за змены галоўнага рэдактара (уплывовы Максім Танк сышоў з пасады ў 1967 г.), а магчыма, рэдакцыя ўстрымалася па іншых прычынах. Пра тое, што над галовамі іншадумцаў ужо згушчаліся хмары, сведчыць ананімны дакумент, напісаны, верагодна, у першай палове 1966 г. і знойдзены пазней у стале Канстанціна Шабуні[63], загадчыка аддзела гісторыі Беларусі перыяду капіталізму, які раней быў на падобнай пасадзе ў ЦК КПБ. У лісце, адрасаваным ці то ў ЦК КПБ, ці то ў КДБ, невядомая асоба крытычна аналізавала артыкулы М. Прашковіча, А. Яскевіча і В. Чамярыцкага ў *"Полымі"*, а таксама Віктара Каваленкі ў *"Маладосці"*, кваліфікуючы іх як нацыяналістычныя. Серыя публікацый першага называлася *"кампаніяй за перагляд у пэўным духу ўсёй савецкай канцэпцыі гісторыі БССР"*[64], якую, вядома, належала тэрмінова спыняць.

У Маскве ўжо таксама "закручвалі гайкі". Згадайма, што ў 1966 г. партыйныя члены Саюза пісьменнікаў СССР, якія падпісалі ліст у абарону асуджаных Андрэя Сіняўскага і Юлія Даніэля, атрымалі спагнанні, а некаторыя былі выключаныя з партыі. Адліга завяршылася. Да таго часу партыя ўстанавіла абсалютны кантроль над ёй жа абвешчаным пераадольваннем культу асобы, ператварыўшы гістарычную навуку ў сваю ідэалагічную зброю. На гэтым, як трапна падкрэсліла Любоў Сідарава, тэарэтычныя пошукі ў гісторыі скончыліся, пачаўся этап "назапашвання фактаў"[65]. Але апошнюю кропку нават тым паўсвабодам, якія пасля смерці Сталіна адкрывала санкцыянаваная зверху лібералізацыя, паставіла ўдушэнне Пражскай вясны.

У сувязі з уводам савецкіх войскаў у Чэхаславакію ў 1968 г. Масква ўзмацніла *"барацьбу з ідэалагічнымі дыверсіямі імперыялістычнай прапаганды"* ў савецкіх рэспубліках. У Мінску ўзяліся больш уважліва сачыць за гістарычнай літаратурай. Яшчэ вясной 1967 г. ЦК КПБ абавязаў прэзідыум Акадэміі навук БССР *"ажыццяўляць пастаянны кантроль за ідэйным зместам кніг і брашур на грамадска-палітычныя*

62 М. Біч, *Нацыянальны нігілізм і беларуская гістарыяграфія*, с. 92.

63 *Данос* /публікацыя В. Чамярыцкага, "Спадчына" 2000, № 4, с. 184–193.

64 Тамсама, с.185.

65 Л. Сидорова, *Оттепель в исторической науке*, с.108.

*тэмы"*[66], а ў чэрвені наступнага года пленум ЦК КПБ запатрабаваў ад камуністаў большай актывізацыі ідэалагічнай працы з народам[67]. З трыбуны гэтага пленума дырэктарка Інстытута гісторыі АН БССР Ніна Каменская паабяцала, што яе ўстанова будзе весці *"непримиримую борьбу против фальсификаторов истории белорусского народа"* і выказалася за хуткае стварэнне новых прац, каб выкрыць *"домыслы буржуазных лжеученых о происхождении белорусского народа, истории его культуры и формировании белорусской нации"*[68]. Пад фальсіфікатарамі разумеліся перадусім гісторыкі беларускай эміграцыі. Даць адпор апошнім і падмацаваць фактамі састарэлую, яшчэ сталінскую канцэпцыю гісторыі Беларусі было даручана найбольшаму аўтарытэту савецкай гістарыяграфіі ў БССР прафесару Л. Абэцэдарскаму, які напісаў сумнавядомую брашуру[69], вытрыманую ў духу партыйных *"Тэзісаў"* 1948 г. А вераснёвы пленум ЦК КПБ, падтрымаўшы знешнепалітычную дзейнасць Палітбюро ЦК КПСС і прынятыя ім меры па *"абароне заваёў сацыялізму ў ЧССР"*, абвясціў найважнейшай актуальнай задачай партарганізацый *"умацаванне барацьбы супраць нападак на марксізм-ленінізм"* і любых праяў буржуазнай ідэалогіі і рэвізіянізму[70]. Так што кніжачка Абэцэдарскага ў пэўным сэнсе азнаменавала для беларускай гістарыяграфіі надыход больш халоднага палітычнага клімату.

Вернемся да пытання, пастаўленага на пачатку: ці мянялася нешта істотнае ў гады адлігі ў гістарыяграфіі БССР? Калі галоўнымі рысамі хрушчоўскай адлігі ў гістарычнай навуцы лічыць, як прапанавала Л. Сідарава, адмову ад сталінскага прачытання гісторыі, імкненне да яе пераасэнсавання на аснове марксісцка-ленінскіх метадалагічных установак, уключэнне ў навуковы зварот масавага архіўнага матэрыялу і само імкненне да навуковасці, да пошуку праўды пра мінулае[71], падобна, што ўсё гэта ў той ці іншай ступені

66 *Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК,* Минск 1987, т. 6: 1966-1975, с. 92.

67 Гл. даклад сакратара ЦК КПБ С. А. Пілатовіча "*О состоянии и мерах улучшения политической работы в республике*", "Советская Белоруссия", 18 июня 1968, с. 2–3.

68 *"Советская Белоруссия"*, 19 июня 1968, с. 4.

69 Л. Абэцэдарскі, *У святле неабвержных фактаў*, Мінск 1969 (бібліятэчка газеты "Голас Радзімы").

70 *Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК*, т. 6, с. 214–215.

71 Л. Сидорова, *Оттепель в исторической науке*, с. 3-4.

перажывалася і ў беларускай гістарычнай навуцы, хоць і насуперак волі яе кіраўнікоў. Хоць і не шматлікія, але ўсё ж былі прыклады асабістага супраціву дагматызаванай гістарыяграфіі, кіраванай партыйнымі дырэктывамі. Дзякуючы актыўнай частцы даследчыкаў, гістарычная навука БССР першай паловы – сярэдзіны1960-х гг. выглядае, бадай, найбольш жывой за ўсю савецкую эпоху (выключаючы, вядома, 1920-я гг.), настроенай на перагляд і пошук – няхай сабе ў межах катэгорый, акрэсленых тэорыяй марксізму-ленінізму. Тыя пошукі і дыскусіі сталі своеасаблівым зернем, што, ператрываўшы перыяд застою, дало плён у гады дэмакратызацыі і галоснасці. Вобразна кажучы, менавіта ў 60-я гады XX стагоддзя ў галовах інтэлігенцыі "прараслі" ідэі будучых перабудовачных перамен[72], таму адлігу правамерна называюць пярэдаднем перабудовы 1980-х гг. У гэтым сэнсе як грамадскія навукі, так і сама культура Беларусі перыяду хрушчоўскай адлігі несумненна заслугоўваюць нашай увагі і больш глыбокіх спецыяльных даследаванняў.

**Streszczenie**

Hienadź Sahanowicz, *Odwilż chruszczowska w białoruskiej historiografii*

W artykule została podjęta próba odpowiedzi na pytanie, co działo się z nauką historyczną BSRR od połowy lat 50. do połowy lat 60., to znaczy w czasie odwilży politycznej. Właściwie do tej pory to zagadnienie nie było badane. Autor tylko w pewnym stopniu zgadza się z opinią dominującą w literaturze o braku większych zmian w historiografii BSRR w wybranym okresie. Poprzednie wyniki badań archiwalnych materiałów i publikacji z tamtych czasów świadczą o tym, że środowisko białoruskich humanistów również dążyło do rewizji kierunków ideologicznych i zmiany praktyk naukowych. Chociaż kontrola partyjna nad naukami humanistycznymi wzmocniła się i głównym zadaniem historyków było badanie epoki sowieckiej, nastawienie na przełamanie dogmatyzmu i szerokie wykorzystanie źródeł archiwalnych dały wyniki. W latach

72 Такую сувязь адчуваў, напрыклад, Ніл Гілевіч. Гл.: Н. Гілевіч, *Збор твораў у 23 т.* Вільня 2008, Т. 23: *Між роспаччу і надзеяй*, с. 180.

60. pojawiły się prace historyków akademickich, którzy odchodzili od schematów ideologicznych, kładąc większy nacisk na obiektywność badań. Najbardziej śmiałe poglądy na historię i kulturę Białorusi były wygłaszane w czasopiśmie „Polymja" („Płomienie"), które stało się forum osób myślących alternatywnie. Na jego łamach młodzi białoruscy naukowcy (M. Praszkowicz, M. Aleksjutowicz i in.) występowali z krytyką kluczowych elementów oficjalnej koncepcji historii Białorusi, co wywołało poważną dyskusję.

Jeśli za zasadnicze przejawy chruszczowskiej odwilży w naukach historycznych uważać rezygnację ze stalinowskich schematów historycznych, dążenie do powrotu do marksistowsko-leninowskich kierunków metodologicznych oraz włączenie do zmiany kierunku naukowego ogromu materiału archiwalnego, jak również naukowego imperatywu poszukiwania prawdy o przeszłości, to można stwierdzić, że wszystkie one były w mniejszym lub większym stopniu charakterystyczne dla środowiska białoruskich historyków. Mińsk też znał przykłady wyraźnego indywidualnego sprzeciwu wobec dogmatyzacji historiografii, kierowanej dyrektywami partyjnymi, choć nie było ich wiele. Poszukiwania i dyskusje białoruskich humanistów pierwszej połowy lat 60. były swoistym ziarnem, które przewegetowało okres przestoju i stało się impulsem do odnowy historiografii w warunkach demokratyzacji i „głasnosci" w epoce przebudowy.

**Summary**

Henadź Sahanovich, *Khrushchev's Thaw in Belarusian Historiography*

The article attempts to answer the question: What happened to historical education in the BSSR from the mid-1950s to the mid-1960s, during the political thaw? This question has essentially not been researched up to this point. The author only agrees to a certain degree with the dominating opinion of the lack of larger changes in BSSR historiography during the selected period. Earlier results from research of archival materials and publications from that period testify to the fact that the Belarusian humanist mileiu also attempted to strive for revision of ideological directions and changes to educational practise. Although party control over humanistic sciences increased in strength and the main

task of historians was researching the Soviet era, the attitude to breaking through dogmatism and the wide use of archival sources had its effect. In the 1960s, works by academic historians appeared which moved away from ideological schemes, placing a larger emphasis on research objectivity. The boldest views on Belarusian history and culture were voiced in the publication *Polymja* (Flames), which became the forum of alternative thinkers. On its pages, young Belarusian scholars (M. Praszkovich, M. Aleksjutovich and others) appeared, criticising key elements of the official conception of Belarusian history, triggering a serious discussion.

If the principle manifestations of Khrushchev's thaw in historical sciences are deemed to be abandoning Stalinist historical schemes, striving for a return to Marxist-Leninist methodological directions, as well as incorporating the enormous amount of archival material to the change in scientific direction, then it can be stated that these were all, more or less, characteristic for the Belarusian community of historians. Minsk also knew of examples of clear individual opposition towards the dogmatisation of historiography steered by party directives, though there were only a small number of such cases. Research and discussions of Belarusian humanists in the first half of the 1960s were a specific seed, which remained in a vegetative state during the idle period and became the impulse to renew historiography in conditions of democratisation and "glasnost" during the reconstruction era.

**Тацяна Касатая**
**(Варшава/Гродна)**

# ПАДЗЕЛ У АБШЧЫНАХ ЕВАНГЕЛЬСКІХ ХРЫСЦІЯН-БАПТЫСТАЎ У БССР (КАНЕЦ 1950-х гг. – 1965 г.): ПЕРАДУМОВЫ, ПРЫЧЫНЫ І ТАКТЫКІ ВЕРНІКАЎ

## Перадумовы раздзялення ў Саюзе евангельскіх хрысціян-баптыстаў. Агульная характарыстыка ініцыятыўнай групы

У 1944 г. у Савецкім Саюзе евангельскія хрысціяне і баптысты былі аб'яднаныя ў адзіны Саюз, які атрымаў назву Саюз евангельскіх хрысціян-баптыстаў (далей – ЕХБ). У1945 г. пад прымусам улад да гэтай рэлігійнай арганізацыі далучыліся некаторыя пяцідзясятнікі. Саюз ЕХБ быў створаны па ініцыятыве дзяржавы з мэтай кантролю дзейнасці вернікаў. Апошнія, у сваю чаргу, атрымалі магчымасць легальнай дзейнасці. На чале Саюза стаяў Усесаюзны савет ЕХБ (далей – УСЕХБ), які кіраваў дзейнасцю ўсіх абшчын, зацвярджаў прэсвітараў і старшых прэсвітараў. Старшыя прэсвітары прызначаліся Саветам ЕХБ "*для назірання за правільнай духоўнай дзейнасцю ЕХБ у абласцях, краях і рэспубліках СССР*"[1]. Згодна з палажэннем Саюза ЕХБ абавязкамі іх былі: "*кантроль за дзейнасцю кожнай абшчыны, дапамога прэсвітарам у правільным выкананні культу, назіранне за выбарам і рукапакладаннем новых прэсвітараў, зацвярджэнне дыяканаў*"[2].

У чэрвені 1956 г. праходзілі так званыя "куставыя"[3] нарады прэсвітараў абшчын евангельскіх хрысціян-баптыстаў у Гродзенскай вобласці, на якіх выступаў з дакладам старшы прэсвітар па вобласці Канстанцін Велісейчык. У сваім выступленні ён закранаў некаторыя пытанні рэлігійных практык вернікаў. Так, Велісейчык сцвярджаў, што трэба абмяжоўваць хрост маладых людзей ва ўзросце 18–25 гадоў; рэгістраваць прапаведнікаў праз упаўнаважаных Савета па

1 *Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці* (далей – ДАВВ), ф. 4029, воп. 1, ад.зах. 9, арк. 27-44.
2 Тамсама, арк. 30.
3 Тэрмін "куставыя нарады" выкарыстоўвалі ўпаўнаважаныя Савета па справах рэлігійных культаў у сваіх справаздачах, ліставанні. Пад імі разумеліся нарады, у якіх удзельнічалі прэсвітары абшчын вобласці на чале са старшым прэсвітарам.

справах рэлігійных культаў (далей – Савет па СРК); не праводзіць малітоўныя службы падчас мітынгаў і дэманстрацый; не дазваляць моладзі займацца місіянерскай дзейнасцю, у тым ліку арганізоўваць масавыя моладзевыя мерапрыемствы; трэба праяўляць патрыятызм у працы і г. д.[4] Гэтыя патрабаванні пярэчылі вучэнню ЕХБ, таму вернікі іх у асноўным не выконвалі, што стала прычынай чарговай хвалі рэпрэсій з боку дзяржавы.

1956 год у гісторыі вядомы XX з'ездам КПСС, на якім быў раскрытыкаваны не толькі культ асобы Іосіфа Сталіна, але і яго палітыка, у тым ліку ў дачыненні да канфесій. Таму з гэтага моманту пачалася падрыхтоўка да правядзення актыўнай атэістычнай прапаганды і паступовай ліквідацыі рэлігійнасці насельніцтва, бо лічылася, што Сталін пасля вайны зрабіў шмат уступак вернікам і канфесійным арганізацыям. З атрыманнем паўнаты ўлады Мікітай Хрушчовым у Савецкім Саюзе пачалася жорсткая барацьба з рэлігіяй. Для таго перыяду было характэрнае ідэалагічнае непрыняцце любой канфесіі[5]. У рашэннях і пастановах з'ездаў і пленумаў камуністычнай партыі антырэлігійная праца высоўвалася на першае месца ў агульнай ідэалагічнай дзейнасці партыйных камітэтаў, мясцовых Саветаў дэпутатаў працоўных, прафсаюзаў, камсамола і іншых грамадскіх арганізацый.

Пачынаючы з канца 1950-х гг., мясцовыя органы ўлады, выконваючы ідэалагічную ўстаноўку партыі, па розных прычынах пазбаўлялі рэгістрацыі абшчыны ЕХБ, а таксама прэсвітараў. Так, напрыклад, 14 снежня 1959 г. праходзіў агульны сход калгаснікаў у в. Петкавічы Брэсцкай вобласці, на якім першы сакратар пярвічнай партыйнай арганізацыі Сташынскі крытыкаваў працоўную дысцыпліну ў калгасе. Ён зазначаў, што вернікі ЕХБ не толькі парушаюць дысцыпліну, але і "*праводзяць працу па разбэшчванні сярод сумленных працаўнікоў*"[6]. На падставе пратакола гэтага сходу і хадайніцтва мясцовага райвыканкама абшчына ЕХБ была пазбаўленая легальнага статусу. Іншымі прычынамі зняцця з рэгістрацыі былі:

4 *Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь* (далей – НАРБ), ф. 952, воп. 3, ад.зах. 2, арк. 50-61.
5 М. Одинцов, *Советское государство и законодательство о культах. Из истории вопроса* [online], http://www.religion.in.ua/main/history/9214-sovetskoe-gosudarstvo-i-zakonodatelstvo-o-kultax-iz-istorii-voprosa.html [доступ: 02.09.2016].
6 *НАРБ*, ф. 952, воп. 3, ад.зах. 22, арк. 130.

малая колькасць вернікаў, парушэнне законаў з боку ЕХБ. Нагодай маглі стаць “антысанітарныя ўмовы” ў памяшканнях, дзе праходзілі сходы вернікаў, знос малітоўнага дома згодна з генеральным планам забудовы мясцовасці. Амерыканскі гісторык Вальтэр Завацкі пісаў, што толькі ў 1961 г. ва ўсім Савецкім Саюзе былі закрытыя 300 абшчын ЕХБ[7]. Таксама адбываліся прыцясненні вернікаў на працы, іх дзяцей у школе.

Апроч выкарыстання вышэй пералічаных гвалтоўных спосабаў барацьбы з ЕХБ, савецкая ўлада імкнулася разбурыць гэту рэлігійную арганізацыю знутры. У 1959 г. у абшчыны ЕХБ былі накіраваныя лісты за подпісам Канстанціна Велісейчыка(на той момант ён ужо быў старшым прэсвітарам па БССР), а таксама ўсіх абласных старшых прэсвітараў. Змест ліста амаль цалкам паўтараў выступленне Велісейчыка ў 1956 г. У ім гаварылася пра “*ціхае правядзенне пахаванняў*”, каб не прыцягваць увагу мінакоў, рэгістрацыю спіса прапаведнікаў, узгадненне са старшым прэсвітарам правядзення хростаў, забарону арганізацыі інструментальных канцэртаў, тэатральных пастановак, нават чытання вершаў. Паводле гэтага ліста трэба было абмежаваць дзейнасць моладзі, а таксама абавязкова ўзгадняць з упаўнаважаным з’езды абшчын ЕХБ з розных вёсак і гарадоў. Яшчэ адным пытаннем, якое закранала ся ў лісце, было далучэнне вернікаў да публічнага і актыўнага жыцця савецкага грамадства. Прэсвітары мусілі садзейнічаць таму, каб вернікі хадзілі ў кіно, чыталі свецкія газеты, літаратуру і слухалі радыё[8].

Рэакцыя вернікаў на гэты ліст, як паведамлялі ўпаўнаважаныя, была рознай. Некаторыя праслухалі яго маўкліва, без крытыкі і пытанняў. Але былі і абурэнні з боку вернікаў. Напрыклад, у Віцебскай вобласці некаторыя баптысты “*выказвалі незадаволенасць, але прынялі гэты ліст, бо іншага выхаду ў іх не было*”[9]. Вернік віцебскай абшчыны Філіп Прахарэнка падчас размовы з упаўнаважаным крытыкаваў змест ліста і казаў, што Велісейчык напісаў яго не па сваёй ініцыятыве, а пад прымусам Камітэта дзяржаўнай бяспекі

7 В. Заватски, *Евангелическое движение в СССР после второй мировой войны*, Москва 1995, с. 152. Варта адзначыць, што ў той перыяд пазбаўляліся рэгістрацыі не толькі абшчыны ЕХБ, але і закрываліся каталіцкія і праваслаўныя храмы.

8 *НАРБ*, фонд 952, воп. 3, ад.зах. 16, арк. 167-169.

9 Тамсама, арк. 105.

(далей – КДБ). У в. Гервелі сучаснага Валожынскага раёна вернікі, як пісаў упаўнаважаны, несур'ёзна ўспрынялі ліст, на сходзе падчас яго чытання было шумна, некаторыя смяяліся. На меркаванне прэсвітара Ключніка, вернікі засталіся на пазіцыі: "*пішыце, што хочаце, а мы сваю справу ведаем*"[10].

На месцах праходзіла падрыхтоўка да прыняцця новага статута Саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў, які б замацаваў усе абмежаванні рэлігійных практык. У Маскве ў гэты час ішло яго абмеркаванне. У снежні 1959 г. на пасяджэнні Савета ЕХБ, у якім прымалі ўдзел 11 чалавек (у тым ліку і згаданы вышэй Канстанцін Велісейчык, які прадстаўляў абшчыны БССР), былі прынятыя не толькі змены ў статуце, а таксама *Інструктыўны ліст да старшых прэсвітараў УСЕХБ.*

Паводле новай версіі статута не прадугледжвалася правядзенне з'ездаў прадстаўнікоў абшчын (склад УСЕХБ павінны быў заставацца пастаянным), старшым прэсвітарам падчас наведвання абшчын не дазвалялася прымаць удзел у богаслужэнні, абмяжоўвалася права казаць пропаведзі, праводзіць хрост маладых людзей. У *Інструктыўным лісце да старшых прэсвітараў* у даволі рэзкай і абразлівай форме адзначалася, што "*галоўнай задачай богаслужэнняў у цяперашні час з'яўляецца непрыцягненне новых членаў*", старшыя прэсвітары павінны былі "*стрымліваць нездаровыя місіянерскія праявы", з "пагоняй за вернікамі трэба пакончыць*"[11].

Такім чынам, новы статут Саюза ЕХБ і *Інструктыўны ліст* забаранілі адны з асноўных баптысцкіх/евангельскіх прынцыпаў[12]: незалежнасць памесных цэркваў і евангелізацыю. Атрымлівалася, што самыя аўтарытэтныя вернікі ў Саюзе ЕХБ, прымаючы вышэйназваныя дакументы, праігнаравалі гэтыя прынцыпы. Наступствы дадзенай

10 Тамсама, арк. 103.

11 Г. Крючков, *Великое пробуждение XX века: 1961–2006*, Москва 2008, с. 38-39.

12 Вылучаюць 7 асноўных прынцыпаў баптызму (евангельскіх прынцыпаў): 1. Кнігі Святога Пісання – адзіны аўтарытэт у справах веры і практычным жыцці. 2. Царква павінна складацца з духоўна адроджаных людзей. 3. Запаветам Ісуса Хрыста аб Хрышчэнні і Вячэры Гасподняй навучаюцца толькі тыя, хто паверыў у Ісуса Хрыста як свайго выратавальніка. 4. Незалежнасць памесных цэркваў у духоўных і практычных пытаннях. 5. Усеагульнае свяшчэнства вернікаў. 6. Свабода сумлення як неад'емнае права кожнага чалавека. 7. Аддзяленне царквы ад дзяржавы. Падрабязней гл.: С. Санников, *История и анализ баптистских принципов* [online], http://www.sannikov.info/beta/index.php/stati/bogoslovsko-istoricheskie-stati/156-istoriya-i-analiz-baptistskikh-printsipov [доступ: 16.08.2016].

падзеі аказаліся лёсавырашальнымі для існавання ЕХБ ва ўсім Савецкім Саюзе.

Спачатку супрацьстаянне новаму статуту было дыфузным, толькі з 1961 г. адбылася цэнтралізацыя гэтага руху праз арганізацыю *Ініцыятыўнай групы па скліканні надзвычайнага ўсесаюзнага з’езда ЕХБ*[13]. Яна з’явілася летам 1961 г., складалася з некалькіх[14] вернікаў незарэгістраванай абшчыны ў горадзе Вузлавая ў Тульскай вобласці РСФСР. З гэтага моманту пачалася сістэматычная, прадуманая, актыўная і, першапачаткова, у межах савецкіх законаў дзейнасць ініцыятыўнай групы.

13 жніўня 1961 г. члены ініцыятыўнай групы наведалі канцылярыю УСЕХБ і перадалі ліст прэзідыуму, у якім, па-першае, рэзка крытыкавалася кіраўніцтва Саюза ЕХБ за парушэнне евангельскіх прынцыпаў, абвінавачвалася ў тым, што евангельскія хрысціяне-баптысты ў СССР падзеленыя на 2 часткі: зарэгістраваныя і незарэгістраваныя; па-другое, ініцыятыўная група выступіла з прапановай склікання ўсеагульнага з’езда прадстаўнікоў абшчын для вырашэння асноўных пытанняў іх дзейнасці[15].

Пасля таго як прэзідыум Саюза ЕХБ не даў адказу на прапанову правесці з’езд, быў накіраваны ліст у савецкі ўрад, на імя Мікіты Хрушчова. У гэты ж час быў падрыхтаваны першы зварот да ўсіх вернікаў ЕХБ, у якім гаварылася пра становішча абшчын пасля прыняцця статута, адступленне кіраўніцтва Саюза ЕХБ ад евангельскіх прынцыпаў, а таксама прапаноўвалася пісаць хадайніцтвы ў органы ўлады аб скліканні з’езда вернікаў. Да канца 1961 г. такіх лістоў-хадайніцтваў было напісана ў Савет па СРК больш за 270[16]. Большасць лістоў даслалі вернікі з абшчын УССР і РСФСР (112 – з Украіны[17], астатнія – пераважна з тэрыторыі Расіі). Лідары ініцыятыўнай групы таксама паходзілі з гэтых двух рэспублік (Генадзь

---

13 Гэта група выступіла з *ініцыятывай* склікання з’езда прадстаўнікоў усіх абшчын ЕХБ, таму атрымала скарочаную назву “ініцыятыўная група” або “ініцыятыўнікі”.

14 У першым пасяджэнні ініцыятыўнай групы, што адбылося 10 жніўня 1961 г., прынялі ўдзел толькі 4 чалавекі.

15 Г. Крючков, *Великое пробуждение*, с. 26-27.

16 Тамсама, с. 52.

17 О. Лахно, *Діяльність «Ініціативної групи зі скликання надзвичайного Всесоюзного з’їзду эвангельсьских хриристиян-баптистів у СРСР» у всесоюзному та україньскому вимірі* [online], http://istznu.org/dc/file.php?host_id=1&path=/page/issues/29/lakhno.pdf [доступ: 16.08.2016]

Кручкоў – з абшчыны ў горадзе Вузлавая, Аляксей Пракоф’еў[18] і Георгій Вінс былі з кіеўскай абшчыны).

У лютым 1962 г. ініцыятыўная група стварыла арганізацыйны камітэт па скліканні з’езда. У красавіку гэтага ж года аргкамітэт папярэдзіў кіраўніцтва Саюза ЕХБ, што ў выпадку, калі яго прадстаўнікі не пакаюцца ў сваіх антыевангельскіх і антыцаркоўных дзеяннях, яны будуць адлучаныя ад царквы. Што і адбылося ў чэрвені 1962 г. Усяго было адлучана ад царквы 27 чалавек (у тым ліку і К. Велісейчык). У аргкамітэт вернікі з розных абшчын дасылалі лісты, у якіх прызнавалі яго кіруючую ролю замест УСЕХБ. На той час ужо было відавочна, што прадстаўнікі аргкамітэта імкнуцца стварыць новае аб’яднанне евангельскіх хрысціян-баптыстаў.

Трэба адзначыць, што, акрамя ліставанняў, адбываліся сустрэчы прадстаўнікоў ініцыятыўнай групы/аргкамітэта з членамі прэзідыума Саюза ЕХБ, а таксама з супрацоўнікамі Савета па справах рэлігійных культаў. Але гэтыя сустрэчы заканчваліся безвынікова.

Стваральнікі і прыхільнікі ініцыятыўнай групы/аргкамітэта былі даволі дасведчанымі ў савецкім заканадаўстве, а таксама мелі добрую біблійную і рэлігіязнаўчую падрыхтоўку. У сваіх лістах, зваротах, а таксама падчас сустрэч яны прыводзілі цытаты з рэлігійнай літаратуры: твораў багаслова, пісьменніка і прэсвітара абшчыны ў Санкт-Пецярбургу Івана Каргеля (1849–1937), прапаведніка, удзельніка руху Рэфармацыі Яна Гуса (1369/71–1415). У абароне сваіх правоў апелявалі да дэкрэта Савета народных камісараў *“Аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы”* ад 20 студзеня 1918 г., і першапачаткова да 124 артыкула Канстытуцыі СССР 1936 г. (аб свабодзе сумлення)[19], прац савецкіх аўтараў пра правы вернікаў (Ф.Рудзінскі *”Свабода сумлення ў СССР”*, 1961 г.), артыкулаў часопіса “Навука і рэлігія”, не абмінулі і працы Уладзіміра Леніна[20].

Нягледзячы на пастаянныя адмовы ініцыятыўнай групе, а пасля і аргкамітэту ў правядзенні з’езда ЕХБ, ён усё ж такі нечакана

18 У хуткім часе А. Пракоф’еў быў адлучаны ад Савета цэркваў ЕХБ.

19 Артыкул 124 Канстытуцыі СССР 1936 г. гучыць наступным чынам: З мэтай забеспячэння грамадзянам свабоды сумлення царква ў СССР аддзелена ад дзяржавы і школа ад царквы. Свабода выканання рэлігійных культаў і свабода антырэлігійнай прапаганды прызнаюцца за ўсімі грамадзянамі. Падрабязней гл.: *Конституция Союза Советских Социалистических республик*, 1936 г.

20 Г. Крючков, *Великое пробуждение,* с. 27-30.

адбыўся ў 1963 г. пад кантролем дзяржаўных органаў. Гэты з'езд, як адзначалася ў сакрэтнай запісцы ўсім упаўнаважаным Савета па СРК, быў арганізаваны з мэтай пазбавіць аргкамітэт даверу і падтрымкі з боку рэлігійных аб'яднанняў ЕХБ[21] (прадстаўнікоў аргкамітэта, дарэчы, не было ў ліку прысутных). На з'ездзе быў перагледжаны статут 1959 г., пры гэтым змены вельмі нагадвалі прапановы аргкамітэта. Напрыклад, Усесаюзны Савет атрымаў толькі выканаўчую функцыю, вышэйшым органам замест яго стаў Усесаюзны з'езд вернікаў ЕХБ.

Прадстаўнікі кіраўніцтва Савета ЕХБ толькі ў 1989 г. змаглі публічна прызнацца ў тым, што статут Саюза ЕХБ 1959 г. і *Інструктыўны ліст* "выглядалі як адступленне ад запаветаў Хрыста і вучэння апосталаў" і былі "прынятыя пад ціскам знешніх сіл"[22].

Пасля 1962 г. (калі адбыліся адлучэнні ад царквы) непаразуменні і разыходжанні паміж аргкамітэтам і афіцыйным Саюзам ЕХБ былі настолькі глыбокія, што змены ў статуце не прывялі да аб'яднання. Прыхільнікі аргкамітэта настойвалі на больш радыкальных зменах, у першую чаргу імкнуліся да пазбаўлення ад кантролю з боку дзяржавы.

Першапачаткова ініцыятыўная група/аргкамітэт і іх прыхільнікі выступалі з крытыкай толькі кіраўніцтва Саюза ЕХБ. Пра савецкую ўладу калі і гаварылася, то ў завуаляванай форме. Але, пачынаючы з канца 1964 г., у лістах аргкамітэта пачала з'яўляцца крытыка дзяржавы. Гэта быў чарговы крок да аддзялення ад Саюза ЕХБ.

19 верасня 1965 г. аргкамітэт па скліканні з'езда вернікаў ЕХБ на ўсесаюзнай нарадзе абвясціў пра стварэнне новай арганізацыі – Савета цэркваў ЕХБ (далей – СЦЕХБ)[23]. Старшынёй Савета быў абраны Генадзь Кручкоў, а сакратаром – Георгій Вінс. У 1966 г. прыхільнікаў СЦЕХБ налічвалася каля 155 тысяч чалавек з 500 тысяч усіх вернікаў ЕХБ ва ўсім Савецкім Саюзе[24].

Перш чым далей разглядаць прычыны ўзнікнення ініцыятыўнай групы і дзейнасць яе прыхільнікаў, звернем увагу на тэрміналогію. У дачыненні да тых вернікаў, якія падтрымалі

21 *ДАВВ*, ф. 4029, воп. 2, ад.зах. 13, арк. 108.

22 *История Евангельских христиан-баптистов*, Москва 1989, с. 241.

23 Гэта арганізацыя існуе і зараз пад назвай Міжнародны саюз цэркваў ЕХБ, ён аб'ядноўвае евангельскіх хрысціян-баптыстаў краін СНД, Прыбалтыкі, а таксама вернікаў у эміграцыі (ЗША, Канада).

24 В. Заватски, *Евангелическое движение в СССР*, с. 222.

ініцыятыўную групу, а таксама да падзей, што суправаджалі яе з’яўленне, існуе шэраг азначэнняў. У савецкай літаратуры, а таксама дзяржаўных дакументах таго часу гэтыя вернікі называліся “ініцыятыўнікамі”, “раскольнікамі”, “пракоф’еўцамі” (ад прозвішча аднаго з лідараў – Аляксея Пракоф’ева). У 1970-х гг. у дачыненні да некаторых з іх ужывалі азначэнне “экстрэмісты”, прыпісваючы ім нелегальную і антызаконную дзейнасць. Падзеі пачатку 1960-х гг. адназначна характарызаваліся ў савецкай гістарыяграфіі як раскол, а азначэнне “раскольнікі” ў дачыненні да прыхільнікаў ініцыятыўнай групы мела негатыўную канатацыю.

Тагачасныя замежныя даследчыкі выкарыстоўвалі назвы “ініцыятыўная група”, “ініцыятыўнікі”, а таксама “рэфарматары”[25]. Апошняе азначэнне адлюстроўвала мэты, якія ставілі перад сабой вернікі ініцыятыўнай групы: змяніць/рэфармаваць арганізацыйную структуру Саюза ЕХБ і ўзаемаадносіны з дзяржавай. У дачыненні да самой з’явы часцей сустракаецца азначэнне – “раздзяленне/падзел”. Апроч таго,у замежнай гістарыяграфіі існавалі такія тэрміны, як “іншадумцы”, “дысідэнты”. Расійская праваабаронца Людміла Аляксеева таксама залічвала евангельскіх хрысціян-баптыстаў – прыхільнікаў ініцыятыўнай групы да “іншадумцаў”, з дзейнасці якіх, на яе меркаванне, пачалося адраджэнне баптысцкай царквы[26].

Самі вернікі тых, хто далучыўся да ініцыятыўнай групы, а пасля ўвайшоў у Савет цэркваў ЕХБ, называюць “аддзеленымі” (рус. *отделённый*) і адпаведна саму падзею – “аддзяленнем”. Выкарыстанне такіх азначэнняў верагодна звязана з неабходнасцю падкрэсліць прымат Саюза ЕХБ (“брацтва”) і магчымасць для “аддзеленых” вярнуцца ў яго. Адмова ад паняцця “раскол” таксама абумоўлена пазбяганнем ацэначных меркаванняў і пошуку вінаватых. Прыхільнікі Савета цэркваў, у сваю чаргу, перыяд пачатку 1960-х гг. называюць *“вялікім абуджэннем XX ст.”*[27], бо лічаць, што ў гэты час адбывалася абуджэнне/адраджэнне евангельскіх прынцыпаў у дзейнасці абшчын і вернікаў.

---

25 M. Bourdeaux, *Religious Fermentin Russia*, London 1968; В. Заватски, *Евангелическое движение в СССР после второй мировой войны*, Москва 1995.

26 Л. Алексеева, *История инакомыслия в СССР,* [online], http://www.memo.ru/history/diss/books/alexeewa/ [доступ: 01.09.2016].

27 У 2008 г. выйшла кніга пад назвай *“Вялікае абуджэнне XX ст.»: збор крыніц з гісторыі дзейнасці ініцыятыўнай групы/аргкамітэта СЦЕХБ”.*

Сёння ў літаратуры часцей выкарыстоўваюцца больш нейтральныя назвы. Напрыклад, прыхільнікаў ініцыятыўнай групы/аргкамітэта/СЦЕХБ украінскі навуковец Аляксандр Лахно лічыць, што да 1962 г. вернікаў ЕХБ правамоцна называць “ініцыятыўнікамі”, з лютага 1962 г. да верасня 1965 г. – “прыхільнікамі аргкамітэта”, а з верасня 1965 г. – “прыхільнікамі Савета цэркваў ЕХБ” і “рэлігійнымі дысідэнтамі”[28]. Такое размеркаванне назваў на наш погляд з’яўляецца набойльш прымальнай, бо яно прывязана да перыядаў дзейнасці гэтых вернікаў, а таксама пазбаўлена прадузятасці і ацэначнага зместу. Мы будзем прытрымлівацца прапанаванай А. Лахно ўпарадкаванасці назваў, выкарыстоўваючы іншыя азначэнні ў цытатах, або зыходзячы з кантэксту. Таксама ўвядзем паняцце “падзел” абшчын ЕХБ на зарэгістраваныя і незарэгістраваныя, якія існавалі яшчэ да з’яўлення ініцыятыўнай групы. У пачатку 1960-х гг. розніца паміж гэтымі абшчынамі існавала не толькі ў статусе, але і ў тактыках дзеянняў вернікаў.

## Прычыны раздзялення ў абшчынах ЕХБ і з’яўлення ініцыятыўнай групы

На сённяшні дзень існуе даволі шырокая гістарыяграфія Савета цэркваў ЕХБ[29]. Вывучэнне “ініцыятыўнікаў” пачалося адразу пасля з’яўлення іх руху. Сярод аўтараў былі як савецкія даследчыкі[30], так і замежныя[31]. У апошнія дзесяцігоддзі з’яўляюцца даследаванні па праваабарончай дзейнасці баптыстаў у савецкі перыяд[32]. Вывучэннем ініцыятыўнай групы, дынамікі яе развіцця,

28 О. Лахно, *Опозиція в євангельсько-баптистському русі в УРСР (середина 40-х – 80-ті роки XX століття)*: автореф. дис. на здобуття наук. ступеня канд. істор. наук: спец. 09.00.11 «Релігієзнавство», Київ 2008.

29 В. Заватски, *Евангелическое движение в СССР после второй мировой войны*, Москва 1995; Л. Митрохин, Б*аптизм: история и современность (философско-социологический очерк)*, Санкт-Петербург 1997.

30 Г. Лялина, *Баптизм: иллюзии и реальность*, Москва 1977; М. Ленсу, *Кто такие инициативники*?, Минск 1967; Г. Филист, *Урбанизация и сектанство*, Минск 1986.

31 M. Bourdeaux, *Religious Fermentin Russia,* London 1968; W. Sawatsky, *Soviet Evangelicals since World War II*, Scottdale (Pennsylvania) 1981; В. Заватски, *Евангелическое движение в СССР после второй мировой войны*, Москва 1995.

32 Л. Алексеева, *История инакомыслия в СССР,* [online], http://www.memo.ru/history/diss/books/alexeewa/ [доступ: 01.09.2016].

асаблівасцей дзейнасці займаюцца ўкраінскія навукоўцы[33], а таксама расійскія[34]. У Беларусі на перыяд канца 1950-х – пачатку 1960-х гг. у гісторыі ЕХБ звярнула ўвагу ў сваіх артыкулах даследчыца з Віцебска Наталля Балтрушэвіч[35].

Адной з праблем, якая разглядаецца ў працах па гісторыі "ініцыятыўнікаў", гэта пытанне прычын іх з'яўлення, а пасля аддзялення ад афіцыйнага Саюза ЕХБ. У савецкай літаратуры, а таксама ў афіцыйных дакументах органаў улады ў якасці асноўнай прычыны называўся ўнутраны крызіс Саюза ЕХБ, які разглядаўся як "*заканамерны і непазбежны працэс на шляху камуністычнага будаўніцтва*"[36]. Баптызм трактаваўся як "*перажытак капіталізму*", называўся "*аскепкам буржуазнага грамадства*", "*гістарычна асуджаным на знікненне" ў грамадстве, якое пабудуе сацыялізм*"[37]. На думку савецкай даследчыцы Галіны Лялінай, перадумовы расколу ў Саюзе ЕХБ пачалі фарміравацца яшчэ ў пачатку ХХ ст., калі з'явілася "*класавая і сацыяльная дыферэнцыяцыя*" ў абшчынах. Секулярызацыя прывяла да таго, што "*найбольш фанатычныя і рэакцыйныя баптысты спрабавалі знайсці шляхі пераадольвання крызісу*" і выйшлі з афіцыйнага Саюза ЕХБ[38]. Георгій Філіст зазначаў, што ўнутраны крызіс абшчын ЕХБ быў абцяжараны барацьбой за ўладу – "*барацьбой за партфелі, за прадстаўніцтва на з'ездах і ў вышэйшых органах*"[39].

33 О. Лахно, *Опозиція в євангельсько-баптистському русі в УРСР (середина 40-х – 80-ті роки ХХ століття)*: автореф. дис. на здобуття наук. ступеня канд. істор. наук, Київ 2008; С. Савинский, *История русско-украинского баптизма*: *учеб. пособие*, Одесса 1995. Аляксандр Лахно звярнуў увагу, што царкоўная апазіцыя ў аб'яднанні ЕХБ была феноменам не толькі рэлігійнага, але і агульнапалітычнага жыцця ўкраінскага грамадства ў савецкі перыяд. Апазіцыя вернікаў ЕХБ мела перавагу над палітычнымі дысідэнтамі.

34 Л. Митрохин, Б*аптизм: история и современность (философско-социологический очерк)*, Санкт-Петербург 1997; Т. Никольская, *Русский протестантизм и государственная власть в 1905— 1991 годах,* Санкт-Петербург 2009.

35 Н. Болтрушевич, *Из истории протестантизма в Беларуси: раскол в церкви ЕХБ в 60-е гг. ХХ века*, "Вестник Витебского государственного медицинского университета" 2004, т. 3, № 2. с. 103-109; Н. Балтрушэвіч, *Становішча пратэстанцкай царквы на Беларусі ў перыяд з 1955 па 1965 гг.*, [в:] *Актуальные проблемы современной медицины и фармации: материалы конференции студентов и молодых учёных*, Витебск 2002, с. 423-426.

36 А. Клибанов, *Религиозное сектантство в прошлом и настоящем,* Москва 1973, с. 165.

37 Тамсама, с. 166.

38 Г. Лялина, *Баптизм: иллюзии и реальность,* с. 16.

39 Г. Филист, *Урбанизация и сектантство*, с. 95.

Сучасныя даследчыкі[40] прычынай з'яўлення ініцыятыўнай групы ў першую чаргу называюць савецкую палітыку, накіраваную на абмежаванне дзейнасці ЕХБ. Як ужо адзначалася вышэй, дзяржаўныя і партыйныя органы пазбаўлялі рэгістрацыі абшчыны, а таксама ўмешваліся ва ўнутраныя справы Саюза ЕХБ. З іх ініцыятывы былі прынятыя новы статут і *Інструктыўны ліст*. З канца 1950-х гг. ва ўсім Савецкім Саюзе ўзмацнілася антырэлігійная дзейнасць і пашырылася атэістычная прапаганда. Першаснае значэнне ва ўсёй савецкай палітыцы набыла партыйная ўстаноўка на пабудову безрэлігійнага грамадства[41]. Руская праваслаўная царква таксама пад ціскам савецкай улады мусіла ўнесці змены ў *Палажэнне аб упраўленні Рускай Праваслаўнай Царквой* згодна з дзеючымі савецкімі законамі. І з боку праваслаўных вернікаў у гэты час былі спробы супрацьстаяння дзяржаўнаму ўмяшанню ва ўнутраныя справы царквы[42]. Але змены ў *Палажэнне аб упраўленні Рускай Праваслаўнай Царквой* былі прынятыя даволі лёгка ў параўнанні з прыняццем статута Саюза ЕХБ.

Расійскі даследчык Леў Мітрохін, які пачаў сваю навуковую дзейнасць яшчэ ў савецкі перыяд, адной з прычын падзелу ў абшчынах ЕХБ называў унутраны крызіс Саюза ЕХБ, які быў звязаны з непаразуменнем паміж баптыстамі і евангельскімі хрысціянамі, таксама пяцідзясятнікамі[43]. Гэта праблема цягнулася з моманту ўваходу ў Саюз ЕХБ розных пратэстанцкіх накірункаў. Таксама Л. Мітрохін пісаў пра сервелізм кіраўніцтва УСЕХБ. Але гэтыя дзве прычыны непасрэдна звязаныя з савецкай рэлігійнай палітыкай. Нерашучасць лідараў Саюза ЕХБ была вынікам страху за існаванне ўсёй арганізацыі, а таксама за асабістую свабоду. Цэнтралізацыя

40 О. Лахно, *Опозиція в євангельсько-баптистському русі,* с. 5; С. Савинский, *История русско-украинского баптизма*; Л. Митрохин, *Баптизм: история и современность,* с. 412; Т. Никольская, *Русский протестантизм,* с. 201 – 215.

41 Падбрабязней на гэту тэму гл.: В. Войналович, *Партійно-державна політика щодо релігії та релігійних інституцій в Україні 1940-1960–х років: політологічний дискурс*, Київ 2005. М. Одинцов, *Советское государство и законодательство о культах.*

42 Падрабязней на гэту тэму гл.: Г. Якунин, *Исторический путь православного талибанства* [online], http://www.regels.org/Yakunine-Orthodoxe-Taliban.htm [доступ: 18.08.2016]; *Открытое письмо Святейшему Патриарху священников Николая Эшлимана и Глеба Якунина* [online], http://www.krotov.info/acts/20/1960/19651125.html [доступ: 18.08.2016]. Майкл Бурдо пісаў аб уплыве "ініцыятыўнага руху" евангельскіх хрысціян-баптыстаў на пратэсты праваслаўных святароў.

43 Л. Митрохин, *Баптизм: история и современность*, с. 412.

і аб'яднанне розных галін пратэстантызму ў 1944–1945 гг. пад кантролем дзяржавы прывялі да ўнутранага супрацьстаяння.

Аналіз гістарыяграфіі і крыніц (у тым ліку ўспамінаў вернікаў) паказвае, што з'яўленне ініцыятыўнага руху стала вынікам у першую чаргу знешніх прычын: антырэлігійнай дзяржаўнай палітыкі і ідэалагічнага наступлення на ўсе канфесіі. У той час адбываліся беспадстаўныя пазбаўленні рэгістрацыі шматлікіх абшчын і іх прэсвітараў. Таксама органы ўлады імкнуліся разбурыць абшчыны знутры, прымушаючы кіраўніцтва Саюза ЕХБ прымаць дакументы, якія абмяжоўвалі дзейнасць гэтай рэлігійнай арганізацыі.

Унутраныя крызісы/праблемы з'яўляліся адказам на знешні ціск з боку дзяржавы. У БССР, напрыклад, існавалі непаразуменні паміж баптыстамі і пяцідзясятнікамі. А на Паўночным Каўказе і Данбасе яшчэ ў 1950-я гг. з'явіўся рух "чыстых баптыстаў", якія выйшлі з Саюза ЕХБ, бо былі незадаволеныя кіраўніцтвам. У 1989 г. лідары Саюза ЕХБ прызналіся, што парушаўся прынцып абрання прэсвітараў у абшчынах[44]. Таксама ў гэты час пачалі праяўляцца канфлікты паміж пакаленнямі вернікаў. Варта звярнуць увагу на тое, што сярод прыхільнікаў "ініцыятыўнікаў" было даволі шмат маладых людзей.

Яшчэ адной унутранай праблемай было рэфармаванне Саюза ЕХБ. З 1926 г. не праводзіліся з'езды прадстаўнікоў усіх абшчын (выключэннем былі абшчыны, якія да 1939 г. знаходзіліся на тэрыторыях Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны). Функцыі з'езда прыняў на сябе ў 1944 г. Усесаюзны Савет царквы ЕХБ. Але яго склад доўгі час не абнаўляўся, праводзіліся толькі выбары тых членаў УСЕХБ, якія выбылі па розных прычынах.

У Саюз ЕХБ уваходзілі толькі зарэгістраваныя дзяржавай абшчыны. Але была даволі вялікая колькасць абшчын, якія дзейнічалі нелегальна. Напрыклад, па дадзеных справаздач упаўнаважаных Савета па СРК, у 1950 г. у БССР рэгістрацыю атрымалі 182 абшчыны (каля 15 тысяч вернікаў), а 80 не былі зарэгістраваныя. Больш за ўсё абшчын нелегальна дзейнічала ў тагачаснай Пінскай вобласці, дзе іх налічвалася 57 (1 750 вернікаў)[45]. Вернікі ЕХБ імкнуліся атрымаць

44 *История Евангельских христиан-баптистов*, с. 239.
45 *НАРБ*, фонд 952, воп. 2, ад.зах. 28, арк. 54.

рэгістрацыю, бо гэта было хаця б фармальным, але гарантам прызнання абшчыны ўладамі ў якасці паўнавартаснага суб’екта ўзаемаадносін. Незарэгістраваныя абшчыны найбольш падвяргаліся рэпрэсіям. Кіраўніцтва Саюза ЕХБ і старшыя прэсвітары ў рэдкіх выпадках маглі паўплываць на працэс рэгістрацыі. Таму расла незадаволенасць вернікаў, якія засталіся на нелегальным становішчы. У выніку яны адны з першых падтрымалі ініцыятыўную групу.

Зарэгістраваныя абшчыны былі незадаволеныя абмежаваннямі, якія пачалі агучваць прэсвітары яшчэ ў 1950-я гг. Тут можна пагадзіцца з Л. Мітрохіным, які ў якасці адной з прычын раздзялення называў сервілізм кіраўнікоў УСЕХБ, што не знайшлі рашучасці і сілы, каб супрацьстаяць націску дзяржаўных органаў[46]. Украінскі даследчык Аляксандр Лахно пайшоў далей у характарыстыцы лідараў ЕХБ, сцвярджаючы, што некаторыя з іх адышлі ад традыцыйных прынцыпаў негатыўнага стаўлення гэтай канфесіі да ўлады, што прывяло да расколу[47].

Такім чынам, знешнія неспрыяльныя ўмовы і патрэба захаваць сваё веравучэнне паставілі перад вернікамі пытанні, якія датычыліся ўзаемаадносін з дзяржавай. Гэтыя пытанні тэолаг з Тарту Тойва Пілі сфармуляваў наступным чынам: ці дазволена супрацоўнічаць з уладамі, калі так, то да якой ступені? Наколькі можна дазволіць дзяржаве ўмешвацца ва ўнутраныя пытанні багаслоўя і практык?[48] Мы дапоўнім гэтыя пытанні яшчэ адным: якім чынам можна захаваць сваё веравучэнне і сваю структуру ва ўмовах дзяржаўнай антырэлігійнай палітыкі?

Адказам на гэтыя пытанні стала абранне розных тактык паводзін вернікаў ЕХБ, што ў сваю чаргу прывяло да раздзялення. Да моманту з’яўлення ініцыятыўнай групы на дзеянні ўлад узнікалі спантанныя супрацівы вернікаў у розных рэгіёнах. Толькі ў канцы 1961 – пачатку 1962 г. паступова фарміраваўся арганізаваны рух незадаволеных дзейнасцю кіраўніцтва Саюза ЕХБ, а пасля і савецкай рэлігійнай палітыкай. Узнікае пытанне: чаму менавіта ў гэты час

46 Л. Митрохин, *Баптизм: история и современность*, с. 412.
47 О. Лахно, *Опозиція в євангельсько-баптистському русі,* с. 10.
48 Т. Пилли, *Христиане как граждане репрессивного государства: Богословские и этические размышления в исторической перспективе* [online], http://e-aaa.info/reflections/articles/2006/06ru-PT.pdf [доступ: 02.09.2016].

вернікі змаглі абраць тактыку супраціву і адстойвання сваіх правоў? Паспрабуем на яго адказаць. Такія дзеянні евангельскіх хрысціян-баптыстаў былі звязаныя з агульным настроем у грамадстве, якое бачыла ліберальныя перамены, што адбываліся ў гады хрушчоўскай адлігі. Амністыя зняволеных пасля смерці І. Сталіна таксама паўплывала на з'яўленне аптымізму сярод вернікаў. Да таго ж паступова змянялася пакаленне евангельскіх хрысціян-баптыстаў, прыходзілі маладыя людзі, якія не адчулі на сабе ганенняў у канцы 1920-х – 1930-я гг. Многія вернікі з тэрыторыі Заходняй Беларусі, якіх арыштавалі пасля вайны, вярнуліся з месцаў зняволення пасля амністыі. Як ужо адзначалася вышэй, баптысты не былі першымі, хто пачаў крытыкаваць сваё кіраўніцтва і рэлігійную палітыку: яшчэ ў 1958 г. праваслаўныя вернікі выпусцілі свой самвыдат. Такім чынам, агульная атмасфера чакання паглыблення ліберальных змен у савецкім грамадстве спрыяла з'яўленню ініцыятыўнай групы і далучэнню да яе шматлікіх евангельскіх хрысціян-баптыстаў.

## Тактыкі вернікаў ЕХБ ва ўзаемаадносінах з савецкай дзяржавай. Стаўленне вернікаў ЕХБ да дзяржавы

Узаемаадносіны з дзяржавай вернікі ЕХБ будуюць на падставе Святога Пісання. Адным з галоўных прынцыпаў евангельскіх хрысціян і баптыстаў з'яўляецца прынцып аддзялення царквы ад дзяржавы, які заснаваны на прадпісанні з Евангелля: *"Аддаваць кесарава кесару, а Божае Богу"* (Матф. 22:21). Гэта правіла ўвайшло ў спіс асноўных прынцыпаў баптызму, падрыхтаваны ў 1923 г. прэсвітарам Якавам Вінсам[49]. Ён пасля выкарыстоўваўся Саветам цэркваў ЕХБ, а таксама (са зменамі) Саюзам ЕХБ. Я. Вінс наступным чынам тлумачыў узаемаадносіны паміж царквой і дзяржавай: "*1. Членаў Царквы Божай Святое Пісанне павучае быць беззаганнымі і паслухмянымі грамадзянамі, якія шчыра клапоцяцца аб дабрабыце і росквіце сваёй роднай краіны. Гэты абавязак вернікі-грамадзяне ажыццяўляюць, калі яны моляцца за свой урад (1 Цім. 2:1-2) і падпарадкоўвацца і кіраўніцтву, і ўладам (1 Пят. 2:13; Ціт 3:1). 2. Як лаяльныя падданныя сваей дзяржавы, вернікі-грамадзяне таксама маюць права*

49 Якаў Вінс у 1920-я гг. стаяў на чале Далёкаўсходняга саюза баптыстаў.

*звяртацца з просьбай абароны або садзейнічання да грамадзянскай улады, калі гэтага патрабуюць абставіны (Дз. 22:25; 16:37). 3. Члены Царквы Божай маюць вялікі абавязак «АДДАВАЦЬ БОЖАЕ БОГУ». Адсюль бачна, што дзяржаве не належыць права выдаваць законы або вызначаць для сваіх грамадзян, дзе, калі і як яны павінны або не павінны маліцца або пакланяцца Богу. Таксама дзяржава не павінна сачыць за тым, ці наведваюць вернікі памяшканні для малітвы. Гэта права належыць, ВЫКЛЮЧНА Госпаду Ісусу Хрысту як АДЗІНАМУ Заканадаўцу і Яго святой Царкве (Дз. 4:19-20)*"[50].

Гэты прынцып аддзялення царквы ад дзяржавы быў традыцыйным для баптыстаў. Яго станаўленне адбывалася ў неспрыяльных умовах. Гэта быў адказ на рэлігійную нецярпімасць у Еўропе ў XVI–XVII стст. англійскі тэолаг Роджэр Уільямс (каля 1603–1683 гг.), каб пазбегнуць пераследу, выехаў з Еўропы ў Паўночную Амерыку, дзе заснаваў першую баптысцкую царкву. Дзякуючы яму ў заканадаўстве штата Род-Айленд (1639 г.) з'явіўся прынцып, паводле якога ніводны грамадзянін не мог быць пакараны або пазбаўлены грамадзянскіх правоў з прычыны яго рэлігійных перакананняў. Гэта быў першы (і доўгі час адзіны) прыклад заканадаўчага замацавання аддзялення царквы ад дзяржавы і свабоды сумлення.

Таму савецкі дэкрэт *"Аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы"* (1918 г.) вернікі ўспрынялі з аптымізмам і надзеяй на сапраўдную незалежнасць царквы. Але на справе выявілася, што гэты дакументмеў толькі дэкларатыўны характар. У 1930-я гг. ён наогул знік з публічнага дыскурсу. Толькі з прыходам да ўлады Мікіты Хрушчова зноў узгадалі пра «ленінскія прынцыпы» ў дачыненні да рэлігіі і пра дэкрэт 1918 г., праўда, гэта не азначала яго выканання.

Такім чынам, вернікі, маючы наказ быць паслухмянымі грамадзянамі, а таксама выконваючы адзін з асноўных сваіх прынцыпаў незалежнасці царквы, ва ўмовах прыцяснення выбіралі розныя тактыкі паводзін і ўзаемадзення з органамі ўлады.

50 Я. Винс, *Наши баптистские принципы* [online], http://rusbaptist.stunda.org/vins2.html#07 [доступ: 18.08.2016].

## Тактыкі лідараў зарэгістраваных абшчын ЕХБ

Можна вылучыць дзве тактыкі, якія выкарыстоўваліся вернікамі розных канфесій у савецкі час. Адна была накіраваная на адаптацыю і прыстасаванне да створаных умоў, другая – на супрацьстаянне знешнім сілам (гэта тактыка магла праяўляцца ў дзвюх формах – актыўнае змаганне за сваю веру або ізаляцыя ад грамадства). Спалучэнне дзвюх гэтых тактык (з перавагай адной з іх) у розныя часы суправаджала дзейнасць евангельскіх хрысціян, баптыстаў і пяцідзясятнікаў. У канцы 1950-х – пачатку 1960-х гг., у адказ на рэпрэсіі з боку ўлады і ўмяшальніцтва ў справы Саюза ЕХБ, найбольш ярка праявілася палярызацыя стаўлення вернікаў да дзяржавы.

Ніжэй прыведзеныя дзве характарыстыкі апанентаў – лідараў Саюза ЕХБ і ініцыятыўнай групы. Умоўна можна вызначыць, што адны з іх абралі ахоўную і прыстасавальніцкую тактыку, а другія – актыўнае адстойванне сваіх прынцыпаў і змаганне за правы.

“*Яны (кіраўніцтва Саюза ЕХБ) выбіраюць месцы далей ад бітвы ў асноўным з мэтай самазахавання* [падкрэслена аўтарам артыкула. – Т. К.], *а называюць сябе ”мудрымі”, таму што гэта лепш, чым сказаць: ”слабы”. Яны б наогул нічога не казалі, але трэба чымсьці растлумачыць, чаму яны не ў шэрагах змагароў за ісціну, і таму лепшымі словамі для тлумачэння яны абралі: “Трэба мудрэй” і “не час*”[51].

“*Члены (ініцыятыўнай) групы звярталіся да УСЕХБ з прапановай склікання надзвычайнага ўсесаюзнага з’езда прадстаўнікоў цэркваў ЕХБ. Але гэта прапанова не была прынята, і члены ініцыятыўнай групы вырашылі, што яны маюць права дзейнічаць самастойна* [падкрэслена аўтарам артыкула. – Т. К.]. *Яны пачалі распаўсюджваць па ўсіх цэрквах свае звароты крытычнага зместу*”[52].

Вальтэр Завацкі заўважыў, што для савецкіх ЕХБ было характэрнае прыстасавальніцтва да існуючых умоў, дадаючы пры гэтым, што лідары зарэгістраваных абшчын не заўсёды былі

51 Г. Крючков, *Великое пробуждение,* с. 98.
52 *История Евангельских христиан-баптистов*, с. 242.

паслядоўнымі ў спавяданні біблейскіх прынцыпаў[53]. Дзеянні кіраўніцтва Саюза ЕХБ і тых вернікаў, што ў ім засталіся, у перыяд, які мы разглядаем, зводзіліся да пастаяннага балансавання. Напрыклад, некаторыя вернікі, даведаўшыся пра новы статут ЕХБ, прынялі рашэнне на працягу некалькіх месяцаў не вадзіць дзяцей на малітоўныя службы, каб перачакаць “шторм”, а пасля вярнуцца да звычайнага ладу жыцця. А ў некаторых абшчынах прэсвітары перад пачаткам богаслужэння стаялі каля дзвярэй і не пускалі дзяцей у малітоўны дом[54].

Найбольш яскрава тактыкі аховы і прыстасавання бачныя на прыкладах дзейнасці прэсвітараў. Менавіта яны непасрэдна сутыкаліся з прадстаўнікамі органаў улады, а таксама павінныя былі выконваць іх патрабаванні. Нездарма крытыка ініцыятыўнай групы накіроўвалася не толькі супраць маскоўскіх лідараў, але і супраць кіраўнікоў абшчын, якія ў сваіх дзеяннях кіраваліся загадамі савецкай улады. Пазней улады пачалі выкарыстоўваць прэсвітараў зарэгістраваных абшчын для барацьбы з “ініцыятыўнікамі”, але незаўсёды такая “супраца” была плённай[55]. Згаданы вышэй Канстанцін Велісейчык, які займаў пасаду старшага прэсвітара ў Беларусі, прадстаўляў кіраўніцтва Саюза ЕХБ, і супраць яго дзеянняў выступілі прыхільнікі ініцыятыўнай групы/аргкамітэта.

З даступных нам крыніц вядома, што Канстанцін Сцяпанавіч Велісейчык нарадзіўся ў 1908 г., жыў каля м. Астрына (сучасны Шчучынскі раён, Гродзенская вобласць), займаўся сельскай гаспадаркай. Да вайны скончыў 7 класаў свецкай школы, пазней навучаўся ў біблейскай школе ў г. Лодзь (Польшча). З’яўляўся прэсвітарам абшчыны ў м. Астрына, якая пачала сваю дзейнасць яшчэ ў 1933 г. У 1946 г., калі К. Велісейчыка зарэгістравалі прэсвітарам гэтай абшчыны, яна налічвала 75 чалавек[56]. Пасля таго як у верасні 1948 г. быў арыштаваны старшы прэсвітар па Гродзенскай вобласці Кузьма Сявашка, яго пасаду ў сакавіку 1949 г. заняў К. Велісейчык. Амаль адразу ён загадаў прэсвітарам абшчын у вобласці не дазваляць

53 В. Заватский, *Евангелическое движение в СССР*, с. 14
54 Тамсама.
55 *ДАВВ*, ф. 1439, воп. 1, ад.зах. 1, арк. 71.
56 Падрабязней на гэту тэму гл.: *Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці* (далей – ДАГВ), ф. 1385, воп. 1[а], ад.зах. 19, арк. 24; ф. 1385, воп. 1[а], ад.зах. 3, арк. 24.

дзецям да 16 гадоў наведваць малітоўныя сходы[57]. Верагодна, гэты загад быў звязаны з чарговай хваляй уціску дзейнасці абшчын ЕХБ, арыштамі шматлікіх вернікаў (у тым ліку і папярэдніка Велісейчыка – Кузьмы Сявашкі). Пры гэтым архіўныя дадзеныя (справаздачы ўпаўнаважанага Савета па справах рэлігійных культаў) сведчаць, што вернікі ў асноўным не прытрымліваліся ўказання старшага прэсвітара па вобласці. Невядома, ці было гэта толькі фармальным выкананнем патрабаванняў органаў улады з боку К. Велісейчыка, ці ён настойваў на абмежаванні наведавання малітоўных службаў дзецьмі. Але можна меркаваць, што гэта быў першы крок Канстанціна Велісейчыка да прыстасавальніцтва і асцярожнай тактыкі дзеянняў.

Пэўна гэтыя якасці дазволілі яму ў 1957 г. заняць пасаду старшага прэсвітара па ўсёй БССР. Мы ўжо згадвалі пра лісты Велісейчыка да вернікаў ЕХБ 1956 г. і 1959 г., у якіх прадпісваліся шматлікія абмежаванні іх рэлігійных практык. Зразумела, што гэта не была асабістая ініцыятыва Канстанціна Велісейчыка, а агульная "кампрамісная палітыка" УСЕХБ. У лісце 1959 г. гаварылася, што "*акрамя агульных і харавых спеваў, на малітоўных сходах ЕХБ ні ў якім разе не павінны быць тэатральныя пастаноўкі, чытанні вершаў, інструментальныя канцэрты. Гэта ўсё з'яўляецца парушэннем Статута УСЕХБ, адцягвае ад пабожнасці прысутных і выклікае ў наведвальнікаў спакусу*"[58].

Калі праводзілася палітыка пазбаўлення рэгістрацыі памесных цэркваў, К. Велісейчык не змог супрацьстаяць закрыццю адной з самых вялікіх абшчын у БССР – брэсцкай, у якой у 1959 г. налічвалася больш за 360 вернікаў. 17 траўня 1960 г. малітоўны дом гэтай абшчыны быў адабраны ў ЕХБ і перанесены ў іншае месца ў сувязі з планам будаўніцтва 32-кватэрнага жылога дома (які, дарэчы, так і не быў узведзены). Мясцовыя ўлады палічылі немэтазгодным даваць дазвол на рэгістрацыю іншага адраса для дзейнасці брэсцкай абшчыны, абгрунтоўваючы гэта тым, што ў трох кіламетрах ад Брэста існавала зарэгістраваная абшчына ЕХБ у в. Вулька. Пакуль вырашалася пытанне з рэгістрацыяй, некаторыя вернікі з Брэста пачалі наведваць вулькаўскую абшчыну. Упаўнаважаны Савета па СРК сцвярджаў,

57 *ДАГВ*, ф. 1385, воп. 1[а], ад.зах. 14, арк. 27.
58 *ДАГВ*, ф. 1385, воп. 1, ад.зах. 50, арк. 10-11.

што сам старшы прэсвітар па БССР К. Велісейчык пасля наведвання евангельскіх хрысціян-баптыстаў у Брэсце і ў в. Вулька “*па сваёй ініцыятыве выказаў меркаванне аб неабходнасці зліцця вернікаў у адну абшчыну, бо правядзенне агульных малітоўных сходаў стварае нязручнасці ў такіх дэталях, як каму кіраваць сходамі і якой абшчыне збіраць добраахвотныя ахвяраванні*”[59]. Такім чынам, Велісейчык зняў пытанне рэгістрацыі асобнай брэсцкай абшчыны. Хаця гэта рашэнне было прынятае органамі ўлады яшчэ раней і без яго ўдзелу, яму заставалася толькі пагадзіцца з ім.

Калі ў БССР вернікі пачалі далучацца да руху ініцыятыўнай групы, Велісейчык вельмі рашуча пачаў супрацьстаяць ім. Сярод абшчын ЕХБ распаўсюджваўся ліст за подпісамі Канстанціна Велісейчыка і яго намесніка Мікалая Германовіча, у якім між іншым гаварылася: “*Пракоф’еў і Кручкоў, выступаючы супраць «Новага статута УСЕХБ», тым самым выступаюць супраць Савецкага заканадаўства аб культах, а выступаць супраць Савецкага заканадаўства аб культах раўназначна таму, што і супрацьстаяць уладзе. Тыя, хто супраціўляецца уладзе, кажа Слова Божае, «супраціўляюцца Божаму ўставу». Тыя абшчыны, якія паважаюць дзяржаўны закон як «Божы ўстаў» (...) карыстаюцца свабодай*”[60]. Гэты ўрывак з ліста адлюстроўвае, якім чынам лідары Саюза ЕХБ, а таксама шэраговыя вернікі, якія засталіся ў гэтай рэлігійнай арганізацыі, тлумачылі з дапамогай Святога Пісання свой ”кампраміс” з дзяржавай, сваю падатлівасць і падпарадкаванасць савецкім законам і ўладзе. Узгадаем, што ў 1962 г. сярод першых 27 вернікаў, якія былі адлучаныя ад царквы аргкамітэтам, быў і Канстанцін Велісейчык.

У адной з размоў з упаўнаважаным Савета па СРК па Мінскай вобласці К. Велісейчык сцвярджаў: “*Я лічу, што з боку грамадскасці і органаў міліцыі не вядзецца тая рашучая барацьба, якая павінна весціся супраць раскольнікаў*”[61]. Невядома, наколькі дакладна ўпаўнаважаны перадаў словы старшага прэсвітара, але фактам з’яўляецца тое, што Велісейчык абмяркоўваў пытанне

59 *Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці* (далей – ДАБВ), ф. 1339, воп. 2, ад.зах. 23а, арк. 97.
60 Г. Крючков, *Великое пробуждение*, с. 78.
61 *НАРБ*, ф. 952, воп. 4, ад.зах. 43, арк. 110.

дзейнасці прыхільнікаў ініцыятыўнай групы з прадстаўніком дзяржавы. Са справаздач упаўнаважаных Савета па СРК вынікае, што старшыя прэсвітары і некаторыя прэсвітары абшчын ЕХБ часта самі паведамлялі прадстаўнікам улады пра распаўсюд літаратуры ініцыятыўнай групы сярод вернікаў[62].

Варта адзначыць, што Канстанцін Велісейчык на працягу 10 гадоў (1959–1969 гг.) быў членам Усесаюзнага Савета ЕХБ. Ён прымаў удзел у з’ездах ЕХБ у 1963, 1966 і 1969 гг. У кастрычніку 1966 г. Канстанцін Велісейчык выступаў першым на сходзе, прысвечаным адкрыццю з’езда, быў абраны ў члены яго прэзідыума. На другі дзень з’езда ў сваім выступленні старшы прэсвітар па БССР казаў: “*Стан абшчын ЕХБ у Беларусі ў цэлым задавальняючы. Гэта багатыя любоўю гасцінныя дзеці Божыя, якія любяць адзінства і збольшага забылі, хто якім быў, а асабліва пільныя да таго, якімі павінныя яны быць, хаця ёсць і слабыя абшчыны, асабліва там, дзе існуе недахоп вопытных служкаў. Смутны раскол, які адбыўся ў нашым брацтве, закрануў і Беларусь. У выніку ў шэрагу абшчын аддзяліліся групы вернікаў. Зараз шматлікія вернікі вяртаюцца ў свае абшчыны. Усебеларускі выканаўчы кіраўнічы царкоўны орган імкнецца выхоўваць вернікаў у разумнай веры, якая выяўляецца ў асабістым пазнанні імі Госпада і ў цеснай сувязі з Ім кожнага верніка. Дзеці Божыя выхоўваюцца ў духу адзінства і любві да свайго народа і да сваёй краіны, грамадзянамі якой яны з’яўляюцца*”[63]. У гэтым выступленні вельмі сцісла былі закранутыя даволі сур’ёзныя праблемы абшчын ЕХБ: уключэнне пяцідзясятнікаў у Саюз ЕХБ (“збольшага забылі, хто якім быў”) і выхад груп вернікаў з зарэгістраваных абшчын Саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў. Звяртае на сябе ўвагу выказванне пра выхаванне вернікаў, у якім адчуваецца аўтарытарны стыль кіраўніцтва абшчынамі ЕХБ.

Даволі часта Велісейчык выязджаў за мяжу ў складзе дэлегацый ад УСЕХБ. Напрыклад, у 1966 г. разам з Аляксандрам Каравым (генеральны сакратар УСЕХБ) быў у ФРГ. Летам 1968 г. у г. Упсала (Швецыя) на асамблеі Сусветнага Савета цэркваў ён быў нават абраны ў Цэнтральны камітэт гэтай міжнароднай экуменічнай арганізацыі[64].

62 Падрабязней на гэту тэму гл.: *НАРБ,* ф. 952, воп. 3, ад.зах. 30, арк. 222; воп. 4, ад.зах. 40, арк. 25.
63 *Второй день съезда*, «Братский вестник» 1966, № 6 [online], http://mbchurch.ru/publications/brotherly_journal/2407/ [доступ: 02.09.2016].
64 *История Евангельских христиан-баптистов*, с. 262.

Зважаючы на савецкую палітычную сістэму, можна меркаваць, што актыўны ўдзел у кіраўніцтве УСЕХБ, замежныя паездкі Велісейчыка сведчаць пра лаяльнае стаўленне да яго ўлад. Недарма вернікі старшага прэсвітара за спіной называлі таварышам, а не братам[65]. Узрастала незадаволенасць дзейнасцю К. Велісейчыка з боку вернікаў Саюза ЕХБ. Ужо падчас з'езда 1966 г. яго крытыкавалі. А ў 1969 г. на чарговым з'ездзе евангельскіх хрысціян-баптыстаў супраць уваходу Велісейчыка ў склад Савета ЕХБ прагаласавалі 102 чалавекі. Пры гэтым ён далей заставаўся старшым прэсвітарам па БССР (да 1976 г.).

Трэба прызнаць, што ўсё ж такі Канстанцін Велісейчык не быў служкай з чырвоным партыйным білетам у кішэні. Яшчэ калі ён быў прэсвітарам астрынскай абшчыны, то праводзіў малітоўныя службы ў сваім доме, парушаючы гэтым самым савецкія законы. Упаўнаважаны Савета па справах рэлігійных культаў па БССР скардзіўся на Велісейчыка, што той хаваў інфармацыю, напрыклад, пра прыезд у 1961 г. вернікаў з Украіны, Латвіі і Малдовы ў мінскую абшчыну ЕХБ[66]. Таксама ўпаўнаважаны пісаў пра тое, што старшы прэсвітар спрабаваў захаваць у кіраўніцтве абшчын старыя вопытныя кадры[67]. Напэўна дзякуючы Велісейчыку, Кузьма Сявашка пасля вяртання з месца зняволення заняў пасаду старшага прэсвітара па Гродзенскай вобласці, хаця з боку ўпаўнаважанага па вобласці былі прапановы яго зняць[68].

Зыходзячы з аналізу даступных крыніц, складаецца меркаванне, што Канстанцін Велісейчык быў прыхільнікам аўтарытарнага стылю кіравання і строгай дысцыпліны. Гэты стыль трансліраваўся і на дзейнасць абшчын, напрыклад, даволі часта адбываліся выключэнні з памесных цэркваў тых вернікаў, якія не жадалі падпарадкоўвацца маскоўскаму Савету ЕХБ. Выконваючы большасць патрабаванняў дзяржавы і прытрымліваючыся агульнай ахоўнай тактыкі кіраўніцтва Саюза ЕХБ, Велісейчык спадзяваўся, што зможа такім чынам захаваць структуру царквы. Англійскі даследчык Майкл Бурдо называў такую тактыку "мудрым манеўраваннем"[69].

65 В. Заватский, *Евангелическое движение в СССР,* с. 304.
66 *НАРБ*, ф. 952, воп. 3, ад.зах. 25, арк. 40.
67 Тамсама, воп. 4, ад.зах. 45, арк. 224.
68 Тамсама.
69 Т. Пилли, *Христиане как граждане репрессивного государства,* с. 142.

Прапаведнік з мінскай абшчыны ЕХБ Уладзімір Канатуш[70] так характарызаваў дзейнасць Канстанціна Велісейчыка: "*Яму ўвесь час даводзілася балансаваць паміж двух агнёў: трэба было богаўгодна вырашаць справы царквы і выконваць вучэнне Хрыста, а з другога боку прытрымлівацца законаў. Бо атэістычныя ўлады ўсімі магчымымі сродкамі імкнуліся абмежаваць дзейнасць цэркваў, прывесці іх поспех да нуля, і таму пастаянна патрабавалі, каб старшы прэсвітар дамагаўся ад кіраўніцтва памесных цэркваў выконваць абмежаванні, якія былі ўстаноўленыя законамі. (...) Будзем памятаць адно: каб у тыя часы выстаяць і высока несці сцяг Хрыста, трэба было мець сапраўдны гераізм веры, незвычайную мужнасць, трываласць і мудрасць ад Бога*"[71].

## Тактыкі абароны прынцыпу незалежнасці абшчын ЕХБ ад дзяржавы. Мірная тактыка наступлення

Незвычайную трываласць і прынцыповасць праявілі вернікі, якія ва ўзаемаадносінах з дзяржавай прытрымліваліся іншай тактыкі, заснаванай на біблейскіх настаўленнях: "*Кесарава кесару, а Божае Богу*" (Мф. 22:15-22) і "*Трэба павінавацца больш Богу, чым людзям*" (Дз. 5:29).

Першапачаткова адбываліся стыхійныя супрацівы антызаконным дзеянням прадстаўнікоў улады. Гэта была рэакцыя на беспадстаўныя пазбаўленні рэгістрацыі абшчын, прэсвітараў, адабранні малітоўных дамоў і г. д., якая праяўлялася ў напісанні скаргаў і просьбаў у дзяржаўныя органы.Так, у сакавіку 1961 г. евангельскімі хрысціянам-баптыстамі брынеўскай абшчыны Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці была напісаная скарга ўпаўнаважанаму па вобласці і па БССР, а таксама старшаму прэсвітару К. Велісейчыку. Вернікі скардзіліся на незаконныя дзеянні прадстаўнікоў мясцовай улады, якія перашкаджалі перарэгістрацыі іх абшчыны і атрыманню імі малітоўнага дома. Пры гэтым яны апелявалі да артыкула 124 Канстытуцыі СССР[72].

---

70 Уладзімір Канатуш (1920 – 2010), у 1950 г. быў арыштаваны, асуджаны на 25 гадоў зняволення, у 1955 г. вярнуўся ў Мінск пасля амністыі. Актыўна займаўся евангелізацыяй. Падвяргаўся рэпрэсіям: тры разы яго звальнялі з працы, кантралявалі ліставанне. Нягледзячы на гэта, стварыў падпольныя малітоўныя гурткі, на працягу некалькіх гадоў быў рэктарам падпольнай духоўнай семінарыі.

71 В. Канатуш, *История евангельского движения в Беларуси*, «Крыніца жыцця» 1998, № 3, с. 19.

72 *НАРБ*, ф. 952, воп. 3, ад.зах. 28, арк. 44-45.

Былі праявы і больш радыкальных дзеянняў, напрыклад, публічнае адстойванне сваіх правоў. Прасочым гэтую з’яву на прыкладзе брэсцкай абшчыны. 17 лютага 1960 г. брэсцкая абшчына ЕХБ атрымала паведамленне ад гарадскога камітэта гаспадаркі аб тым, што вернікам трэба пакінуць малітоўны дом, бо на зямельным участку, на якім ён знаходзіўся, планавалася праводзіць будаўнічыя работы згодна з праектам забудовы Брэста. Спачатку за подпісам прэсвітара абшчыны Васіля Тупчыка і члена савета Івана Катовіча быў дасланы ліст упаўнаважанаму Савета па СРК па БССР Пятру Лабусу. Вернікі сцвярджалі, што “*насамрэч нікому з суседзяў каля малітоўнага дома не прыйшло ніякага паведамлення аб перасяленні іх у іншыя кватэры. Проста хочуць малітоўны будынак узяць пад дзіцячы сад*”[73]. Такія дзеянні ўлад, на думку Тупчыка і Катовіча, маглі прывесці да свавольніцтва з боку вернікаў. Напрыклад, для пяцідзясятнікаў гэта была б нагода праводзіць антываенную агітацыю і парушаць савецкія законы. “*Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што наша абшчына размешчаная на мяжы з Польскай рэспублікай, – зазначалі аўтары ліста, – адтуль кожны дзень ідзе паток турыстаў, якія могуць вывозіць непатрэбныя навіны для тых, хто шукае паклёп на наш савецкі ўрад*”[74]. Гэты ліст адлюстроўвае выкарыстанне вернікамі савецкай мадэлі паводзінаў: мова, практыкі камунікацыі. У ім прасочваецца тактыка кампрамісу.

Але такімі метадамі немагчыма было наладзіць паўнапраўныя адносіны і адстаяць свае правы. У Брэсцкай вобласці толькі ў перыяд 1958–1960 гг. з розных прычын былі пазбаўленыя рэгістрацыі 6 прэсвітараў абшчын ЕХБ[75]. Ліквідацыя брэсцкай абшчыны была запланаванай і прадуманай акцыяй. Забудоўшчыкам жылога дома на месцы малітоўнага будынка ЕХБ было абласное ўпраўленне КДБ. Пытанне, якое падымалі вернікі аб пабудове новага дома малітвы або пошуку іншага будынка, вырашалася на сумесным пасяджэнні намесніка ўпаўнаважанага Савета па СРК па БССР з партыйным і савецкім кіраўніцтвам вобласці. На ім было прынятае рашэнне аб “дазволе” вернікам з Брэста праводзіць асобныя службы ў малітоўным доме ў в. Вулька[76]. Прэсвітар Тупчык казаў, што будынак у Вульцы

73 *НАРБ*, ф. 952, воп. 3, ад.зах. 22, арк. 35.
74 Тамсама.
75 Тамсама, арк. 78.
76 Тамсама, арк. 126-127.

вельмі маленькі для абшчыны, якая налічвала 380 чалавек. У самой Вульцы на той час было 108 вернікаў[77].

Пасля гвалтоўнага закрыцця малітоўнага дома вясной 1960 г. шматлікія вернікі выступілі ў абарону сваёй абшчыны больш рашуча. Яны прыходзілі да дома малітвы і на вуліцы каля яго спявалі. У выніку гэта месца пачало прыцягваць увагу людзей, таму ўлады выкарысталі рэпрэсіўныя метады. Пасля чарговых разгонаў міліцыяй частка вернікаў пачала нелегальна збірацца на малітоўныя сходы невялікімі групамі ў прыватных дамах. Другая частка брэсцкіх ЕХБ далучылася да абшчыны ў в. Вулька: 80 чалавек з 380, у тым ліку і Васіль Тупчык (Іван Катовіч пазней далучыўся да прыхільнікаў ініцыятыўнай групы і быў арыштаваны).

Такім чынам, брэсцкія ЕХБ падзяліліся. Такі сцэнар быў характэрны для многіх абшчын у БССР: адбываўся альбо падзел, альбо ўсе вернікі пасля пазбаўлення рэгістрацыі праводзілі службы нелегальна. Падпольнае служэнне з'яўлялася адной з тактык узаемаадносін са знешнім асяроддзем. Яна заключалася ў ізаляцыі і хаванні сваёй прыналежнасці да царквы. Такая тактыка была больш характэрнай для пяцідзясятнікаў, якія не пагадзіліся са Жнівеньскім пагадненнем 1945 г., не далучыліся да Саюза ЕХБ і дзейнічалі без рэгістрацыі. Гэта значыць, што падзел у Саюзе ЕХБ існаваў яшчэ да з'яўлення ініцыятыўнай групы, якая толькі актывізавала гэты працэс і канчаткова прывяла да стварэння новай рэлігійнай арганізацыі.

Існаванне без рэгістрацыі для ЕХБ першапачаткова было непрымальным. Вернікі імкнуліся атрымаць/вярнуць рэгістрацыю, якая разглядалася імі ў якасці спосабу публічнага замацавання сваёй ідэнтычнасці, захавання сваёй структуры і легальнай дзейнасці, прызнання іх дзяржавай як паўнапраўнай часткі грамадства. Тым больш што нелегальная дзейнасць супярэчыла наказу быць паслухмянымі грамадзянамі. Неаднаразова евангельскія хрысціяне-баптысты з Брэста звярталіся да ўлад з просьбай зарэгістраваць іх абшчыну, казалі, што гатовыя за свае грошы пабудаваць новы малітоўны дом[78]. У гэтых лістах, нягледзячы на выкарыстанне савецкіх моўных зваротаў, вернікі пазіцыянавалі сябе ў якасці паўнавартасных

77 Тамсама, спр. 34, арк. 102.
78 Тамсама, ф. 136, воп. 1, ад.зах. 4, арк. 262-266.

суб'ектаў узаемаадносін з дзяржаўнымі органамі. Як ужо адзначалася вышэй, першапачаткова вернікі не выказвалі відавочнай крытыкі савецкай улады.

У хуткім часе тактыка спарадычных зваротаў да ўлад і чакання пачала ператварацца ў сістэматычную і арганізаваную дзейнасць. Больш чым праз год пасля адабрання малітоўнага дома, у кастрычніку 1961 г., як паведамляў упаўнаважаны, у Брэст прыехаў адзін з прадстаўнікоў ініцыятыўнай групы, ён сустракаўся з вернікамі, якія праводзілі малітоўныя службы нелегальна. Пасля гэтага візіту ўжо мясцовыя евангельскія хрысціяне-баптысты (сярод іх былі знятыя з рэгістрацыі ў 1958 г. былыя прэсвітары Рыгор Шэпятунька і Яўген Федарук) пачалі распаўсюджваць ідэю "ініцыятыўнікаў" пра арганізацыю з'езда і вырашэнне на ім унутраных праблем Саюза ЕХБ. Варта адзначыць, што гэту інфармацыю ўпаўнаважанаму Савета па справах рэлігійных культаў паведаміў былы прэсвітар брэсцкай абшчыны В. Тупчык[79].

Для брэсцкіх ЕХБ (як і для іншых вернікаў, якія падтрымалі ініцыятыўную групу) ідэя пра ўсеагульны з'езд і актуалізацыя баптысцкіх/евангельскіх прынцыпаў былі выйсцем з нелегальнага становішча. Яны спадзяваліся, што са зменай кіраўніцтва УСЕХБ магчыма будзе аднавіць дзейнасць і пабудаваць узаемаадносіны з дзяржавай на падставе прынцыпу аддзялення царквы ад дзяржавы. У 1965 г. у Брэсцкай вобласці налічвалася каля 650 прыхільнікаў Савета цэркваў ЕХБ, што складала 12% ад колькасці ўсіх вернікаў[80]. У самім Брэсце дзейнічалі 3 нелегальныя групы, якія былі падзеленыя па тэрытарыяльным прынцыпе. Вернікамі гэтых груп былі арганізаваныя падпольная нядзельная школа для дзяцей, дзіцячы хор, музычны гурток.

Евангельскія хрысціяне-баптысты з Брэста, прытрымліваючыся агульнай лініі ініцыятыўнай групы/аргкамітэта, пісалі заявы на імя старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Леаніда Брэжнева, старшыні Савета Міністраў СССР Мікіты Хрушчова аб дазволе правядзення з'езда вернікаў. Яны адкрыта выступалі ў абарону свабоды сумлення і прынцыпу аддзялення царквы ад дзяржавы,

79 Тамсама, ф. 952, воп. 3, ад.зах. 27, арк. 73.
80 Тамсама, ф. 952, воп. 3, ад.зах. 41, арк. 248-249.

пры гэтым вырашаючы свае мясцовыя праблемы. Так, 16 сакавіка 1963 г. на сустрэчу з упаўнаважаным Савета па СРК па Брэсцкай вобласці Н. Стральчонкаму малітоўны дом у в. Вулька прыйшлі каля 200 чалавек, большасць з якіх былі прыхільнікамі аргкамітэта. Яны выступалі з прапановай або пашырыць дом у Вульцы, або дазволіць знайсці іншае памяшканне[81]. На ўсе прапановы яны атрымалі адмоўны адказ.

Варта зазначыць, што свае рэлігійныя практыкі прыхільнікі ініцыятыўнай групы канспіравалі. Напрыклад, праводзілі службы і моладзевыя сустрэчы ў лесе (у Белавежскай пушчы), каб пазбегнуць рэпрэсій; камунікавалі праз перадачу запісак дзецям вернікаў і г. д. Але, што датычыцца праваабарончай дзейнасці, выступалі больш рашуча, адкрыта і ў межах савецкага заканадаўства. Даволі актыўна крытыкавалі кіраўніцтва Саюза ЕХБ, агітуючы вернікаў не падпарадкоўвацца яму. Апроч таго, збіралі сродкі для дапамогі сем'ям тых вернікаў, якія былі арыштаваныя. Яны захоўвалі і працягвалі рэлігійныя практыкі, забароненыя ў зарэгістраваных абшчынах.

Як і ў выпадку з зарэгістраванымі абшчынамі, у якіх яўныя тактыкі прыстасавання былі характэрныя для лідараў (старшых прэсвітараў, прэсвітараў), у нелегальных абшчынах вылучаліся найбольш актыўныя вернікі, якія, прытрымліваючыся прынцыпу незалежнасці царквы, шукалі спосабы яго актуалізацыі і ажыццяўлення з боку дзяржавы.

Да 1965 г. у БССР ужо сфарміравалася свая арганізацыйная структура прыхільнікаў аргкамітэта. Тут існавала так званая тройка, якая каардынавала дзейнасць абшчын, ажыццяўляла сувязь паміж абшчынай/вернікамі і аргкамітэтам (пасля – Саветам цэркваў ЕХБ), займалася арганізацыяй друку і распаўсюду самвыдату. Склад тройкі вельмі часта мяняўся з-за рэпрэсій супраць яе членаў. У 1964 г. у тройку ўваходзілі Міхаіл Скіпар з г. Баранавічы Брэсцкай вобласці, у доме якога праводзіліся нарады прыхільнікаў аргкамітэта, Мікалай Карэтка з в. Чарнакі Камянецкага раёна і Арцём Хівук з в. Рагозна Брэсцкага раёна[82]. Апошні, Арцём Хівук (1904 г. н.), яшчэ ў 1948 г. быў асуджаны на 25 гадоў высылкі. У 1956 г. ён вярнуўся пасля

81 *НАРБ*, ф. 952, воп. 3, ад.зах. 34, арк. 17.
82 Тамсама, ф.952, воп. 3, ад.зах. 38, арк. 102.

амністыі. Быў прэсвітарам рагазнянскай абшчыны, якая ўжо на той час не мела рэгістрацыі. Падтрымаўшы ініцыятыўную групу, Хівук пачаў актыўна ездзіць па абшчынах, распаўсюджваючы ідэі аб з'ездзе вернікаў, а таксама незалежнасці царквы ад дзяржавы. У 1969 г. або 1970 г. А. Хівук быў арыштаваны і асуджаны на 5 гадоў зняволення[83]. На той момант ён ужо быў вельмі хворы. Праз чатыры гады яго выпусцілі з турмы дадому, дзе ён у хуткім часе памёр. У дзень яго пахавання в. Рагозна была акружаная міліцыяй, каб не дапусціць вернікаў з іншых гарадоў і вёсак на пахаванне Арцёма Хівука.

У 1965 г., як сведчыць справаздача ўпаўнаважанага Савета па СРК па Віцебскай вобласці, ключавую ролю ў "тройцы" па БССР адыгрываў вернік з Брэста Трафім Фейдак[84], а пазней – Пётр Арцюх з Ваўкавыска Гродзенскай вобласці. У абласцях БССР таксама ствараліся царкоўныя саветы для каардынацыі дзеянняў прыхільнікаў Савета цэркваў ЕХБ.

У асноўным актыўнымі прыхільнікамі ініцыятыўнай групы/аргкамітэта былі тыя вернікі, якія раней зазналі рэпрэсіі, ганенні, абмежаванні з боку ўлады, а таксама кіраўніцтва УСЕХБ. Так, Арцём Хівук у 1948 г. быў арыштаваны, Яўген Федарчук у 1947 г. зняты з пасады прэсвітара ў абшчыне в. Свішчы Жабінскага раёна Брэсцкай вобласці, Рыгор Шэпятунька ў 1958 г. быў пазбаўлены прэсвітарскай рэгістрацыі. Апошні ў пачатку 1960-х гг. быў лідарам моладзевай групы нелегальных абшчын ЕХБ у Брэсце. Быў вельмі добрым прапаведнікам. Адно са сваіх выступленняў з крытыкай лідараў Саюза ЕХБ для распаўсюду запісаў на магнітафонную стужку. Восенню 1962 г. у яго доме, а таксама ў іншых прыхільнікаў аргкамітэта адбываліся вобшукі, падчас якіх канфіскоўвалася рэлігійная літаратура[85]. У выніку была распачатая крымінальная справа. У сакавіку 1963 г. Р. Шэпятуньку і яшчэ 3 вернікаў (Сцяпана Мацьвеюка, Івана Катовіча і Яўгена Федарчука) абвінавацілі ў парушэнні савецкага заканадаўства аб культах і асудзілі. Шэпятунька быў асуджаны на 5 гадоў пазбаўлення волі. Усяго ў БССР па артыкуле 222 Крымінальнага кодэкса "*Замах на асобу і правы грамадзян пад*

83 Н. Белякова, М. Добсон, *Женщины в евангельских общинах послевоенного СССР. 1940–1980-е гг. Исследование и источники*, Москва 2015, с. 397.

84 *ДАВВ*, ф. 4029, воп. 1, ад.зах. 2, арк. 126.

85 *НАРБ*, ф. 952, воп. 3, ад.зах. 34, арк. 15.

*выглядам выканання рэлігійных абрадаў*" у 1962 г. былі асуджаныя 32 чалавекі, у 1963 г. – 44, у 1964 – 13[86].

Менавіта такія наступствы чакалі вернікаў, якія наважыліся на тактыку мірнага наступлення – адкрыта і публічна крытыкавалі падпарадкаванне дзяржаве кіраўніцтва Саюза ЕХБ і дамагаліся сапраўднага выканання прынцыпу аддзялення царквы ад дзяржавы.

Поспех распаўсюду заклікаў і зваротаў ініцыятыўнай групы заключаўся ў наладжванні сувязей паміж вернікамі/абшчынамі. У пачатку 1960-х гг. усё часцей арганізоўваліся сумесныя сходы-нарады лідараў абшчын прыхільнікаў Савета цэркваў ЕХБ. Найбольш актыўна праводзіліся моладзевыя сустрэчы, якія пад уплывам дзяржаўнай рэлігійнай палітыкі ў зарэгістраваных абшчынах былі забароненыя. Моладзь дзейнічала больш радыкальна, чым вопытныя вернікі. Тактыкі маладых евангельскіх хрысціян-баптыстаў былі рашучымі, але часта спантаннымі і непрадуманымі. Так, 26 снежня 1965 г. у Слуцку Мінскай вобласці павінна было адбыцца служэнне прыхільнікаў Савета цэркваў ЕХБ у доме верніка Яўгена Сяльчукова, які напярэдадні (21 снежня) быў затрыманы і "*за парушэнне грамадскага парадку*" асуджаны на 15 сутак. Загаддзя да гэтага месца прыехалі міліцыя, дружыннікі і некалькі грамадскіх актывістаў. Калі вернікі, сярод якіх былі маладыя людзі з Брэста, падышлі да дома Сяльчукова, то міліцыя туды іх не пусціла. Тады, як сведчыў упаўнаважаны Савета па СРК, "*раскольнікі з Брэста пачалі заклікаць ісці маліцца на цэнтральную плошчу*"[87]. Каля 50 чалавек накіраваліся ў цэнтр Слуцка. Яны спявалі псалмы, громка казалі: "*Ёсць Бог*!", заклікалі мінакоў далучыцца да іх. На рагу вуліц Леніна і Першай Калгаснай вернікі прыпыніліся. Маладыя людзі з Брэста Уладзімір Журко і Мікалай Мельнічук пачалі публічна выступаць. Казалі пра парушэнне 124 артыкула Канстытуцыі, патрабавалі рэалізацыі поўнай рэлігійнай свабоды. Праз некаторы час, як пісаў упаўнаважаны, "*не атрымаўшы падтрымкі з боку насельніцтва*", вернікі пайшлі назад, спяваючы псалмы. На ўскрайку горада яны былі прыпыненыя, частку з іх (21 чалавека) пасадзілі ў аўтобус аўтаінспекцыі і завезлі ў аддзел міліцыі. Вернікі, якія засталіся на волі, на наступны дзень напісалі скаргу старшыні Савета Міністраў СССР Аляксею

86 Тамсама, ад.зах. 40, арк. 146.
87 Тамсама, ф. 136, воп. 1, ад.зах. 2, арк. 54.

Касыгіну, накіравалі копіі Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Мікалаю Падгорнаму, Генеральнаму пракурору СССР Раману Рудзенку, пракурору БССР Аляксею Бондару. У гэтым лісце яны пісалі, што ў аддзеле міліцыі вернікаў білі па галаве, цягалі за валасы, п'яныя дружыннікі плявалі ім у твар. Слуцкія евангельскія хрысціяне-баптысты не проста скардзіліся на мясцовыя праваахоўныя органы, а звярталіся да вышэйстаячай улады з просьбай аб вырашэнні гэтага пытання ў межах існуючага заканадаўства. "*Увесь гэты жахлівы стан,* --пісалі яны, -- *ніякім чынам не дапасоўваецца да вялікага гуманнага закона нашай дзяржавы. Просім тэрмінова ўмяшацца для таго, каб наладзіць парадак у нашым г. Слуцку. Чакаем дапамогі ад Вас і абароны справядлівасці Савецкіх законаў*"[88].

18 чалавек з затрыманых у Слуцку адпусцілі, а трох вернікаў з Брэста – Васіля Цінкевіча 1941 г. н., Уладзіміра Журко 1936 г. н., Мікалая Мельнічука 1942 г. н. – за "*актыўнае падбухторванне да беспарадку і за непадпарадкаванне супрацоўнікам аховы грамадскага парадку*"[89] асудзілі на 15 сутак арышту.

Звернем увагу яшчэ на адзін аспект тактыкі прыхільнікаў ініцыятыўнай групы/аркамітэта/Савета цэркваў. Калі кіраўнікі УСЕХБ заклікалі да адзінства, абароны міру і выканання савецкіх законаў, то аргкамітэт/Савет цэркваў ЕХБ – да адраджэння сапраўднай царквы праз ачышчэнне і асвячэнне[90]. Пры гэтым літаральнае ўспрыманне ачышчэння вяло да адлучэння ад царквы. Хваля адлучэнняў ахапіла абшчыны пасля 1962 г., калі аргкамітэт адлучыў ад царквы 27 вернікаў, у асноўным з ліку кіраўніцтва УСЕХБ. У адказ у абшчынах, якія ўваходзілі ў Саюз ЕХБ, таксама пачаліся выключэнні вернікаў. Так, у 1962 г. за падтрымку незаконных дзеянняў ініцыятыўнай групы ў віцебскай абшчыне былі адлучаныя 4 чалавекі, у аршанскай – 6[91]. Адлучэнне ад царквы, такім чынам, ператварылася ў метад маніпулявання, які выкарыстоўваўся як УСЕХБ, так і прыхільнікамі аргкамітэта/Савета цэркваў ЕХБ.

У БССР гэты перыяд быў абцяжараны і крытыкай кіраўніцтва Саюза ЕХБ з боку пяцідзясятнікаў. Напрыклад, вернікі

88 Тамсама, ад.зах.. 4, арк. 51, 51 адв., 52.
89 Тамсама, ад.зах.. 2, арк. 55.
90 Г. Крючков, *Великое пробуждение*, с. 123-124.
91 *ДАВВ*, ф. 4029, воп. 2, ад.зах. 13, арк.23.

абшчыны ў в. Асмалоўка Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці, якія ў асноўным былі пяцідзясятнікамі, падчас размовы з намеснікам упаўнаважанага па Мінскай вобласці ў 1960 г. заявілі, што "*ніякіх указанняў і распараджэнняў, што зыходзяць ад рэлігійнага цэнтра УСЕХБ і старшага прэсвітара БССР, яны выконваць не будуць, бо яны зыходзяць ад людзей, якія выконваюць волю савецкай улады, а не робяць так, як кажа Святое Пісанне – Біблія*". У 1961 г. рашэннем Мінскага аблвыканкама дадзеная абшчына была пазбаўленая рэгістрацыі, прычынай гэтага называлася "*парушэнне савецкага заканадаўства аб культах*"[92].

Таксама не ўсе ЕХБ, якія былі незадаволеныя маскоўскім кіраўніцтвам, далучыліся да ініцыятыўнай групы/аргкамітэта/Савета цэркваў. У 1962 г. у в. Збунін Брэсцкага раёна вернікі заявілі памочніку старшага прэсвітара па вобласці Сцяпану Луцыку, што яны не прызнаюць аргкамітэт, але і не жадаюць падтрымліваць УСЕХБ[93].

Такім чынам, у канцы 1950-х гг. у абшчынах ЕХБ у БССР пад ціскам дзяржаўнай палітыкі, кантролю і навязвання рашэнняў з боку органаў улады назіраўся ўнутраны крызіс. Пазбаўленне абшчын рэгістрацыі прыводзіла да іх падзелу, калі адна частка вернікаў ішла ў зарэгістраваныя абшчыны, а другая збіралася нелегальна, спрабуючы пры гэтым вярнуць сабе рэгістрацыю. Прыняцце новага статута Саюза ЕХБ, а таксама *Інструктыўнага ліста старшым прэсвітарам* яшчэ больш абцяжарыла становішча вернікаў. Старшыя прэсвітары і прэсвітары з мэтай спынення ліквідацыі абшчын абралі тактыку прыстасавання і кампрамісу з уладамі. Выконваючы патрабаванні дзяржаўных органаў (забароны прыводзіць на малітоўныя служэнні дзяцей, праводзіць моладзевыя сустрэчы, хрысціць маладых людзей, чытаць вершы, арганізоўваць канцэрты і г.д.), яны аддалялі ад сябе вернікаў. Калі з'явіліся лісты ініцыятыўнай групы, незадаволеныя евангельскія хрысціяне-баптысты хутка падтрымалі яе. Каменем спатыкнення паміж вернікамі – прыхільнікамі ініцыятыўнай групы і тымі, хто застаўся ў Саюзе ЕХБ, было пытанне ўзаемадзеяння з дзяржавай. Калі апошнія абіралі тактыку прыстасавання і мудрага манеўравання, каб захаваць структуру Саюза ЕХБ, то ініцыятыўнікі

92 *НАРБ*, ф. 952, воп. 3, ад.зах. 26, арк. 185-196.
93 Тамсама, ад.зах. 30, арк. 234.

спрабавалі прытрымлівацца тактыкі раўнапраўных стасункаў з уладай. Абапіраючыся на Канстытуцыю і дэкрэт *"Аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы"*(1918 г.), яны пісалі скаргі, заявы на рэгістрацыю, а таксама, падтрымліваючы ідэю ініцыятыўнай групы, патрабавалі дазволу правесці з'езд вернікаў ЕХБ. Тлумачэнне сваіх розных тактык вернікі знаходзілі ў Евангеллі. Кіраўніцтва Саюза ЕХБ і прэсвітары зарэгістраваных абшчын акцэнтавалі ўвагу на 13-м раздзеле Ліста да Рымлян: "*Кожная душа няхай падпарадкоўваецца вышэйшым уладам, бо няма ўлады не ад Бога; а існуючыя ўлады Богам устаноўлены*" (Рым. 13:1). Прыхільнікі ініцыятыўнай групы звярталіся да іншых евангельскіх прынцыпаў: "*Кесарава кесару, а Божае Богу*" (Мф. 22:15-22) і "*Трэба павінавацца больш Богу, чым людзям*" (Дз. 5:29). У пачатку 1960-х гг. яны яшчэ не выступалі з крытыкай савецкай дзяржавы. Дзяржаўны лад, які тады існаваў, ініцыятыўнікі ўспрымалі як дадзенае, не спрабавалі яго змяніць.

Розныя погляды на магчымасці існавання ў неспрыяльных умовах абмежавання дзейнасці і атэістычнай прапаганды прывялі да канфрантацыі паміж вернікамі, якая суправаджалася ўзаемнымі абвінавачваннямі, адлучэннямі ад царквы. Варта прызнаць, што вернікі, якія засталіся ў Саюзе ЕХБ, і прыхільнікі ініцыятыўнай групы апынуліся закладнікамі дзяржаўнай палітыкі. І хто з іх абраў правільную тактыку, сказаць немагчыма. Але, гледзячы з гістарычнай перспектывы, можна сцвярджаць, што адначасовае існаванне гэтых двух тактык – прыстасавальніцкай і прынцыповага адстойвання сваіх правоў – у хуткім часе паўплывала на дзяржаўную палітыку ў дачыненні да евангельскіх хрысціян-баптыстаў. Каб знізіць актыўнасць незарэгістраваных абшчын і пазбавіць уплыву на іх прыхільнікаў ініцыятыўнай групы/аргкамітэта/Савета цэркваў, улады пайшлі на ўступкі афіцыйнаму Саюзу ЕХБ.

## Streszczenie

Taciana Kasataja, *Podział we wspólnotach ewangelickich chrześcijan baptystów w BSRR (od końca lat 50. do 1965 r.): tło, przyczyny i strategie wiernych*

W artykule rozpatrywane są tło i przyczyny podziału we wspólnotach ewangelickich chrześcijan baptystów w BSRR od końca lat 50. do pierwszej połowy lat 60. W badanym okresie przechodziła kolejna fala polityki antyreligijnej. Wiele wspólnot i prezbiterów bezpodstawnie traciło status prawny, prowadzone były represje wobec wiernych w zakładach pracy i wobec ich dzieci w szkołach. Ponadto, wciąż narastały sprzeczności w Związku Ewangelickich Chrześcijan Baptystów. Wielu z nich było niezadowolonych z kierownictwa w Moskwie, działalności starszych prezbiterów i prezbiterów wspólnot, którzy zarzucali suwerenność kościoła, spełniając żądania państwa. W 1959 r. pod naciskiem władz Rada Ewangelickich Chrześcijan Baptystów (najwyższy organ Związku) przyjęła nowy Statut, w którym ograniczane były religijne praktyki wiernych i naruszano zasady wiary. Nowy Statut stał się impulsem do aktywnego działania ze strony niezadowolonych wiernych. Żądali oni przeprowadzenia zjazdu przedstawicieli wszystkich wspólnot EChB w celu rozwiązania głównych kwestii, a w pierwszej kolejności sprawy relacji z państwem. W ten sposób powstała „inicjatywna grupa do organizacji nadzwyczajnego zjazdu EChB". Pomysł tej grupy uzyskał wsparcie wielu wiernych, w szczególności z niezarejestrowanych wspólnot. W związku z tym, w Radzie EChB pogłębił się podział (wcześniej uśpiony), który najjaskrawiej unaocznił się w różnych strategiach wiernych w relacjach z państwem. Ci ewangeliccy chrześcijanie baptyści, którzy zostali członkami Związku, trzymali się ogólnej strategii i podporządkowywali się. Zwolennicy „grupy inicjatywnej" – działali wg strategii „pokojowej i praworządnej ofensywy", próbując utrzymać zasadę suwerenności wspólnot od państwa. To właśnie one stawały się ofiarami prześladowań i represji ze strony władz. Warto zaznaczyć, że wierzący, którzy pozostali członkami Związku, oraz zwolennicy „grupy inicjatywnej" stali się zakładnikami polityki państwowej i nie da się zdecydować, która z tych grup obrała słuszną strategię. Jednak patrząc na tę sytuację z perspektywy historycznej, można powiedzieć, że funkcjonowanie obu opcji – podporządkowania i zasadniczego egzekwowania swoich praw – w krótkim czasie wpłynęło na politykę państwową wobec ewangelickich chrześcijan baptystów.

## Summary

Tatsiana Kasataya, *Divisions in Evangelical Christians Baptist Communities in the BSSR (late 1950s-1965) – Background, Causes and Strategies of Believers*

The article analyses the background and causes of divisions in Evangelical Christian Baptist communities in the BSSR at the end of the 1950s, until the mid-1960s. During the period of research a successive wave of anti-religious policy was put in effect. Many communities and presbyters baselessly lost their legal status, while repressions were carried out against believers in workplaces and against their children in schools. What is more, disagreements continued to increase in the Union of Evangelical Christian Baptists. Many of them were dissatisfied with their leadership in Moscow, as well as the activities of older presbyters and community presbyters, who encroached on the sovereignty of the church by fulfilling the demands of the state. In 1959, under pressure from the authorities, the Council of Evangelical Christian Baptist (the highest organ of the Union) accepted a new statute, which restricted religious practise, thus infringing on the principles of faith. The new statute became an impulse for action on the part of dissatisfied members of the church. They demanded that a meeting of all the representatives of Evangelical Christian Baptists (EChB) take place in order to resolve the main contentious issues, especially the matter of relations with the state. In this manner, an "initiative group for organising an extraordinary meeting of the EChB" was formed. The group's idea gained the support of many of the faithful, especially unregistered EChB communities. In accordance with this, division in the EChB Council was deepened (earlier latent), which was most vividly displayed in various strategies of the faithful in relations with the state. Those Evangelical Christian Baptists who became members of the Union kept to the general strategy and conformed. Supporters of the "initiative group" enacted a strategy of "peaceful and lawful offensive", attempting to retain the principle of community sovereignty from the state. It was they who became victims of persecution and repression from the side of the state. It is worth nothing that those believers, who remained members of the Union, as well as supporters of the "initiative group", became hostages of state policy and it is difficult to decide which of those two groups chose

the valid strategy. However, looking back from a historical perspective, it can be said that the functioning of these two strategies – conforming and fundamentally invoking one's rights –shortly influenced the state's policy toward Evangelical Christian Baptists.

**Doroteusz Fionik (Bielsk Podlaski)**
**Henadź Siemianchuk (Warszawa/Grodno)**

## FUNDACJE PRAWOSŁAWNYCH MONASTERÓW DROHICZYŃSKICH OD KOŃCA XVI DO II POŁOWY XVIII WIEKU.

W nadbużańskim Drohiczynie do 1824 r. funkcjonowały dwa prawosławne ośrodki zakonne: monastery Przemienienia Pańskiego (Spaski) oraz Św. Trójcy (Troicki). Powstanie pierwszego, położonego na prawym brzegu Buga, czyli tzw. Ruskiej stronie jest datowane na wiek XIII. Drugi ośrodek duchowy ulokowany na Lackiej stronie, we wschodniej częsci miasta, powstał w drugiej połowie piętnastego stulecia. Po 1596 r. oba monastery oparły się naciskom unijnym. Od drugiej połowy XVII w., kiedy pozostałe drohickie cerkwie parafialne przyjęły unię lub przestały funkcjonować, były one głównymi miejscami kultu dla licznych wówczas w ziemi drohickiej i mielnickiej wyznawców prawosławia[1].

W zbiorach *Narodowego Historycznego Archiwum Białorusi w Mińsku* (f. 136, wop. 1, ad.zach. 47, k.113-120v) znajduje się bezcenny dokument, dotyczący fundacji i fundatorów monasterów prawosławnych Przemienienia Pańskiego (Spaskiego) i Św. Trójcy (Troickiego) w nadbużańskim Drohiczynie. Jest to szczegółowy spis dokumentów fundacyjnych oraz transakcji zawieranych przez wspomniane monastery w latach 1599-1779. Za okres owych stu osiemdziesięciu lat sumariusz odnotowuje łącznie osiemdziesiąt sześć dokumentów. Hojność prawosławnych mieszczan i szlachty ziemi drohickiej wobec swych ośrodków duchowych była więc znaczna.

Sumariusz został sporządzony 16 grudnia 1773 r. staraniem ihumena monasterów Spaskiego i Troickiego Dionizego Stefanowicza. Bazą źródłową stanowiły dokumenty, przechowywane w archiwach tychże monasterów. Wydaje się jednak, że w Sumariuszu nie uwzględniono wszystkich transakcji zawartych do 1779 r. W tomie 33 Aktów Wileńskiej Komisji Archeograficznej możemy odnaleść jeszcze pięć innych fundacji

1 Więcej o prawosławnych monasterach Drohiczyna nad Bugiem patrz: A. Mironowicz. *Podliaskie ośrodki i organizagje prawosławne w XVI i XVII wieku.* Białystok 1991, s. 104-105, 211-232; L. Pawlata. *Budowle sakralne Drohiczyna w świetle źródeł archeologicznych i historycznych*, „Biuletyn konserwatorski województwa Podliaskiego", 2011, z. 17, s. 67-97.

za lata 1548-1567 i pięć za lata 1623-1628[2]. Najwidoczniej w II poł. XVIII w. w monasterach nie bylo dokumentów, dotyczących tych nadań:

1548 r. – duchowny cerkwi Spaskiej zakupił od mieszczanina Nestora działkę gruntu;

1550 r. – były wójt drohicki Mikołaj ofiarował cerkwi św. Eliasza ziemię w uroczysku Błonie;

1557 r. – o. Marcin z cerkwi Preczystieńskiej zakupił włokę gruntu od Macieja Zaleskiego oraz plac z sadem od Onaczka Szderejki;

1565 r. – Jan Karpowicz ofiarował o. Marcinowi Peczejkowski sad;

1567 r. – o. Marcin zakupił ziemię od Aksinii Smarklewskiej;

1623 r. – Andrzej i Iwan Serowko przekazali cerkwi Preczystieńskiej grunta na Zabużu;

1623 r. – Łukasz i Anna Supron daruję duchownemu cerkwi Spaskiej grunta na Zabużu w uroczysku Hutowski;

1624 r. – Mikołaj Kozak z żoną przekazują w testamencie monasterowi Spaskiemu trzy ogrody oraz 60 sztuk drzewa na wybudowanie szpitala przy cerkwi;

1627 r. – małżeństwo Zółkowskich oraz Sebastian Goszczyk z zoną ofiarowali cerwi Spaskiej grunta na Zabużu;

1628 r. – małżeństwo Kiewluków przekazało o. Stefanowi Kuczyńskiemu z Mikołajewskiej cerkwi grunta na Zabużu.

Interesujęce jest jednakże porównanie nazwisk fundatorów. Zarówno w Sumariuszu, jak i w aktach ze wspomnianego źródła drukowanego w I poł. XVII w. występuje nazwisko Żołkowski (Żułkiewski): Piotr, Zofia, Katarzyna oraz Andrzej, dobroczyńcy monasteru Spaskiego. W ogóle dany *Sumariusz* jest dobrym zródłem do historji rodów i antroponimji niektórych rodzin mieszczanskich Drohiczyna drugiej połowy XVII – poł. XVIII w. Ciekawa rzecz, że w 1701 roku część swojego majątku zapisał na monaster św.Spasu mieszczanin drohiczyński Ignacy Jagiełło. Ta lista różnorakich ofiarowań jest również interesującym zródłem do antroponimii, topografii i mikrotoponimii miasta Drohiczyn XVII –XVIII w.

2 *Акта издаваемые Виленскою Археографической Комиссиею для разбора древних актов.* Вильно, 1907. Том 33, с. 44, 47, 56-57, 66, 81, 224-225, 226-227, 238-239, 240; D. Fionik. *Ktitorowie i darczyńcy. Z dziejów dobroczynności na Podlasiu. Lata 1548-1648,* “Biaioruskie Zeszyty Historyczne” 1998, nr 8, s. 35-36, 38-39.

Wartość *Sumariusza* uwydatnia mnogość odnotowanych tu nazwisk konkretnych osób, wśród których znajdujemy przełożonych i mnichów monasterów. Przytoczymy tu ich imiona:

- Malety Buczyński (1610, mnich monasteru Spaskiego)
- Pachomiusz Pachowski (1661, mnich monasteru Spaskiego)
- Warłam Lewik (1672, ihumen monasteru Troickiego)
- Warłaam Hortacki (1771, namiestnik monasteru Spaskiego)
- Bonifacy Nicewicz (1667, ihumen monasteru Spaskiego)
- Gedeon Oszumski (1668, ihumen monasteru Troickiego)
- Józef Sztaszewski (1682, ihumen monasteru Troickiego)
- Pachomiusz Gotowicki (1683, duchowny prawosławny)
- Arsienij Szymonowicz (1697, ihumen monasteru Spaskiego)
- Porfiren Minkiewicz (1709, ihumen monasteru Spaskiego)
- Nikodym Szymonowicz (1728, ihumen monasteru Św. Troicy)
- Adam Kozłowski (1739, ihumen monasteru Troickiego)
- Dionizy Stefanowicz (1768, ihumen monasteryw Spaskiego i Troickiego)

W przypadku ihumena Warłaama (Bazylego) Lewika (w latach 1660-1676) możemy mówić nawet o małej kronice jego działalności. Po dobrowolnym rozwodzie i wstąpieniu wraz ze swą żoną Tatianą do stanu mniszego Bazyli Lewik został mnichem monasteru Spaskiego z imieniem Warłaam. Niebawem został ihumenem dwóch drohickich monasterów. Całe swe nieskromne majętności Lewikowie zapisali w testamencie tymże monasterom.

*****

[k.113] **Summaryusz Praw wiecznie y doczesnie Monasterom Swięto Troieckiego y S. Spasa służących w archiwum tychże znajdujęcych się a przez Wiel[liebnego]. Oyca Dyonizego Stefanowicza Ihumena pomienionych Monasterow Drohickich spisany dnia 16 Xbris 1773 R.**

Cathegoria 1ma sub Litera A.

W ktorey Collacantur Originale Dokumenta Donacyi, Zastaw, Cessy, Testamentow, Zapisow, na ogrody y ciągłe Grónta Miasta Drohiczyna Lackiey y Ruskiey Strony do Monasterow S. Troycy y S. Spasa należące.

**Kempisty**

A.1. 1599. Feria 6ta post Festum Conceptionis Beatifsime Virginis Marią in Castro Drohicensi Szlachetny Woyciech Kempisty [mer]niczy przysięgły Powiatu Drohickiego na Cerkew Zabusko Spasko Ogród na Ruskiey Stronie nazwany Popowski; Donacya.

**Buczynski**

A.2. 1610. Dnia 2 czerwca Testament Maletego Buczynskiego Zakonnika Monastyru S. Spaskiego Drohickiego, w ktorym ogrod Goscinca na Monaster S. Spaski daiąc w moc Bractwu, ktory Brat [An]drei go trzymał, aby w Rok z niego do tegoż Monasteru dawać po złotych Piętnaście.

**1. Szerszen y Appa Odoiewszczanka**

A.3. 1626. Feria 6ta post Festum Sancti Martini Pontificis Coram Actis Advocatialibus Owilibus Drohiciensibus. Zapis od Andrzeia Szerszenia Appie Odoiewszczance Małżące swoiey na Dobra wszystkich w Summie Trzechset Złotych Polskich zeznał, ktorą Summe taż pomieniona Appa na Cerkiew S. Troicy iako w Sobie Szyrzyć zapis opiewa; cessyą uczyniła.

A.4. 1662. Feria Tertia post Testum Sancta Margareta Virinis in ...tis advocatialibus Civilibus Drohiciensibus. Sławetna Odoiewszczanka Sławetnego Andrzeia Szerszenia Małżąka Mieszczanina Drohickiego Monasterowi S. Troycy na Gorze Kramczewskiey z Summy Trzechset Złotych Polskich na Sumki dwadziescia Złotych Polskich. Uczyniła spust.

**Tedor Bucławka**

A.5. 1644. Feria 6ta post Dominiam letane in actis advocatialibus Drohiciensibus. Sławetny Mikołay po Chwec... Bucławka y uczciwa Odoiewcanka Małżąkowie. Wielebnemu Pachoniuszowi Pachowskiemu Ihumenowi Monasteru Przemienienia Panskiego Ritus Greci Miasta Drohiczyna Strony Ruskiey Łąki nazwano Brylanczyńska [s. 113 v] Miedzami Tynkowsko, Woyciecha Ostrożańskiego z iedney a Andrzeia Sienczyny z drugiey strony za rzyko Bugem Miasta Drohiczyna Strony Ruskiey oprocz wolney Drogi; Donacya.

**Odoiewski**

A.6. 1647. Feria 6ta Dominicam Jubilate in Castro Drohiciensi. Sławetny Maciey Odoiewski Mieszczanin Drohicki Monasterowi Przemienienia Pańskiego Strony Zabuskiey Ruskiey, Połowe włoki we wszystkich Trzech Polach nazwanych Szynowczynskich Miasta Drohiczyna Strony Ruskiey miedzy Miedzami Sławetnego Jakoba Odoiewskiego y Jana Wilczopolskiego wiecznie zeznał; Donacya.

A.7. Podem Anno. Feria 6ta post Dominicam exaudi in actis advocatialibus Owilebus Drohiciensibus oblata originale vero codem anno Feria 6ta post Dominicam Jubilate in anno Drohicensi at Supra idem eidem; Donat.

A.8. 1670. dnia 23 January w Drohiczynie Sławetny Jan Odoiewski dwie Karte Oycu Lewikowi Ihumenowi na Złotych Pięḋziesiąt w Ktorey Summie Browar z Tatkami; Zastawnie.

A.9. 1672 dnia 8 marca. Sławetny Maciey Odoiewski daie Karte Warłamowi Lewikowi Ihumenowi Swiętey Troycy w Ktorey wyraża że przedał Browar z Kotłem y z Tatkami za Złotych Polskich Dwiescie według taxy.

A.10. 1674. Feria Tertia post Dominicam Cantate in actis advocatialibus Civilibus Drohiciensibus od Odoiewskich Wielebnemu Oycu Warłamowi Lewikowi na Zastawe Browaru z Kotłem y ze statkami, a potym na Wieczność przedanych oblata; Intromissyi.

A.11. 1728. Feria Tertia post Festum Sancti Martini Pontificis in Castro Drohiciensi. Sławetny Maciey Odoiewski y Anna Radkiewiczowna Sławetnego Andrzeia Odoiewskiego Małżąka wdowa na Monaster Swiętey Troycy: Ogrod zagonow sześć zaczynaiący się od Drogi Zaięcznickiey aż do Rzeki Buga o miedze z iedney strony Jasnie Wiel. Stanisława Ossolinskiego z drugiey Strony od Drogi Koło Karczmy wychodzi do Rzeki Buga zeznali; Donacya.

A.12. 1728. Feria 2da post Dominicam Misericordia in Castro Drohiciensi. Sławetna Maryanna Ruskiewiczowa po Sławetnym Andrzeiu Odoiewskim Małżąka wdowa swoim y Sławetnych Maryanny, Praxedy, Eufrozyny y Anny Odoiewskich Pannow bezmężnych Curek Swoich imieniem Monasterowi S. Spaskiemu na [s.114] Ruskiey Stronie Gront nazwany Stodolisko zaczynaiący się od Pasz...dow do Grodzi Monasterskiey ciągnący się miedzy Miedzami z jedney tegoż Monasteru, a z drugiey strony Obywatelow Miasta J.K. Mosci Drohiczyna Strony Ruskiey; Donacya.

**Korman Rybak.**

A.13. 1648. Dnia 22 Marca Testament Jan Kormana Rybaka Mieszczanina Drohickiego, w ktorym Domek z Ogrodami Monasterowi Swiętego Spasa wiecznemi czasy leguie.

**Zułkowski Harbaczewska**

A.14. 1648. Feria quarta ante Testum Purificationis J.U.M. Coram actis Corsularibus Swilibus Drohicensibus. Sławetny Piotr po Grzegorzu

Zułkowski y Zofia Harbaczewska, Matka jego mieszczanie Drohiccy Wielebnemu Łukaszowi Sawickiemu Starszemu Swiętey Troycy. Zagonow Trzy we trzech Polach miedzy miedzami Wachowicza na Mieyskich Grontach Lackey Stronie w Summie Złotych Polskich Siedemdziesiąt zastawili; Zastawa.

**Oziembłowna albo Obniska**

A.15. 1651. Feria 4ta post Dominiam oculi in Drohiczyn in Officio Consulan Civili Drohicensi. Szlachetna Anna Oziembłowna Szlachetnego Macieia Obniskiego Małżąka, Sławetnemu Bazylemu Lewikowi y Uczciwey Katarzynie Odoiewszczance Małżąkom ogrud zagonow dziesiąć przez Troie Hay w Summie Pięciudziesiąt Złotych Polskich zastawiła; Zastawa.

**Lewik y Tacianna**

A.16. 1658. Feria 2da post Festum Sancte Andrea Apostoli in acte Advocatialibus Civilibus Drohicensibus Sławetny Bazyli Lewik y Tacyanna Odoiewszczanka Małżąkowie odstękpuiąc Stanu małżenskiego przyrzekli sobie dobrowolnie stan zakonny po ktorym Wielebnemu Oycu Pachoniuszowi Pachowskiemu Ihumenowi Monasteru Drohickiego całą Substancyą swoią wspólnie nabyto do Cerkwi Przemienienia Panskiego wiecznie zestawili.

A.17. 1659. Dnia 25 January Ruskim Charakterem w monasterze Tacyanny Odoiewiczowny z Bazylem Lewikem nastąpił Rozwód.

A.18. 1660. Feria 2de ante Festum Sancti Martini Pontificis in Castro Drohicensi Wielebny Bazyli Lewik Ihumen Monasteru S. Spasa y Tacyanna Odoiewiczowna, przed tym małżąka Jego, a teraz rzeczona zakonnica Szlachetnemu Macieiowi Obniskiemu część swoiey na Bużyskach sobie przez Szlachetne Anne Uziembłowny zastawe zeznane uczynili cessyą czyli spustizne.

[s.114 v] A.19. 1661. Feria 2da Sancti Francisce Contessoris in actis Civilibus Drohicensibus. Od nabożnego Michała Dyakona Monasteru, Dmitra Syna Anastazyi, Apolonij Curek Sukcesorow Dmitra Wachowicza na Częsci wszystke na Drohiczynie z tey strony Bugu leżące na Gorze Kramczewskiey Monasterowi przez Oyca Barłama Lewika de Nowo wyrygowanemu po Siestrze Swoiey Annie Wachownie Zonie Sławetnego Ruskiewicza na siebie spadła; Donacya.

A.20. 1676 Dnia 22 Kwietnia w Drohiczynie Testament Wielebnego Warłama Lewika Ihumena S. Troycy Monasteru Drohickiego w ktorym potwierdza Dyspozycyą Tacyanny Odoiewszczanki post legatem

duortionem y wszystkie Dobra swoie tak na Lackiey iako y Ruskiey Stronie do Monasterow Swiętey Troycy y S. Spasa wiecznie leguie, ktorey Legacyi oblata tegoż Roku po niedzieli drugiey po Wielkiey Nocy w Księgach Woytowskich Mieyskich Drohickich; Testament.

A.21. 1676. Feria 4ta post Dominicam Misericordia Coram actis advocatialibus civilibus Drohicensibus. Wielebny Xiędz Warłaam Lewik Ihumen Monasteru S. Troycy Sławetnemu Andrzeiowi Jankowskiemu ze wszystkiego Prawa swego zastawnego od szlachetney Anny Uziembłowny Corki po Szlachetnym Janie Uziemble Małżąi zaś Szlachetnego Macieia Obniskiego to iest z ogroda zagonow czternascie, o miedze Sławetnego Dmitra Sytkowicza y Szlachetnego Uziembła czynu; Cessya.

**Sienczyna**

A.22. 1662. Feria 3tia post Festum Sanctie Margare Hia. V.et M. Coram actis Advocatialibus Civilibus Drohiciensibus. Sławetny Andrzey Sienczyna Mieszczanin Drohicki w Boga Wielebnemu Pachoniuszowi Pachowskiemu Superurowi Monasteru Rytus Greci Dobra sobie przez Szlachetnego Pawła Głuchowskiego zastaw puszczone w Summie Dwudziestu Złotych na Bużyskach; Cedit.

A.23. 1631. Feria 6ta post Festum Truim Regum in actis Civilibus Drohiciensibus. Sławetny Iwan Minosik wraz z Siostro Swoia Sła. Jackowi Sunczynie Sąsiadowi Swemu ogrod nazywaiący sę Ruszkowski po Nieboszczyku Roszku nabyty na Dobrach Miasta Drohiczyna Zabuskich za Sumke Dwadziescia Złotych Polskich na wieczność; Donacya.

A.24. 1661 Dnia 14 maia Testament Anastazyi Jakubowey Sunczyney w Ktorym na Cerkew S. Troiecko Gronta y Łąke w Sumie Talarow Bitych osmiu do wykupna leguie.

[s. 115] A. 25. 1763 Dnia 17 July Testament Jana Sienczyny w Ktorym na Cerkiew Swięto Troiecko Zagonow Trzy Ruskim Harakterem pisany wiecznemi czasu leguie.

**Sytkowicze**

A.26. 1652. Feria 6ta nost Dominicam Letare in actis Conulanibus Drohiciensibus. Sławetny Dmitr Sytkowicz Teodorowi Młozewskiemu y Apolony Wahownie Sytkowiczowey na częsci pewne w Dobrach mieyskich od Szlachetnego Stanisiawa Uziembła w Summie Stu dziesięciu Złotych Polskich w Zastawie będących; Cessya.

A.27. 1671. Feria 4ta ante Testum Sancta Eduijs Viduce Electa dei in actis Consularibus Civilibus Drohicensibus. Sławetny Mikołay po Mikołaiu

Syn y Apolonia nazwana Traczowna Sytkiewiczowie Wielebnym Oycom Bazylianom Monasterow Przemienienia Panskiego y Swiętey Troycy na Częsci pewne Miasta Drohiczyna; Cessya.

**Głuchowska**

A.28. 1662. Feria 3tia post Festum Sancta Margaretha in actis Advocatialibus Drohiciensibus. Szlachetna Zofia Głuchowska Panna Pawła Gluchowskiego Corka Monasterowi S. Spaskiemu na Ruskiey Stronie cało część swoie na Bużyskach; Donacya.

**Brodacki y Głuchowska**

A.29. 1661. Sabatho in Crastino Festi Sancta Cathrina Virginis et Martiris in Castro Drohiciensis. Szlachetny Jan Brodacki y Anna po Pawle Głuchowskim Małżąkowie Wielebnemu Pachomiuszowi Pachowskiemu Zakonnikowi Cerkwi Zabuskiey Przemienienia Panskiego Wszystkie Dobra swoie Dziedziczne na Bużyskach wiecznie przedali; Donacya.

Tegoż Roku 26 augusta oycom Bazylianom Monasteru Drohickiego przez urodzonego Jana Brodackiego na złotych Osmdziesiąt; Spust.

A.30. 1664. Feria 3tia ante Festum Sancti Valentini in Castro Drohiciensi. Szlachetny Woyciech Głuchowski na Cerkiew Zabusko Przemienienia Panskiego Cało część swoią na Bużyskach; Donacya.

A.31. 1667 Dnia 25 9bra Szlachetny Jan Brodacki Oycom Bazylianom Rithus Greci Summa Złotych Polskich osmdziesiąt na Bużyskach zalegaiąco spuscił; Spust.

**Roskowicz**

[s.115v] A.32. 1664 Dnia 26 8bra Jana Ruskiewicza Testament w Ktorym wyraża Monasterowi S. Spaskiemu Budynek z Ogrodem y jnne Ruchomosci leguie; Testament.

A.33. 1671. Feria 6ta post Dominicam Miserciordiam in actis Advocatialibus Drohicientibus. Testamenta Jana Ruskiewicza Mieszczanina Drohickiego originalnego w Roku wyżey wyrażonym nastąpiła; Oblata.

A.34. 1731. Sabatho post Festum Sotennia Pascha in Castro Drohiciensi. Sławetni Paweł y Wawrzyniec po Janie Ruszko Strony Ruskiey Drohickiey Wielebnemu Prezbiterowi S. Spaskiemu ogrod nazwany Skryszczewski zagonow 30 zaczynaiący się od Buga, ciągnący się od Drogi Rudzinskiey o Miedze z Tukowskiey z iedney a Konstanczykowskiey z drugiey strony w Summie Złotych Czterdziestu zastawili; Zastawa.

A.35. 1761. Dnia 19 Sierpnia Andrzey Roszkowicz Wielebnemu Oycu Warłamowi Hartackiemu Namiestnikowi Monasteru S. Spasa za Pogrzeb żony swoiey Ogrod w Sumie Złotych Polskich Szesnastu Ręcznym Steryptem zastawił; Zastawa.

**Wielebny Ociec Eufemi Sikorski**

A.36. 1666 Dnia 17 Xbra Inwentarz Grontow y Ogrodow nadanych y Legowanych do Monastera a w Roku 1669, po ustąpieniu z Monastera Wielebnego Oyca Eufemia Sikorskiego utwierdzony; Inwentarz.

**Wielebny Ociec Bonifacy Nicewicz**

A.37. 1667. Feria 3tia post Dominiam Juctica Coram actis Advocatialibus Drohiciensibus. Wielebny Bonifacy Nicewicz Ihumen Swięto Spaski Sławetnemu Danielowi Truziukowi Ogrod z Budowiskiem; Donacya.

**Jankowski Lantwoyt**

A.38. 1662. Dnia 29 marca Andrzey Jankowski Lantwoyt Drohicki daie Swiadectwo Wielebnemu Warłamowi Lewikowi Ihumenowi Monasteru S. Troycy w Ktorym wyraża iz Sławetny Wilim Jordan Szot Kupiec Drohicki maiąc morg Pułtorakowski zagonow cztery o miedze Jakuba Maximika ktory po Ciotce swoiey Sławetna Tacyanna Odoiewiczowna naten czas tego Lewika Małżąka, a potym Czernica oddała przy Smierci Swoiey do Monasteru S. Troycy; Swiadectwo.

A.39. 1678. Feria 2da post Festum Circumasionis Christi Domini in actis advocatialibus Drohiciensibus. Sławetny Andrzey Jankowski Wielebnemu Gedeonowi Oszumskiemu Ihumenowi Monasteru Swiętey Troycy Połowe Morgu nazwanego Gorszczynski pod Guro Kramczewsko według Cessyi przez Wielmożnego Kazimierza Cieciszewskiego Starosty Mielnickiego Woyta Drohickiego uczyniony spuscił. Spust.

**Daniel Ponczuk**

[s. 116] A.40. 1667. Feria 3tia post Dominicam Judica Coram actis advocatialibus Drohiciencibus. Sławetny Daniel Ponczuk Mieszczanin Drohicki Wielebnemu Bonifacemu Nicewiczowi Ihumenowi Monasteru S. Spaskiego ogrod nazwany Mańkowski zagonow osim na Stronie Ruskiey miedzy miedzami z iedney tegoż zeznaiącego z drugiey Warłaama Lewika, w sumie Pięździesiąt Złotych Polskich zastawił; Zastawa.

**Dmitr Marcinkowicz**

A.41. 1669. Feria 3tia post Festum Sancti Mathie Apostoli actis Consularibus Drohicensibus. Sławetny Dmitr Marcinkowicz Mieszczanin

НГАБ ф. 937, воп. 4, спр. 207, арк. 275-275 ад.

*X. 1752 год. Метрыка хросту адной вадой Лявона-Антона Рэйтана.*

1752, septembris 23 die. Ego, Thomas Szkutnicki baptisavi de sola aqua infantem nomine Leonem, Antonium Linum[33], filium perillustrium magnificorum dominorum Dominici et Teressa Reytenów, parentium legittimorum, excubitorum palatinatus Novogrodensis. Levantes: perillustris magnificus dominus Thadeus Reyten, excubitorides Novogrodensis, cum perillustri magnifica domina Woyniełowiczowna, pocillatoride palatinatus Novogrodensis. Supplementum ceremoniarum vide infra, prima ianuarii.

*23 верасня, 1752 г. Я, Тамаш Шкутніцкі ахрысціў немаўля з адной вады на імя Лявона Антонія Ліна, сына найяснейшых вяльможных паноў Дамініка і Тэрэзы Рэйтанаў, законных бацькоў, стражнікаў Наваградскага ваяводства. Хросныя: найяснейшы вяльможны пан Тадэвуш Рэйтан, стражнікавіч наваградскі з найяснейшай вяльможнай паннай Вайнеловічоўнай, чашнікоўнай наваградскай.*
*Дапаўненне абрадаў першага студзеня глядзі ніжэй.*

НГАБ ф. 937, воп.4, спр.207, арк. 281

*XI. 1753 год. Метрыка дапаўнення хросту Лявона-Антона Рэйтана.*

1753, 1 ianuarii. Hac die supplebantur ceremoniae baptismi perillustris magnifici domini Leonis Antonii et Lini Reyten, excubitoridis palatinatus Novogrodensis. Assistentes fuere: perillustris magnificus dominus Josephus Wołotkowicz[34], excubitorides palatinatus Minscensis,

33 Лявон-Антон Рэйтан – (1752-1788) – жанаты не быў. У 1777-1778 гг. дэпутат Галоўнага Трыбунала ВКЛ.

34 Язэп Валадковіч – верагодна зробленая памылка ў тытуле. Сярод Валадковічаў не было стражнікаў. На думку аўтара, маецца на ўвазе Язэп Валадковіч, сын Лявона-Паўла Валадковіча, дзядзька Тадэвуша Рэйтана, палкоўнік менскага ваяводства, войскі старадубоўскі, староста красавіцкі. Выгнанец ад 1762 г. Памёр у Дрэздэне ў 1770 г.

cum perillustri magnifica domina Teressa Woyniłowiczowa, dapiferide palatinatus Novogrodensis, cum perillustri magnifica domina […] Mierzejewska[35], pocillatrice Novogrodensi.

*1 студзеня 1753 г. У гэты дзень былі дапаўненыя абрады хросту найяснейшага вяльможнага пана Лявона Антонія* (верагодна, з роду - З.Ю.) *Рэйтана, стражнікавіча Навагрудскага ваяводства. Сведкамі былі: найяснейшы вяльможны пан Язэп Валатковіч, стражнікавіч Менскага ваяводства з найяснейшай вяльможнай паннай Тэрэзай Вайніловічоўнай, стольнікоўнай навагрудскай, з найяснейшай вяльможнай паннай […] Мераеўскай, чашнікоўнай навагрудскай.*

НГАБ ф. 937, воп.4, спр.207, арк.283

XII. 1754 год. Метрыка хросту адной вадой Георга-Станіслава Рэйтана.

1754, aprilis 22 die. Ego, Thomas Szkutnicki comendarius ecclesiae Lachoviensis baptisavi de sola aqua infantem, filium nomine Georgium Stanislaum et [...](soferen) perillusstrimi magnifici domini Dominici Reyten. excubitoris palatinatus Novogrodensis et Teressie de domo Wołodkowiczowna, coniugum legittimorum. Levantes: perillustris magnificus dominus Josephus Illinicz Zubko[36], dapifer palatinatus Novogrodensis cum perillustri magnifica domina Woyniełowiczowna, pocillatoride Novogrodensi. Assistentes: magnificus dominus Franciscus Kiersnowski[37], pincerna Novogrodensis cum magnifica domina Francisca Reytenowa[38].

*22 красавіка 1754 г. Я, Тамаш Шкутніцкі, камэндарый Ляхавіцкага касцёла, ахрысціў з адной вады немаўля на імя Георгія Станіслава і […], сына найяснейшага вяльможнага пана*

35 Мераеўская – магчыма Францішка, дачка навагрудскага падчашага, навагрудскага падстолія Яна і Гелены з Грыновічаў (Грыневічаў?) Мераеўскіх.

36 Язэп Іленіч Зубко – мазырскі стольнік у 1742-1781 гг.

37 Францішак Керсноўскі (? – пасля 1775) – верагодна пінскі падчашы, драгічынскі чашнік, жонка – Барбара Вайніловіч.

38 Францыска Рэйтан – ніякіх звестак няма, магчыма памылка ў імені.

*Дамініка Рэйтана, стражніка Наваградскага ваяводства і ТэрэзыВаладковічоўны з дому Валадковічаў, законных сужэнцаў. Хросныя: найяснейшы вяльможны пан Язэп Ілініч Зубко, чашнік Наваградскага ваяводства з найяснейшай вяльможнай паннай Вайнеловічоўнай, стольнікоўнай наваградскай. Сведкі: вяльможны пан Францішак Керсноўскі, падчашы наваградскі з вяльможнай пані Францішкай Рэйтанавай.*

НГАБ ф. 937, воп. 4, спр. 207, арк. 291

*XIII. 1756 год. Метрыка хросту адной вадой Філіпа або Станіслава-Косткі Рэйтана.*

1756, 27 mai. Admodum reverendus pater Andreas Żoltowski […] baptisavit Infantem ex sola aqua nomine Philippum iterum Stanislaum Kostkam[39], filium perillustrium magnificorum dominorum Dominici Reyten et Teressa de Wołodkowiczów. Patrini fuerunt: admodum reverendus pater Ignatius Zawadzki cum magnifica domina Christina Gniewczynska.

*27 траўня 1756 г. Найвялебны айцец Андрэй Жалтоўскі […] ахрысціў немаўля з адной вады на імя Піліпа і Станіслава Косткі, сына найяснейшых вяльможных паноў Дамініка Рэйтана і Тэрэзы з Валадковічаў. Хроснымі былі: найвялебны айцец Ігнат Завадзкі з вяльможнай пані Хрыстынай Гнеўчынскай.*

НГАБ ф. 937, воп. 4, спр. 207, арк. 303

*XIV. 1766 год. Метрыкі дапаўнення хростаў Язэпа і Станіслава Рэйтанаў.*

1766, 30 Octobris. Ego, Joannes Cidzik, comendarius Lachoviciensis, supplevi ceremonias supra baptizatum ex aqua adolescentem nomine

39 Філіп або Станіслаў Костка Рэйтан (1756-?) – невядомы да гэтага часу сын Дамініка і Тарэзы Рэйтанаў

Jozephum[40], perIllustrium magnificorum dominorum Dominici Reyten, succamerarii palatinatus Novogrodensis, et Teresse de domo Wołotkowiczowna, consortis eius. Levantes e sacro fonte: perillustris magnificus dominus Antonius Wańkowicz [...] cum perillustri magnifica domina Ludovica Woyniłowiczowna, pocillatoride Slonimensi. De Hruszowka.

Eadem Die. Ego, idem supra, baptisavi infantem nomine Stanislaum, filium perillustrium magnificorum dominorum Dominici Reytan, succamerarii palatinatus Novogrodensis, et Theresse de domo Wołodkowiczowna, consortis ejus. Levantes e sacro fonte: perillustris magnificus dominus Antonius Wańkowicz, capitaneus Ruszoviensis, cum perillustri magnifica domina [... ...] Ludovica Woyniłowiczowna, pocillatoride Slonimensi. De Hruszowka.

*30 кастрычніка 1766 г. Я, Ян Цыдзік, Ляхавіцкі камэндарый, дапоўніў абрады хросту з вады падлетка на імя Язэпа, сына найяснейшых вяльможных паноў Даменіка Рэйтана, падкаморага Наваградскага павета і Тэрэзы Валадковічоўны з дому Валадковічаў, ягонай сужонкі. Хросныя: найяснейшы вяльможны пан Антоній Ванькові́ч, […] з Людвікай Вайнеловічоўнай, падчашнікоўнай слонімскай. З Грушаўкі.*

*У той жа дзень. Я, які і вышэй, ахрысціў немаўля на імя Станіслава, сына найяснейшых вяльможных паноў Даменіка Рэйтана, падкаморага Наваградскага павета і Тэрэзы Валадковічоўны з дому Валадковічаў, ягонай сужонкі. Хросныя: найяснейшы вяльможны пан Антоній Ванькові́ч, стараста Рушоўскі з Людвікай Вайнеловічоўнай, падчашнікоўнай слонімскай. З Грушаўкі.*

НГАБ ф. 937, воп. 4, спр. 207, арк. 353 ад.

Застаюцца нявырашанымі пытанні, калі нарадзілася і ахрышчаная Канстанцыя Рэйтан[41].

40 Язэп Антон Рэйтан (?-1797?) – дэпутат Галоўнага Трыбунала ВКЛ 1781/1782 гг., жонка – Людавіка з Касінскіх, дочкі – Саламея-Уршуля-Брыгіда і Элеанора-Ганна-Барбара. Удава па Язэпу, выйшла замуж за ўдаўца Міхала-Ксаверага Рэйтана.

41 Канстанцыя Рэйтан (нар. прыкл. у 1743-1746) – жонка Язэпа Есьмана, войскага парнаўскага.

## Метрыкі смерці дзяцей Дамініка і Тарэзы з Валадковічаў Рэйтанаў

На дадзены момант удалося знайсці толькі тры метрыкі- Міхала, Язэпа і Станіслава. Знаходзяцца яны ў кнігах XVIII і XIX ст. (ахоплівае 1802-1836 гг.) кнігі рэгістрацыі пахаванняў. Месца пахавання братоў Тадэвуша на Ляхавіцкіх (гарадскіх) могілках захавалася. Але надмагіллі страчаныя, у 1851 г. там быў пахаваны Дамінік, сын Міхала (захавалася металёвае надмагілле). У 1863 г. сын Дамініка – Стафан, у 1864 г. – жонка Стафана, Марыя з Несялоўскіх. У 2015 г. падчас добраўпарадкавання могілак намі было знойдзена яе надмагілле.

*XV. 1798 год. Метрыка смерці Язэпа Рэйтана.*

Anno Millesimo Septingentisimo nonagentisimo octavo Mensis Junij quarta die sacramentis Eclesiae Moribundorum munitus iobyt in Domino MD Josephus Reytan Succamer .Novogrodnen. annorun otatis quadraginta noveno, de aula Hruszowka dicta quem Ego Edvardus Poszylewicz Praed. a Tertis Ords Minor. Oser. in Ceameterio puplico Ecleae Lachovicensis extra civitatem seplivi.

*У год тысяча сямьсот дзевяноста восьмы, чацьвёртага чэрвеня, умацаваны ўсімі касцельнымі пахавальнымі абрадамі адыйшоў ў Пану Богу вяльможны пан Язэп Рэйтан наваградскі падкаморы ў веку сарака дзевяці гадоў, з Грушаўкі, якога я, Эдвард Пашылевіч строгага Ордэна францішканаў, пахаваў на грамадскіх могілках Ляхавіцкага касцёла за горадам.*

НГАБ ф. 1781, воп. 27, спр. 202 арк. 425 ад – 426

*XVI. 1809 год. Метрыка смерці Міхала Рэйтана.*

1809, mensis martius. De aula Hruszowka.

Anno Domini millesimo octingentesimo nono, mensis martii die vigesima prima obiit in Domino illustrissimus magnificus dominus Michael Reyten, mariscalcus Slucensis, omnibus sacramentis moribundorum munitus

aetatis sua sexaginta quinque annorum et a reverendissimo domino Ignatio Denissewicz, canonico cathedrali Minscensi, curato Niedzwiedzicensi, sepultus est coemeterio parochiali extra civitatem.

*1809 г. сакавік. З двара Грушаўкі.*

*У год Пана тысяча васемсот дзевяты, дваццаць першага сакавіка адыйшоў у Пану Богу найяснейшы вяльможны пан Міхал Рэйтан, слуцкі маршалак, умацаваны ўсімі пахавальнымі абрадамі ў веку сваім шасцідзесяці пяці гадоў, і быў пахаваны за горадам на парафіяльных могілках правялебным панам Ігнатам Дзенісевічам, менскім катэдральным канонікам, нядзведзіцкім душпастырам.*

НГАБ ф. 937, воп. 4, спр. 210 арк. 80

*XVII. 1818 год. Метрыка смерці Станіслава Рэйтана.*

1818, 5 iulii. Mensis iulius. Hruszowka.

Anno Domini milessimo octingentesimo decimo octavo, mensis augusti vigesima tertia die, qua fuit festum S. Pilippi [...] magnificus dominus Stanislaus Reyten, filius succamerarii quondam Nowogrodnensis [...], aetatis suae annorum sexaginta unius et aliquot mensium obiit hesterno mane morte inopinata, quem in coemeterio parochiali Lachovicensis eclesiae sepelivi ego, Vincencius Supinski, eiusdem ecclesiae curatus.

*5 ліпеня 1818 г. Месяц ліпень. Грушаўка.*

*У год Пана тысяча васемсот васемнаццаты, дваццаць трэцяга жніўня, у які было свята св. Піліпа, нечакана адыйшоў да вечнасці ўчора раніцою найяснейшы вяльможны пан Станіслаў Рэйтан, сын колішняга наваградскага падкаморага ў веку шасцідзесяці аднаго года і некалькіх месяцаў, якога пахаваў на парафіяльных могілках Ляхавіцкага касцёла я, Вінцэнт Супінскі, душпастыр таго ж касцёла.*

НГАБ ф. 937, воп. 4, спр. 210, арк. 128

**Зміцер Дрозд**

# ТАСТАМЕНТ МІТРАПАЛІТА ЎСІХ РЫМСКА-КАТАЛІЦКІХ КАСЦЁЛАЎ У РАСІІ, АРХІЕПІСКАПА МАГІЛЁЎСКАГА, АДМІНІСТРАТАРА ВІЛЕНСКАЙ КАПІТУЛЫ СТАНІСЛАВА БОГУША-СЕСТРАНЦЭВІЧА

Першы мітрапаліт усіх рымска-каталіцкіх цэркваў у Расіі Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч (3.09.1731 – 1.12.1826) – адна з самых значных і неардынарных асоб свайго часу. Дзякуючы гэтаму, яго біяграфія ўжо даволі добра вядомая гісторыкам, некаторыя з якіх даюць супрацьлеглыя ацэнкі ролі гэтага дзеяча. Безумоўна, даследчыкі яшчэ не раз будуць вяртацца да вывучэння гэтай шматграннай і супярэчлівай асобы. Доказам вялікай цікавасці можна лічыць тое, што і цяпер даследаванні жыцця і дзейнасці Станіслава Богуша-Сестранцэвіча працягваюць беларускія навукоўцы[1], а беларускія пісьменнікі звяртаюцца да гэтай асобы ў папулярных артыкулах[2]. Будзем спадзявацца, што прапанаваны намі тастамент, а таксама дадатковая інфармацыя ў каментарах дапамогуць удакладніць некаторыя біяграфічныя звесткі яго жыцця, выявіць поўны склад крэўных нашчадкаў мітрапаліта (дакладней, нашчадкаў яго братоў і сясцёр) і нарэшце паставіць кропку ў адным з галоўных пытанняў біяграфіі Сестранцэвіча: кім ён з’яўляўся для беларуска-польскага паэта, драматурга і перакладчыка Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1808 – 1884).

Больш за 50 гадоў свайго даволі працяглага жыцця Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч стаяў на чале адной з самых вялікіх па тэрыторыі цэркваў у свеце. Гэта сведчыць аб яго незвычайным розуме, здольным тонка адчуваць усе падводныя плыні на самых вярхах улады велізарнай імперыі. Да таго як С. Богуш-Сестранцэвіч канчаткова знайшоў свой шлях, яго жыццё было багатае на мноства нечаканых паваротаў: ён быў ахрышчаны як кальвініст, а потым

1 Напрыклад, зусім нядаўна ў Гродне пабачыла свет манаграфія М. Папова і А. Ганчара, *Митрополит С. Богуш-Сестренцевич: формирование правительственной политики по отношению к Римско-католической церкви на белорусских землях (конец XVIII – первая четверть XIX в.),* Гродно, 2012.

2 Людмила Рублевская, *Сюжет, достойный Дюма*, “Советская Белоруссия”, № 167 (25049), 1.09.2016. http://www.sb.by/kultura/article/syuzhet-dostoynyy-dyuma.html

перайшоў у каталіцтва; ён вучыўся ў лепшых універсітэтах Еўропы, затым прысвяціў сябе ваеннай службе, а пасля стаў святаром. Сваімі талентамі Сестранцэвіч звярнуў на сябе ўвагу імператрыцы Кацярыны II і выслужыў вышэйшую пасаду ў Каталіцкай царкве Расійскай імперыі. Нават займаючы гэты духоўны пост, ён заставаўся чалавекам вельмі шырокіх інтарэсаў, займаўся літаратурнай і навукова-даследчай дзейнасцю, а ў яго тастаменце ўзгадваюцца компас, мікраскоп, глобусы, астралябія, камера-абскура і бібліятэка з 3 000 кніг. Але, вядома, галоўнай яго мэтай была спроба хоць неяк захаваць інтарэсы каталікоў, якія ў Расійскай імперыі, у асноўным праваслаўнай, мусульманскай ды іўдзейскай, у большасці рэгіёнаў заставаліся ў меншасці.

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай Кацярына II сваім указам ад 14.12.1772 г. паабяцала: *“Хаця Каталіцкага Біскупа пакуль яшчэ няма, але ён хутка мае быць, якому мы даручаем усе Рымскія Каталіцкія кляштары і цэрквы ў Духоўнае праўленне (…)”*[3]. Але толькі праз год (22.11.1773 г.) яна выдала новы ўказ на імя Беларускага генерал-губернатара графа Чарнышова *“Аб заснаванні Беларускай Каталіцкай Епархіі; аб быцці Біскупу Мальскаму Станіславу Сестранцэвічу Біскупам Каталіцкіх у Расіі цэркваў; аб знаходжанні яму ў горадзе Магілёве, і пра суму, якая назначаецца на ўтрыманне яго самога і Кансісторыі штогод па 10 000 рублёў”*. У ім імператрыца загадвала: *”(…) па меркаванні Нашаму Ўсяміласьціва вызначаем Біскупам Каталіцкім Станіслава Сестранцэвіча Біскупа Мальскага, які да гэтага знаходзіўся Вікарыем і Канонікам Епархіі Віленскай; з прычыны чаго і засноўваем аб ім наступнае: 1. Менавацца ён павінен Біскуп Беларускі Каталіцкіх цэркваў. 2. Знаходжанне сваё мець яму ў горадзе Магілёве (...) 3. Пабудаваць для Біскупа Беларускага дом каменны ў прыстойным горада Магілёва месцы (...)”*[4] Паводле ўказа пад уладу Беларускага біскупа Станіслава Богуша-Сестранцэвіча аддаваліся ўсе каталікі Расійскай імперыі. 17.01.1782 г. у новым указе загадвалася: *“У павагу таго, што Рымская царква па падараванай ад продкаў Нашых і ад Нас свабодзе розным Верам у Імперыі Нашай, мае*

3 *Полное собрание законов Российской империи с 1649 года,* том XIX. 1770-1774. Печатано в типографии II Отделения Собственной Его Императорского Величества Канцелярии. 1830. С. 688. Пераклад аўтара.

4 Тамсама. С. 864-865. Пераклад аўтара.

N. 3448. 5

W Imie Boga Ojca + i Syna + i Ducha Swiętego + Amen.
Ja Stanisław Siestrzencewicz Bohusz Arcybiskup Mohilewski,
Metropolitalny kościołow Rzymsko katolickich w Rossyi, Ad-
ministrator kapitulny sede vacante Diececzyi Wileńskiey,
Prezydent kollegium katolickiego, Komandor orderu s. Andrzeia
Apostoła, kawaler Orderow s. Alexandra, i s. Anny, i s.
Włodzimirza pierwszey klassy Wielkiego Krzyża, Białego orła
i S. go Stanisława i Maltańskiego s. Jana Jerozolimskiego pierwszey
klassy Wielkiego krzyża, Urodzony roku 1731 dnia 3 Septembra
n. s. pod panowaniem Augusta II. krola polskiego w Wielkim
Xięstwie Litewskim we wsi własney Ojca moiego, Zamki w
parafij Zabłudowskiey w ktorey i ochrzczony byłem —
Umrę Duszę moją oddaiąc Bogu Odkupicielowi Memu
Jezusowi Chrystusowi od ktorego wziąłem. — Ciało pogrzebione
będzie w sklepie, pod ołtarzem w kościele Parafialnym
kolomnenskim, ktory wymurowałem za pozwoleniem Cesarskie-
wego Imperatora Alexandra I. w Petersburgu. — Maią-
tek moy ruchomy i nieruchomy zapisuię czterech Ro-
dzenstwa potomstwu, mianowicie Jana Siestrzencewicza
Bohusza Radcy stanu Brata, i potomstwu trzech Sióstr
Doroty Macewiczowey, Anny Rymaczewskiey i Reginy
Mikuliczowey, po iednym potomku maiącym na rowne czte-
części. Także Jana Brata część podzielona bydź ma na czw-
iego dzieci, Stanisława Siestrzencewicza Bohusza kollegial-
skiego Assessora i kawalera Czwartey klassy Orderu s. go Wło-
dzimierza, Jana Siestrzencewicza Bohusza Tytularnego
Radcy Marszałka gubernij Mohilewskiey powiatu Czerykow-
skiego Amalią z Ożne Guryatowę, general Maiorowę, i Kata-
rzynę Dewelową kapitanowę — A zaś mnieyszy dziedzic

Фрагмент копіі тастаменту мітрапаліта Станіслава Богуша-Сестранцэвіча

*немалы лік тых, хто спавядае яе дагматы, у розных месцах і самых аддаленых межах Расійскіх, у 1773 годзе прызналі Мы патрэбным для іх вызначыць Архірэя (…) і абралі Біскупа Станіслава Сестранцэвіча, які, па абавязку дакладнага Нам падданства і з руплівасці да царквы сваёй, добрапрыстойным кіраваннем паствы, яму даручанай, і многімі пра агульную карысць стараннямі заслужыў Нашу Манаршую да сябе добрую волю. Цяпер Мы, распаўсюджваючы апеку Нашу пра верных падданых Нашых Рымскага вызнання (...) разважылі за шчасце ўчыніць наступныя распараджэнні: 1. Магілёўскага намесніцтва ў губернскім горадзе Магілёве загадваем з гэтага часу быць Арцыбіскупству Рымскага веравызнання, складаючы ў Епархіі гэтага Архібіскупа ўсе прыходы і манастыры таго закона, якія знаходзяцца, як у Магілёўскім і Полацкім намесніцтвах, так у абедзвюх Нашых сталіцах і ва ўсіх месцах Усерасійскай Імперыі. 2. Сан Арцыбіскупа Магілёўскага Рымскіх Цэркваў Усяміласьціва даруем Біскупу Станіславу Сестранцэвічу (...) 5. Арцыбіскупу Магілёўскаму Рымскай Царквы ні ад каго больш не атрымоўваць указаў, акрамя як ад Нас і Сената Нашага (...)”*[5]. Гэты высокі пост, а паралельна і некаторыя іншыя высокія пасады, пералічаныя ніжэй у тастаменце, Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч займаў да самай сваёй смерці, якая здарылася 1 снежня 1826 г.

Вялікую цікавасць для беларускіх і польскіх літаратуразнаўцаў і гісторыкаў прадстаўляе таксама адна сямейная загадка Станіслава Богуша-Сестранцэвіча, для разгадкі якой прапанаваны намі тастамент мае добрую падказку. Гэты дакумент утрымлівае важныя звесткі для высвятлення ступені крэўнага сваяцтва (або, хутчэй, яго адсутнасці) паміж Станіславам Богушам-Сестранцэвічам і Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам. Першыя біёграфы (Аляксандр Ельскі[6], Рамуальд Зямкевіч[7]), а за імі і сучасныя даследчыкі (Генадзь Кісялёў[8],

5 Тамсама, том XXI. С. 383-385. Пераклад аўтара.

6 *Марцінкевіч герба Лебедзь: Дакументы і матэрыялы пра класіка беларускай літаратуры XIX ст. Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча*, уклад., падрыхт. тэкстаў, пер. і камент. Генадзя Кісялёва, Мінск 2010, с. 316.

7 Г. Кісялёў, *Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча*, с. 95.

8 Г. Кісялёў, *Ад Чачота да Багушэвіча: Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст.*, Мінск 2003, с. 242; ён жа, *Марцінкевіч герба Лебедзь*, с. 4.

Язэп Янушкевіч[9], Адам Мальдзіс[10], Уладзімір Ліпскі[11] і інш.) прапаноўваюць розныя ступені гэтага сваяцтва: дзядзька, сваяк, блізкі сваяк Марцыяны Нядзведскай, дваюрадны дзед, дзядзька-біскуп, сваяк па маці, сваяцтва "па мячу" і г. д. Гэтыя сцверджанні ўжо сталі амаль дагматычнымі, увайшлі ў даведнікі і энцыклапедыі. Аднак у прыведзеным дакуменце пералічваюцца ўсе крэўныя сваякі і нашчадкі Богуша-Сестранцэвіча, і сярод іх няма ні самога літаратара, ні яго бацькі – Яна, ні яго маці – Марцыяны з Нядзведскіх. У пасляслоўі да дакумента мы прапануем чытачу адказ на загадку, якая існавала больш за стагоддзе.

*****

Дакумент знаходзіцца ў фондах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў адзінцы захавання *Аб духоўным тастаменце Мітрапаліта Сестранцэвіча* (фонд 1781, вопіс 2, адзінка захавання 338), на аркушах 5-8 (адварот), далей знаходзіцца яго пераклад на рускую мову. У тэксце досыць шмат памылак, некаторыя выпраўленыя ў самім дакуменце (магчыма, перапісчык дрэнна ведаў польскую мову).

L. 5
Kopia z kopii
№: 8448

W Jmie Boga Oyca+ i Syna+ i Ducha Swiętego+ Amen. – Ja Stanisław Siestrzencewicz Bohusz Arcybiskup Mohilewski, Metropolitalny Kościołow Rzymsko Katolickich u Rossyi, Administrator Kapitulny Sede Vacante Diecezyi Wileńskiey, Prezydent kollegium Katolickiego, Komandor Orderu S^e^ Andrzeia Apostoła, Kawaler Orderu S^o^ Aleksandra, i S^oy^ Anny, i S^o^ Włodzimirza pierwszey Klassy Wielkiego Krzyża, Białego Orła i S:go Stanisława i Maltańskiego S. Jana

9 Я. Янушкевіч, *Зямля кенатафаў*, Мінск 2009, с. 25-26, 29; ён жа, *Жыццяпіс Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ў кантэксце нацыянальнай гісторыі XIX стагоддзя,* [у:] Дунін-Марцінкевіч В. *Збор твораў*, т. 2, *Вершаваныя аповесці і апавяданні, вершы, публіцыстыка, лісты і пасланні, пераклады*, Мінск 2008, с. 556.

10 А. Мальдзіс, *На скрыжаванні славянскіх традыцый*, Мінск 1980, с. 259.

11 У. Ліпскі, *Праўдзівы аповяд пра твой і мой радавод*, Мінск 1998, с. 75, 76.

Jerozolimskego pierwszey Klassy Wielkego Krzyża, Urodzony roku 1731 dnia 3 Septębra n. st. pod panowaniem Augusta II. krula polskego w Wielkim Xięstwie Litewskim we wsi własney Oyca[12] moiego Zamki[13] w parafij Zabłudowskiey w kturey i ochrzczony byłem – Umrę Duszę moja oddaiąc Bogu Odkupicielowi Momu Jezusowi Chrystusowi od kturego wziąłem. – Ciało pogrzebiono będzie w sklepie, pod ołtażem w kościele Parafialnym Kolomnenskim[14], który wymurowałem za pozwoleniem łaskawego Jmperatora ALEXANDRA I. w Peterzburgu. – Maiontek móy ruchomy i nieruchomy zapisuię czterech Rodzeństwa potomstwu, mianowicie Jana Siestrzencewicza Bohusza Radcy Stanu Brata, i potomstwu trzech Siostr Doroty Mackewiczowey[15], Anny Rykaczowskiey[16] i Reginy Mikuliczowey[17], po iednym potomku maiącym na równe cztery części. Także Jana[18] Brata część podzielona bydź ma na czwero iego dzieci, Stanisława Siestrzencewicza Bohusza Kollegiackiego Assessora i Kawalera Czwartey Klassy Orderu Sgo Władzimierza, Jana Siestrzencewicza Bohusza Tytularnego Radcy Marszałka gubernij

12 "Пра бацькоў будучага мітрапаліта вядома мала. Яго бацька Ян Богуш-Сестранцэвіч (1687-1771) насіў тытулы міхнеўскага старасты і старадубскага стражніка. Ён загінуў у кастрычніку 1771 г., абараняючы ўласны дом у Ралле ад барскіх канфедэратаў. Маці Станіслава – Карнэлія Адзінец (1698-1773) была дачкой вількамірскага стражніка Міхаіла Адзінца. Яна памерла ў ліпені 1773 г. ва ўзросце 75 гадоў ад сухотаў" (М. Попов и А. Ганчар, *Митрополит С. Богуш-Сестренцевич*, с. 27).

13 Памылка перапісчыкаў. На самой справе, вёска Занкі (Zańki) – у той час Ваўкавыскага павета Наваградскага ваяводства Вялікага Княства Літоўскага, зараз – Свіслацкі раён Гродзенскай вобласці Рэспубліка Беларусь.

14 Будынак храма ўзведзены ў 1823-1825 гг. па праекце Давіда Вісконці на сродкі мітрапаліта Станіслава Богуша-Сестранцэвіча, асвячаны ў свята Ушэсця Гасподняга 7 мая 1825 г. Касцёл св. Станіслава і пахаванне мітрапаліта захаваліся да нашых часоў (Санкт-Пецярбург, вул. Саюза Пячатнікаў, 22/ вул. Масцерская, 9х). Падрабязней чытай: http://stan-mta.ru/03/rus301.html.

15 "24 чэрвеня 1745 г. Дарота выйшла замуж за калачэўскага старасту Гжэгажа Мацкевіча і нарадзіла яму чатырох дзяцей: Ганну-Катажыну (ахрышчаная 28 жніўня 1746 г.), Яраша-Міхала (10 жніўня 1747 г.), Гжэгажа-Яна (22 верасня 1748 г.) і Кшыштафа-Пятра. Пасля смерці мужа Дарота другі раз выйшла замуж за Юзафа Тухаscore ноўскага" (М. Попов и А. Ганчар, *Митрополит С. Богуш-Сестренцевич*, с. 27).

16 Пра яе даследчыкам было вядома мала, толькі тое, што яе імя і прозвішча сустракаюцца ў тастаменце Сестранцэвіча (тамсама, с. 28).

17 "5 лютага 1769 г. яна выйшла замуж за каралеўскага харунжага Аляксандра Мікуліча і ў шлюбе з ім нарадзіла двух сыноў: Аляксандра-Яна (ахрышчаны 25 сакавіка 1771 г.) і Станіслава-Стэфана (9 ліпеня 1772 г.)" (тамсама, с. 27-28).

18 "На працягу ўсяго свайго жыцця мітрапаліт нястомна дапамагаў сваім шматлікім сваякам. Менавіта дзякуючы яго пратэкцыі Ян у 1775 г. быў прызначаны каралём Станіславам-Аўгустам Панятоўскім камергерам (шамбелянам). У 1778 г. С. Богуш-Сестранцэвіч забраў брата да сябе ў Магілёў. Там яго жонка (Генрыэта Нольд) стала кіраваць усёй хатняй гаспадаркай мітрапаліта. У ліпені 1799 г., дзякуючы намаганням мітрапаліта, Ян быў прызначаны маршалкам Галоўнага Літоўскага трыбунала" (тамсама, с. 28).

Mohilewskey powiatu Czerekowskego – Amalią Xężnę Gurjałowę, generał Maiorową i Katarzynę Dewelowę Kapitanowę[19] – A zaś minąwszy dwuch

L. 5 ob.

rodzieństwa iako bez potomstwa – Maiętność moja nieruchoma jest NAPRZÓD: dom w Peterzburgu między Ulicami, Angelskim prospektem, Targową Ulicą i Grazną kupiony z aukcyi publiczney[20] – Drugi Dom w Mohilewie w Dłużna Wietrzney ulicy[21], z Ogrodem i Łąkami nad Dnieprem i Ziemią za Miastem, Trzeci maiątek nieruchomy są dobra Malatycze[22] i Łopacin[23] z attynencijami, kupione od Woiewody Łopacińskiego[24] w gubernij Mohilewskiej, Powiece Czerekowskim – W Kolomnie części Miasta Peterzburga w domie murowanym gdzie sam mieszkam, nad Grazną ulicą dorowałem plac Kosciołowi Parafialnemu który wystawiłem. – Uczonę moią Ruchomość to iest Bibliotekę maiącą regestra podług iezykow, a w nich podłud Materyi około trzech Tysięcy Ksiąg: Takoż Jnstrumenta Matematyczne, Astrolabia Perspektiwy Microskopium, Cameram Obskuram, Kompas Magnesowy, Jnstrumenta do rysunku, i globusy Zapisuię Kościołowie memu parafialnemu Sgo Stanisława Kolomnenskiemu. – Majątek móy ruchomy iest NAYPRZÓD Kapitał na Zajemnym Monarszym Banku i tego dałem assygnacjami tysęcy Dwadzieście dla kościoła mego; POWTóRę Srebro, Złoto, którego iest regestr, – POTRZECIE kleynoty, kturych także jest regestr w Archiwum wszystkie podpisane przezemnie 1826 roku, które daruię familij na Cztery linie. – Wyymuię Krzyż Szczy Złoty Wielki, z małym takim że na wierzchu Onego, zużonego z wielkich Złotych Medalow Osmi iz dzesięciu

19 "Амалію і Кацярыну С. Богуш-Сестранцэвіч уладкаваў (7 красавіка 1799 г.) у высакародных дзявіц Святой Кацярыны, навучанне ў якім давала вялізныя магчымасці для выгаднага замужжа, што і адбылося. У 1800 г. Амалія выйшла замуж за будучага генерал-маёра (тады яшчэ палкоўніка) І. С. Гур'ялава, а Кацярына – за капітана Дзявелева" (тамсама, с. 28).

20 Будынак побач з касцёлам св. Станіслава. Зараз: пр. Ангельскі, вул. Саюза Пячатнікаў і вул. Масцерская.

21 Будынак захаваўся. Цяпер у ім знаходзіцца зала мастацкай гімнастыкі (Магілёў, вул. Ленінская, 25).

22 Цяпер Маляцічы – аграгарадок у Крычаўскім раёне Магілёўскай вобласці Беларусі. Тут Сестранцэвічам быў пабудаваны касцёл св. Станіслава – значна меншая копія касцёла св. Пятра ў Рыме. Да нашых дзён не захаваўся.

23 Цяпер Лапаціна – вёска ў Мсціслаўскім раёне Магілёўскай вобласці Беларусі.

24 Лапацінскі Мікалай Тадэвуш (1715-1778) – ваявода берасцейскі, вялікі пісар літоўскі, староста мсціслаўскі.

L. 6

mnieyszych; Wyymuę Krzyż na piersny cały dyamentowy we dwa rzędy z takimże łancużkiem darowany mnie od Katarzyny JMPERETOROWEY i Solitaire darowany mnie od Jmperatora Alexandra, a oddany od Jmperatora Mikołaia, które Trzy sztuki daruię na fundusz Kosciołowi moiemu parafialnemu kalomeńskiemu, z tem aby iesli tego potrzeba kościoła wymagać będzie, mogły bydź w swoiey cenie sprzedane a z nich Kapitał w Banku Monarszym Zaiemnym ulokowany nieporuszenie, tak iak i Kapitał dwadzieście Tysiący, na procent wiecznie temuż Kościołowi służący – Takowy Testament rozmyslnie i z dobrey moiey woli uczyniwszy, przy uproszonych ustnie i oczewisto odemnie pieczętarzach i przy wycisnięciu herbu moiego pieczęci[25] utwierdzam i własną ręką podpisuię – Datt w Peterzburgu roku 1826. Listopada 15. dnia – (:podpisano:) + Stanisław Siestrzencewicz Bohusz Arcybiskup Mohilewski Metropolitalny /:L:S::/

Ustnie i oczewisto proszony za pieczętarza do tego Testamentu od Jw Jx: Stanisława Siestrzencewicza Bohusza Metropolity Rzymskich Kościołów w Rossyi, Arcybiskupa Mohilewskiego, administratora Dyecezyi Wilenskiey i Kawalera, dobrowolnie przy zupełney pamięci i zdrowym rozsądku z porządzonego i podpisanego iako świadek podług prawa własnoręcznie podpisuię się Jozef Szerpinski Aktualny Konsyliarz Stanu i Kawaler[26]. – Ustnie i oczewisto proszony za pieczętarza do tego Testamentu od Ju Jx: Stanisława Siestrzencewicza Bohusza, Metropolity Rzymsko-Katolickich u Jmperium Rossyyskim Kosciołow, Arcybiskupa Mohilewskiego, administratora Dyecezyi Wileńskiey i Kawalera, dobrowolnie

L. 6 ob.

Przy zupełney pamięci i zdrowym rozsądku sporządzonego i podpisanego iako świadek podług prawa własnoręcznie podpisuię się

25 Уласны герб "Сестранцэвіч".

26 Сярпінскі (Шарпінскі) Язэп Сцяпанавіч – у 1799-1800 гг. віцэ-прэзідэнт дэпартамента па рымска-каталіцкіх справах, аўтар артыкула "Краткое начертание деятельной и трудолюбивой жизни Его Высокопреосвященства Митрополита Римских Церквей в России Станислава Сестренцевича-Богуша" (М. Попов, А. Ганчар, *Митрополит С. Богуш-Сестренцевич…*, с. 76-78, 170).

Jendrzey O. Martusewicz Radca Kollegialny i Kawaler Orderow[27]. – Obecny temu Testamentowi uczynionemu przy zdrowym rozsądku i dobrey pamięci przez Jw. Metropolity Stanisława Siestrzencewicza iako spowiednik i Sekretarz Duchowny podpisuię się X. Wenanty Wołągiewicz[28].

Ustnie i oczewisto proszony do takowego Testamentu na rzecz we sredzinie wyrażoną za pieczętarza podpisuę się Michał Strokowski 10. Klassy pomocnik Sekretarza Rady Kommunikacyi drog[29]. – Ustnie i oczewisto proszony za pieczętarza do tego Testamentu przy rozsądku sporządzonego, własno ręcznie iako świadek podpisuię się Antoni Lendziewicz Honorowy Radca[30]. – Do tego Testamentu na mocy praw powszechnych dozwalaiących czynić rozporządzenie, aż do śmierci dodaię i obiasniam ieszcze to z dobrey woli moiey – przy zupełnym rozumnie rozsądku i pamęci: Jż ia Dom móy własny Murowany w Mohilewe Białoruskim na Wietrzney Ulicy, o którym wyżey wspomniono, znaiduiący się ze wszystkiemi attenencyami, Zabudowaniami, Ogrodami, łąkami i gruntami około miasta, wyłączaiąc ony od sukcessyi moiego rodzieństwa, zapisuię na wieczne i nie odzowne czasy Konsystorzowi Mohilewskiemu, z tem obowiązkiem aby członkowie Onego, corocznie odprawowali Sto uroczystych żałobnych Mszy SS: cum officio Defunctorum i dawili co rok po Sto Rubli assygnacyynych Ubogim za duszę moię. A za ęxiekutorow w gorze połozonego Testamentu mego 15: Listopada podpisanego i dodatku ninieyszego upraszam WJX. Kazimerza Dmochowskiego Prałata Wilenskego i Kawalera iako Konpatra

L. 7

Duchownego[31] i JW. Radcy Stanu i Kawalera Stefana Michayłowa[32]. W dowod tego przy uproszonych odemnie piaczętarzach z przyłożeniem

27 Мартусевіч Андрэй Якаўлевіч – у 1805-1825 гг. сакратар С. Богуша-Сестранцэвіча пры рымска-каталіцкай духоўнай калегіі (*Адрас-каляндар 1805*, с. 268), у 1825 г. Кавалер ордэна св. Анны 2 ст. і Уладзіміра 4 ст., доктар багаслоўя (*Адрас-каляндар 1825*, с. 624).

28 Валангевіч Венанцы – у 1825 г. сакратар С. Богуша-Сестранцэвіча пры рымска-каталіцкай духоўнай калегіі, доктар багаслоўя (*Адрас-каляндар 1825*, с. 624).

29 Стракоўскі Міхайла Восіпаў – у 1827 г. сакратар канцылярыі пры савеце Галоўнага ўпраўлення шляхоў зносін (*Адрас-каляндар 1827*, ч.1, с. 822), у 1833 г. калежскі асэсар там жа (*Адрас-каляндар 1827*, ч.1, с. 675).

30 Ляндзевіч Антон Восіпаў – у 1825 г. экзекутар пры рымска-каталіцкай духоўнай калегіі, тытулярны саветнік (*Адрас-каляндар 1825*, с. 624).

31 Дмахоўскі Казімір (1779-1851) – у 1826 г. засядацель пры рымска-каталіцкай духоўнай калегіі ад Віленскай епархіі, саборны пралат, доктар багаслоўя, Кавалер ордэна св. Уладзіміра 4 ступені (*Адрас-каляндар 1825*, с. 623), будучы біскуп, з 1848 г. – магілёўскі архібіскуп.

32 Асоба невядомая.

herbu mego pieczenci własną ręką podpisuie się w St. Peterzburgu – 20 Listopada Roku 1826. + Stanisław Siestrzencewicz Bohusz Arcybiskup Metropolitalny Mohilewski – (:L.S.:) – obecny rozporządzenia tey woli JW. Stanisława Siestrzencewicza Metropolity przy zupełney przytomności iego uczynioney w oddaniu domu murowanego w Mohilewie że wszystkemi attynencyami Konsystorzowi Mohilewskiemu, iako spowiednik i sekretarz Duchowney podpisuię się X Wenanty Wołągiewicz. – Ustnie i oczewisto proszony za pieczętarza do tego Testamentowego dodatku od JW. JX[a] Stanisława Siestrzencewicza Bohusza Metropolity Rzymskich Kościołów, Arcybiskupa Mohilewskiego i Kawalera, dobrowolnie przy zdrowym rossądku i zupełney pamięci sporządzonego i podpisanego iako świadek własnoręcznie podpisuię się Józef Szerpinski Aktualny Konsyliarz Stanu i Kawaler. – Ustnie i oczewisto proszony za pieczętarza od JW. JX. Stanisława Siestrzencewicza Bohusza Metropolity, Arcybiskupa Mohilewskiego i Kawalera, do tego dodatku Testamentowego przy zdrowym rozsądku i zupełney pamięci sporządzonego, iako świadek podług prawa podpisuię się Andrzey Martusewicz Radca Kalegialny i Kawaler m p r. – Ustnie i oczewisto proszony za pieczętarza od JW. JX. Stanisława Siestrzencewicza Bohusza Metropolity, Arcybiskupa Mohilewskiego, administratora Biskupstwa Wileńskego, i roznych Orderow Kawalera do tego dodatku Testamentowego przy

L. 7 ob.

zdrowym rozsądku i zupełney pamięci sporządzonego iako świadek, podług prawa podpisuię się Antoni Lendzewicz Honorowy Radca. – Ustnie i Rzeczywisto proszony do takowego dodatku w testamiencie za pieczętarza podpisuię się Michał Strokowski 10. Klassy. – 1826 roku 9-bra 16 dnia oprocz ostatniey Dyspozycyi moiey względem mego ruchomego i nieruchomego maiątku, kturą przy uproszonych odemnie pieczętorzach w dniu wczorayszym podpisałem czynię ieszcze nastempe względem lódzi służących przy mnie a moich poddanych postanowenie, to iest: iż na przypadek moiey śmierci, służący moj iako to: Furman móy Fiedos z żoną i dziecmi – Wasil Kucharz z zoną i Synem, Michałem Klarnecista, Leopold Zakrystyan z żoną i dziecmi, Roman pomocnik Zakrystyana, Onufry Kucharz, Jsak Szewc, Augustyn Muzykant z dziecmi, Astap Kucharz z synem, Grzegorz Straż Kosciolny, Ignacy Andrzeiew Krawiec z żoną i dziecmi, Alexiey bywszy Dwornik, Marko Ogrodnik, Jwan Kontrbasista,

Masiey Osipow z żoną Maryą Fedorową i małoletnią córką ich Amalią, Jgnacy Onufriow, Mikita i Wasil Dwornicy moią bydz wypuszczeni na Wolność z pomienionemi ich Familiami tak iż żaden z moich Sukcessórow roscic do nich prawa nie powinen owszem każdego z takowych sukcessorow obowiązuię wydadź tym ludziom formalne podług prawa

L. 8

uwalniaiące dokumenta: W dowod czego takowe moie ostatnie rosporządzenie, przy uproszonych odemnie pieczętarzach podpisem moiey własney ręki i pieczecią stwierdzam. Datt ut Supra u Peterzburgu Stanisław Siestrzencewicz /:L:S::/ – Ustnie i oczewisto proszony za pieczętarza od Jw Jx. Stanisława Siestrzencewicza Bohusza, Metropolity Rzymskich w Rossyi Kościołów, i Orderow Kawalera, do tey ostatney dyspozycyi Jego względem uwolnienia sług domowych przy zupełney pamęci rozsądku dobrowolnie uczynioney, iako świadek podług prawa własnoręcznie podpisuię się: Andrzey Martusewicz Radca Kollegialny i Kawaler Orderow. – Ustnie i oczewisto proszony za pieczętarza od Jw Jx: Stanisława Siestrzencewicza Bohusza, Metropolity Rzymskich w Rossyi Kosciołow, i Orderow Kawalera, do tey ostatney dyspozycyi Jego względem uwolnienia sług domowych, przy zupełney pamęci i rozsądku, dobrowolnie uczynioney, iako świadek podług prawa własnoręcznie podpisuię się Antoni Lendziewicz Honorowy Radca. – Ustnie i oczewisto proszony za pieczętarza od Jw Jx Stanisława Siestrzencewicza Bohusza Metropolity Rzymskich w Rossyi Kosciołow i Kawalera, do tey ostatney dyspozycyi Jego względem uwolnienia od poddaństwa sług przy zupełney pamęci i rozsądku dobrowolnie uczynioney, iako świadek podług prawa własnoręcznie podpisuię się: Nadworny Sowetnik i Kawaler Teodor Stefana syn Szydłowski[33]. mp. – Ustnie i oczowisto proszony od Jw Jx. Xiędza Metropolity Siestrzencewicza

L. 8 об.

Bohusza, do tey ostatney dyspozycyi Jego, względem uwolnienia sług Jego domowych przy zupełney pamęci i rozsądku, dobrowolnie uczynioney za pieczętarza podpisuię się – 10 Klassy Michał Strokowski.

33 Пра гэту асобу няма ніякіх звестак.

*****

Дзякуючы тастаменту мітрапаліта Станіслава Богуша-Сестранцэвіча зараз мы можам адказаць на галоўнае пытанне: ці быў ён дзядзькам Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча? Беларускія гісторыкі М. Папоў і А. Ганчар адзначаюць у сваёй манаграфіі: *"Усе біяграфічныя працы беларускіх даследчыкаў не абыходзяцца без згадкі ролі С. Богуша-Сестранцэвіча ў лёсе аднаго з родапачынальнікаў сучаснай беларускай літаратуры – Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (...) На жаль, на сённяшні дзень цяжка дакладна ўстанавіць, кім былі яны адзін аднаму[34]"*. Там жа даследчыкі, спасылаючыся на асабістыя лісты мітрапаліта, называюць яго пляменніка Ігнацыя Іванавіча Марцінкевіча і пляменніцу Францішку Марцінкевіч. Аднак асоба "марскога ваўка" Ігнацыя ўжо добра вядомая беларускім даследчыкам, ён нават стаў героем асобнага артыкула Язэпа Янушкевіча *"Нечаканая рэмінісцэнцыя, або Брат Ігнат-Мацей"*[35]. І добра вядома, што Ігнацій быў сынам Яна Марцінкевіча і яго першай жонкі, а вось сам Вінцэнт – сынам ужо ад другой жонкі, Марцыяны Нядзведскай. Сам жа даследчык з жалем адзначае: *"Гісторыя не данесла імя першай жонкі Яна Марцінкевіча"*[36].

Нескладана супаставіць некалькі фактаў: Сестранцэвіч называе Ігнацыя Марцінкевіча сваім пляменнікам, але быць ім ён мог толькі па жаночай лініі – г. зн. паходзіць ад адной з трох родных сясцёр мітрапаліта, пазначаных у тастаменце: Дароты Мацкевічавай, Анны Рыкачэўскай і Рэгіны Мікулічавай, у кожнай з якіх было ўсяго па адным нашчадку. Дзякуючы звесткам, прыведзеным у каментарах, мы ўжо ведаем, што сярод нашчадкаў Мацкевічавай і Мікулічавай таксама няма нікога з Марцінкевічаў. І менавіта веданне з гэтага тастамента прозвішча па мужу другой сястры Сестранцэвіча дазволіла нам звярнуць увагу на ўжо даўно знойдзеную беларускім гісторыкам Яўгенам Анішчанкам спасылку на архіўны дакумент. Сярод тысяч іншых, у спісахураднікаў ВКЛ ёсць наступная згадка: *"Марцінкевіч Ян, 1780, смаленскі чашнік, жонка Людвіка Рыкачэўская* (у арыгінале

34 М. Попов, А Ганчар, *Митрополит С. Богуш-Сестренцевич,* с. 28.
35 Я. Янушкевіч, *Зямля кенатафаў,* с. 30-35.
36 Тамсама, с. 21.

“Рыкашевская” – З.Д.)”[37]. Няма сумненняў, што ў гэтай спасылцы гаворка ідзе менавіта пра бацьку Вінцэнта Яна і яго на той час жонку Людавіку. Такім чынам, мы маем адказ і яшчэ на адно пытанне: як жа звалі першую жонку Яна Марцінкевіча?

Змест гэтага дакумента, актыкаванага ў гродзскіх кнігах Гродзенскага павета 11 красавіка 1780 г., ставіць кропку ў гэтым пытанні: *“(…) Ян і Людавіка з Рыкачэўскіх Марцінкевічы чашнікі Смаленскага ваяводства, муж і жонка (...) робім вядома і відавочна нашым добраахвотным (...) вечыста прадажным правам Пятру Макржэцкаму дадзеным, на тое, што мы, Марцінкевічы (...) маючы дом каменны ў горадзе Вільні, які дастаўся нам у спадчыну па нябожчыцы Ганне Рыкачэўскай, маці нашай, дабрадзее, дзедзічным правам атрыманы ёю ад ксяндза Станіслава Сестранцэвіча, біскупа Беларускага[38]”*. Камяніца каштавала пакупніку 2 400 польскіх злотых і знаходзілася недалёка ад вуліцы Субач (зараз Subačius), у завулку за касцёлам святога Казіміра, побач з палацам падстолія ВКЛ Міхала Патоцкага, дамамі падкаморыя Нарбута, ваяводы віцебскага Салагуба і іншых[39].

Такім чынам, цяпер мы можам сцвярджаць, што першы мітрапаліт усіх рымска-каталіцкіх цэркваў у Расіі Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч не з’яўляўся крэўным ні самому Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу, ні яго маці, ні бацьку, а быў толькі сваяком апошняга па жонцы. Дачка Ганны Рыкачэўскай (роднай сястры мітрапаліта) Людавіка выйшла замуж за Яна Марцінкевіча. Ад іх і паходзяць адзінакроўныя брат і сястра паэта – Ігнацы Марцінкевіч і Францішка. Менавіта яны, у адрозненні ад Вінцэнта Марцінкевіча, сталі сярод іншых нашчадкамі багаццяў мітрапаліта Станіслава Богуша-Сестранцэвіча, атрымаўшы належныя ім часткі яго маёнткаў у Магілёўскай губерні. Аднак недакладныя фармулёўкі ў тастаменце адносна некаторых яго ўладанняў сталі прычынай працяглых судовых цяжбаў паміж спадчыннікамі.

37 Я. Анішчанка, *Збор твораў. У 6-ці т.*, Мінск, 2008, т. 4. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ пры Станіславе Панятоўскім: Спісы на рус. мове*, с. 288.

38 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 1711, воп. 1, ад.зах. 431, арк 431-432 адв.

39 Тамсама.